— Правільна зрабіў, дзед!—пахваліў яго Букрэй:—На паходзе, на вайне разьведка і сувязь маюць дужа важнае значэньне,—павучаў ён дзеда.

Мінуты праз дзьве з мроку выплылі тры постаці. Гэта былі Купрыянчык і Нупрэй і з імі нехта трэці.

Дзедава разьведка данесла:

— У фальварку палякі! Распытайцеся вось у яго—ён ведае аб іх болей,—і паказалі на прыведзенага чалавека.

Букрэй зрабіў яму допыт.

— Ты хто?

— Дарвідошка,—адказаў прыведзены чалавек.

— Дарвідошка ці Дацягнідошка—гэта ня важна,—заўважыў Букрэй:—ты што за чалавек? чым займаешся?

— Чалавек я...—і Дарвідошка безнадзейна махнуў рукою,—і займаюся ня тым, чым трэба.

— Дзе вы яго ўзялі?—запытаў дзед Талаш сваіх разьведчыкаў.

— Да гэта-ж парабак з Віркуцьця... Ён трохі выпіў.

— Ага, парабак!—згадзіўся дзівакаваты Дарвідошка,—і выпіў... ну, але выпіў!..

— А з кім ты выпіў?—распытваў Букрэй.

— Салдат паднёс у пляшачцы. Паляк... Там, брат, палякі зьехаліся... Паны, паненкі, афіцэры... П'юць! гуляюць! А мне салдат і гаворыць—ён за вартавога прыстаўлен—прывядзі, кажа, мне маладзіцу... Яй-богу.

Парабак пачынаў гаварыць цікавыя рэчы.

— Многа там афіцэраў?—дапытваўся Букрэй.

— Тры... ну, але тры.

— А салдаты ёсьць?

— Ёсьць і салдаты... ну, але ёсьць.

— А колькі іх?

— Да так мусіць чалавек з шэсь... Ну, але шэсь!

Прабеглы і хітры Букрэй зараз-жа зложыў плян дзеяньня. У аснову яго палажыў маладзіцу.

— Вось што, брат Дарвідошка, слухай і заруьі сабе на носе: ты прывядзеш вартавому маладзіцу.

Дарвідошка ўпаў у адчай.

— А дзе-ж я вазьму яе? Ну, але дзе?

— Ты слухай мяне: за маладзіцу буду я!

— Гы-гы-гы!—зарагатаў парабак:—такая маладзіца ўбрыкне яго, ну, але!

Чырвонаармейцы і партызаны абкружылі іх. Букрэева выдумка выклікала вясёлы настрой.

— Мы прыдзем туды,—разьвіваў Букрэй далей свой плян:—я спынюся дзе-небудзь у двары, а ты скажаш—прывёў маладзіцу. Рэхт?

— Рэхт!... Гы-гы-гы!

Букрэй адвёў у бок начальнікаў аддзяленьняў і дзеда Талаша і аддаў загад, каму дзе і што рабіць.

На абапал дарогі ў фальварак амаль ад самага лесу цягнуліся густыя старасьвецкія ліпавыя прысады. Калёна падзялілася на дзьве палавіны і рушыла ў фальварак, туляючыся паміж тоўстых камлёў прысад. Букрэй і парабак ішлі ў галаве. За імі дзед Талаш і два яго разьведчыкі. Не даходзячы да двара, калёна спынілася. Букрэй зьняў шынэль, аддаў яе дзеду Талашу, а сам надзеў яго кажушок. У партызана знайшлася хустка, што служыла за шалік, а замест спадніцы дзед Талаш абкруціў Букрэя воўчаю скураю. У цемры ён прыняў падабенства страшнай пачварнай жанчыны, выклікаўшай сьмех, ня гледзячы на напружанасьць моманту.

Букрэй і Дарвідошка аддзяліліся ад калёны. За імі на некаторай адлегласьці ішлі дзед Талаш і два партызаны. Букрэй выбраў мейсца ў глухім кутку двара каля нейкай будынiны, прырыхтаваў на ўсякі выпадак наган. Дарвідошка пашоў у бок стайні да вартавога з рапартам. Каля стайні яго ня было. Вартавы падаўся бліжэй да сьвятліцы, дзе ярка блішчэлі вокны, прыкрытыя лёгкаю фіранкаю. Праз няпрыкрыты кусочак шыбінкі ён бачыў маладога, прыгожага чарнявага афіцэра, які сядзеў каля раялю і перабіраў пальцамі клявішы. Гукі раялю, зьліваючыся ў мілагучную мэлёдыю, ледзь чутна далятаді да вушэй вартавога. Непадалёку стаяла стройная блёндынка і як зачарованая слухала музыку і ня зводзіла вачэй з музыканта. Што было ў адчуваньні гэтай павабнай дзяўчыны? Той момант напэўна глыбокім сьледам урэжацца ёй у сэрца, і яна доўга будзе ўспамінаць гэты незабыўны вечар, гэту мэлёдыю і гэты вобраз прыгожага чарнявага музыканта-афіцэра з затоеным смуткам у іскрыстых чорных вачах.

Салдат у сваю чаргу не адводзіў вачэй ад блёндынкі і часамі ўздыхаў, прагнучы жанчыны і смуткуючы па ёй. У часе гэтага рамансовага настрою і падышоў да яго парабак. Дарвідошка мусіў штурхнуць вартавога, каб вярнуць яго на двор фальварку з краіны мар.

— Маладзіцу прывёў!—таемна сказаў Дарвідошка.

Салдат здрыгануўся, зірнуў і заспакоіўся.

— Дзе она ест?—узрушана запытаў салдат.

— Каля адрынкі чакае—саромеецца сама ісьці, ну, але.

— Млода?

— Ага, як калода! ну, але... О, печ, агонь маладзіца!

Салдат захваляваўся. Вышэй паставіў вусы і хутка пашоў за парабкам, пасьпеўваючы, каб не бянтэжыцца перад ім, на мазурскі лад:

> Умарл Мацек, умарл,
> Юз лезы на дэсцэ!
> Зэбысь ему заграць,
> Падскоцыл бы есцэ [1])

«Паглядзім, як ты падскочыш!» думаў сам сабе парабак, вядучы кавалера.

---

[1]) Памёр Мацейка, памёр.
Ужо ляжыць на дошцы!
Каб яму заграць,
Падскочыў-бы яшчэ.

«Маладзіца» яшчэ шчыльней тулілася да сьцяны і для большай сарамяжлівасьці падалася трошачкі назад. Парабак адстаў, прыпыніўся, а салдат храбра падаўся наперад.

— Ня ленкайся, моя душа!

Паставіўшы каля сьцяны стрэльбу, салдат далікатна падняў рукі, абняў і прытуліўся да «маладзіцы». У момант вока «маладзіца» сьціснула як жалезнымі абручамі рамансовага кавалера і грымнула яго ў сьнег.

— Ні пікні, гад, бо тут табе магіла!

Густым мужчынскім голасам, поўным пагрозы, прыстрашыла «маладзіца». Увесь рамансовы настрой і ўсе салдацкія гармоны, як-бы карова языком зьлізала. Ён толькі прашаптаў:

— Пан бог з намі, дух сьвенты!

— Ня пан бог і ня дух сьвенты, а ўзводны Букрэй.

Салдата адвялі пад ліпы. Чырвонаармейцы і партызаны рынуліся ў двор. Абкружылі сьвятліцу і дваровую хату, дзе бавіліся за чаркаю легіянэры, паставіўшы стрэльбы ў куток каля парогу.

У адзін час і ў сьвятліцу і ў дваровую хату ўварваліся чырвонаармейцы і партызаны.

— Ні з месца!—загрымеў Букрэй у сьвятліцы.

— Рукі ў гору!—крыкнуў дзед Талаш у дваровай хаце на чале свае каманды, бураю ўляцеўшы і прыставіўшы штыхі амаль ня ў грудзі салдатам. Салдаты паслушна паднялі рукі.

А ў сьвятліцы стройная блёндынка абамлела. Анямеў раяль. Музыка-афіцэр, як сядзеў, так і застыў у гэтай постаці. Бразнулі на падлогу талеркі і чаркі, паскіданыя перапалоханымі гасьцямі. А вочы, поўныя жаху, пазіралі на сталёвую шчэць нахіленых чырвонаармейскіх штыхоў і на цёмныя рулі страшных наганаў.

— Пшэпадлі!—шапталі пабялелыя губы прыгожага чарнявага афіцэра-музыканта.

## XV

У тую-ж ноч палонных салдат і афіцэраў у ліку дзевяці чалавек усадзілі ў парадныя вазкі, на якіх зьехалася шляхта адсьвяткаваць банкет з поваду адбудовы польскай дзяржавы і ў гонар польскай арміі, і пад канвоем конных чырвонаармейцаў, пасеўшых на коняй палонных палякаў, адправілі ў вёску Высокая Рудня. Дарвідошка і адзін з партызан паселі за хурманоў. Дарвідошку якраз давялося кіраваць хурманкаю, на якой сядзеў і той салдат, што так няўдала спаткаўся з «маладзіцаю». Моўчкі і з нянавісьцю кідаў гэты салдат погляды на свайго здрадлівага «свата», а «сват» спадцішка толькі пасьміхаўся ды заўзята паганяў коні.

Выпіўка і закуска, а яе не пашкадавала шляхта для такой урачыстасьці, хоць і ня поўнасьцю, але ў значнай ступені папала ў жываты чырвонаармейцаў і партызан. Прыкончыўшы банкет і зрабіўшы запас на дарогу, аддзел войска пад камандаю Букрэя рушыў у лес. Аставацца тут на прывале Букрэй палічыў небясьпечным. У фаль-

варку паставілі некалькі вартавых, якім было прыказана на пэўны час нікога ня выпускаць з фальварку. Госьці сядзелі, як мышы пад мятлою, а стройная блёндынка, забіўшыся ў куток, з сардэчным болем і смуткам думала аб тым, як каротка і няпэўна шчасьце на сьвеце, а вобраз прыгожага маладога афіцэра-музыканта, як жывы, стаяў у яе вачах.

Дзед Талаш ведаў у пушчы мазырскіх лясоў спрытна пабудаваныя салашы, дзе летам мелі прыпынак смалакуры. Сюды і павёў ён чырвонаармейцаў і партызан. Сюды-ж павінен быў ісьці, адбыўшы варту, і Купрыянчык з часьцю чырвонаармейцаў. Купрыянчыка пакінуў дзед Талаш за праваднíка, каб паказаць дарогу вартавым чырвонаармейцам да смалакураўскіх салашоў.

Іх было тры. Стаялі яны між стромкіх камлёў глухой дзікай пушчы, куды рэдка заглядала людзкое вока. Салашы мелі форму звычайнай страхі, пастаўленай на доле. Вакол іх густа-густа зьбіўся маладыы кулчасты ельнік. Чатыры ёмкія слупы па кутох, чатыры тоўстыя жэрдкі, прымацованыя да слупоў і цэлая сетка лат, прыбітых да жэрдак драўлянымі гваздамі, шчыльна і густа сплеценых яловымі лапкамі,—такія былі смалакураўскія салашы. Стаялі яны тут ужо доўгі час. Дробныя ігліцы яловых лапак высахлі і асыпаліся, услаўшы дно салашоў тоўстым пухкім пластом.

Партызаны расчысьцілі сьнег, падгатавалі месца для вогнішча. Чырвонаармейцы жыва нанасілі дроў, разлажылі касьцёр. Прыветліва загаманіў агонь і залатым бляскам расьцёкся па тоўстых шурпатых камлёх, па зялені кучаравых елак, па шынэлях і па тварах чырвонаармейцаў і партызан. Зацяты спакой застылай у зімнім зьмярцьвеньні пушчы быў парушан прыходам гэтых суровых людзей, знайшоўшых тут сабе прыпынак для начнога адпачынку.

Як мурашкі, варушыліся людзі. Хто насіў дровы і кідаў іх на касьцёр; хто стаяў каля агню ў самай вялічлівай постаці чалавека, дасягшага вышэйшага ў сьвеце шчасьця, і грэўся, падстаўляючы да агню то адзін бок, то другі, то сьпіну; хто аглядаў салашы, выбіраючы ўтульнае месца для стомленага цела, а хто ладзіў каля агню прынесеныя бярвеньні, каб зрабіць з іх нешта накшталт лавы або палацяй для болей зручнага ўладкаваньня на начны спакой.

Заняўшы пазыцыі каля кастра як дзе каму давялося, жмурачыся ад дыму і выціраючы сьлёзы загрубелымі рукамі, сядзелі чырвонаармейцы і партызаны, прыпаміналі падзеі гэтай ночы. Гутаркі і жарты канцэнтраваліся пераважна каля Букрэевай асобы і яго ролі ў якасьці «маладзіцы». Букрэй з ціхаю ўсьмешкаю маўчаў і слухаў, паварочваючы свой буйны твар з жорсткімі калючымі вусамі то да аднаго, то да другога ў залежнасьці ад характару або ступені трапнасьці тых ці іншых жартаў ды дабрадушна пасьмейваўся, устаўляючы зрэдку сваё важкае слова, выклікаўшае агульны сьмех. У гэту ноч узводны Букрэй здабыў шырокую славу чырвонаармейскай маладзіцы.

— Толькі вы, сабачыя хрышчэнікі, не расказвайце ў палку, а то і будуць зваць мяне «чырвонаармейскаю маладзіцаю».

Дружны рогат пачуўся ў адказ на яго папярэджаньне. І нельга было не сьмяяцца, пазіраючы на пышную Букрэеву постаць. Ён сядзеў на бярвеньнях каля агню, накінуўшы наверх салдацкага шыняля яшчэ болей шырокае, чым ён сам, футра з шырачэзным каўняром. У гэтым футры ўся фігура яго з жорсткімі калючымі вусамі нагадвала важнага польскага магната.

З поваду гэтага футра Букрэй меў прамову перад сваім войскам. Букрэй катэгарычна асуджаў грабежніцтва, дзе-б яно ня было, і асабліва на вайне. Але ўзяць у ворага тое, што табе канечне патрэбна ў баявым жыцьці, дазваляецца.

Цікавую і маляўнічую сцэну станавіў сабою гэты начлег чырвонаармейцаў і партызан у дзікай пушчы старога лесу. Панура і грозна зяўрылі сваімі цёмнымі адтворынамі смалакураўскія салашы, як пасьці пачварных страшылішч. Ваякі ляжалі ў самых разнастайных і вычварных позах каля агню і ў салашох. Былі тут і дзяружкі, і кулі саломы і рознае барахло, знайшоўшае сабе ўжытак у гэтых нязвычайных абставінах начлегу вайскоўцаў у лесе зімнім часам.

Дзед Талаш стаяў з боку ад гэтага вясёлага шуму гаворкі, сьмеху і жартаў бесклапотных людзей, знайшоўшых сабе гасьцінны прытынак каля агню між смалакураўскіх салашоў. Яго старая галава думала свае думкі, неспакойныя, неадчэпныя думкі аб заўтрашнім вечары, аб спатканьні з Мартынам Рылем і аб усім тым, што злучалася з гэтым паходам. У цэнтры яго думак нязьменна стаяў Панас. Покі хлопец застаецца ў няволі, ня будзе спакою і дзеду Талашу. Дзед сядзеў на кучы лам'я, прыкрытага таўстым пластом яловых лапак. На гэтай кучы прылёг дзед Талаш, каб трохі адпачыць і галоўным чынам, каб не паказваць свае заклапочанасьці, сваіх думак і тым самым ня кідацца ў вочы бястурботным чырвонаармейцам. Агонь прыграваў яго збоку, воўчая скура, якою акрыўся дзед, зьверху, і ён скора заснуў, а думкі яго, вышаўшы з-пад кантролю, вялі і далей сваю работу, сплятаючыся ў самыя вычварныя спалучэньні.

І прысьнілася дзеду сцэна з дзікім вепрам, прычым вепр быў ня проста вепр, а сам дзед Талаш, на якога нападаў страшны воўк і біў дзеда хвастом па твары. Дзед схапіў воўка за хвост і стукнуў яго аб дуб галавою. Але воўку ад гэтага нічога ня сталася. Ён павярнуў да дзеда галаву, пазіраў хітрымі вачамі і выскаляўся пачварным сьмехам. Злосьць пашыбла дзеда, закруціў яшчэ раз воўка, каб мацней стукнуць ім аб дуб,—аж воўк адарваўся, у дзедавых руках астаўся толькі яго хвост, а сам воўк адляцеў і ўпаў у сьнег. Пазірае дзед Талаш,—з сьнегу замест воўка падымаецца Панас, глядзіць на бацьку засмучонымі вачамі і гаворыць: «За што ты б'еш мяне, тата?» Дзед прачынаецца, сэрца яго стукае моцна, і сам ён дрыжыць. Гэты сон пакідае ў ім такі няпрыемны і прыкры сьлед... «Тфу!» плюе дзед Талаш і адкідае воўчую скуру, садзіцца на кучу лам'я і азіраецца навакол, а сэрца яго шчыміць ад болю па Панасу. «Сынок мой, сынок!»—шэпча дзед Талаш.

Агонь заміраў. Канцы перагарэлых плен ляжалі пахаладзелыя навакол вогнішча, а на сярэдзіне ў самым жары датляваў корч, то

патухаючы, то ўспыхваючы слабым, белаватым полымем. Гасьлі і астывалі патрошкі і вугольчыкі, пакрываючыся лёгкім белым попелам, і перашэптваліся слабеючымі адзнакамі свайго апошняга жыцьця, пераходзячы ў яго іншыя формы, ужо незаметныя для чалавечага зроку. Сіняваты струменчык дыму бясшумна і спакойна плыў угару і туліўся ў кашлатых шапках старых дзеравяк, як-бы шукаючы там сабе прытулку, каб ня згінуць бясьсьледна ў халодных прасторах надзем'я Было штось журботнае і тужлівае ў гэтым заміраньні кастра, быць можа таму, што яно напамінала аб нейкім канцы, аб зьнікненьні жыцьця.

Начны зімні холад пачынаў прабіраць дзеда Талаша. Дзед падышоў да агню, паклаў галавешкі ў жар, перагарэлыя канцы пален. Гусьцей паплыў дым, і скора вясёлы агоньчык успыхнуў полымем, разагнаў цемень, асьвяціў салашы і фігуры людзей, што спалі і курчыліся ад холаду. Тут-жа каля кастра ляжала куча дроў, загатаваных яшчэ з вечара. Дзед падкідаў на агонь дровы. Агонь зноў ажыў, загаманіў рухлівымі гарачымі стужкамі, разганяючы цемру, а разам з ёю і журботны дзедаў настрой.

Дзед Талаш сядзеў каля агню і грэўся. Тыя-ж неадступныя думкі зноў апанавалі яго. Прыпомніў ён падзеі мінулага дня. Цяпер яны ўсталі перад дзедам у другім сьвятле. Весьці аб тым, што ў Віркуцьці нечакана зьявіліся чырвоныя і захапілі банкетаваўшых там афіцэраў і салдат, хутка стануць вядомы палякам. Палякі ўстрывожацца, пашлюць цэлае войска супроць жменькі Букрэеўскіх салдат. Гэта акалічнасьць затрывожыла дзеда Талаша. Ён зірнуў на Букрэя. Букрэй, улёгшыся на бярвеньнях-падмостках, падаслаўшы саломы і закруціўшыся ў шляхецкае футра, спаў спакойным сном чуць не сьвятога чалавека. «Сьпіць і гора яму мала! Ну, няхай адпачывае»,—падумаў дзед Талаш. Букрэева бесклапотнасьць і багатырскі яго сон заспакоілі трохі дзеда Талаша. Але пад уплывам сваіх думак ён падняўся і асьцярожна пасунуўся ў лес, каб паслухаць на ўсякі выпадак, ці ня чуваць дзе падазронага шуму ды паглядзець хоць спотайку, як нясуць варту прыстаўленыя для гэтага людзі.

Вартавыя стаялі на сваіх мясцох, перакінуліся з дзедам парою слоў. На іх запытаньне куды ідзе дзед, ён адказаў, што ідзе па дровы. Дзед Талаш адышоўся яшчэ далей, спыніўся і спасьцярожлівым вухам прыслухаўся да немай, зацятай цішыні. Азірнуўся назад—агню бадай што і ня відаць было. Гэта яшчэ больш заспакоіла дзеда Талаша. Ён толькі падумаў, што ніколі раней ня прыходзіла яму ў галаву думка аб тым, як далёка відаць ноччу ў лесе агонь. Дзед Талаш выбраў танклявую сухастоіну, упёрся ў яе рукою, а нагамі ў сьнег і папрабаваў зламаць яе. Дрэва хіснулася раз, другі; за трэцім разам гучна трэснула каля кораня і ўпала. Дзед палажыў яго на плячо і пашоў назад да агню.

Закурыў дзед піпку, прысеў на кучу лам'я, дзе прысьніўся яму такі паганы сон, і думаў. Ён думаў аб тым, што падзеі ў Віркуцьці парушаюць маршрут, а ў сувязі з гэтым трэба зрабіць зьмены і ў самым пляне. Першае, што выходзіла з гэтых падзей—аставацца тут больш-

менш доўгі час не выпадае, і засьцярожлівасьць пры такіх абставінах ніколі не пашкодзіць. Войску трэба перасунуцца ў другое месца, а на разьведку зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Перад дзедавымі вачамі пачалі выступаць патайныя нетры глухіх куткоў Палесься і людзкіх паселішч. Такіх куткоў на Палесьсі багата, але ня ўсе яны ляжаць паблізку і па дарозе іх руху... А чаго рухацца ўсім разам? Вось якое пытаньне паставіў сабе дзед Талаш, і ў гэтым кірунку паплылі цяпер яго думкі.

Новы плян пачаў вырысоўвацца перад дзедам Талашом. Няма патрэбы ўсяму ўзводу ісьці пад Доўгі Брод, як гэта было намечана раней, тым болей, што для гэтага трэба зрабіць значны крук. А Мартына там можа і ня быць. Ці ня лепей узводу перасунуцца ў патайное месца бліжэй да мястэчка, што ставіла сабою асноўную задачу Букрэеўскага паходу? Ці ня лепей дзеду аднаму або з кім-небудзь з сваіх людзей прайсьціся к Доўгаму Броду?

Разважыўшы з усіх бакоў гэта запытаньне, дзед Талаш цьвёрда запыняецца на такім вырашэньні яго. Аб гэтым ён паведаміць Букрэя. Дзед упэўнен, што Букрэй прыме такую зьмену ў іх маршруце.

На сьвітаньні вярнуліся чырвонаармейцы з Купрыянчыкам з фальварку Віркуцьце. Ноч прайшла шчасьліва. Смалакураўскія салаты ажывіліся, напоўніліся людзкімі галасамі. Новы дзень нёс свае турботы і ставіў новыя задачы Букрэеўскаму войску.

*(Працяг будзе)*

Пятро Глебка

## ПАЧАТАК ВЯСНЫ

Вясна прыходзіла звычайна:
На берагі глухіх нізін
Сачыліся з узгоркаў тайна
Крывыя вены ручаін.
Пасьля з грымотамі і звонам
Вада шчапала крохкі лёд,
Складалі кайстры плытагоны
І шыкаваліся ў паход.
Тады ішоў за сонцам сівер
Быльнёг праветрыць на мяжы,
Са стрэх, бядою даўняй сівых,
Плылі да долу капяжы.
Галодныя каровы гвалтам
Будзілі вусьціш веснавы,
Ламалі дзьверы на кавалкі
І ў поле йшлі шукаць травы.
Чародамі хадзілі дзеці
Бацькоў сваіх заўважыць сьлед,
Што дзесьці, там, на белым сьвеце,
Рупліва здабывалі хлеб.
Нарэшце скрозь дарогі сохлі,
Вярталіся бацькі дамоў,
Аглядвалі старыя сохі
Пад шэпты дзедаўскіх замоў.
І клянучы і так праклятый
Свой лёс і чорны смутак дум,
На вузкія палосы з хаты
Вывозілі сваю бяду.
Дзяўчаты клікалі вясьнянак,
Але напеў самотны быў.
Так пачынаўся першы ранак
І дзень вясновае сяўбы.
Так пачыналася звычайна
Згрызота думак і яна —
Мізэрная людзкая дбайнасьць —
Так пачыналася вясна.
Даўнейшыя адпеты песьні,

Вясна бярэ інакшы шлях:
Адменнае зусім прадвесьне
Мая рэспубліка прайшла.
Падняўшы струджаныя сілы
На стоптаных абшарах скрозь,
Яна ў змаганьні нарадзіла
І ўзгадавала дужы рост.
Яна старанна так і дбайна
Да мэты высьцілала шлях,
І на палі прышлі камбайны
І радасьць новая прышла.
Зруйнованы дашчэнту межы,
Прасторaў зрокам не абняць,
Да іх навальна з ветрам сьвежым
Прыходзіць бурная вясна.
Яшчэ грыміць з лясоў паводка,
А поле смагне скрозь і схне.
Надзвычай вызначан кароткі
І клапатлівы час вясьне.
І трэба выйсьці дружным строем —
Раней ад раньняе зары, —
Вясны навальныя настроі
Магутнай сіле пакарыць.
Каб адплаціла злая глеба
За наш калішні горкі пот
Арудамі цяжкога хлеба,
Стократ узьняўшы умалот.
Каб весялейшы ад вясьнянак
Мажор калгаснай песьні быў...
Так пачынацца мусіць ранак
І дзень вясновае сяўбы.
Так пачынацца скрозь павінна
Вялікай працы шырыня,
Руплівая людзкая пільнасьць
І бальшавіцкая вясна.

**Міхась Лынькоў**

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ [1])

## І. Ціхія сялібы

Колькі год жыў Трахім Сапун у фальварку, у фальварковай хаце. Меў карову сваю, подсьвінкаў. Панаставіў катухоў за хатай і трымаў там жывёлу сваю, статак свой завадзкі, як абзываў ён лапавухую сьвіньню з парасятамі, ды падласую карову крутарогую, сёмым ці то восьмым ацёлам. Па рагах узрост дзяцей вызначаў. «Ганька от на другой зарубцы радзілася, значыцца, то шосты год пашоў, а Піліп от на шостай—поўзае яшчэ на падлозе, ужо на аднэй назе прылаўчыўся, падкірэчыць яе і соўдаецца на задніцы з кута ў кут кацяне ловячы». Лявончыку-ж ня было зарубак, хлопец ён ужо хоць куды, дзяўкі заглядаюцца. Ды й рукі яго—залатыя рукі—даўно на зрубох працуе, ды й калі тонкую якую работу трэба, ён і тут майстра адменны, найлепшы дапаможнік бацьку.

Сам Трахім за фурмана служыць. Ці правільней—служыў. Бо які з яго фурман ужо, калі й лейцаў тых ня стрымае. Як папала рука пад бервяно, слабець стала, ды неўзаметку сохці. Даглядаў коняй, а часам, калі якая работа сьпешная, то ішоў і з сякерай, з долатам, з шархебелем тым.

І на табе—пашанцавала.

Яшчэ з вечару ў кантору паклікалі.

— Маеш разьлік атрымаць. Ды загадаў упраўляючы, каб хутка-ж хату вызваліў, мае ён другога парабка наняць...

Сказаў гэта канторшчык, ды пачаў перад аскалёпкам люстэрка прышча на шчацэ выглядаць.

— Чаму-ж гэта?—запытаў Трахім. І ногі гэтак адразу паслаблі, прысеў на лаву.

— А гэта ўжо, браце, мне невядома. Да хіба табе ня ведаць? Чаму-ж гэта аж за месяц ды два кані здохлі? А панская кабыла зьвергла? Чаму-ж гэта, я пытаю?

---

[1]) Працяг, гл. „Полымя Рэвалюцыі“ №№ 2-3, 4, 5.

— Пры чым тут коні, яны-ж ужо падлы старыя... Калі то на скуру зьбіраліся прадаць... А кабыла... Ці мала тых выпадкаў бывае. Пры чым-жа тут я?

— А вот і пры чым... Загадаў пан упраўляючы, я табе й кажу. А ты ўжо рабі як хочаш... Гэта ўжо не мая справа.

— Яно відаць, што не твая... Вылівак ты панскі..—сказаў і вышаў паціху...

Канторшчык доўга глядзеў усьлед, нешта хацеў яшчэ сказаць, вылаяцца хацеў. Але, не дабраўшы слова, выцяг гадзіньнік, паслухаў, паглядзеў, як спрытна ходзіць сэкундная стрэлка.

— Іш, круцёлачка... Важнецкая работа...—і палажыў у кішэню.

І вот чакае ўпраўляючага Трахім, сядзіць у Ганьніным пакоі, на кухні. Тая чабатом самавар разьдзьмухвае, завіхаецца ля талерак.

— Жарэ?

— Кушаць ізволяць...

— Як у процьму прэ?

— Ды яно што казаць, вялікую маюць ахвоту пакушаць... Ня то, што мы: цапэ-лапэ, ды хмызь ад столу, каб хутчэй-жа за працу. Па цэлых гадзінах кушаць ізволяць...

— Дык ты ўжо скажы, як скончыць, прыме няхай. Па справе от...

— А па якой-жа такой справе, пане—Трахім?

— Звальняе...

— Ды што ты? Хіба то можа быць, каб чалавек колькі то год петаўся, петаўся, ды потым гэта ні з чым і—выйдзі вон...

— Так жа яно выходзіць...

Нізка пакланіўся Трахім, калі ў пакой зайшоў. Упраўляючы мармытнуў нешта, перабіраючы на тарелцы вішні.

— Дык я да вас от, панок, да міласьці вашае... Як жа гэта так, панок?

— Аб чым ты?

— Ды як-жа гэта, кажу, каб-жа без работы, ды яшчэ і бяз хаты пакінулі? З дзецьмі як жа мне быць, ды гледзячы зіме ў вочы?

— А-а... Гэта ты... Так, так... Дык от, голубе, сам ты бачыш, сівееш от ужо. Ці з цябе-ж работнік які... Другога катарага я-б пад суд аддаў, за коні да за кабылу...

— Даруйце, ваша міласьць, яны-ж самі...

— А калі я кажу, дык табе ня грэх і памаўчаць было-б... Дык от і кажу, з другога-б я загадаў скуру сагнаць... Ну, а цябе так і быць, пашкадаваў ужо, з-за дзяцей, кажу, памятай гэта... Дык больш вот і нічога. Можаш ісьці... А з хаты каб хутчэй выбраўся...

— Дзякуй, панок, за міласьці твае дзякуй... А як-жа з Лявонам, панок?

— З Лявонам? Гэта што, сын твой... Няхай працуе. Падзёньнікам няхай ходзіць.

Трахім вышаў з пакою і, ня чуючы ног, падлыпаў да хаты. Доўга сядзеў на прызьбе ды прыслухаўся, як галасіла жонка ў хаце, калі даведалася пра панскі загад. Ёй дапамагалі дзеці, румзалі на ўвесь голас. Глядзела кацянё з-пад лавы, сачыла загнуенымі заскарублымі

вачмі за дзяцьмі і працягла, занудліва мяўкала на ўсю хату. І калі прышоў з работы Лявон і даведаўся чаго гэта ў сьлёзы ўкінуліся, выляяўся ўдала, са смакам ды сеў за чыгунок з бульбай.

— Вазьмі хаця гладыш там на паліцы. Сыраквашы табе пакінулі крыху...

— Вазьму й гладыша, круць яго печані...

Дзесьці за вуглом церлася сьвіньня аб штандары, хрукала соладка, пазяхаючы.

— От каму жывуха... Закруціць хваста і радуйся—ніякага табе клопату... Жысьць, адно слова, жытка сьвінячая...

●

Ужо сонца было вышэй паркану, калі прыхапілася Лявонава жонка Гарпіна. Хапаючыся, нацяла андарак, на двор рушыла.

— То-ж праспала колькі... Дзіва то, чакала, чакала колькі часу, сон і змарыў. А Лявон хіба на дварэ ўпраўляецца...

Але ні калёс ня відно, ні каня, ні Лявона. «Што-б то за чамярыца, дзе-б мог забавіцца так? Няўжо ў лес паехаў ізноў? Не, ня можа гэтага быць, каб у лес, ды зноў, ды повідну». На гароды вышла, рушыла да гумна. «Мо' на гумнішчы што робіць?» Суседзкая дзеўчынка сустрэлася.

— А ваш, цётачка, конь, ды засіліўся нагой у лейцы і стаіць запрэжаны аж пад ігрушай за гумнамі.

Ёкнула дзесьці ў грудзёх, захалодала. «Чаго-б то гэта? І чаму-б яму ды пад ігрушай стаяць абавязкова, а Лявон-жа дзе?» Не адчыняючы весьніц, пералезла праз іх, падтрымліваючы рукой важкі жывот, як падпіраў дыхаць, цягнуў наперад, каб жвавей пераступляла ногі. Падышла да калёс, азірнулася колькі разоў—дзе-ж то Лявон той падзеўся? Доўга разблытвала лейцы, у якія засіліўся аднэй нагой конь і ўкруцілася кола. Конь стаяў спакойны, сыты, лагодна адмахваўся хвастом ад мух—відаць пасьвіўся доўга пад ігрушай, пакуль аж ня ўкруцілася кола. Павярнула каня і вулкаю, што на агароды ідзе, павяла да вуліцы, да хаты.

— Няўжо то ў кумпаніі дзе? Да як-жа так: ня п'е Лявон, у карты ня гуляе, апрыч як у дурня... Ды дзе гэта, каб у будні дзень у карты гуляць? Няўжо куды па справе якой падаўся?

Чакала да самага паўдня, і калі не дачакалася, тады абмякла неяк разам, нейкім цяжарам набрынялі ногі, рукі, сядзела ня рухаючыся, абхапіўшы голаў рукамі. Ды па шчацэ каціласа па рабацінах тых сьляза, сарвалася, ўпала на локаць, холадна так, аж уздрыганулася ўсім целам. І гнала думкі прэч ад сябе. «Ня можа гэтага быць... Ня дай божа... Хіба от пад лясіну якую папаў... Можа ляжыць дзе-небудзь прыдушаны дрэвам. Жывы і вызваліцца ня можа... А мо' да дрэва камлём прыцісла і ня дыхнуў мо' нават... Пайці хіба да Хвёдара папытацца, ён-жа ўвечары быў, з Лявонам гаварыў...»

Хвёдар Жаранок на ўсе запытаньні толькі пацінаў плячмі ды разводзіў рукамі:

— Бач ты, справа якая... Не, мая галубачка, ня бачыў, дальбог-жа сёньня ня бачыў... Я-ж учора, як правёў яго за тумны, ды й да хаты. Толькі тады й бачыўся з ім, няўжо што трапілася... Пойдам от хіба людзей папросім, ды пашукаем калі што... Першым чынам па мясьцінах тых, дзе дубкі трапляюцца, бо туды-ж ладзіўся ён паехаць.

Хадзілі чалавек у пяцёх, выхадзілі колькі лесу таго, ды дзе ты яго, Лавона знойдзеш, ні слыху, ні дыху. Каб то знацьцё, дзе ён думаў спыніцца.

Мо б вы, дзядзька Хвёдар, у кантору тым часам скочылі, а мо' забралі яго туды?

Усе пасунулі да хаты. Гуло сяло, як узрушаны вулей. Ля кожнага калодзежу шапталіся бабы ды, заўважыўшы Гарпіну, спачувальна ківалі галовамі. Некаторыя жартаваць спрабавалі, каб усьцешыць от чалавека ад гора яго на якую хвіліну вызваліць.

— А мо' ён, пані-тая, сьпіць дзе-небудзь пад кустом, ногі ўгору... Выпіў мо' і сьпіць, пакуль не прачнецца...

— Дзе там... Каб-жа ён піў... Калі й патрапіць калі якога паўкеліха, дык хіба на пярэзвах, альбо на сьвята... Дзе яму ўжо...

Вярнуўся Жаранок з фольварку.

— Не, кажуць, і ў вочы ня бачылі чалавека такога. Пытаўся ў канторы, у парабкоў пытаўся...

І тады ўжо дала волю сьлезам Гарпіна, загаласіла на ўсю вуліцу. Мужчыны разышліся, а каторыя бабы, тыя спрабавалі яшчэ суцяшаць, але й самі ня верылі ў словы свае і рабілі гэта так, для прыліку.

●

Банадысь азьвярэла лупцаваў карову, ганяючыся за ёю з грабільнам па двары.

— Ты гэта чаго? З розуму сышоў, ці што?—выскачыў на ганак Хвядос.—Ці гэта хрыбет пераламаць думаеш. Дык я-ж цябе так апрэю, што выпрастаешся.

— А чаму яна ў хлеў ня йдзе. Я да яе і гэтак і так, а яна знай толькі ў побрыкі па двары, бач, вычварае...

— От я ў цябе як шпурляну грабілнам тым, дык ты не ў такія шчэ побрыкі ўкінешся... То-ж галава... Даручы такому ёлупу гаспадарку—у адны духі сатрэ, толькі й бачыў.—І пра сябе: «Усё-ж куды разумнейшы Пятро быў. Той табе і да навукі, і да гаспадаркі спрытнеў і дасьціплы быў хлопец. А то-ж абібочына. Толькі то ўбёры каб яму, нажраць як кабану таму ды лахі пад пахі пашоў з дзяўкамі круціць. А галава—пустазвон той. Прыпарадчыць хіба, а мо' й паразумнеў-бы крыху...»

Загнаўшы спакойна карову, агдядзеў хлеў увесь і, гукнуўшы Банадыся, пашоў пад паветку жэрдзя акорваць.

— Бяры от струг, ды давай паакорваем. Пакуль тыя жыты сеяць, трэба загадзя агарадзіць, а то ўсё зьмяшаюць. У нас-жа там клінок пауз самы папар будзе.

Моўчкі акорвалі, а калі селі пакурыць крыху, запытаў Хвядос:

— Ну, дык як ты там?

— Аб чым пытаешся?

— Ды вот з дзяўкамі як? Ня век-жа векаваць так, гізуючы. Трэба-ж неяк і да розуму браща, жысьць сваю ладзіць. Мо' прыглянулася катора?

— Гм...

— Чаго гмыкаеш, надаўбень. Я ў цябе сур'ёзна пытаюся, а не абы там што. Думаю от я, ці ня грэх было-б часам Івана за свата займець. Цыбалава Івана.

— Гэта касавокую тую?

— Дзе ты ў яе касавочча тое ўбачыў? Дзеўка, як дзеўка, ды й не абразы малеваць на яе гледзячы. Спрытная да працы дзеўка. І здаровая, як камель, той, не раўнуючы, грабовы. Ды бацька ня зломак. Бадай што пасьля нас першы на сяле: ёсьць і адзежа, і грошы, і зямлі тае колькі, дармо што ніціца на людзях, акраўкамі часам трасе—натура ўжо такая ў чалавека. Ды й сын у яго адзін, ды калі яго за вушы яшчэ выцягнеш, малое. А дзеўка нішто, а пасаг, канешне, будзе яшчэ лепшы. Як ён там Іван ні круціся, а ўжо аднэй якой Цацярынкай рады не дасі... Не... дармо... Дык от, якія думкі ў цябе, пытаю? Мо'-б і сватоў паслалі, як адмалоцімся?

— Дужа там...

Колькі хвілін сядзелі моўчкі. Хвядос курыў, а Банадысь разьдзіраў на шматкі доўгую акорыну ад асінавае жэрдзі, калупаўся ў ёй, нюхаў, языком лізаў. ,

— Іш гаркацільне якое...

— А ты на язык палажы... І Хвядос сплюнуў, злосна сплюнуў. Потым ўзяў недакурак, разварушыў нагой трэскі, аскор'е, старанна расьцёр недакурак чабатом, павярнуўшы колькі раз абцасам.—Ну дык як, надумаўся, бугай, ці не?

— Да я, татка, бачыш ты... Як бы яно тут сказаць... У мяне ўжо ёсьць дзеўчына на прымеце...

— Каторая?—настарожыўся зацікаўлены Хвядос, узьняўшы ўгору левую брыву.

— Да от бы хоць Тацяна.

— Якая гэта Тацяна? Вёскі якой?

— Ды нашынская Тацяна... Лёксы Козішкі дачка...

Як трымаў Хвядос струг, так і пакаціўся з рук, аб жэрдку дзынкнуўшы. А сам да козлаў прыхіліўся, засопся, маршчакаваты карак адразу пачырванеў, надзьмуўся. Банадысь ціхенька назад падаўся, азірнуўшыся, каб у выпадку чаго ямчэй было-б лататы даць.

— Ты... Ты... Дык што-ж ты... Хіба на бацьку, на двор яго, на прыбытак яго накласьці хочаш? Хіба сам у старцы, дык і бацьку туды

хочаш жывасілам пацегчы? Старцоўскага хлеба паспытаць захацеў, долі той байструцкай, каб цябе зямля не насіла, каб з цябе ўжо кішкі павыцягвала так, як я кожную капейчыну да ў гаспадарку сьцягваў. Тут цябе й людзі кляйма-клянуць, каб змаглі-б: з скурай, з дзярмом жывасілам-бы зьелі... Дык не... Я петуйся, я ночы ня сьпі, аб гаспадарцы дбай, а для каго, каб запытаць цябе? На якую халеру? Хіба хочаш, каб я Козішчыных байструкоў гадаваў... Бач ты цёшчу знайшоў... Бач ты, каб цяб паралюш забіў, нячыстая ты сіла...

Хвядос грозна наступаў на сына, сьціскаючы здаравенныя—як цяльпухі тыя сукаватыя—валасатыя кулакі.

— Дык я, татка, гэта так, да слова бачыш трапілася... А каб у мяне ў думках, дык і званьня таго нямашака... Дальбог жа, татка, дай-жа веры...

Хвядос спыніўся і, паднесшы да Банадысевага носу кулак, не сказаў, а грымнуў:

— Гля-а-дзі...

Падаўся Банадысь назад, адступіў колькі крокаў і пашоў да хлява, каб весьці коняй паіць да калодзежу.

●

Дзьмуў вецер.

Дзьмуў ён усьцяж Дняпра і сіняя вада пачарнела, уздулася, узьнялася грабенчыкамі гарэзнымі, пеннымі і кідала ў твар халоднымі, калючымі на вятры пырскамі. Грабенчыкі расьлі, разыходзіліся, і ўжо буйныя хвалі гойдаліся, наганялі адна адну ды, лётма кідаючыся на човен, зыбалі яго, кідаючы з боку ў бок, выбіваючы з рук пругкае вясло. Трывожна шалахцелі вербалозы, схіляючы вецьце да самай вады, засіляючы жоўтую пену, што зьбілася ў клубкі ля абрывістых берагоў.

— Ну й замарыўся... Як ніколі... Не, відаць старасьць такі не на жарты суне. Колісьці дык ні пачым—няхай сабе вецер, віхура, якая-б ні была хваля—вясло ў рукі і айда. У самую паводку бывала, калі Дняпро акіян-акіянам—так падасца ўшыркі, што таго берагу ня відаць—а мне што: туды й назад—адным вобмегам. Але-ж, відаць, дажджу надзьме, так і напаўзаюць хмары.

Лаўрэн выцягнуў човен і, усьцёгшы на сушэйшае месца пад куст, перавярнуў яго, каб і ад ветру і ад дажджу—калі трапіць—заслона была. Расклаўшы цяпельца, сьцёг ватоўку, выкруціў, сушыць павесіў.

— То-ж як губка, вады тае напілася...

Дастаўшы з кайстрачкі лусту хлеба, шчапоцьку солі і цыбуліну, доўга сядзеў ля цяпла, вячэраў. Старанна жаваў бяззубым ротам, націскаў дзёснамі салодкую скарынку і доўга ганяў яе з аднаго боку ў другі—пакуль не падалася яна. Піў ваду ля берагу, чэрпаў далонямі. Піў, прычмокваў і, напіўшыся, да выцершы рукавом рот, патгладзіў пуза і ні то сабе, ні то цяплу, якое пырскала іскрамі—кружыліся яны ў зацішку за кустом і, пападаючы вышэй, зьнікалі раптам, гаснучы на вятры—усьміхнуўся:

— Іш ты, як бубен...

Твар зрабіўся лагодным і ветлівым.

Залез пад човен, зьняў калі падсохла крыху, ватоўку і, накрыўшыся ёю, прыслухаўся, як шугае і вызьвяраецца вецер, як шаруюць хвалі асокі, як падкрадаецца вецер да цяпельца і сіпіць тады яно макравымі галавешкамі, пускае іскры клубкамі. Прыслухаўся і задрамаў. Бачыў сны салодкія. Нібы царква от местачковая ўзьнялася высока, высока, аж пад самыя воблакі макаўкі залатыя (і калі-б то пазалацелі, спытаць, яны-ж аблупленыя, іржавыя, дзе ты тую фарбу распазнаеш...), а сам ён на званіцы стаіць, у званы б'е. І званы сярэбраныя, так і заліваюцца, бумкаюць ды дзілінкаюць. І ўзяўся Лаўрэн за самы вялікі звон, за біла цяжкое, нярухавае. Ледзь-ледзь раскалыхаў, да як бомкне, як загудзе—толькі іскры пасыплюцца, да, відаць, ад той сілы вялікай паляцеў спотырч Лаўрэн з высокай званіцы. Ляціць, ляляціць, аж духі захлынаюцца. Потым як рэзьнецца, аж іскры ў vаччу, ды мокра от пад сабой. Няўжо разьбіўся?

Прадзёр вочы.

— Каб-жа цябе немарак, то-ж вярзецца няма ведама што...

Быў перакулены човен. Відаць, ад ветру як валіўся човен, краем па патыліцы лузнуў. І ўвесь Лаўрэн быў макрусенькі. Ліў дождж як з вядра, бліскацелі маланкі ў цемрадзі, ды гром раскатваўся, і здавалася раскалваецца неба напалам, вось, вось ўпадзе на цябе, рассыплецца каменьнямі стопудовымі. Цяпнуў рукой пад сябе—вада. Устаў, ступіў ад куста—аж ойкнуў—вада па калена.

— Глядзі ты, як вады прыбавілася, от і паспаў-бы, 'шчэ паплыў бы самоў лавіць...

Хлюпаючы ботамі па вадзе, усьцягнуў човен на самы ўзгорак, падлез пад яго, каб дождж перачакаць, цяпло раскласьці, перасушыцца. Вада прыбывала ўсё болей і болей. Шархаціць па траве, як гадзюка тая падбіраецца. Але дождж сьціх, апаў вецер, у шчыліну хмар вылузнуўся месячык, у вадзе выкупаўся, пакінуўшы ў разбухлым Дняпры празрысты і трымятлівы свой сьлед. І калі зірнуў на сьлед гэты Лаўрэн, адчуў як захалодала адразу сьпіна ды палезла зьнецікі шапка ўгору. У месячным бляску, у колькі тых кроках ад Лаўрэна чалавек ляжаў. Ляжаў на вадзе, зачапіўшыся рукавом за куст, ды узіраючыся мокрым пачарнелым тварам у далёкі месік за хмарамі. Чалавек ляжаў раскінуўшы рукі і ногі, трымаючы нешта ў аднэй руцэ. Яго ногі паціху варушыліся—то гідалі іх усьціхлыя хвалі, струмені каламутнай дажджавой вады. Прыцісьнуўшы далонь да грудзей, дзе моцна тахкала сэрца, наблізіўся да незнаёмца Лаўрэн, шапку зьняў, перажагнаўся. Зазірнуў у халодны мокры твар.

— Даруй, божа, душы яго... Затоп небарака, дні са тры ў вадзе мусіць, бач як счарнеў...

І разгледзіўшы войкнуў:

— Бо-ожа-ж мой... Да гэта-ж Лявон, відаць Ражок. Так і ёсьць: і штаны яго і камізэлька вунь тая... Вось ён дзе небарака духі аддаў, трэці дзень чалавека шукаюць...

І адразу-ж схамянуўся.—От табе й раз, набыў сабе клопату. Хадзі цяпер па начальству... «Шчэ па прыставох цябе паганяюць—адкуль мерцьвяка здабыў...

І, узяўшы дручок, асьцярожна і ціха пачаў адштурхоўваць набрынялае вадой цела ад куста. Вот падхапіла яго вада і яно паплыло, загойдалася на ціхіх хвалях, не перастаючы ўзірацца ў далёкі месяц. А вось і за сьлед гэты месікавы заплыло, ня відаць ужо болей.

Лаўрэн яшчэ раз перажагнаўся, прашаптаў:

— Ты ўжо ня крыўдуй, братка Лявон. Ня з рукі нам... Чалавек ты, здаецца, і нішто, ціхі, можна сказаць, чалавек... Да бач-жа, доля такая, дзе толькі собіла... Плыві, галубок, плыві... Знойдзеш дзе-небудзь і дамавіну. А нам—суседзям тваім—ня з рукі... Бо сьмерць твая бяз крыжа была, нялюдзкая, браце, сьмерць...

А сам, сьпяшаючыся—забыўся нават на газы пляшку—сьцягнуў човен на ваду і паплыў хуценька да берагу, каб не чакаючы раніцы ісьці да хаты і абсушыцца. Ды й ня толькі абсушыцца. Ніякавата тут цяпер... Плыў і азіраўся назад, налягаючы на вёрткае і склізготнае ад вады вясло.

●

Прынесла вядро вады ў хату, плёскала конаўкай на рукі над цэбрам у мыцельніку, умывала твар, шыю. Празваконную шыбку ўпаўзала сонца, і яшчэ халоднае, ранішняе—толькі-толькі амылася росамі—лавілася ў рукі і, выскалізаючы з іх, паўзло на сьцены, на печ, на пярэбарку. І калі траплялі на сонца кроплі вады з пад пальцаў—тады срэбрам жывым цурчэлі ўніз у цэбар, паўз цэбар, на засьмечаную падлогу.

— Да цішэй ты.... Няма, каб падлогу падцерці, а ліць— з час кожны ня промах...—бухцела матка ад печы, старая Козіха, завіхаючыся ля чыгуноў. І завіханьня таго было—чыгунок бульбы паранай да вады чыгун—цялушцы той каросьлівай на пойла. Ня столькі завіхалася, колькі форсу таго бабскага, звычаю векавечнага:

— Як-жа, печы паліла... усё раньне...

Тацяна зьняла зрэбны рушнік і адразу-ж грыб закапыліла: каб-жа хоць мясьцінычка тая сухая, увесь мокры... Назіраючы, касавурыла вока матка да цадзіла праз зубы.

— А ты не капылься дужа—ня вытчана... Матчыны рушнікі праціраеце, матчын то клопат быў. А каб самім спрасьці ды выткаць там—дык вас на тое нямашака. Толькі от і ведаеце брынды-брынды правіць, галёкаць, як тыя кабылы стаенныя па сялу. Няма на вас управіцеля...

— Ціху ты, разышлася, як малатарня тая мялаўская...

Расчэсвала валасы, косы заплятала. Трымаючы ў зубах грабянец, высока ўзьнімала рукі, і напружваўся твар тады, чырвоным рабіўся ды патрэсквалі зачапкі тыя ніцяныя ад гузікаў на кофтачцы. Уся кофтачка лезла ўгору, і вылузаўся тады з пад яе белы кужаль сарочкі. Украдкі пазірала матка, дачкой любавалася.

— Выгадавала вось, каб усім жа і добрым людзям так. Ня дзеўка—агонь. На развод бы такіх... Каб-жа ды ёй убёры тыя, паабівалі-б сваты парогі.—А ў голас:—Нешта ты ўжо чапурышся занадта?

— А няўжо-ж мне ў сьвяты дзень памялом тым па вуліцах пыл шураваць?

Матка не знашлася чым адказаць, выцягла чыгун з вадой ды, крэкчучы, пачала яго з загнетку здымаць, укруціўшы анучаю.

— Мо' б ты ўкусіць чаго дала?

— Ды што ты ачмурэла, мая дзеванька, ці што? Вось жа пасьля абедні й папалуднуем ужо... Воч не пасьпела працерці ды й за едала ўжо... Ні села, ні пала, як той казаў, дай, баба, сала...

Бразнуўшы клямкай падалася Тацяна на вуліцу.

Шлі па ёй бабы, мужчыны, таўклася малеча. Шлі купкамі, шлі адзінотаю. Хто з вёсак суседніх—тыя прыяжджалі коньмі, рушылі на рынак, распрагалі там. Ці заяжджалі на двары да сваякоў, да сватоў. І адсюль ужо рушылі да царквы.

Не даходзячы колькі да цьвінтару, старасту абагнала. Той ішоў паволі, і новыя юхтовыя чобаты яго рыпелі гэтак паважна і сур'ёзна і пругка ступалі на зямлю. Чорны пінжак цупка аблягаў шырокія плечы, акуратна прыгладжаная барада хавала пад сабою чыстую—от толькі з-пад качалкі—сарочку. Ішоў стараста, і нібы ўгіналася зямля пад яго важкаю хадою. І ўжо неяк ня ішоў да яго твару гэты сонечны зайчык, што скакаў гарэзаю на брылі новай чорнай шапкі.

Дзяўчыну заўважыў. І, азірнуўшыся, каб ня было каго поблізу, паклікаў:

— Слухай-ка... Пастойка-ка, ты, як гэта яе... Тацяна.

— Чаго вам, пане стараста?

— Ты вот ведаеш што? Ты ўжо ў мяне глядзі, дзеўка...

— На каго гэта глядзець?

— Іш ты яе, прыкідаецца дурніцай той... Пра Банадыся кажу... Каб і ў думках тваіх а ні на волас, ні на каліва... Хлапца каб гэта змушчаць...—І ўжо зусім сурова:—Глядзі!..

— А паглядзі ты ўжо, дзядзька, жонцы сваёй... здыхлі сваёй...

— Ах, каб-жа...—і толькі оот разявіў і сьціяў: каму ахвота на вуліцы ды перад добрымі людзьмі з такой вот гадаўкай зьвязвацца. Пачне выскаляцца, і рад ня будзеш. Так адцыбучыць—пачырванееш. Набраўшыся паважнага выгляду, рушыў далей.

Поўны цьвінтар народу было. І местачковыя тут і з вёсак суседніх. Але больш за ўсё хусткі дзявочыя, ды жаночыя крутні—паменшала гэтага народу мужчынскага, вялікі на яго звод пашоў. У царкве правілі аж тры папы. Свой да суседні змаршчакаваты, з касіцай аблезлай, рудзенькай. Рызы тыя на ім, як на штакецінцы лупаюць, нібы водзяць папа ў бакі. І ўвесь поп, як тая морквіна лежаная, на паграбніцы зьвялая.

— Уга, наш поп гэтага паб'е, дальбог паб'е. Наш гэта як пачне яго імпэратарскаму вялічаству крыць, дык аж з кумпала штукатурка сыплецца, панікадзіла зьвініць. А то што: оспадзі, оспадзі, а сам таўчэцца, як няпрыкаянны, і голас той, як пшык камарыны...

Трэці поп—той другі... Сівая барада, такія-ж косы, ды нос гарбулінай. А вочы—зірне, і адразу рукі на лоб просяцца, а дзявоцкія шэпты, як касой зрэжа.

— Суровы, відаць, поп, бачыш, буркалы выставіў. І галасіна, відаць, нішто. І, глядзі, гэты можа й нашага пабіць, хоць і не такі гладкі.

На клірасе дзяк пеў. Сухі, як тая трэска, ён выгінаўся ўюном, над дзяўчатамі камандаваў і над сухарукім Яўхімам. Той стараўся, закочваў аж пад самы лоб вочы, нібы хацеў перакрычаць усіх—аж поцекі шлі па лысіне. І калі задужа захапляўся Яўхім, тады торгаў яго дзяк неўзаметку за пусты рукаў, да сіпеў на вуха: «Цішэй ты, ужо эвангельле пачалося». Яўхім вінавата азіраўся ды, ўнурыўшыся долу, шчыкаў зьнецішку дзяўчат каторых. Другая круцілася, як на патэльні, агрызалася:

— Ціху ты, крывы... От заўважа поп, ужо дасьць тады ён табе рады.

Час ад часу выходзіў з алтара Лаўрэн і паважна падносіў кадзіла папу. Падносіў, хрысьціўся, зноў прымаў кадзіла і так-жа важна і ўрачыста ішоў разьдзьмухаць яго ў алтар. Рабіў усё спакваля, не сьпяшаючыся, нібы от ёўню распальваў, ці снапы сушыць туды зносіў. Нават Цыбал Іван, стоячы поплеч з старастам ля правага кліpасу— падцягваў з большага за Яўхімам—і той Лаўрэну пазайздросьціў:

— Бач ты гэта яго... І чалавек, можна-ж сказаць, не абы які і чалавек... Так сабе чалавек—хата там у яго ды ўслон які,—а тут-жа як выступае... Не раўнуючы, як архірэй, калі гэта з кадзілам во... Отжа-ж Лаўрэн...

Тут-жа недалёчка, каля самага, бадай, аналою стаяў на самым відным месцы прыстаў. Друзлы ўжо чалавек, ён падцягваўся і стаяў павайсковаму, не азіраўся, толькі хмурыў твар, маршчыніў, і без таго маршчакаваты, прысадзісты лоб. Калі хрысьціліся, ён паважна схіляў галаву і хуценька «лічыў гузікі», як сказаў на клірасе дзяўчатам Яўхім, пазіраючы потайкі на бліскучы начальніцкі мундзір. Калі станавіліся на калені, прыстаў таксама ўкленчыў на адну нагу і, стаяўшы поплеч пры поўнай выпраўцы местачковы ўраднік, торапка змахнуў хустачкай пыл на тым месцы, дзе павінна была апусьціцца начальніцкая штаніна. Ды сам таксама станавіўся з боку на адно калена, ды прыглядаўся, як трэба хрысьціцца паначальніцку, каб гэта й бога не пакрыўдзіць і каб гэта па панску было. І каб разам з тым прасачыць, калі-ж скончаць эвангельле чытаць, каб пасьпець дапамагчы начальніку пад лакаток падняцца. Мужыкі стараліся, каб, крый божа, не ўчапіць сьвіткай за бліскучыя гузікі. Толькі малеча галапупая каторая, высунуўшыся наперад і павярнуўшыся задам да сьвятога прыстола, узіралася ў самы рот начальніцкі, разявіўшы рты захаплялася гузікамі, ды ўсякімі гэтымі брынзолкамі, што на грудзёх. Начальнік яшчэ больш маршчыніў лоб. Сыкалі мужыкі, адводзілі каторых, тузаючы за рукаў, ды штурхаў каторага,—каб неўзаметку—ножнамі па штанох ураднік.

З правага боку бабы стаялі. Адны стаялі ўнурыўшыся і падцягнуўшы сухія паблеклыя вусны, узіраючыся туды, дзе грала сонца па-

залотаю алтара, адкуль расплываліся блакітныя клубы салодкага дыму, адкуль чашу поп выносіў, дзе адчыняліся і зачыняліся залатыя палавінкі дзьвярэй з чырвонай заслонай. Старэйшыя варушылі вуснамі, і ў шэптах тых усё больш багародзіца была, дзева тая прачыстая, мацер божая. Каторыя, дзе цямней, між сабой шэпты вялі: пра трубкі палатна, пра ўтоку, пра бёрды, пра паганага мужыка, пра залатуху тую, што скручыла дзіцё зусім.

— А ты, мая ягадка, да капліцы сёньня, няхай сьвятой вады паспытае, ды да вобраза яго прыкладзі...

А дзяўкі... Тым што! Тыя прыглядаліся да карунак, да сукенак новых, да новых хустак, да хлапцовых сарочак, што відаць от направа. Каля вобразу багародзіцы стаяць каторыя бабы—усё больш старыя—і адбіваюць прыкленчыўшы паклоны. Тут-жа жонка Лявонава. Засьмяглыя вусны горача шэпчуць нешта, і нічога ня бача яна—ні баб, ні мужыкоў, ні рызы бліскучай папоўскай. Толькі божая мацер стаіць перад тварам, то ўсьміхаецца з-пад венчыка свайго, то сурова глядзіць, нібы папрокамі кідае, асуджае грахі. І тарапка хрысьціцца кабета, хапаецца, каб жа вымаліць долю сваю, бесталанную. Млеюць калені, абвісае на іх мяккім цяжарам нярухомы жывот. Цяжка багамацеры паклон адбіць, але грэх устаць, грэх пакрыўдзіць яе, барародзіцу. Маўчаць бабы, што поплеч. Забываюцца пра ніты і трубкі. Ды позіркам абмяняўшыся маўклівым, ківаюць галовамі сумнымі.

— Да чужой раны рукі ня прыкласьці...

А вот і абедня скончылася. Дае крыжа цалаваць поп. Першым падыходзіць прыстаў. Поп вітае са сьвятам яго, просфару дае. Прыстаў адыходзіць у бок, з хвіліну, народ азірае, нібы хоча сказаць:

— А ну, каторыя там... дазваляю... да-а-зваляю... Ураднік бокам становіцца, рукой камандуе:

— А ну, маўляў, падайся ў бок, разыйдзіся...

У царкве ўжо пратэсы зьвіняць, то выходзяць на цьвінтар, каб хрэсным ходам на капліцу рушыць, на крыніцу тую сьвятую. Першым становіцца стараста. Ён нясе запрыстольны крыж. За ім з ліхтарыкамі—шкляная цэркаўка на сьвечцы—Цыбал выходзіць. Дзяржална тое ад ліхтарыка трымае асьцярожна, нібы ня дрэўка тое, а шклянка кволая, хрусткая. Дзіва то—рукі ў Івана чырвоныя, каляныя, скура на іх лупіцца. Цыбал у белай сьвітцы, у намазаных дзёгцем чабатох, якія ставіць ён, касалапячы, па мядзьведжы.

— Ідзець, як жаба плывець,—жартуюць дзяўкі.

— То-ж скнарыцца, ня можа другіх чабатоў прыдбаць...—думае стараста, пазіраючы на Цыбала, покуль рушаць у ход.

Галава ў Цыбала блішчыць, каровіным маслам намазана. І паварачваецца яна ў бокі, шчэлкі-вочы з-пад ілба на народ пазіраюць, надаюць павагі сабе. На самой макаўцы саломінка, колас іржаны—ад шапкі відаць. Тапырыцца. Малы падскочыў.

— Дзядзька, саломіна!

— Ідзі ты, шкна-а-арадзь...—ня ведаючы што к чаму і надзьмуўшыся, рушыў.

За пратэсамі дзяўкі вобраз нясуць расквечаны кветкамі, істужкамі, зелянінай. Цепляцца перад вобразам сьвечы, ня гаснуць у ціхім паветры. І пярэдняя з дзяўчат Тацяна Козішка. Нават сплюнуў Хвядос:

— Каб на цябе чэмер... То-ж пранайдоха... Дзе людзі, там і яна ваўрэцца...

Каб то стаялі, абавязкова пашоў-бы і выпер: хіба то няма другіх сямей, а то з такой-жа хаты: усё сяло байструкамі закідалі... Ды нязручна цяпер, ці-ж ты будзеш спыняцца, ды ход парушаць. Да капліцы вярсты тры-чатыры. І ўсе яны людам поўняцца. Плаўна рушаць папы, віецца нітачкай ценкай дым з кадзілаў, чыкільгае Яўхім за дзякам, заліваюцца дзяўчаты галасамі звонкімі, крышталёвымі. А за імі народ увесь рушыць. Старыя адсталі крыху, пазадзе засталіся. Маладыя наперадзе. Схіліўшы калены, манашкі ход сустракаюць. Поп благлаўляе іх, дае крыж цалаваць. Пачынаюць малебства. Ваду сьвецяць. І да позьняга вечара гудзе народ наваколі. На паляне, па лесе гуляе моладзь, карагоды водзіць, на ўсе галасы рэжа гармонік. А старыя, бабкі, кабеты паўзуць і паўзуць, цалуюць вобраз, нагінаюцца з пляшкамі над калодзежам са сьвятой вадой, каб вусны змачыць, з сабой узяць, пасьвяціць хату, хлеў, баразну першую пад азіміну. Другія, калекі, сухія, здыхлявыя, хударлявыя працяралі вочы над сьвятой вадой, спалоскалі ёю скарэжаныя рукі, скурчаныя пальцы, абмывалі струп'я з шчок, прамывалі парэпаныя вушы. І звонка зьвякалі медзякі ў пазелянелыя скарбёнкі, ды бабы клалі да вобраза кавалкі кужалю, жмені кудзелі, воск, вешалі ручнікі. За парадкам сачыў Лаўрэн і манашкі, што стаялі сашчарэпіўшы рукі і сьцяўшы вусны, як на прычасьце шапацелі малітвы.

А на рынку ў мястэчку гудзе кірмаш. Соўдаюцца з аброцямі рахманыя цыганы, да зубоў, да хвастоў конскіх прыглядаюцца, цанююцца. Маладзіцы і дзяўкі прыцэньваюцца да крамніны, на палец бяруць— ці парвецца то, ці ціткае, сьлінязь—ці лінючае. Прымерваюць на хвартухі, выглядаюць хусткі. Старэйшыя—па гладышох, па місках, па начоўках новых, асінавых, па тых дзежачках ліпавых, каб масла зьбіраць, сыры складаць. Мужчыны—тыя па вобаду больш, па гужох, хамутох, па новаму нараду, ды па конях. А там пірагі сьвежыя, абаранкі, сланэчнік, гарбузікі, кірмашовікі, пернікі. Вось купіў дзядзька з маладзіцаю пірага хунт, да крамы падходзяць, абыходзяць селядоўкі тыя пустыя, што з крамы выстаўлены.

— Колькі то лёку таго, Мар'я, а мо' й перакусім трохі?

Мачаюць пірагом у дзежку і ядуць, аблізваюцца.

— От толькі салона задужа...

— Ла-а-асунчык ты, відаць, Зьмітрок,—вітае дзядзьку старая крамнічыха Роха.

— Ане-ж... Смак—лепш ня знойдзеш.

— Нешта ты не заходзіш от да мяне, абыходзіш, ня йначай... А тараны ў мяне! Дай божа кожнаму мець тараны такія... Кожны таран на падбор, аднаго ў гаршчок і хопіць, уга... Не таран, а князь...

— Ды яно, пане Роха, і ня шкодзіла-б узяць з пару хунтаў якіх. Толькі-ж ты ўжо задужа цануешся.

— Калі гэта? Хто гэта табе сказаў? Дык вот-жа заходзь, сваім вокам пабачыш... Ну, а як твае дзеці? Чаму гэта сьвякрухі ня віддаць?

Чаго толькі ня ведае Роха? Акрамя сваіх тараноў, увесь сьвет.

Тут-жа гудуць гармонікі, бубны бубняць, сьляпы Лазара выводзіць. Стаяць навакол яго бабы, узіраюцца моўчкі ў бельмы ды зрэдку каторая ўздыхне, грош, або абаранак той у шапку кіне. Кіне і адыйдзе, да паліванага гладыша прыцэніцца, да самапрадкі. Віхрам носяцца галапупыя, бясштаньня—ім то раскоша, і бо-о-жачка, чаго, чаго ні настаўлена, ні накладзена: і гармонікі, і сьвісьцёлкі, і цукеркі з залатымі кутасамі. А яец тых за пазухай усяго тры, і адно, віддаць, поклад...

Ля манапалькі не прабіцца. Ужо спрабуюць дзядзькі на карачках поўзаць, другія цалуюцца і, сьлюнявячы адзін другому насы, памінаюць старую дружбу, старыя крыўды. Памянуць крыўды—дружба напал.

— Чаму-ж гэта ты, га... за-а... нос укусіў мяне... Я цябе пацалаваць як добрага чалавека, а ты мяне за нос уцэліў... Чаму-ж гэта...

І, узьняўшы кулак, наступае дзядзька і спатыкнуўшыся ляціць потырч у конскія каўцюхі. Ляжыць і галосіць.

— Дык чаму-ж ты гэта, гад, у нос мяне ўцэліў...

Блюдзе парадак ураднік.

— А ну, каторыя, разыйдзіся!

У яго сягоньня «завозна». Толькі й бачыш, як пацёг каторага на буксіры. Праўда, зрэдку каторага да ураднічкай дацягне. Затое кішэня ураднікава весела зьвініць медзякамі і прыўнямі, да бывалыя людзі, пасьміхаючыся ў вусы, кажуць адзін другому:

— Навудзіў ужо ня йначай...—і даюць ход удаламу рыбалку.

●

А подвечар усё мястэчка гуляла. Як-жа, прыстол—сьвята раз у гаду бывае. У Мялаўа поўна хата людзей—тры сталы ссунуты адзін да другога. Ужо госьці каторыя на палаці завaліліся, другія ў сенцах, трэція на двары, пад бярозамі. Сваяцтва ўсё, сваё, маляўскае, ня людзі—кражыкі тыя грабовыя, прыціскучыя. І ураднік тут, і Цыбал Іван. Цыбал п'е з асьцярогаю і, выпіўшы, доўга моршчыцца, і твар яго на печаную дулю робіцца.

— То-ж гаркаціньне, даруй божа...

Хвядос гутарку з ім заводзіць:

— Сват Іване!

— А чаму-б гэта яно да й сват?

— А чаму-ж пане Іване, ня быць нам сватамі? Маеш дзяўчыну ты?

— Да яно, пане Хвядос, канечне... Гэта яно сапра-а-ды так... Маю дзеўчыну, нечага бога гнявіць...

— А ў мяне сын Банадысь, ходзіць вось, разьбязуліў толькі.

— Да яно і сапраўды гэта... Сын-жа ў цябе Банадысь. Разьбязуліў от, кажаш.

— Так, пане Іване, дык мо' і пажэнім іх?

— Пра каго гэ-э-та ты?

— Дай рады з ім... Да пра Банадыся ось. Банадыся майго і Макрыду тваю. Давай от пажэнім іх.

— А ка-а-б іх сухая доля пажаніла. Цяпер жа-а, браце Хвядосе, каб жаніць там, ці замуж от аддаць, ды-ы-к-жа процьму тых грошай трэба патраціць... Ды-ы ізноў-жа вялікі то звод у гаспадарцы... Каб то сказаў у прымакі ўзяць, дык яно-б яшчэ сю-у-ды туды...— І Цыбал разводзіць жылаватымі рукамі, чаплючы за пляшку, якая ляціць на падлогу.

— О-о-т-жа бачыш, Хвядосе, прыстол той—сьвята, можна сказаць, і то от згу-у-ба табе ў гаспадарцы. А каб-жа то сказаў да ажа-аніць от каторага. Крый-жа то божа, колькі таго ўрону.

— Дык будам сватамі, Іване?

— А чаму не... Бо-о ўжо як-небудзь падумаць трэба, абмеркаваць, бачыш... Яно-о ко-о-жную справу дык прымераць трэба раней, на во-о-ка прыкінуць, каб яно гэта я-я-мчэй было, выходзіла каб яно гэта лепей...

— Ну й корч, ты яго не паракулііш...—думае Хвядос і выпівае з будучым сватам па чарцы.

●

Ля самай капліцы спаткаліся, калі адхлынуў народ крыху. Стаяла ля самага зрубу, нават не паслухалася сястры Аўдакіі, калі тая да хаты гнала. Усё прыглядалася да народу, постаці знаёмай шукала. І калі заўважыла, ойкнула ціхенька, забожкала, кінулася было наперад, але засароміўшыся рухаў сваіх—народ-жа глядзіць—спынілася, чырвоная, узрушаная. От ідуць. Здалёк відаць зялёная шапка Андрэева. Да з ім ідзе от. Брат-жа то. Не зьмяніўся за два гады, хіба от загарэў больш, з твару чорны. І калі ўжо блізка былі, не сьцярпела, кінулася подбегам, за шыю схапіла і, расцалаваўшыся, зазірнула ў вочы Напрэявы,—а як жа ён выглядзіць, і што то ў яго на твары ўсьмешка такая, ні то сур'ёзны, ні то кепікі строіць брат. І раптам цёпла стала, нібы сонцам вясеньнім прыгрэла твар, палыхнула цяплынёй той, прылашчыла. Які-ж ён добры.

— І падрасла-ж ты, Мартачка, глядзі, як выцягнулася, не пазнаць. Нявеста ўжо, можна сказаць.

Засаромелася, вінавата зірнула на Андрэя. А яму што—стаіць от да выскаляецца, на сонцы канапаціны тыя ды прайдошныя вочы, дурасьлівыя, сьмехам маўклівым поўняцца. Яшчэ хвіліна і пырсьне сьмех, от-жа насьмехач.

Сястра Аўдакія аж зьбялела, заўважыўшы Марту ў такой кумпаніі. Калі цалаваліся, аж духі ў яе займаліся, у вачну пачарнела. «Што вычварае перад прыснадзевай...» Трушком, трушком, як тая мыш гумённая, падбегла. Спынілася, засопшыся, твар скасабочыла—сьвяціла то сонца да проста ў вочы—і пачала языком мянціць. Дзе

ты яе—Марту—кранеш, калі стаяць от двое—адзін усьміхаецца, другі вырачыў вочы, дзівіцца на яе. За валосьсе-б гэтую Марту-грахаводніцу, ды ў хату, ды ў камору, ды рушніком мокрым па мейсцы тым голым—пашлі-б то пісягі чырвоныя, чырвоныя ды па беламу. Але-ж не кранеш.

— Бо-о-жачка-ж ты мой, што-ж гэта ты тут выробляеш, над мейсцам сьвятым зьдзекуешся. Пашла, грахаводніца, у хату. Баб хоць ідзі прымі, пакуль я тут упраўлюся. Бач, на шыю ўжо вешаецца... І калі-б то было, прасьці божа...

Марта кранулася з месца, але тут-жа й спынілася. Вочы долу апусьціла. І відаць было, як палымнеюць шчокі яе да белымі плямамі пакрываюцца.

— Брат от мой... Вот што...—і замоўкла.

Тая прыглядалася скасавураным вокам, аблізваючы сухія вусны, жуючы імі. Мармытнула пад нос:

— Задужа нешта ў цябе братоў?

— Адзін у мяне брат...—і гатова была ўжо Марта расплакацца. І сама ня ведала, чаму гэтак сьціснула горла, апаліла балюча грудзі. Ды Андрэй от стаіць і Напрэй поплеч—і кожнага-ж сорамна. Адзін-жа брат, другі-ж...

— Кінь ты, Марта, да гэтае—падумаў—да перачніцы гэтай прыслухацца...

Тая вызьвярылася: «Пастой-жа, вот як скажу айцу Панфілу, ён то цябе ўжо навучыць...»

— А пашла ўжо ты да разам з айцом сваім ды к манаху...

Сказаў гэта задужа ўжо сур'ёзна, ня ўсьміхнуўся нават, толькі напружылася і ўсхадзіліся жалвакі на твары. Сказаў, як адсек, і адразу-ж адышлася.

— Хто гэта?—запытаў зьдзіўлены Напрэй.

— Гаспадыня мая, манашка з капліцы.

— Ну, й ведзьма-ж відаць. І як-жа ты жывеш з ёй?

— А вот такжа й жыву. А куды-ж мне падзецца?

— Яно й сапраўды... І б'ецца мусіць?

— Ну, а як-жа? Уга, каб ня білася... Хіба-ж то можа...

Хадзілі яшчэ колькі на паляне, гармонік слухалі. Андрэй той і ў скокі ўкінуўся, барышню адкалоў ды зноў далучыўся да кумпаніі. Крыху правяла Марта.

— Дык ты хаця-б часьцей заглядаў. І ты, Андрэй...

— Да ўжо-ж.

Варочаліся позна. Маўчалі больш, бо неяк не гаварылася.

— Узяць-бы яе адсюль, Андрэй...

— Да я думаў аб гэтым. Толькі як-жа ты зробіш гэта. Каб параіцца вось з кім. А мо' Іван Іванавіч што скажа, ён-жа чалавек наскі, бежанец, толькі губэрні другой. А мо' і ён за чалядку-б узяў, няма-ж у яго гаспадыні ў хаце.

— А мо'...

Так-жа моўчкі разыйшліся па хатах. Напрэй да Цыбалавай, Андрэй да папоўскай, дзе на палавіне айца Панфіла сьвяцілася яшчэ сьвятло ды скрозь адчыненыя ў сад вокны несьліся гучныя галасы. То папы прыстол спраўлялі, пілі, рэзаліся ў прэфэранса. Час ад часу айцец Панфіл даведваўся да пападзьдзі: па яйца, па сала, па сьцёгны. Цяпер, ён ня выпрашваў, а рашуча наступаў, трасучы кулакамі. І пападзьдзя не адмаўляла—як-жа, прыстол, мае поп поўную рацыю. А ня то, дык і саб'е на лапаць той-недашкробак лазовы. Прычыніўшы дзьверы, корпалася па сховах сваіх і, накладаючы масла, усё старалася, каб-жа горшага пакласьці, от ёлкага таго, прызяленіла што крыху. Прыносіла, перадавала з сіпам:

— Давіся ўжо, ідал...

— Ну, ну, некалі мне гаварыць з табой...

З папамі гуляў і прыстаў, які спэцыяльна на кірмаш прыехаў з воласьці. Тут-жа быў і Мацьвей Юльевіч, завіхаўся з картамі. Моўчкі піў дзяк. Хапаючыся наліваў чарку, прыплюшчваў вока і адным махам апракідаў яе. Тады выцірала востра парослае рыжай шэрсьцю адамава яблыка. І донам чаркі прыстукваў па ім, прыгаварваў усё адны і тыя-ж словы:

— ...і вазьвесяліцеся, акі праведніцы...

І айцец Панфіл кожны раз моршчыўся і думаў:

— П'яніца ты, сукін сын і разбойнік...

За адны яйцы тыя на вялікдзень спрачаўся дзяк да сёмага поту, чуць каробку тую не патоўк.

А прыстаў усё на палітыку налягаў. Друзлы, спацелы, з тварам, падобным на кукіш—і на твары тым рудзенькія, як голкі тыя, вусікі пракураныя—ён спрачаўся з Мацьвеем Юльевічам, хто каго пераможа: ці Расія, ці Нямеччына. Мацьвей Юльевіч быў за Нямеччыну: культура там, тэхніка, шпрэхэндэйч і іншае ўсякае. Гэта ў голас. А пра сябе: родны дзед быў з Нямеччыны, зьвекаваў у Расіі вінакурам. І хоць у Расіі зьвекаваў, але-ж пакінуў сыну і ўнуку ўспаміны аб родным горадзе, аб далёкай бацькаўшчыне. І хоць ня бачыў яе Мацьвей Юльевіч, але усё-ж паважаў і часта, вельмі часта пагардліва пазіраў на гэтых людзей, тутэйшых, адно званьне, ня людзі.

Прыстаў-жа сядзеў, як на голках, сьлінаю пырскаў праз талеркі.

— Калі-б хто другі, а ня вы, Мацьвей Юльевіч, даўно-б я яго арыштаваў за такія словы. За абразу, можна сказаць, мацеры нашай, радзімы, ад дзядоў і прадзедаў вялікай Русі, сьвятымі летапісцамі ўслаўленае.

— Хіба-ж я абражаю? Праўду кажу.

— Праўда ваша бунтам пахне, Мацьвей Юльевіч,—усю тую падрывае—тут успомніў прыстаў колішнюю губэрнатарскую прамову.—Што-б народ вам сказаў, калі-б да яго да з словамі вашымі. Ён бы вас на шматочкі парваў...

— Няйначай, як у Пяцеры хіба, чулі, нябось...—заўважыў Мацьвей Юльевіч.

— У Піцеры то другая справа... Крамольнікі... Змусьціцелі народныя... А кажучы між намі, айцы, айцы, трывожны час перажывае Расія... У нас тут, можна сказаць, нішто, усё роўна, як гэта там у вас, у пісаньні...

— Імення, імення: «благорастворение»...

— Вось, вось, якраз і меў я наўме... А па гарадох чмурэе народ, заводы ходарам ходзяць. Нашаму брату цяпер ня служба, пакута... І павінен я вам сказаць, што і ад вас вя-я-лікая дапамога патрэбна. Усе мы, можна сказаць, цару-бацюшку служым... Адзін мячом, другі—крыжам чэсным, словам эвангельскім... А ўсё яно—адно да аднаго. Аднаму бізуна, шаблюкай у зубы, другому—крыж у вусны, глядзі—і супакояцца...

Сівы поп, суровы, масьць разглядаючы, слова ўставіў:

— Правільна ўсё гэта вы, правільна. «Прыдзіце ка мне ўсе труддзяшчыя і абрэмяненныя і аз упакою вы... Правільна, што й гаварыце.

— Ісьціна правільна. Покну хіба 'шчэ адзінуючы...—і дзяк асушваў чаркі.

А рудзенькі попік, даўно захмялеўшы, усё скардзіўся на грызь:

— От-жа, панове, пра пакуты вы ўсё... А мне да чаго хваробы гэтыя дапякаюць, няма табе спакою ні днём, ні ўночы. Часамі хрысьціць прывязуць, ці паклічуць сабораваць каго, а тут як запячэ, як запячэ—ну, дай ты рады, ледзь дыхаеш. Качаешся па зямлі, як сабака той недабіты...

— Дзе-ж гэта собіла вам?

— Ды й ня дужа й прамудрасьці тут вялікія. Парабак у мяне. Хлапец яшчэ малады, ды дужа-ж не гаспадарлівы, не рахманы. Калі ня зробіш сам, ці ня скажаш яму, дык і будзе стаяць. Дык от купіў калуна я. Добры калунок. І абушок як сьлед. І ня коле, а лузгае проста. Пакладзі гэта цюльпашачку, нібы сама й пакалолася. Ну, даў я яму калунок той. «Глядзі—кажу—ня збэсай...» Ды дзе ты з ім. Намервае, каб паленам якім, даўбешкай той па абушку бэсаць—бач, папалася яму палена сукаватае. І бэсае, і дае. А ці доўга яно расплярскаць так, абушок расплюскаць. Ну, я да яго. «Адыдзі—кажу—д'ябал». Да сам за калунок, за цюльпах той, здаровая такая плашка грабовая, ды толькі сукі на ёй. Важдаўся я, важдаўся з ёй—усе духі высіліў. А назаўтрае і пачалося. Ох жа-ж пячэ як...

Моршчыцца марковінка тая, да рука барадаўчатая з жаўцявымі плямінамі за жывот хапаецца.

— Няйначай памерці давядзецца...

— А вы, айцец, чарачку яшчэ, яно й пацяплее...

— Ды ўжо-ж... Няйначай.

Прапелі пеўні ўжо. Даўно й пулька пакінута. Ды дзе ты павядзеш яе, калі галовы ня служаць. Мацьвей Юльевіч над айцом Панфілам пасьмейваецца.

— Жывяце вы, айцец Панфіл, ну проста-ж пустэльнікам. Хоць-бы на вашу матушку зірнуць.

— Няхай на яе ўжо д'ябал зірне на страшным судзе, а мо' ў пекле будзе лягчэй...

— Чаму?

— Ат... Ня бачылі выжлы той...

А калі зусім языкі пазьвязвала, рушылі на вуліцу дзявок лавіць. Толькі морквінка засталася тая рудзенькая. На двары пад яблыняю качалася, войкала да ўпіралася нагамі ў яблыню—аж яблыкі сыпаліся. Узіралася пападзьдзя ў вакно, енчыла ціха:

— Усю то летаўку папсуе, божа-ж мой...

Убіралася ў рызьзё і рушыла, ў сенцы да Андрэя, будзіла голасна:

— Андрэйка, саколік мой... Ідзі ты хацяя ды адцягні яго ад яблыні, пад плот хіба куды, ці пад хлеў...

— Каго гэта?

— Да папа-ж гэтага...

— А йдзеце вы самі з папом вашым...

— Ды ня мой поп, а той...

— Адзін чорт...

— Вот ужо прыпякуць табе калі чэрці язык, прыпякуць жалезам...

— Адчапецеся—спаць хочу.

А кампанія рушыла па вуліцы. Чаплялася за платы, сігала з боку ў бок, падстаўляючы ілбы пад штакеціны, пад вакяніцы, перагнуўшыся цераз плот, аблягчаўся каторы на буракі, на капусту. На Козіччын двор узваліліся, балазе без варот ён, бяз хвортак. У хату паўзьлі.

— А ну, дзе гэта дзяўкі тыя?

Старая на печы заварушылася—цяжка маслакі старыя ад цаглін аддзіраць. Запаліла сярнічку і, заўважыўшы гузікі, палящела потырч з печы, да хуценька ў сенцы, на двор, каб-жа хутчэй да істопкі—дабро ратаваць, бусла таго цэлага, што пра запас. З-за пярэбаркі Тацяна рушыла. У поцемку схапіў яе прыстаў, ды адразу-ж адскочыў, лузнуўшыся патыліцай аб услон. А сёстры, што за пярэбаркай, спрасонку гвалт узьнялі:

— Ратуйце, рэжуць.

Ураднік, які ад Мялавых варочаўся ды ішоў, ледзь, ледзь пераставўляючы ногі, пачуўшы «беспарадак», адразу-ж набраўся начальніцкага спрыту, кінуўся ў хату.

— А ну каторыя, разыйдзіся.—І спаймаў катосьці ўпоцемку.—«Няйначай кабета, кудлы тыя разьвесіла».

Пшыркнула сярнічка. То прыстаў шукаў дзьверы. Ураднік як зірнуў, так і самлеў. Тры крокі назад—паляцеў тут потырч айцец Панфіл—ды ляснуўшыся плячом аб паліцу, утароплена, голасна:

— Рад старацца, ваша благародзьдзе!

— А-а... гэта ты... боўдзіла?..

— Так точна, ваша бдзьдзе...

— Ідзі ўжо ёлуп...—працьвярозіўшыся крыху, грымкнуў прыстаў, шукаючы дзьверы. За ім пасунуліся і айцы, і Мацьвей Юльевіч, пачухваючы хто хрыбет, хто рабрыну.

— То-ж шкнарадзь, як саўдане, няйначай баклажкаю, ды пад самае дыхала. І рукі тыя, як-бы не дзявочыя...

— Та-а-ак...—мычэла пад нос кампанія, ацьвярозіўшыся такі ці то ад спатканьня з ураднікам, ці то ад качалкі.

Раніцой прыстаў прыклейваў пад вокам плястыр, каб прыкрыць вялікі сіні гуз.

Апахмяляліся.

●

Напіўся дзесьці і Жаранок і длыпаў да хаты па вуліцы. Яшчэ ў сенцах доўга шнырыў па кутох, ніяк ня мог да клямкі дабрацца, лаяўся. Жонка сухарлявая, вечна маўклівая—нібы бяз голасу жанчына, схапіла з палацяў дзяўчынак наўлоньне ды як мага за дзьверы. Паспрабуй ты тут, пазмагайся з ім. Лепш ужо там на агародах ці на прыгуменьні раніцы перачакаць, ад граха далей.

А Хвёдар, усунуўшыся ў хату, стаяў ля парогу, пытаў грозна:

— А ну, падыйдзі?

І ня чуючы адказу, дзівіўся—дзе-б яна залілася. Поркаўся на палацях, шураваў на каленцах ля стала, на лавах. І тады лаяўся... Лаяўся, гаварыў сам на сам, біў штакецінай па даўно павыбіваных шыбах, шпурляў адзіны гаршчок аб печ.

— Дык выйдзі, кажу... У цябе я пытаю, ці не: хто гаспадар у маёй хаце, хто над ёй поўны правіцель? Маўчыш от? Ну й маўчы сабе... А я ня буду маўчаць... Не, ня буду... я ўжо ім не папушчуся... Бачыш ты іх: «выпі ўжо з намі, Хвёдар». Ласку, падумаеш, чалавеку далі :«выпі ты ўжо... «Сам я вып'ю. Захачу от і вып'ю... Вазьму, і ніхто мне ня ўкажа, бо сам я сабе гаспадар, сам я сваёй хаце правіцель поўны. Захачу—паб'ю, захачу—не... Ты, от стаіш, печ, ды пасьміхаешся... Пасьмейся, пасьмейся... Ты ў мяне пазнаеш ужо, прычакаешся, як над поўным гаспадаром ды кепікі строіць. Пры-ы-чакаешся...

І раптам жаль агарнуў Хвёдара. За хатку тую жаль, за жонку жаль, за печ абіваную.

— Даруйце мне, ці я-ж вораг вам... За злосьць маю даруйце, за чалавечую... І ў вераб'я злосьць ёсьць, а я-ж чалавек жывы...

Расплакаўся:

— Эх, ты, жытка мая, жытуха... І чаго-ж ты такая няясная... Хто ў сарочцы родзіцца, а табе й хата дзіравая, печ шчарбатая, дзеці мурзатыя... Ды жонка... Але пачакай... Ты не глядзі на сьлёзы мае, выб'ю я табе астатняга зуба... Дальбог выб'ю. Перад вобразам сьвятым паклянуся...

Укленчыў у кутку, стукнуў ілбом аб падлогу. Плакаў нудным тым голасам, сьлязьмі тымі, у якія ня верацца.

— Гы-ы-ы... гы-ы-ы... жытка мая прапашчая...

Ад плачу таго змарыўся і, лузнуўшыся пад услон, захроп. Шархацелі прусы за комінам, за комінам тым шчарбатым, аблезлым.

●

'Шчэ не прачаломхаліся дзядзькі каторыя—віраваў у галовах хмель—як стрывожылася сяло, настаражылася стрэхамі саламянымі. Шуганула з канца ў канец: «Прызыў... Яшчэ мабілізацыя...» Хадзілі соцкія па дварох, склікалі.

— Да каб хутка там, справы тыя не чакаюць...

Стараста бляху надзеў і пасунуў да магазыну, дзе зьбіраліся сялом па справе якой. Паперу з воласьці нёс, пералік, каму і што, і каб хутка да воласьці зьявіцца: з харчамі, з бялізнаю, пры поўнай амуніцыі той. І каб ложка была і анучы ў спраўнасьці. І ў канцы кара: калі ня зьявіцца хто, у свой час не прыбудзе—будзе ён ворагам лютым, будзе здраднікам перад верай сваёй, царом і айчынай. І турма таму будзе, а катораму сьмерць.

Слухалі, да кары тае прыслухаліся і бабы каторыя сьлязу пускалі, да ўсхліпвалі носам, ражком хусьцінкі выціраючы вочы.

— Божа-ж ты мой які грозны цар...

— А мо' ён і на міласьць пойдзе, калі даў бы бог—вайну скончыў.

— Так ён цябе і паслухаў. Чакай!

А падвечар гаманіла вуліца на ўсе галасы. Сыходзіліся прызыўнікі, усе хлопцы бязвусыя, без пары, бяз часу пад вінтоўку бяруць. Старэйшыя каторыя, тыя цішэй: нахмураныя несьлі сундучкі свае—зялёныя, чырвоныя, бляхай абабітыя, з замкамі са звонам, з кайстрамі за плячмі. Ды поплеч жонкі йдуць, сьлязьмі пыл прыбіваюць, гавораць, захліпаюцца, дзе-ж ты ўсё выкажаш.

— Дык ты ўжо, Іванька, сарочку кужэльную каб не заношваў задужа, тую от вышываную...

— Ціху табе, якія тут сарочкі. Глядзі каня пільнуй, да ў клінкох усе палоскі адсей, каб-жа, крый божа, не заялавела зямля...

— А мой-жа ты Іва-а-а-нечка...

— Ды кінь-жа ты душу маю дратаваць, вые, як па нябожчыку... То-ж дурасьць...

— А мой-жа ты, да-ра-а-а-жэ-э-нькі...

Маладыя-ж гізуюць, шалеюць. Цыпрону Палашчынскаму ўвесь паркан палажылі, на вуліцу выцягнулі.

— Каб-жа памяць была!

Намылілі шыі дзяўкам каторым, каб носа дужа не капылілі, прызыўнікоў ведалі. П'янымі хісталіся па вуліцах, цалаваліся, біліся, сыпаліся шматочкі кайстр, у мэтлухі разьляталіся сарочкі—ўсёроўна дадуць казённыя, бі іх, крышы, каб іх печані тыя круціла.

— А каго—іх?

Было цішэй на мястэчку. І сундучкоў там ня было. Былі кайстры, вузельчыкі. Ды ціха плакалі старыя маткі, уткнуўшы насы ў сынавы грудзі.

— Глядзі-ж, Ісак, варочайся, не забывайся...

— Вярнуся... І вочы ў самога глядзелі ў бок, туды, дзе лясы чарнеюць, дзе плывуць, выплываюць адтуль беласьнежныя воблакі. У бок глядзелі, каб матка сьлёз ня бачыла, гэтых-жа здрадніцкіх сьлёз. Ды рукамі, што пахлі падэшвай, варам, гаркацінынем лазовым—асьцярожна адхіналі матку, каб ісьці ўжо туды, у воласьць, з усімі разам ісьці. Стаялі з боку бацькі і ўсё соўдаліся з боку на бок, ня ведаючы, куды рукі падзець—бач-жа ў будні ды рукі не занятыя. Размазвалі бруд на тварах малыя—і плач той нібы ня з іх

ішоў. Быў той плач нутраны, глыбокі. Ды толькі самыя меншыя вялі свае вечныя гульні, ды да брата, да бацькі:—«а ты мне ўжо цацак прынясеш з гораду, багата цацак...»

І на сэрцы тады адыходзіла, ясьней рабіліся думкі. У тых, што з кайстрамі, з вузельчыкамі.

Зьбіраўся і Андрэй—бялізну сваю сабраў, анучы, чабаты старыя.

— Дык ідзеш, голуб?—запытаў мімаходзь айцец Панфіл.

— А ўжо-ж, ня дзе дзенешся.

— Ну, йдзі, ідзі... За айчыну нашу пастой... Ды няхай жа собіць табе крыж заслужыць срэбраны... Гэроям будзь, ваякаю слаўным.

— Ды ўжо-ж, як-небудзь мо' не падкачаем...

А Цыбал усё Напрэя ўпрашваў: ,

— І нашто табе, Напрэйка, з сундучком тым важдацца... Ты-ж ба от лепей кайстру ўзяў, у мяне от пяньковая ёсьць—'шчэ колісьці я на ратніцкі збор з ёй хадзіў...

— Нязручна з кайстрай, дзядзька.

— Ну, дык ты ўжо сабе як хочаш... Гэта я, каб лепей, як сыну, кажу, роднаму раю...

— Да ўжо-ж, хіба ня бачу я...

— А ты от, Напрэйка...—і змоўчыў, словы шукаючы:—грошы от у цябе там. Ты-б катору дваццатку пакінуў-бы. Усё-ж у мяне лепшыя сховы, чымся ў цябе, скажам... І ўкрадуць 'шчэ там і... Ну, а вернешся, яны й цэлыя... Грошы гэтыя самыя, да пры мейсцы пэўным. І адразу-б табе на абзаводку тую...

— Ня ўкрадуць, дзядзька... Ды й як-жа гэта, каб у салдатах бяз грошай?

— Ну, дык гэта як сабе хочаш... Хіба я няволю, сказаў-бы... Ад сэрца кажу, каб-жа яно лепей... Ды адрэж от, Макрыда, акраец хлеба... Не, не... Ад сьвяжэйшай буханкі, няхай-жа хлопцу ў дарогу, каб дзе на зуб перахапіць. Ды сала таго пакладзі трохі, няхай-жа з богам ідзе...

І калі ўжо Напрэй выбраўся ў сенцы з сундучком сваім—ах жа замочак там, да чаго добры замок, у самы раз да істопкі-б—войкнула нешта Макрыда, ды як сядзела на ўслончыку, так і ўзьнялася да хуценька за дзьверы.

Цыбал бровы насупіў да прымчуў усьлед:

— Ча-а-го гэта ты, ка-а-была...—ды ўзяўся разьбіраць тлум той, што павыспаў з сундучка Андрэй: цьвікі, шурубчыкі, мядзяныя колца ад збруі, пару шыльля, шкураты ды 'шчэ там драбязы ўсякай.

— А нішто шыла, дальбог-жа нішто. Бач ты, і закручваецца, каб гэта ня выпасьці...

І сабраўшы ўсё, панёс у клець на паліцу. Стаяў колькі ля ліхтара таго—з мышай—што Напрэй кінуў.

— Важнецкі ліхтар, няма чаго казаць. От жа малаціць з ім зручна будзе. Ні табе смалякоў тых, ні лямпы тае кручанае—таго й глядзі ў салому бэхнецца...

Праводзілі мужчын за сяло, аж пад тыя дубкі, што на Мялавай паласе стаяць—тры вярсты адтуль. Варочаліся купкамі, адзінотаю... Плашчын Цыпрон, які стаяў увесь час каля хворткі да піпку смактаў, завярнуўся і пашоў да хаты.

— Лягчэй цяпер будзе... З дзяўкамі от... Зарэзалі яны мяне, ліха ім у бок... Кавалеры гэтыя самыя. Цяпер паслабанее... Няхай от пораху панюхаюць...

І дзесьці глыбока другі голас падказваў: «Дурны ты, Цыпрон, чаму радуешся?»

Уздыхнуў.

— Яно-ж ведама... Каму гэта добра?

●

Пасьля прызыву неяк пашарэла мястэчка, зацiхла, сугорбілася. Менш тлуму таго па вечарох на вуліцах. Ня так гарэзуюць дзяўчаты, песьні іхныя цішэй, глушэй галасы тыя гучныя, дзявочыя. Нібы ўхурылася мястэчка, саламянымі да гонтавымі тымі стрэхамі ў сябе ўгледзілася, у задуме, у жалобе. Нібы думку якую ў сябе схавала, ды ніяк з ёй не растанецца. І прасьлізаецца думка гэтая галасамі ціхімі, ды шэптамі тымі па прызбах, па гумнах, ля крам рыначных.

— І калі-ж то яно палепшае?

— Калі гэта жытка вока сабе пратрэ, каб ясьней яно, прыгажэй каб.

— Ні шыльля табе, ні капыльля і шыць каму—няма. Пакупцоў тых нямашака.

Лазакруты ў сады падаліся. Сады тыя сялянскія не абы якія й сады, ды трэба-ж капейчыну мець, харчавацца трэба. А лазу крўціць—якому яна чорту лысаму здалася, калі й плытоў тых нямашака і сам рэбэ Алтэр пакінуў іх, кінуў лайбы свае драўляныя—вугаль паліць, шкіпінар гоніць, дзёхцем займаецца больш. Ды й то часам мяркуе, каб і дзёгаць кінуць, ды каровамі лепш падзаняцца, пад казну пастаўляць. Ужо з каторымі разьнікамі і параду меў, са скупшчыкамі. Карціць яму гэтая справа. Да рэбэ Нохім езьдзіць пакуль што задаволены. Малако пастаўляе ў горад, у шпіталь афіцэрскі.

А ў тых на сяле:

— Няўжо то зямлі перадзел... Як Сёмка пісаў, як і некаторыя другія пісалі... Ня будуць-жа маніць... Няўжо то цар волю ўжо дасьць, каб зямлю гэта, пожні тае кавалак...

Віравала думка, прасьлізалася галасамі тымі да шэптамі. А вочы ў зямлю ўзіраліся—а мо' й выйдзе што. А ў каго й цяпер выходзіла. Цыбал аж двух парабкоў узяў—вазіў усё з адным жыта ў горад. Валоку зямлі прыкупіў у суседняй вёсцы, па вечарох часам да Хвёдара даведваўся, да Жаранкова.

— Пагода, браце Хвёдар, сеяць от толькі...

— Яно, канечне, у каго ёсьць—дык і нішто пагодка.

І, памаўчаўшы колькі, ізноў:

— А я да цябе ўсё, пане Хвёдар. Шнуркі тыя твае ну поплеч-жа з маімі палосамі мяжуюць. І летуюць яны так, пырнікам парасьлі...

— А няхай сабе парастуць, вялікі то клопат,—кідаў Хвёдар, добра ведаючы, куды вернецца справа.—Шнуры, дзядзька, есьці ня просяць.

— Да яно гэта правільна, што есьці ня просяць... Гэта яно відна... Але ж і ты ад іх, каб-жа смашнае зьеў, дык не сказаў-бы я. Усё ў сухамялйну, ды й хлеба таго ў цябе ў абрэз. А то купіў бы ты сабе каровінку якую, подсьвінка якога. Дужа там што трэба на карову адну, каб клопату таго... Затое і сёрбануў-бы калі крупніку з малачком, да й блінца таго ў сьвята жонка памазала-б. І дзеці акрыялі-б, бач як яны ў цябе зьмізарнелі... Дужа яны ў цябе счарнелі, дзе ты бачыў такіх? З харчоў хіба?..

Хвёдар і сам згаджаецца, што дзеці ня зусім, каб... Хіба таго адгону наясіся, што прыносіць жонка з малачайні ад Нохіма. Прыкрасьць адна, а ня едзіва. У другога гаспадара адгон той сьвіньні жруць... Яно-б то і ня шкодзіла карову якую мець, ды як ты яе набудзеш?

— Я-б табе ўжо добрыя грошы за шнуры-б даў. Падумай часам, памяркуй. Шчэ якога подсьвінка на прыдачу. Мне што? Шкада? Няхай сабе чалавек гадуе на здароўе. А за шнуры...

— А дзе-ж я бульбіну, дзядзька, ўкіну?

— Хіба то справа ўся ў бульбіне. Да ці я-б табе ня даў якога кавалка пад бульбіну, абы угнойваў. Ды 'шчэ калі хочаш, дык і каровы табе шукаць ня трэба. Мог бы я табе ў лік платы тае падласую маю даць. Ня зусім 'шчэ старая карова, і малака было-б табе па горла: і ў гладышы і ў місцы. Дык ты от памяркуй—як да адзін другога і не пакрыўдзім, сыйдземся як...

Хвёдар маўчаў да ўзіраўся ў столь, па якой мухі поўзалі да гудзела пчала, шукаючы выйсьця на вуліцу. І думкі яго цяжкія, нярухавыя жорнамі тымі перакачваліся. «Яно-б то нішто карову, ды страшна-ж неяк, каб гэта без зямлі».

Сядзеў Цыбал, назіраў за ім і сьмеласьці набіраўся. «Павінна-б выгараць. Раней от спрачаўся задужа, а цяпер маўчыць».

●

Усё ня спорылася работа ў Напрэя Казла, неяк да рук ня ліпла. Ад людзей не адставаў: ці пасеяць, ці скасіць там—усё рабілася своечасна. Але ўсё-ж не фарціла неяк. У жыцьці не фарціла. З дзецьмі ня зусім парадак. Выгадаваў от бяз жонкі—калі то памерла—дык дай ім рады. Адзін ужо—жанаты той, Міхал,—дык два гады, як на вайне ходзіць. І другога, Антона, забралі ўчора. Забралі, не папыталі: а як табе, Напрэй, бяз сына, як табе без яго ўправіцца. Антось і дзяжу ўчыняў. Антось і бялізну мыў—возьме от пранік і ну—толькі пырскі ляцяць—на калодачцы на двары, ля калодзежа. На рэчку, канешне, ня йшоў, каб перад бабамі не сара-

мацца. Канешне, і чыстаты тае каб асаблівай ня мелі сарочкі, а ўсё-ж мыгыя. І гаршчочак да печы прыстаўлены.

І забралі—не папыталі.

Цяпер і соўдайся, як няпрыкаяны. Ці табе каровам даць, ці табе буракі чысьціць. З мглога, з Хведзькі, карысьць не абы якая, абы штаны паласаваць па гародах. Пад'есьць, толькі ты яго й бачыў. 'Шчэ добра, калі гною воз адвязе, пабаранue шнура.

І Напрэй сядзеў у хаце, ды за думкамі тымі ня йшла і работа ў галаў. Трымаў хіба для прылiку цюльшок асінавы, стругаў яго, каб палонік зрабіць—нязручна гэта лыжкай варыва тое з гаршка чэрпаць.

Ляснуўшы дзьвярмі вураднік зайшоў. Лыпнуўшы вачмі (з сонца от да ў хату) шукаў мясьціну, дзе-б сесьці, гаспадара шукаў.

— Дык дзень табе добры ў хату!

— А няхай-жа так... З патрэбай якой гэта вы да мяне, пан вураднік?

— А й сам павінен ведаць за якой. Раз правіннасьць ёсьць—адчуваць павінен. Апранайся вось ды пойдзем.

— Куды?

— А хоць бы сабе і ў воласьць, у стан.

— Чаго я там ня бачыў?

— А гэта ўжо начальства ведае, ці ўбачыш ты там, ці ня ўбачыш. Гэта ўжо мяне ня цікавіць. Ды лісты бяры з сабой.

— Якія гэта лісты?

— Да што от брат з вайны шле...

— Уга... успамянулі вы сьнег леташні... Колісьці яшчэ хлопцы скурылі. Як атрымаюць ліста, пачытаюць, от і пашло на курыва. Пакуль ты тае паперы на табаку купіш. Цікавасьць там вялікая з лістоў тых, бадай, акрамя як пра вошы і ня пісаў ён.

— Ты мне зуб не загаварвай, а вот вы мі гэтыя лісты зараз і пакладзі на стол. Да каб не марудзіў задужа. Шукай і даставай мне адразу. Тыя от, дзе аб рабочых пісаў, аб панох, аб перадзеле на зямлю.

— Ды чаго вы да мяне чэпіцеся: лісты, лісты... даліся тыя лісты ў знакі. От сяду да пісаць яшчэ стану. Лісты...

— Ну, калі па добраму ня хочаш, дык зробім іначай, самі пашукаем.

Вураднік нытрыў па хаце, лазіў па паліцы, за вабразамі нават поркаўся, але акрамя скрутку квіткоў, што за дровы, за вывазку, не знайшоў нічога. Ды 'шчэ выцяўшыся патыліцай аб века скрыні, зусім узлаваўся.

— Ты ў мяне тут сьвятога ня строй. Я, брат, за тры вярсты бачу, хто чым дыхае... Я, брат, наскрозь кожную душу бачу, бачу, як кожная жылачка там пераліваецца і што ў чалавека на ўме... Я брат... Ведаю... Ну, дык зьбірайся... Дужа мне тут з табой у бяседы ўкідацца.

— А калі вазьму, да не пайду...

— Гэта ты брат, залішне. Рукі скручу, ня пойдзеш—зацягнем... У нас, брат, гэта хутка... Я, брат...

— На вайне мой брат, вот дзе мой брат.

— Ты мяне не падсыкай—вучаныя...

Па дарозе зайшлі да Жаранкова. Тут ужо і соцкіх паклікаў ураднік. Нічога ня кажучы, скруціў рукі Хведару, за сьпіной зьвязаў. Той вырачыў вочы, дзівіўся, што й да чаго.

— Ты глядзі, каб не асабліва... Паспрабуй от разьвязацца толькі, жывым духам печані перамацаю.

І пацёг да воласьці, да станавога прыстава. Выходзіў народ, зьбіраўся купкамі пад вокнамі. Дзівіліся:

— За што-б гэта іх?

Ды стараста, заўважыўшы Напрэя пад канвоем, ня мог сьцярпець, каб ня кінуць у дагонку:

— Дастукаўся, псіна... А яшчэ ў указчыкі лезе. Іш ты, у рыштанты падаўся...

●

Выходзіла Марта вечарамі ў лясок за паляну, на пенчык садзілася, пазірала ўсё туды, дзе скучыліся маладыя елкі, дзе дарога з мястэчка. Сачыла, як паволі апускалася сонца, усё ніжэй і ніжэй. Холадна рабілася, стыглі ногі, аж чырваньню браліся. Мінуліся ўжо вечары летнія, калі і ў ночы як днём, хоць ты спаць кладзіся пад елкамі, цяплынь тады саграе. Блізка восень ужо. Вось сонца і зусім апусьцілася, заблытаўшыся ў калматых елках, вунь барвянымі якімі парабіліся верхавіны, ды шышкі на самым версе гараць, як жоўтыя сьвечы.

А яго й няма.

І ўчора ня было і пазаўчора. Што-ж то сталася, што-ж то будзе такое? Няўжо разьлюбіў? Ня можа быць... І жартаўлівы ён дужа, і дурасьлівасьці не абярэшся ў яго, але як-жа кахае, як-жа мілуе... І тады не такі як заўсёды: ціхі, ціхі, ляжыць от пад елкай да валасы яму гладзіш, а віхор гэты ўсё тапырыцца. І рукой яго прысьлініш, а ён усё сваё, такі-ж віхор гэты непаслухмяны. А Андрэй ляжыць ды ўзіраецца ўгару, травінку якую ў зубах трымае. Слова скажа часам:

— А калі мы з табой пажэнімся?

— Дужа там... І засаромеецца Марта.

І няма от яго, ня прышоў. Каторы дзень ня прыходзіць. А добра-б гэта ўмясьцёх. Каб жыць вот дзе разам. Ды каб Напрэй дзе блізка. Будзе Андрэй касіць, яна сена сушыць, растрасаць яго, грэбці. І ў полі каб. Каб была от палоска свая, каб і сеяць, і жаць. Вот бы лён пасеяць. Зялёненькі такі, кволы. А потым цьвет такі. І лён—сіні, сіні, як неба. Добра-б гэта, каб умясьцёх. А яго ўсё-ж нямашака.

Варочалася да хаты, за венік бралася, за пасудак—перацерці каб. І ляцела ўсё з рук: то талерка бразьне, то конаўка тая ляціць на

падлогу. Нават собіла кубак разьбіць. Кубак з анёлам. Ляціць анёл, а навокал кветы залатыя. Сястры то Аўдакіі кубак. Кінулася яна, за валасы ўчапілася.

— Што ты, гадыня, нарабіла толькі. Вот я ўжо табе 'шчэ рушніка дам, будзеш ведаць, як рукі трымаць, боўцілы гэтыя свае.

І зьдзівілася, калі Марта ў бок адскочыла, ды злосна так:

— А ну, паспрабуйце толькі зачапіць. На мэтлухі пойдзе рушнік, усе рукі паскусаю... Годзе ўжо...

— Што годзе?

— А вот і годзе... Нечага там...

— Што то з ёй, дурніцай, робіцца? Бач ты, шал на яе напаў, ускруцень, і не падступіся. Царыца ты мая нябесная... От ужо я да яе дабяруся...

Але за рушнік кінула хапацца.

А раніцою аднаго дня не сьцярпела Марта і рушыла па дарозе ў мястэчка каб праведаць, што з Андрэям там, ды што брат там робіць, жыве як там у багацеяў сваіх. Дайшла да мястэчка, папоўскі дом напытала, увайшла ў пакой ціхенечка. Сустрэла матушка. Агледзеўшы падазрона, запытала:

— Чаго-ж ты, дзяўчына, па справе хіба якой?

— Да бацюшкі я, пабачыць бы мне яго трэба.

— Дык-жа па якой справе, пытаюся я?

— Трэба...

— Ну, дык ідзі, калі трэба. Падумаеш, справы тыя такія ўжо вялікія, што мне й ведаць ня трэба...

Поп сядзеў за сталом, яблыкі чысьціў. Угледзеўшы, усьміхнуўся, з зэдліка ўстаў, вітаючы насустрач вышаў.

— А-а... манашачка... Ну, ну, што скажаш. З якімі навінамі, красуня, прышла? Кажы, кажы, паслухаем, дзяўчына: а што ў яе да за справы такія сур'ёзныя?

— Да я от, бацюшка, спытаць хачу... Ведаць мне хочацца... Дзе гэта Андрэй ваш?

— Уга, галубка... Бач, куды ластаўка носік свой хіліць... Ат-жа ты мая кірпаўка,—ушчыкнуў за шчаку, ушчыкнуў і вочы прыплюшчыў ды нос той пачырванеў.—Няма Андрэя, галубка, няма, маё золата. Няма цяпер Андрэя...

— Мусіць то на рабоце,—падумала Марта і ўжо зьбіралася назад ісьці. Але патапталася трохі нерашуча ды ўжо зноў запытала:

— А ці ня ведаеце, дзе-б мне пабачыць Напрэя?

— Якога-ж гэта Напрэя?

— Да брата майго, служыць ён тут у багацея аднаго, парабкам служыць.

— Пастой-жа, у якога гэта, кажаш, багацея? Хто-ж гэта парабкоў трымае. Хвядос хіба, дык не, у таго парабчанкі. Ага, пэўна то Цыбал Іван?

— Во, во... пра яго і казаў брат...

Поп пачухаў патыліцу крыху, азірнуў уважліва ўсю постаць Марты, памеркаваў нешта.

— А ведаеш, мая галубіца, Андрэй-жа да з братам тваім... Ну, так ёсьць, Напрэям-жа яго звалі... Дык з братам тваім ужо з тыдзень, як у салдаты забралі. Так і пашлі разам. Цяпер ужо далёка, далёка яны, уга, ня знойдзеш, не дагоніш...

Навярнуліся сьлёзы ў Марты, вот, вот расплачацца. Ды няёмка на людзях плакаць, на чужых людзях. Завярнулася, ціхенька сунула за парог.

— А пастой ты, красуня, пару слоў табе скажу... Вот што... А ці не перайшла-б ты служыць да мяне, хоць бы, скажам, на месца Андрэя. Работы ў мяне ёсьць, дзякаваць богу, не скажу, каб задужа, але хопіць. Дык чым там у лесе тым пням богу маліцца, а ці ня лепш было ды вось тут у мястэчку. І людзі тут ёсьць, і дзяўчаты тым часам, ды і хлопцы трапляюцца. Ку-у-ды-ж весялей...

А як-жа манашкі?—запыталася Марта, бо самой ёй усёроўна, дзе ні служыць. Дзе ня будзеш, работа цябе ня міне. Ды й абрыдла перачніца тая... Бач, на рушнік разласавалася...

— А з манашкамі пагавару ўжо я... Дык згода, дзеўка?

— Калі яны будуць згодны, дык мне што... Дзе-б ня быў, без работы ня будзеш...

●

Сядзеў за сталом прыстаў і твар яго, на кукіш падобны, з сінцамі пад вузкімі шчэлкамі воч, азызлы, з калючаю шчэцьцю нявыразных шчок, кідаў рыўкамі словы. Нібы папярхнуўся прыстаў чым, падавіўся...

— Дык ты, цецярук стары, кажаш, што ніякіх тых лістоў у цябе ня было?

— Чаму... Уга, колькі 'шчэ атрымліваў... Ня было таго месяца, каб гэта ліст не атрымаць. Сямён, можна сказаць, акуратны чалавек... 'Шчэ на рабоце, бывала...

— Гэта нам ня цікава. Дык і аб зямлі, кажаш, пісаў?

— А чаму не. Пісаў і пра зямлю. Вот у апошнім яшчэ пісаў, каб я ўжо жонцы яго, братавай маёй, зямлю-б як дапамог абсеяць...

Жаўцее за сталом кукіш той, усхадзілася шчэць пад жалвакамі, тапырыцца, нібы от шчотка тая воўначосная, калі ды спадзе часам з барабану, выгінацца пачне.

— А ну, Грымдаль, усып яму раз, каб на лад настроіць, каб ведаў, адказваць як...

Грымдаль—стражнік—нізкі, тоўсьценькі—як гарбузік той з ножкамі—з адвіслымі пухнатымі мяшкамі шчок, на якіх прытулілася глыбока кірпаціна носу—аж сьлінаю запырскаў, усхадзіўся.

— А ну, станавіся ва фрунт, стары...

І ўсё падскакваў, выцягваўся на наскох ботаў, і ад напружваньня таго пачырванеў, засопся. Ніяк ня мог дапяць да твару, і біў пад грудзі, пад дыхавіну, каб печані прамацаць, як казаў ён.

— Так што ўжо, ваша благародзьдзе, як сьлед...

Але колькі ня білі, нічога не сказаў Напрэй, бо і сам добра ня ведаў, за што-ж білі, за што яму так дапякалі. І калі запытаўся апошнім разам прыстаў, а што там брат пісаў пра рабочых, як яны там, адказаў:

— А гэта ўжо вам, пане прыстаў, ведаць, што там дзеецца. А ў мяне—дзень прайшоў, і дзякуй табе божа. Толькі-ж мястэчкам і жыву. А каб у нас дзеялася што асаблівае, дык яно-ж усё на віду, і без мяне людзі бачаць. А вот што праўды на зямлі няма, дык гэта як бог даў. Ты двух сыноў на вайну паслаў, а цябе ўсякі тут Грымдаль, які і бабскага андарака вышэртага ня варты, будзе яшчэ біць цябе... Няхай жа й так... Напішу от сыном, як яго паважаюць тут, ды ўсякія Грымдалі тылавыя над імі пацяшаюцца... Мо' яно й павінна так быць... Няхай-жа...

— Ты, стары, паменей гэта... Як пакорміш клапоў, дык даведаешся, дзе гэта тылы тыя...

— А няхай сабе й пакармлю. Мне клоп ня вораг, абы другія клапы ня кусаліся, каторыя двуногія...

Начаваў Напрэй у халоднай... Разам з Хведарам, якога асабліва і ня білі, так хіба толькі, для прыліку. Толькі ў прыстава й даведаўся Хведар, чаго яго сюды пасадзілі.

— І ў думках ня было ў мяне каб гэта хто на мяне ды такую бяду ўсклаў. Хто яго ведае, што сталася з Лявонам, а цяпер яго мне і прышылі. «Ты яго забіў»—кажуць. «І жонка бачыла, як ты таго вечару ішоў з ім». Ну, што-ж ішоў... Дык вот табе...

Раніцой Напрэй насіў ваду на кухню прыстава. Дровы калоў—бадай паўсажня таго ўпарадчыў... І калі от дужа ўжо захацелася есьці, прышоў ад прыстава, стражнік загадаў:

— Ідзі ты, стары чорт, да глядзі, у нашы лапы не пападайся больш. Усе рэбры павыбіваем, калі што...

— Да на гэта вы майстры... На што другое—зломкі...

— Айда, айда, пагавары болей.

Хведара пакінулі ў халоднай. На яго вялося сьледзтва па забойству Лявона Ражка

●

Прыходзіў па начох. Азіраючыся па бакох, расплятаў касу, песьціў, лашчыўся, цалаваў украдкі. Прачыналася.

— Гэты ты ізноў?

— Тацянначка, ну чаго-б табе сердавацць, калі-ж дужа я цябе кахаю...

— Як сабака палку.

— Табе жарты ўсё. Як перад богам кажу. Ня верыш ты мне, а запытаць бы, чаму? Ці я, сказаў бы, кепскае што зрабіў. Я ж ад усёй душы. І як казаў, так і зробім...

— І бацькі не папытаеш? Так ён табе гэта хутар і адрэжа. Чакай от...

— Бацька? Што ён? Ці з ім век векаваць? Мала там, што ён скажа...—схамянуўшыся:—ды ён-жа і ня супроць... Мне, кажа, усё роўна... Што мне бацька?

— І праўду гэта ты?

— Ну, кажу-ж табе, што праўду...

Брэша, дальбог-жа брэша...—у думках было... Але такі-ж сукрыстыя чуб казыча шчаку, шыю... Ад рук яго разьліваецца млявасьць, набрыньвае цела ёй—паварушыцца лянота, от ляжала-б ноч так да прыслухалася-б, як сэрца тахкае і яго от: блізка так, праз сарочку чуваць. Спала потым глыбокім сном, прачыналася, калі ўжо кароў павыганялі. І ў думках тады злосьць на сябе напускала.

Ізноў... Сілы тае няма, каб пагнаць яго, ад сябе адштурхнуць... Бо чуе сэрца, не кампанія ён, не мая кампанія... Дзе-б то гэта відана, ды каб за такога багацея выйсьці... А мо' што й выйдзе? Чаго ня бывае тым часам.

Але ня верылася. І днём унікала, каб спаткацца з ім дзе. Ды й ён, відаць, ня шукаў гэтых стрэч, каб днём, на людзях. Калі-ж спатыкаліся часам—нібыта й ня было нічога, нібыта й незнаемыя зусім. Прывітаюцца як суседзі ды й годзе.

Толькі бабы перашэптваліся:

— Глядзі ты іх, і знаку не падаюць...

Ды матка раніцою часам зірне так, агледзіць падазрона:

— Нешта мая ты, Тацяна, сінцы ў цябе пад вачмі...

— А ты ў сябе пашукай дзе...

— Гля-я-дзі... Язык карасьлівы... І так вэрхалу ў хаце, што на рынку тым... Дык ты ўжо хацяб як людзі...

— Ды ўжо-ж так, а ня йначай...

Сьнедала моўчкі ды ішла на работу: ці то бульбу капаць, ці парадкаваць капусту куды, яблыкі абіраць... А сьледам думка заўсёды: «Няўжо то будзе? Ня дай жа, божа...» І калі купалася на рэчцы, бялізну мыючы, пазірала на сябе, пазірала нібы ўпотайкі, сарамяжліва, каб-жа то, да ня ўбачыць чаго. І нічога ня бачыла: той-жа стан, тая-ж пруткая каса, і ногі тыя-ж самыя, пругкія ногі—не адчуваеш іх пад сабой. Пругкія ногі, ня ўшчыкнуць іх хлапцом,, калі бязуляюць часам. Толькі хада стала другой, няйначай, асьцярожная, не такая таропкая. І ад таго, мусіць, што да сябе прыслухалася, бачыць сябе захацела. Дзіва то, сябе ўбачыць.

І ўбачыла потым. Спахмурнела адразу, звузіліся на шчэлкі гарэзныя вочы. І зразумела, што ад долі тае не адкараскаешся, зьвязала яна ланцугамі цябе, ня выкрушышся.

— Дык-жа возьме...—суцяшала сябе. Суцяшала і ня верыла. Думкі то былі хіба так, для прылiку.

Ваўчыцаю пазірала матка. І рукою—у мякіне і ў шалупіньнях—тыкала ў стан:

— Дабегалася такі, паскудзь...

— Ну, і дабегалася... А табе што, карціць?—агрызалася і выходзіла куды, каб за працаю ўнікнуць думак гэтых, звадыякаў тых чорных.

Ужо восень слалася па зямлі павучыньнем срэбным, канала лета днямі цёплымі, на душы адыходлівымі. Абралі сьлівы ў садох, і толькі яблыкі тыя антонаўкі наварачвалі да сонца свае жоўтыя бакі, сокам наліваныя, ядраныя, пахучыя. Калі выйдзеш от на рэчку, падыхне вецер з мястэчка, і запахне тады дымам і яблыкамі. Ды яшчэ з гумнаў цяплынёй нясе, жытняю, саламянай—хлебны пах такі, хмялявы. Цяплынёй патыхае, бо раніцы зябкія, трава па сьцежках каляная, сьцюдзёная, інеям упрыгожаная.

За рэчкаю Банадыся сустрэла, выпадкова—той платы гарадзіў. Азірнуўся палахліва, пад нос мармытнуў:

— Нешта ты за мной занадта ходзіш?

— Як гэта так?

Змоўчыў.

Так і сядзелі моўчкі на жэрдках. Церабіў кутасы свайго поясу Банадысь, паглядаў нецярпліва—калі то пойдзе яна... А Тацяна ўзіралася на дрэвы, на бярозы пры гасьцінцы. У цішай задуме стаялі яны пад сонцам у барвяных вопратках і дзе-нідзе трапляліся сярод іх дубы зялёныя. Іх то яшчэ не кранула восень, пашкадавала—а няхай яшчэ вот пакрасуюць, падгадуюць жалуды свае, а тады ўжо і лісьце скінуць, счарнелае, пажоўклае. І дзе-нідзе нібы полымем крывавым гарэлі кляны, аж зіхацелі пад сонцам іхныя пышныя каруны. З іх сыпалася залатая луска, цярушылі кляны лісты свае, жоўтыя, агнявыя, каб сустрэць голым вецьцем зіму да зімовыя вятры, завеі. Рэчка была ціхая, спакойная, нібы чым улагодненая. І такая-ж вада празрыстая ў ёй, як сьляза, як крышталь—усё каменчыкі мітусяцца на дне, ходзяць па іх, лупаюць зайкі сонечныя. Восеньскія. Аж да самага дна дабіраюцца сонечныя праменьні, а вада ўсё-ж халодная, настыглая.

Устрапянулася.

— Ды як-жа, Банадыська?

— Ты гэта аб чым?

— Як-жа, кажу, нам быць з табой? Калі мілаваліся, дык горы суліў тады, залатыя... А цяпер туляешся, за вярсту ходзіш... Дзе-ж вочы твае былі? Хіба шкураю сабачай яны падшыты ў цябе?

Маўчаў Банадысь, толькі носам соп. І віхор той раскудлачыўся, прыліп на лбе. Пазірае сабе пад ногі.

— Дык як-жа, пытаюся, будзе? Дзіцёнка-ж от чакаю.

— Дык што ты, Тацяна, да мяне чэпішся. Ну, гулялі... Ну добра... І які там дзіцёнак?

І колькі сілы было, сабрала ў кулак ды наводліў па твару. Аж потырч паляцеў, выцяўшыся аб жэрдкі. Палахліва адтуль, з зямлі:

— Дык чаго-ж ты ўсхадзілася так? Я-ж казаў табе... Дальбог-жа не маню—от пагавару ўжо з бацькам, памяркую з ім...

— А тады ты пытаўся бацькі, як да мяне ліпучкай той чапіўся, смалою лез. У-у... сьлімак ты... Вылівак няшчасны, каму паддалася толькі...

І пашла, не азіраючыся, на агароды.

Банадысь цёр шчаку, ныў падбіты зуб, сплюнуў пад жэрдкі.

— Ну й рука... Каб цябе пяруны спалілі...

*(Працяг будзе)*

Алесь Жаўрук

## ПРОБНЫ ВЫЕЗД

Ён, як першае слова гарачай абоймы,
Як радкоў запявалы высокі ўзьлёт,
Наш вытворчы парад у грымотах набояў
Бязупынна імклівых ударных калён.

І а шостай гадзіне таварыш штодзённа
За плячо мяне моцна на ложку трасе,
Каб вадой спаласкаўшы маруднуюю соннасьць,
У гараж нам прыбыць пунктуальна у сем.

Там з сяброўскай увагай ён аглядвае «інтэр»,
Магнэто, карбютатар, каленчаты вал,
І заводзіць матор свой удала і спрытна,
Каб высокую якасьць няўхільна даваць.

А калі б'юць фанфарай баявыя сыгналы,
За сяўбу галасуюць упарта усе—
У грымотах і гоманах выплываюць
Чарадою жалезнаю трыццаць сем.

Ім пасьля, у прасторах вясновых тарфянішч,—
У эскадрах калён свой разгортваць клін,
Іх вядуць белазубыя капітаны
На славутыя штурмы дрымотных цалін.

Эбэргардцы [1]) крамсаюць стракатнае пожніва,
Дыскі спрытна сакочуць часьцей і гусьцей,
І ідуць тады сеялак тукавых,
збожжавых
Нясупынныя строі наўсьцяж, напрасьцен.

Каб на поўныя сто, разьвінуўшыся ўпарта,
Усе жылы саўгасу напружылі моц,
Каб сяўбу бальшавіцкую выканаць заўтра,
Нясучы непахісны штандар перамог...

---

[1]) Марка трактарных плугоў.

Так за «інтэрам», «інтэр» праплываюць,
на рэмус
Бяручы цаліну, пульхна дыбячы вал,
Покуль сонца ў гарачыя лапы бярэ нас,
покуль месяц ня выйдзе спачын вартаваць.

Так у бойках цяжкіх,
перамогах вясновых,
У паходзе калён,
у жыцьці гаража—
Шалясьціць здалячынь нагародаю новай
Неадступны, круты, бальшавіцкі ўраджай.

5-21-IV-33 г.

Саўгас імя „10-цігодзьдзя БССР"

**Эдуард Самуйленак**

# ПАЛЯЎНІЧАЕ ШЧАСЬЦЕ

Увечары Лаўрэн і Мікола выпушчалі коняй на двор. Шырокія вароты стайні расчыняліся тады наўсьцяж і па калідоры паміж стойлаў, грукаючы капытамі, з надзвычайным форсам выгнуўшы сваю шыю, першым ляцеў да дзьвярэй невялікі мышасты жарабок. У варотах ён на момант спыняўся, трос грывай, фыркаў у ноздры, хроп і з месца даваў такі галёп, што Мікола, які стаяў звычайна ля варот і кожны дзень бачыў гэткія фокусы, нязьменна гукаў:

— Ах, ты-ж, мяшок травяны!

А мышасты жарэбчык у гэты час ужо выбрыкваў на выгане за паўвярсты ад стайні, і Мікола, не адводзячы вачэй ад яго зграбнага лёту, крычаў:

— Пушчай, дзядзька Лаўрэн!

— Ага—даносілася з цёплага паўзмроку стайні, які даўка пах конскім потам, гноем і сенам. Лаўрэн ішоў у кут і адкладваў папярэчыну ў стойле гнедай маладой кабылкі. Кабыла выбягала са стайні і, гэтак-жа як і мышасты, на момант стрымлівалася ў варотах і пераступаючы цянкімі, стройнымі нагамі, уцягвала ў сябе марознае, вячэрняе паветра. Высокае, залівістае іржаньне даносілася з выгану. Кабыла ўзмахвала галавою, і праз момант яе стройнае, даўгое цела пласталася ў імклівым леце, ахутаным воблакам сьнежнага пылу.

— Самалёт!—у захапленьні крычаў Мікола.

— Каб не засеклася!—гучэў з нутра стайні Лаўрэнаў голас.— Сьнег ня мелкі... Кованая на ўсе чатыры!

Ён адчыняў па чарзе адно стойла за другім. Кудлатыя пярэзімкі, прысадзістыя, няскладныя жарабяты прыплоду гэтага году, якія памяталі яшчэ мяккае вымя і цёплы бок маткі, гуртом, доўга штурхаліся ў варотах. Яны былі кволыя ў сваім дзіцячым узросьце, нясьмелыя і нязграбныя ў рухах. Яшчэ толькі ўзгадоўваўся конь, яшчэ быў неўмацаваны арганізм, расьлі яшчэ і наліваліся магутныя мускулы будучага работніка. І таму, у большасьці сваёй, спакойныя, нязграбныя былі жарабяты,, і гэта ім дараваў нават Мікола.

Лаўрэн адчыняў стойлы, і на двары зьяўляліся рабочыя коні. Старыя ішлі спакойным, дружным натоўпам на выган. Рабочы-ж маладняк, наадварот, на злом галавы ляцеў туды, дзе на сьнежным прасторы выгану бушавалі мышасты жарабок і гнедая кабыла. Рознагалосае іржаньне, усхрап, цанькі заздаваны піск разьлягаўся ў паветры.

У гэты час, Лаўрэн выпіраў са стайні таўстога і грузнога, буланага каня. Ён заўсёды заставаўся апошні, рухі яго былі марудныя і морда нібы заспаная. Калі Лаўрэн гнаў яго па калідоры са стайні, конь злаваўся, уцягваў ноздры, стульваў вушы і стараўся завярнуць то ў адно, то ў другое адчыненае стойла. Лаўрэн забягаў яму наперад, і буланы з нечаканай хуткасьцю заварачваў назад. Гэта быў стары конь. Ён ня меў ніякага жаданьня гойсаць па выгане. Выходзіў буланы са стайні толькі тады, калі бачыў, што чалавек пайшоў у кут шукаць дубца. Пераступіўшы парог стайні, буланы адразу валіўся ў сьнег і несьпяшаючы, са старэчай разважнасьцю, пачынаў качацца. Калі з дубцом у руках, распараны і раззлаваны зьяўляўся на парозе Лаўрэн, усё было ў парадку.

— Заваліўся, воўчае мяса!—казаў Лаўрэн.—От-жа, хітрая падла, от гультаяватая шкапіна, каб ты здох! І як гэта людзі мелі на такой сьвіньні хлеба здабываць!

Мікола, які да калгасу быў гаспадаром буланага каня, адчуваў сябе крыху абражаным. Ён вылазіў на памост, атрасаў сьнег з ног і казаў:

— На гэтым кані тысячу пудоў можна павезьці. Гэта вазавы конь, па ім ластавак не лавіць.

Але ў Лаўрэна ўжо сунімаўся гнеў. Ён зьнімаў сваю зайцавую шапку, рукавом аціраў з лысіны пот і адказваў:

— Што дужы конь, то гэта праўда. Закурым, ці што, Мікола?

Інцыдэнт быў ліквідаваны. Абодвы стаялі на памосьце перад дзьвярыма стайні і курылі. У гэты час цямнелі поляныя далі, краявід зьліваўся з шэрымі сьценамі наўкольных лясоў. Канчаўся кароткі зімовы дзень. Чарнелі платы і сьцены хат і голыя дрэвы садоў. Па сьцежцы, мінаючы стайню, ішлі па ваду жанчыны. Зьвінелі і бразгалі вёдры і звонка пераклікаліся жаночыя галасы.

З каміноў да панурага неба ўзьнімаўся белы дым.

Адыходзіў дзень.

Лаўрэн вытрасаў люльку і старэнна заціскаў попел нагою. Потым апраўляў бараду і пытаўся ў Міколы:

— Ці будзем выводзіць варанога?

— Каб-жа Васіль падышоў,—адказваў Мікола.

Тады Лаўрэн хітра падміргваў з-пад сівога брыва.

— Прыдзе! Калі ўжо Алёна пайшла па ваду, дык Васіль зараз тут будзе! Ого!

— А хіба ўжо Алёна ішла?

— А хіба ты ня бачыў?

— А чаму я павінен абавязкова на яе глядзець! Мне адна бяда—ці Алёна, ці варона.

І Мікола ішоў у стайню па вуздэчку з выглядам поўнай абыякавасьці, а Лаўрэн хітра яму ўсьлед усьміхнуўся. Васіль, старшыня калгасу меў сардэчныя дачыненьні да Алёны і гэткія-ж дачыненьні меў да яе і Мікола, а Лаўрэн лепш за ўсіх гэта ведаў, бо былі яны ўсе найлепшымі сябрамі.

Мікола выходзіў са стайні і разьбіраў павады вуздэчкі:

— Кусьлівы ты чалавек, дзядзька Лаўрэн,—казаў ён.—Нехта язык табе падмазвае.

— Кусьлівы, як там кусьлівы, але што навокал дзеецца, дык бачу. У мяне паляўнічае вока. А вунь і Васіль ідзе.

Сапраўды, тэю-ж сьцежкаю, якою прайшла да ракі Алёна, ішоў і Васіль. Гэта быў шырокаплечы, ладны хлапец. Ён здалек яшчэ, як толькі выйшаў з вуліцы, махаў рукою.

Тады Мікола адчыняў другія, значна меншыя дзьверы стайні і адразу разьлягаўся пагрозны ўсхрап.

— Ну, ты! Гад —крычаў Мікола махаючы ўздэчкаю.

Яны хутка, адзін за адным уваходзілі ў стайню, і цераз некалькі хвілін рослы, вараны жарабок вылятаў на двор, а ўчапіўшыся за вуздэчку віселі па баках Лаўрэн і Мікола. Жарабок біў нагамі, усхрапваў і квічэў. Аксамітавая, ценькая скура, якая ільсьніла глянцам, уздрыгвала працяглымі хвалямі дрыжыкаў. Хмарай разьляталася чорная грыва. Жарабок памыкаўся стаць дубам, біў нагамі, узмахваў галавою, але двое людзей віселі ўчапіўшыся за вуздэчку і ўпіраліся колькі было сіл.

— Ч-ч-чорт!—хрыпеў Лаўрэн.

— Г-гад!—выў Мікола.—Трымай, дзядзька Лаўрэн, у дым разьнясе!..

Але ў гэты момант падбягаў Васіль. Ён чапляўся за грыву і ў вокамгненьне ўзьлятаў на каня. На момант жарабок сьціхаў, застываў у адрантвеньні, адчуўшы нявымоўную абразу.

— Пушчай!—крычаў Васіль.

І тады Мікола з Лаўрэнам адбягалі прэч. Жарабок спачатку ўзьнімаўся на дыбы. Потым—магутны скачок уперад—і шалёны галёп. Доўга віўся ценькі сьнежны пыл па сьлядох шалёнага бегу.

— Чорт на чорце і паехаў,—гаварыў Мікола.—Гэта трэба наўперад з мамкай разьвітацца.

— На тое чалавек у кавалерыі служыў—адзываўся Лаўрэн.—За тое чалавек і зграбны. Глядзі, Алёна ідзе.

— Цьфу!—адказваў Мікола.—А мне да гэтага якая справа! Хай сабе ідзе.

Лаўрэн усьміхаўся. Ён ведаў, што Васіль ніколі ня сядзе на жарабка да тае пары, пакуль Алёна ня ўзьнімецца на ўзгорак ад рэчкі. Гэта быў манэўр, якім забіраў Васіль у палон дзявочае сэрца. І гэта, з другога боку, было вузкім месцам Міколы, бо ён ніколі не адважваўся ня толькі аб'яжджаць жарабка, але падыйсьці да яго ў адзіночку. Такім чынам Васіль забіваў адразу двух зайцаў. І яшчэ таму ўсьміхаўся Лаўрэн, што быў здаволены жарабком, лепшым канём у ваколіцы. У калгасе жарабок лічыўся канём Чырвонай арміі, і яго выпеставаў Лаўрэн. Вараны жарабок быў для Лаўрэна гонарам.

Ля стайні праходзіла Алёна з поўнымі вёдрамі вады, і Мікола ў гэты час быў асабліва заняты тым, што падмятаў памост. Коні зьбіраліся да варот стайні ў прадчуваньні вячэрняга корму. Лаўрэн і Мікола ішлі ставіць коняй. Усё больш гусьцеў змрок. У хатах за-

пальваліся агні. Тады прыяжджаў Васіль, і потнага, угамаванага варанога доўга вадзілі на повадзе перад тым, як паставіць яго ў стойла.

— Хутка паспрабуем запрэгчы,—гаварыў Васіль, гладзячы жарабка.

Потым коням давалі корм. Потым прыходзіў начны вартаўнік з ліхтаром і калатушкаю. Тагды Лаўрэн, Мікола і Васіль выходзілі са стайні. У хатах ужо ясна гарэлі агні. Ужо зімовая ноч ляжала на зямлі.

І ўжо час быў адпачынку.

●

Летам тут засень ад глухіх зарасьляў лазьняку, чарэмшыны, крушыны, вольхі і хмелю, што наглуха сшывае гушчар сваімі цопкімі ніцямі. Зялёная засень ляжыць на ціхай вадзе, рачных глыбінь, мочыць гнуткае веццe лазьняк, паўзе да вады, выцягваючы свае парасткі, хмель. Ад таго, што на абодвых, крутых, абрывістых берагох непраходны гушчар і суцэльнае спляценьне зеляніны—вада ў рацэ зімная, выдае зялёнай, рака не перасыхае і праз цэлае лета можна лавіць шчупакоў. Зрэдку трапляюць сюды і брухатыя, пудовыя самы, паўзуць па самым дне, завальваюцца ў мутныя глыбіні і сядзяць там побач з карчамі, нагульваючы на прывольлі тлушч. Галавень, лешч, акунь тут буйны, адкормлены.

Берагі ў рацэ абрывістыя, сьлізкія, небясьпечныя, рака глыбокая, вада зялёная, гушчар непраходны, і таму тут шмат рыбы, што чалавеку цяжка даступіцца да вады. Нельга выцягваць на берагі невад, няспрытна ўпраўляцца з вудамі. Толькі адзін Лаўрэн з калгасу «Іскра Сацыялізму» адчуваў сябе гаспадаром на гэтым вучастку ракі. Але пра яго наўкольныя рыбакі казалі так:

«Лаўрэн вадзяны чорт. Ён валавяны гузік на нітку начэпіць і выцягне на дзесяць фунтаў шчупака».

У рыбалоўстве Лаўрэн стаяў па-за канкурэнцыяй. І ня толькі летам гаспадарыў у рэчных зарасьлях Лаўрэн, але і ў зімку часта наведваў ён раку з тэй толькі розьніцай, што замест вуды ці астрогі—трымаў у руках стрэльбу. Гэта была аднаствольная пістаноўка, перарobленая з дапатопнай крамнёвай стрэльбы. Руля ў яе была даўгая, гранёная. Гэтаю стрэльбаю Лаўрэн не асабліва быў здаволены і аб якасьцях яе апавядаў наступныя гісторыі:

— Ішоў я на золаку па рэчышчы. Так. Сонейка яшчэ далёка, туман па зямлі пацягвае... Гляджу—сядзіць пад кустом, сукін сын, заяц, вочы вылупіўшы. Так. Я значыць стрэльбу з пляча Сядзіць... Я, значыць, злажыўся... Сядзіць. Ну, думаю, што рабіць? Блізка занадта, адна сапля ад зайца застанецца. Аднак, думаю, з краю вазьму, далікатна. К-а-алі змазаў! Толькі сьнег слупам угору, як ад бомбы. Падыходжу, гляджу: галава прэч, ногі кішкі вон і тут табе і ўсё... Я-б гэтую фузыю даўно зьмяняў-бы ці прадаў, але вось, капіталаў на хапае. Гэта старая качарэжына, даўнейшая. Тады

і зьвер быў вялікі і народ мусіць дужы быў, што мог з гэтакай штукі ўзапар страляць. Як дасьць другі раз у плячо—з ног далоў зьбівае. І заяц да гары нагамі і ты да гары нагамі. Кацярынінскі самапал... Адным канцом на ваўка, другім на стралка...

Тэхнічныя бок справы кульгаў у Лаўрэна. А паляўнічым ён быў добрым.

У зіму рака мае інакшы выгляд. Яе наглуха забівае сьнегам. Цэлыя гурбы сьнегу ляжаць на кустох, зьвешваюцца з берагавых абрываў. Сьнег усюды белы, сыпкі, неба, гэткае-ж малочна-белае, шчыльна кладзецца на ўскрай берагоў, і калі чалавек трапляе ў рэчышча, яму здаецца, што трапіў ён у нейкі інакшы сьвет, на інакшую плянэту, дзе бель сьнегу ўгары і ўнізе і ўрачыстае маўчаньне зімы.

Але ў гэтым белым сьвеце ёсьць цікавае, няпрыкметнае, на першы погляд, жыцьцё. Сюды прыходзіць зьвер. Тут шныраць тхары, гарнастаі, шкадлыбаюць зайцы, крадуцца лісы, тут поўна ўсялякага дробнага зьвера і нават, часам, трапляе ў рэчышча разважны воўк. І нават не адзін, а больш іх прыходзіць шукаць спажывы. Зацішна ў рацэ, кожнаму зьверу прытулак.

І вось, са стрэльбай у руках, брыдзе па рэчышчы, разгадваючы мову сьлядоў, Лаўрэн. Ён бачыць:

Прыходзілі ўначы пажывіцца горкай крушынай асьцярожныя зайцы. Яны ўзьнімаліся на заднія лапкі, стаялі стаўпкамі, грызьлі мёрзлую кару, перабіраліся з куста ў куст, нырцуючы пад сьнежныя шапкі гурбаў, што ляжаць на спляценьнях гушчару. І пакідалі за сабою нявыразны сьлед. Калі глядзіш на яго, здаецца, што ішоў зьвярок на пяці лапках.

Крыху ў бок ад зайцавага сьледу лёг выразны, роўны сьлед: лапа за лапу. Гэта падкрадваўся да зайцоў ліс. Ён балянсаваў пушыстым хвастом, падрыхтоўваючы пружкі скок, усё яго цела было напружаным, выцягнутым, падрыхтаваным. Вось тут, ён стаяў, магчыма, дзесяткі хвілін, чакаючы таго, пакуль, захопленыя смакам крушыны, шэры камок неасьцярожна падкоціцца бліжэй. Адгэтуль—скачок. Далей ідзе блытаніна заечых і лісавых сьлядоў, і вось на заварoце ракі—разьвязка. Аб ёй сьведчыць чырвона-бурая пляма на сьнезе і рэдкія кавалачкі шэрага пуху.

Усё бачыць Лаўрэн. І на ўсё па свойму рэагуе. Ён правярае пасткі каля тхарыных і гарнастаевых нор, нахіляецца і асьцярожна, здалёк, аглядае капкан на ліса. Капкан ужо засыпаны сьнегам. Ён аглядае сьляды курапатак і мяркуе пра сябе, угадваючы месца дзе яны павінны зараз знаходзіцца. На месцы пагібелі зайца ён доўга стаіць, аглядаючы чырвона-бурую пляму, ківае галавою і напаўголаса лае ліса.

У Лаўрэна своеасаблівыя мэтады паляваньня ў рэчышчы. Ён кліча сабаку і накіроўвае яго на сьлед толькі тады, калі выбяруцца з ракі. Лаўрэн заўсёды прыносіць з паляваньня зайцоў, удаецца яму і на птушку, трапляе Лаўрэну ў рукі і ліс, і тхор, і гарнастай.

Лаўрэн быў старым і ўпраўным паляўнічым. Даводзілася яму забіваць усялякага зьвера. Але ўсё-ткі ня быў здаволены Лаўрэн. Ён

чакаў нейкага нязвычайнага паляўнічага шчасьця. Аб гэтым ён так і гаварыў:

— Кожны лавец—павінен мець сваё шчасьце. Кастусь Цыбук у чатырнаццатым годзе мядзьведзя забіў. Хто мядзьведзя ў нас бачыў? Няма такога чалавека ў нашай ваколіцы, дробналесьсе ў нас. Ад дзядоў толькі байкі пра мядзьвядзёў чулі. А Кастусю—мядзьведзя паднесла. Чалавеку шчасьце ў руку. Апанас, што Гарлачом завуць, у мінулым годзе рысь запаляваў. Палясоўшчык Ахрэм колькі куніц і выдраў здабыў! Вось яна, удача! А я зайцоў гэтых мусіць тысячу перадушыў не адну, лісы там зрэдку трапляліся, барсукоў капаў, ваўка ўдавалася ўзяць—і ўсё. Адна драбяза. Праўда, вапра падбіў яшчэ змоладу. Але і тады гора нацярпеўся, што й ня рады быў. З панскім аб'езчыкам ледзь да суду не дайшло, даведаў што з-пад яго стрэльбы вапра ўзяў. Добра, свае хлопцы падтрымалі, адвялі бяду. Ці-ж гэта ўдача? У дзіравым карабе, відаць, радзіўся я...

Але здарылася вось што.

●

Аднаго разу марознай раніцой брыў Лаўрэн па сыпкім сьнезе на шырокіх лыжах-сьнегаступах. Уставала сонца, палымнела на ўсходзе пурпуровая зара, яе ружовыя блёскі ляжалі на ўскраёх абрываў берагоў і на бугрох гладка абмеценых гурбаў. Толькі на самым дне рэчышча, дзе брыў Лаўрэн, сьнег быў сталёва-сіні і гэткай-жа была калматая шэрань на кустох.

Мароз быў моцны. Здавалася, у паветры праносяцца яго празрыстыя іголкі і балюча колюць у твар. Лаўрэн зьмёрз і без усялякага задавальненьня выняў з пасткі застыглы трупік тхара. Зьвярок быў задушаны сталёвай хваткай капкану. У апошнім капкане Лаўрэн таксама знайшоў тхара.

— Нічога сабе. Паглядзець лісіную пастку, ці што?—падумаў Лаўрэн.

І вырашыў ісьці далей. Там, на вавароце ракі, у закругленьні, пад кустом, старэнна змаскаваны, стаіць лепшы капкан Лаўрэна, падрыхтованы для ліса. Ён накіраваўся туды. Не даходзячы з дзесятак крокаў, Лаўрэн спыніўся, як урыты, і скінуў стрэльбу з пляча.

Варухнулася сэрца...

У капкане сядзеў ліс. Папялова-руды зьвер, пушысты і прыгожы распрасьцёрся на сьнезе мяккім, бездапаможным комам. Узьвёўшы курок, Лаўрэн падыходзіў бліжэй, але хутка ўбачыў, што зьвер мёртвы. Ён браў прынаду, і капканавыя сківіцы зьмыкнуліся, сьціснуўшы горла. Ліса сустрэў лёс тхароў.

Лаўрэн забыўся на мароз. Ён завіхаўся над капканом, не адчуваючы таго, што да жалеза прыклейваюцца пальцы і знобкі холад абпякае іх. Нарэшце зьвер быў вызвалены, і Лаўрэн, трымаючы за карак, страсянуў яго на выцягнутай руцэ.

— Срэбранка! Удача!

Сапраўды, цераз хрыбет ліса цягнулася шырокая, блакітна-срэбная пасма і ценькаю ніткаю гублялася ў хвасьце. Зьвер быў пышным у сваім дасканалым зімовым убор̓ы.

— Удача!—паўтарыў Лаўрэн і пачаў завязваць лісу лапы, каб было зручна несьці. Ён нахіліўся над зьверам і выпадкова кінуў кароткі погляд пад куст. Глянуў, і так і застаўся стаяць, углядаючыся. Пад кустом была нара. Невялікая, круглая дзірка зьзяла чарнатою, слаба замаскаваная ў хворасьце. Але не яна прыкавала Лаўрэнаву ўвагу. Ён глядзеў на нязвычайны сьлед, на цэлую дарожку, якую выталтаў зьвер.

— Гусіная лапка!—прашаптаў Лаўрэн.

Сьлед сапраўды быў падобны да гусінай лапкі.

— Мацёрая!—уздыхнуў Лаўрэн.—Як-жа я гэта ня бачыў!

Доўга стаяў пад кустам Лаўрэн, доўга абмяркоўваў. Потым, уважліва аглядаючы абодвы берагі, пайшоў далей, па рацэ. Ён не абмінуў поглядам ніводнай нары, ніводнага сьледу, ніводнай рыскі на сьнезе, ніводнай шчыліны ў лёдзе. І так прайшоў ён блізка кілёмэтру, і гэтак-жа, павольна, аглядаючы берагі—вярнуўся назад. Потым ён накіраваўся ў адваротным кірунку, дайшоў да самых калгасных гародаў і зноў вярнуўся назад, да нары.

І тут Лаўрэн падагуліў вынікі сваіх пошукаў:

— Ня іначай—няма ў яе больш выхаду як гэты.

У блытаніне вялікіх і малых сьлядоў, у ямах пад абрывамі, у гушчары кустоў—больш ня было сьледу падобнага да гэтага. Зьвер выходзіў на недалёкую адлегласьць; прабіраўся паўз бераг, крыючыся пад павецьцю кустоў да шчыліны ў лёдзе і гэткім-жа парадкам зьвяртаўся назад. З гэтага Лаўрэн і зрабіў свой вывад.

І яшчэ некалькі хвілін стаяў Лаўрэн над нарою, думаючы.

●

Поўднем, каля жанчын, якія мылі бялізну на рацэ, прайшоў Лаўрэн. Ён накіроўваўся некуды ўздоўж рэчышча і трымаў пад пахаю абчэсанае бярозавае палена, на адным канцы якога было накручана рызьзё. Адна з дзяўчат, ацiраючы зьмёрзлыя рукі аб падол, крыкнула ўсьлед Лаўрэну:

— Куды ты, дзядзька Лаўрэн, пайшоў!

Лаўрэн паказаў палена і зазлавана прабурчэў:

— Ты, сарока, ня ўтыкайся, куды ня трэба. От што! Чалавек цябе не чапае, і ты чалавека не чапай!

І пайшоў, падбаўляючы кроку. Быў Лаўрэн прысадзісты, каржакаваты стары. Ня гледзячы на шосты дзесятак гадоў, быў у яго румянец на ўсю шчаку і белы часнык здаровых зубоў, хаця барада сівела дымам.

●

Марозная, ціхая ноч плыве над зямлёй. Ясныя зоры гараць на чорным небе. Іх шмат і сьвятло іх разнастойнае. Адны маленькія, але

выразныя кропкі на густа-чорным тле прабіваюць ноч ценькімі струменчыкамі белага сьвятла. Іншыя, больш буйныя, праменяць жаўтаватае сьвятло. І адну зорку бачыць Лаўрэн буйнейшую ад усіх. Яму здаецца, што яна круціцца з шалёнай хуткасьцю, яна то наблі- жаецца да зямлі і павялічваецца ў сваіх памерах, то адыходзіць далей, прашывае ў сваім лёце натоўпы іншых зор і робіцца меншаю, далёкаю, потым вяртаецца назад і зноў прыцягвае да сябе погляд чалавека нязвыклым сваім блёскам і памерамі.

Плыве ноч над зямлёй, маўчыць асьнежаная зямля, сыпіць шыро- кая даль палёў, і ўрачыстая ціш, звонкая і чуткая, праводзіць па- волыны лёт ночы.

Лаўрэн сядзіць у кусьце. Пацяскае мароз. Лаўрэн адчувае, як за- лазіць пранікліві холад у валёнкі, прабіраецца вострымі струменчы- камі за кажух і ў рукавіцы. Лаўрэн утульвае галаву ў плечы, але баіцца паварушыцца. Гэта немагчыма. У гэтай цішы выразным здаецца нават срэбраны звон шэрані на зьмёрзлых кустох. А грубы, чалавечы рух—грымоты для чуткага зьвярынага вуха.

Там, пад кустом, насупроць тая самая нара, якую знайшоў сёньня Лаўрэн. Адтуль на лёд высьлізгнецца даўгое, гнуткае зьвярынае цела. Гэта выдра. Зьвер спыніцца, прынюхаецца да паветра, пры- слухаецца насьцярожана, гатовы кожную хвіліну кінуцца назад, у нару. І калі ўсё будзе ціха, спакойна ў ночы, выдра, нязграбна пера- вальваючыся на сваіх каротkіх лапах, будзе красьціся паўз бераг, хаваючыся пад кустамі, што навісьлі над ракою і ўмёрзьлі ў лёд. Яна дойдзе да тэй шчыліны, што ўлукаткі рашчапіла лёд. Там ляношча булькоча вада. Выдра ўціснецца ў шчыліну, нырне ў ваду і там у поўнай цемры зьвярыным нюхам адшукае і схопіць вострымі зубамі абамлелую рыбіну. Потым заплешча зноў вада і са шчыліны на лёд высьлізгнецца даўгое, вужачае, гнуткае цела выдры. Зноў пры- слухаецца, прынюхаецца зьвярок—і калі ўсё будзе добра, тэй-жа сьцежкай накіруецца назад.

Але гэтага ня будзе чакаць Лаўрэн. Ёсьць адзін момант, які патрэбна скарыстаць бяз промаху, інакш назаўсёды зьнікне асьця- рожная выдра. Гэта тады, калі яна выйдзе з нары і будзе прыню- хвацца і прыслухоўвацца. Тады хуткім, бяззычным рухам ускіне Лаўрэн сваю стрэльбу, якая цяпер з узьведзеным покручам ляжыць на каленях, і сустрэне чалавека яго паляўнічае шчасьце...

Прынясе Лаўрэн выдру дадому. Ільсьняная, каштоўная скурка будзе некаторы час вісець над стольлю ў яго хаце, як дыплём яго паляўнічага майстэрства, як пасьведчаньне нязвыклай удачы. І бу- дуць зайздросна гаварыць наўкольныя паляўнічыя:

— Павязло Лаўрэну з «Іскры Сацыялізму». Выдру забіў!

Але ня толькі ў гэтым справа. Ёсьць яшчэ матывы, праз якія сядзіць тут адзін, у ночы, Лаўрэн. Але гэта зьвязана ўжо з тым новым, што ўвайшло ў істоту Лаўрэна. І аб гэтым—гутарка ўперадзе.

... Раз было так. Прывёз Лаўрэн разам з іншымі калгасьнікамі хлеб у чырвоным абозе ў горад. Гэта было ў мінулую восень. Нача-

валі ў «Доме Калгасьніка». У вялікай залі чыталі ўголас газэты, і да аднога з гурткоў падсеў Лаўрэн. Так ён сядзеў увесь вечар. І калі пачаў падкрадацца да Лаўрэна здрадніцкі сон, пачынаў Лаўрэн дзёўбаць носам—нечакана заграла музыка. Лаўрэн агледзеўся. Ня было відаць, каб хто граў.

— Радыё!—сказаў нехта з калгасьнікаў.

— Дзе?!—усхапіўся Лаўрэн.

Яму паказалі ў кут. Там сядзеў малады хлапец, узьдзеўшы на вушы нейкую прыладу, і дотыкамі пальцаў граў на невялікай скрынцы. Лаўрэн накіраваўся туды. І падышоўшы да хлапца, ён са зьдзіўленьнем упэўніўся, што скрынка маўчыць. Толькі дзіўным, бледым сьвятлом гарэць падобныя і непадобныя да электрычных лямпкі. Што да музыкі, дык цяпер яна ішла аднекуль з гары.

Тады, уціснуўшы ў кулак бараду, Лаўрэн папрасіў хлапца растлумачыць яму, што гэта за радыё, бо чуць аб гэтай рэчы Лаўрэн чуў, і нават не адзін раз, але бачыць давялося ўпяршыню, і ўсё роўна Лаўрэн разабрацца тут самастойна ня можа.

Хлапец зьняў навушнікі і ахвотна пачаў тлумачыць. Ня выпушчаючы барады са жмені, Лаўрэн добрасумленна выслухаў усё, што датычыцца электра-магнітных хваль, тыпаў прыёмнікаў, якасьцяй перадач і іх спосабаў, і стараўся зразумець, якім чынам усё-ткі хваля ператвараецца ў гук. І нельга сказаць, каб дэталёва ўва ўсім разабраўся Лаўрэн. Ён задаў толькі адно пытаньне:

— А колькі, галубок, радыё каштуе?

— Адзін прам радыя—мільён рублёў,—адрэзаў хлапец.

— Міль-ён!—захлібнуўся зьдзіўленьнем Лаўрэн.

— ... а гэты апарат з усім абсталяваньнем—сто сорак рублёў,—дадаў хлапец.

І зноў усё стала рэальным.

— Мне за мільён непатрэбна,—сказаў Лайрэн.—Ліха з ім, з мільёнам! А за сто сорак—прыдбаем, як разбагацеем. А то—мільён!

Праз цэлы вечар не адыходзіў Лаўрэн ад дзівоснага апарату. І з кожнай хвілінай ён упэўніваўся ў тым, якая карысная гэта рэч—радыё. Лаўрэн камячыў бараду, абдумваючы ўсе магчымасьці калгаснага бюджэту, і ўвесь час прыходзіў да аднаго вынiку: наадрэз адмовіць праўленьне калгасу, ня дасьць грошай на прыёмнік.

І на самай справе, наадрэз адмовіла. Ня ўсё праўленьне, а адзін Васіль. Ён коратка сказаў:

— Няма грошай, дзядзька Лаўрэн. Каб хаця як на першую пару чырвоны куток абсталяваць!

І ўсё. І кропка. І нічога не засталося ад мар Лаўрэнавых аб прыёмніку для свайго калгасу...

Ноч плыве над асьнежанымі палямі, над цёмным гушчаром лясоў, дзе пульсуе ціхае, прыглушанае, насьцярожанае начное жыцьцё, у якім зьвярыная радасьць сьвежай крыві і немы страх сьмерці.

Плыве ноч і сыпле зоры. Маўчаць срэбныя ў сьнягох палі і лясы. Ясная ноч...

Сядзіць у кусьце ў рэчышчы чалавек, Лаўрэн. Мароз ядраны, моцны мароз, падкрадваецца да яго, пакусвае. Лаўрэн баіцца зварухнуцца. Насупроць яго нара, дзе сядзіць насьцярожаны, хітры і каштоўны зьвер. Адзін неасьцярожны рух—і ўсё... Толькі зрэдку дазваляе сабе Лаўрэн крыху прыўзьняць галаву. Тады ён бачыць зоры. І яшчэ нешта інакшае, ня гэтулькі бачыць, колькі разумее Лаўрэн. Там, у чорных, надземных прасторах, з ціхім шолахам імкнуць электра-магнітныя хвалі і нясуць на хуткіх крыльлях сваіх галасы далёкіх гарадоў краіны.

І гэтага раней не разумеў Лаўрэн.

І тады Лаўрэн сам думае аб тым, што-б гэта было, каб яму, Лаўрэну, маладому Лаўрэну, старых, мінулых гадоў давялося сядзець тут, аднаму, у ночы. Зімнае сьвятло зор сеяла-б каламутны страх у грудзёх.

Але цяпер сядзіць спакойна ў кусьце Лаўрэн і новымі вачыма глядзіць на сьвет. Усё спакойна. Усё на сваіх месцох. Усё ў парадку. Толькі нельга варушыцца. Бо можна спалохаць выдру і зьнікне паляўнічае шчасьце. І ня толькі гэта. Ён заб'е выдру, прадасьць скуру і на здабытыя грошы купіць для калгасу радыё-прыёмнік.

І таму—трэба быць асабліва пільным.

●

На золаку, над лесам зьявіўся бераг хмары. Сіняя, магутная, грузнабрухая, паўзла яна над зямлёй, павольна гасячы зоры, засланяючы неба. І калі ўспаўзла над поле—закруціліся ў змрочным паветры белыя мухі, густа пайшоў сьнег.

— Гэта добра,—адзначыў Лаўрэн.—Ад сьлядоў дух будзе адбівацъ.

І зноў пацёк час. Прайшла гадзіна. Сьнег падаў. Адсеў мароз, стала цяплей у паветры і сьвятлела з кожнай хвілінай усё больш. Прыходзіў дзень.

Тады Лаўрэн устаў, абмацаў каля сябе ў сьнезе бярозавае палена, якое нёс увечары, і, падыйшоўшы да нары, старанна заткнуў яе, увагнаўшы палена ледзь не на палову.

— Сёньня ты ня вылезла, заўтра вылезеш,—сказаў Лаўрэн. А пакуль што сядзі. Я цябе, падла, дапяку!

Узяўшы стрэльбу пад паху, Лаўрэн пабрыў рэчышчам па глыбокім, сыпкім сьнезе.

●

Прайшло тры дні. І як толькі пазіраў у вакно сіні вечар, злазіў з печы Лаўрэн і пачынаў абуваць валёнкі, Лаўрэнава жонка пачынала грукаць начыньнем, дровамі, перакладаючы іх з месца на

месца. Такім спосабам яна заўсёды выражала сваё нездавальненьне. Нарэшце да гэтых адзнак гневу дадаваўся і голас Тэклі, сварлівы, сухі голас:

— Зноў пайшоў цягацца праз ноч, стары валацуга ты, ня дай бог. От, зьеў мае жыцьцё, от, высссаў маю кроў з паляваньнем гэтым...

Лаўрэн, абкручваючы нагу сукнкаю, спакойна адказваў:

— Не твайго розуму справа, ты і не ўтыкайся! Бо-о-г! Дай ды ня дай. Нічога ён табе ня дасьць, нічога ён ад цябе ня возьме. От што. Ты сабе сядзі на печы ды тараканоў слухай. Яны часам добра пяюць. А тараканы не дагодзяць—схадзі куды языком паласкачы. А мяне ты, брат Тэкля, не чапай. Не твайго розуму справа!

Тады на Лаўрэна кідаліся прымоты. Але ён спакойна апранаўся, ўзьдзяючы кажух на кажух і зьверху яшчэ сярмягу, несьпяшаючы падпяразваўся, ўзьдзяваў на галаву цёплую шапку, абкручваў шыю башлыком, старэнна падціскаючы канцы пад пояс, і тагды зьнімаў са сьцяны стрэльбу, зьменьваў абкручаны пакульлем пістон і, нарэшце, ўскідваў стрэльбу на плечы і накіроўваўся да дзьвярэй.

— Каб хаця зьеў-бы што!—стагнала старая, калі Лаўрэн быў ужо на парозе.

— Каб ты была спачатку ласкавейшая,—адказваў Лаўрэн,—дык-бы чаго нібы і зьеў. А цяпер апэтыту няма.

І зачыняў за сабою дзьверы.

Ён ішоў проста на раку, каб перш яшчэ, як сьцямнее зусім, выцягнуць палена з нары і прыстасавацца ў кусьце так, каб не крануцца праз ноч. І таму Лаўрэн ішоў сьпяшаючыся. І калі ішоў, дык зусім ня думаў аб калгаснай стайні, аб мышастым жарабку і гнедай кабыле, аб рабочых конях, аб матках і жарабятах, якіх цяпер упарадкоўвае адзін Мікола. І нават аб вараным жарабку ня думаў Лаўрэн.

Ён думаў аб тым толькі, якая сёньня будзе ноч і ці хутка прыдзе той момант, калі выйдзе з нары насьцярожаная, наструненая выдра, прынюхаецца да паветра, прыслухаецца і застыгне.

●

А ў калгасе ўсё ішло звычайным парадкам. Увечары, калі садзілася сонца за лес,—ішлі на раку па ваду жанчыны. Курылі дымам хаты. Адпачынак прыходзіў у калгасны пасёлак, як толькі вечар пазіраў у вокны. Нават на гумнах сьціхаў гул малатарань, і толькі воблакі дыму слаліся па гародах ад сушань. Гаманлівымі чарадамі бегала па вуліцах дзетвара.

Васіль паклаў асадку на стол. Ён паглядзеў на рахункавода. Той таксама паклаў сваю асадку, папярэдне пасморгаўшы пяром па валасох. Рахункавод быў малады, нядаўна ўзяўся за работу.

— Ну, як?—спытаў Васіль.

— Выходзіць добра,—сказаў рахункавод.—Жыта выходзіць па чатыры з паловаю кілёграмы на працадзень.

— А ты не памыліўся?

На твары хлапца расплылася самаздаволеная ўсьмешка.

— Кропля ў кроплю, таварыш старшыня!

Пазіраючы ў вакно, Васіль задумаўся. Справа ішла аб разьмеркаваньні ўраджаю. Папярэднія падлікі паказалі высокія лічбы норм на працадзень. Калгас выйшаў перадавым, забясьпечаным хлебам і кормам. І ён, Васіль, які ў мінулую восень прыйшоў дадому дэмабілізаваным чырвонаармейцам, зьяўляецца цяпер кіраўніком гэтага калгасу. Ён арганізаваў актыў, стварыў моцнае, надзейнае ядро з брыгадзіраў, якія ў сваю чаргу здолеюць сцэмэнтаваць увесь калгас у адну дружную і моцную сям'ю.

Год канчаецца з перамогамі. Гэты год быў экзаменам для Васіля. Экзамэн выграманы. Адно толькі зацягваецца ільноапрацоўка.

Так думаў Васіль, пазіраючы ў вакно. А за вакном пасьцілаўся мяккі змрок зімовага вечару. Дружнымі чарадамі бегала па вуліцы дзетвара. Па гародах сьцежкаю да ракі ішлі па ваду жанчыны.

Васіль задумення глядзеў у вакно і нават не заўважыў, як выйшаў з канцэлярыі рахункавод. Але ён заўважыў як прыгожая, у чырвонай хустцы, прайшла Алёна. Яе хада была лёгкая, яна махала вольнаю рукою на ходу, другою падтрымлівала каромысла, і здалося Васілю, што праходзячы тут, Алёна кінула кароткі погляд на цёмныя, несьветленыя вокны калгаснай канцэлярыі. Маладосьць узяла сваё. Старшыня калгасу адчуў звыклае за апошнія часы прыемнае сьціскненьне ў грудзёх. Думкі крута зьмянілі кірунак. Старшыня калгасу ўстаў і хутка выйшаў з канцэлярыі.

Коні ўжо былі выпушчаны са стайні. Але на памосьце, перад дзьвярыма стайні—бачна была толькі адзінокая і панурая постаць Міколы.

— Сёньня мусіць не паедзеш, Васіль,—сказаў ён сваім абыякавым голасам.

— Чаму?

— Таму, што мы з Лаўрэнам парадак зьмянілі. Да паўдня ён даглядае коняй, а з паўдня, я.

— Дык чаму-ж мне ня ехаць.

— А таму, што я адзін жарабка ня стрымаю, пакуль табе сесьці.

— Ну гэта байкі!—нецярпліва сказаў Васіль.—Я з ім адзін упраўлюся!

— І вуздэчка парвалася,—спакойна сказаў Мікола.—Цуглі не закладзеш.

Васіль хітра прыжмурыў вока і паглядзеў на Міколу. Той са спакойным, звычайна-абыякавым выглядам твару, пераступаў з нагі на нагу.

— Нсяк у ногі холад чуваць,—растлумачыў ён.—Спачатку на гной, потым на сьнег, потым яшчэ на гной, а сьнег растане, скура на ботах мокне, і ў ногі зімна.

Мікола замаўчаў.

У гэты час на ўзгорак, па сьцежцы ад ракі з поўнымі вёдрамі, ішла Алёна.

— А вуздэчка парвалася,—ажыўлёна сказаў Мікола.—Вараны, гад, вытрыз цуглі. От, воўчае мяса!

— Я зараз табе пакажу, цуглі,—заўзята падумаў Васіль. А ў голас сказаў:

— Ну, дык я тады пайшоў!

— Парвалася вуздэчка,—уздыхнуў Мікола.—І рады няма. Хіба заўтра дзядзька Лаўрэн паправіць.

Апошніх яго слоў Васіль ня чуў. Ён ужо ішоў сьцежкай, насустрач Алёне. Ад хуткай хады на шчоках Алёны палаў румянец і русая пасма валасоў выбілася з пад хусткі. Яна ўсьміхалася да Васіля і яны сыйшліся на вузкай сьцежцы. Васіль загараджваў дзяўчыне дарогу.

— Алёне Зьмітраўне, добры вечар!—жартаўліва сказаў Васіль.

— Добры вечар,—адказала Алёна.—Чаму ты сёньня жарабка не аб'яжджаеш?

— Ня хочацца,—адказаў Васіль.—Так як, вы Алёна Зьмітраўна, за дзень спрацаваліся, дазвольце мне за вас вадзіцы паднесьці.

Алёна не супярэчыла. Васіль спрытна зьняў з яе пляча каромысла і прапусьціў яе ісьці ўперад. Некалькі часу яны ішлі моўчкі. Потым Алёна спытала:

— Чаму ты ўчора ў чытальні ня быў?

— А хіба там на мяне чакалі?

Алёна памаўчала ў ваганьні.

— Чакалі!

— А хто?

— Не скажу!

— Я ўсё роўна ведаю,—сказаў Васіль.—Такая прыгожая дзяўчына з нашага калгасу. А калі я сёньня прыду, справу можна будзе паправіць?

Алёна хутка азглянулася цераз плячо. У яе шэрых вачох улавіў Васіль дрыжэньне сьмеху.

— Хто яе ведае. Думаю, што можна.

— От яна, стратэгія,—сказаў Васіль.

— Што ты кажаш?

— Я кажу—стратэгія. Гэта вайсковае слова. Я хацеў сказаць, што іншы раз у пешым страі хутчэй возьмеш патрэбную пазыцыю чым коннай атакай.

— А ты што думаў, дзяўчат вараны жарабок цікавіць?

— Гм!—сказаў Васіль.

Алёна зноў азірнулася цераз плячо. Васіль спатыкнуўся і расплёскаў ваду з вядра. Тады абодвы яны спыніліся і нечакана, радасна засьмяяліся. Малады сьмех зазьвінеў у цішы вечару.

Усё гэта ня ўнікла ад пільнага погляду Міколы. Ён стаяў на памосьце перад стайняй і глядзеў ім усьлед аж да тае пары, покуль Алёна з Васілём ня зьніклі на завароце сьцежкі.

— А мне адна бяда,—напаўголаса сам да сябе сказаў Мікола.— Ці Алёна, ці варона. Усё роўна. Аднаму нават і лепш. Дзе пайшоў— там прайшоў, дзе лёг—там праспаў! Цьфу, адным словам!

Пасьля гэтага Мікола завярнуўся і накіраваўся ў стайню прыводзіць у парадак стойлы.

Гусьцеў змрок.

У хатах запальваліся агні.

●

Позна ўвечары Васіль зайшоў у хату да Лаўрэна. Старая Тэкля, па звычаю, наводзіла парадкі каля печы. Капцеў саганок.

— А дзядзькі Лаўрэна няма ў хаце?—спытаў Васіль.

— Пайшоў сабакам сена касіць, твой дзядзька Лаўрэн,—адказала Тэкля.—Заеў ён мае жыцьцё са сваім паляваньнем, от што!

— На паляваньне пайшоў?

— А то куды-ж! Як толькі вечар, дык ён сваю качаргу ў аберуч і праз усю ночаньку па лесе цягаецца. А тады на золаку зьяўляецца, і на стайню. А са стайні на печ. А з печы зноў у лес. І гэтак кругаваротам пайшоў і пайшоў. А я сяджу, гарую, думаю што старога дурня дзе ў гэты час ваўкі дзяруць! От, зьеў ён мяне з гэтым паляваньнем! Хаця-б вы яго як цераз праўленьне, а Васіль?!

— Чаму цераз праўленьне. Як чалавек хоча так і робіць. На рабоце ён першы.

Старая Тэкля залямантавала зноў. Васіль пайшоў і хутка забыўся аб гэтым усім. Ён думаў аб сваім.

Ужо ноч была, і рэдка дзе ў вокнах пабліскваў агеньчык. У чорным небе, ушчэмлены паміж дзьвюмя невялікімі хмаркамі вісеў без усялякага блёску вузкі серп маладога месяца.

●

І вось, прайшло яшчэ два дні. Увечары Алёна як і звычайна, ішла па ваду. Яна паглядзела на вокны калгаснай канцэлярыі. Яны былі цёмныя. Алёна спакойна пайшла далей, ведаючы, што Васіль зараз-жа будзе на сьцежцы. Гэтага ня здарылася. Толькі адзін Мікола стаяў на памосьце калгаснай стайні і невядома чаму прарэзьліва сьвістаў. Ці то ён склікаў коняй, ці гэты рэзкі сьвіст меў іншае якое прызначэньне, але дзяўчына адчула сябе абражанай і пайшла хутчэй. Мікола сьвістаў, пахаджваючы на памосьце, і махаў пры гэтым аброцьмі.

Вокны канцэлярыі былі, як і раней, цёмныя. Васіля нідзе ня было відаць.

І першы, дагэтуль нязьведаны, няпрыемны боль калынуў дзяўчыніна сэрца. Тут было і пачуцьцё крыўды і абразы, і разам з гэтым, варухнулася гордасьць. Васіля няма! Добра-ж! Ён сядзіць у канцэлярыі і лянуецца нават паглядзець у вакно. Магчыма ён гутарыць з кім небудзь, у гэты час, а магчыма пайшоў па якіх небудзь там справах?! Вельмі добра! Алёна чакала тэй пары, пакуль ісьці па саду з вялізьнейшым нецярпеньнем, у яе ўсё сэрца выбалела за гэты час, а Васіль нават і не паклапоціцца паглядзець праз вакно. Ён нячулы, нетаварыскі, ён толькі сваёй выгады пільнуе! А, магчыма, ён пазнаёміўся ужо з якой небудзь там іншай дзяўчынай як езьдзіў учора ў сельсавет і цяпер пра Алёну а ні дбае? І гэта так, ня інакш, бо чаго-б тады гэты дурань, Мікола, высьвістваў ёй у сьлед гэтак прарэзьліва. Ён усё ведае і цяпер сьмяецца з' яе, Алёны. Ну, дык добра-ж Васілёк! Ня думай, што ты адзін на сьвеце!

І Алёна крута завярнула са сьцежкі ў вуліцу. А Мікола ўсё сьвістаў, невядома чаму. Магчыма ён склікаў коняй, а можа гэта было імправізацыяй вячэрняй песьні яго мужнага сэрца, пакінутага каханьнем? Як бы там ні было—Мікола працягваў сьвістаць дзіка і прарэзьліва.

У гэты час асьвятліліся вокны калгаснай канцэлярыі. Алёна гэтага ўжо не магла бачыць. Але ўсё, хто бачыў, што ў канцэлярыі запалілі вялікую лямпу, адзначылі:

— Будзе сход!

І кожны, хто ішоў паўз канцэлярыю, заварочваў даведацца, у чым справа, і там заставаўся. Таму, пакуль дзетвара абабегла ўсе двары пасёлку і пакуль прыйшлі калгасьнікі з навукольных хутароў, у канцэлярыі было сіня ад дыму, душна, цесна, і стаяў нескончоны гоман.

Калі прыйшла ў канцэлярыю Алёна, ледзь можна было разабраць, хто сядзіць за сталом. А за сталом сядзеў Васіль і побач з ім яшчэ нейкі, незнаёмы таварыш, відаць з раёну. Васіль адразу убачыў Алёну, напісаў нешта на ласкутку паперы і перадаў яе цераз хлапчука, што стаяў блізка да стала. І калі Алёна прачытала тое, што было напісана ў паперцы, адразу ўсё прыйшло ў парадак і патрабавалася вялікая вытрымка, каб абыякава скамячыць паперку.

А Васіль у гэты час устаў і пачаў гаварыць. Гаварыў ён адрывіста і выразна, адчувалася ў яго тоне канкрэтнасьць мовы вайсковага чалавека.

— Так што, таварышы калгасьнікі,—казаў Васіль.—Абвяшчаецца штурм. Мы здорава адсталі з ільноапрацоўкай. Задача такая: да новага году—поўнасьцю апрацаваць валакно і здаць яго на пункт. Лён у нас ёсьць. Сіла таксама ёсьць. Так што—выхад ёсьць. Патрэбна арганізаваць работу ў тры зьмены і даваць тэмпы па ўдарнаму. От і ўся справа. У каго ёсьць пытаньні?

Але перш, чымся хто здолеў кранущца, цераз гушчу прысутных прапхнуўся даўгавязы, ценькі чалавек і, махаючы доўгімі рукамі, загарлаў пісклявым голасам:

— Людцы, калгасьнічкі! Што-ж гэта ёсьць! Ды што-ж гэта гэта такое браткі вы мае, таварышкі, калгасьнічкі! Працуй, біся як сабака аб дарогу, казаў той, і ўвясну, і ўлета, і ўвосень, і адпачынку табе няма, і ўздыху-выдыху табе няма, і на якога чорта гэтак лупіцца— дай божа рады—не разьбяру! У зімовы час, калі добрыя людзі адпачываюць, дваццаць чатыры гадзіны ў суткі скуру таблюй! Людцы, калгасьнічкі, таварышы! Мужчынкі! Здохнем ад гэткай работы, выцягнемся, тры аршыны гнойнай зямелькі атрымаем і ні сабе ад гэтага карысьці, ні пралетарскай дзяржаве! Люд...

— Правільна!—гаўкнуў нехта як з бочкі.—Правільна кажа Сідар Перапечка! На чорта па гэтай трасьце душу вытрасаць! Хопіць нам часу, да вясны здолеем зьмяць, ня возьме яе пад дахам ды ў даглядзе нячыстая сіла. От што! Дуй, Сідар!

— Няхай другія здаюць, хто з работай спраўнейшы!—крычаў Перапечка, натужваючыся без усялякай патрэбы.—Мы хай пачакаем! Другія выканаюць плян—нам ільну застанецца. Малады наш старшыня, гарачы старшыня, таварышы калгасьнічкі!

— Правільна, Сідар!—гуў бас.—Разумныя словы кажаш!

— Гэта Сідар разумна кажа?—спытаў жаночы голас.—Разумна, то як разумна, а што чалавек хоча ў кішэню ільну хапнуць—то факт!

— Ня слухайце яе, калгасьнічкі!

— Трэба паглядзець, магчыма Сідар ужо на печы трасту сушыць!—крыкнуў нехта ад дзьвярэй.

— А ты бачыў?

— За тое яму душа і баліць аб ільне!

— Ціха, таварышы!

— Чаго там, ціха! Што гэтая сволач горлам бярэ, дык ім і падавацца?

— Даволі! Вон з калгасу абодвых, сукіных сыноў!

— Таварышы супакойцеся!

— Як што трэба рабіць, дык яны тады кій у калёсы пхаюць!

— Сказана, сволачы!

— Хто, я сволач?—запішчэў Перапечка, узмахваючы рукамі як вятрак.

— Ды няўжо-ж, я!

— Таварышы, спакойна!—парываўся Васіль з-за стала.

— Я—сволач? А хто першы ў калгас пайшоў?

— Бо думаў, што і ў калгасе на цябе будуць людзі працаваць.

— Садзіся, Перапечка!—закрычала адразу з дзесятак галасоў.

— Мы цябе ўжо чулі! Хапала!

— Горла шчупаковае!

— Хто жыта краў з бабак?

— Ты мяне не злавіў!—крычаў Перапечка.—Ты мяне за руку не злавіў!

— І шчасьце тваё, што не злавілі!

— Ціха, таварышы!

Але ўжо запуў, заварушыўся сход. Людзі ўсхваляваліся. Кожны гаварыў сваё і наперадзе за ўсіх, перад сталом, круціўся і ценька і піскліва крычаў, ацiраючы пот з лысіны, Перапечка.

— Свае выгады не разумееце!—крычаў ён.—Добрай рады ня слухаеце! Сваім дабром раскідаецеся!

— Гнаць з калгасу Перапечку!—дружна крычалі ад парогу.

— Шкоднік, гад!

— Старшыня, кіруй сходам!

— Ціха, таварышы!

Гоман паступова пачаў ападаць. Васіль стаяў і чакаў пакуль ён сьціхне настолькі, што можна будзе гаварыць. Але ў гэты час да стала праціснуўся каржакаваты, прысадзісты мужчына. Гэта быў брыгадзір першай брыгады.

— Ня будзе толку,—сказаў ён.—Выгналі кулакоў, трэба выгнаць і падпявал іхных. Гэта не работа. Даволі ад гэтага Перапечкі нацярпеліся. Досыць ягонага вэрхалу і звадак. Выгнаць яго вон, гада, з калгасу. А Арцёму даць папярэджаньне. Яму сваяк Перапечка даражэй за калгас!

— Я, што!—запрукаў ад печы спуджаны Арцёмаў бас.—Я, нічога! Гэта Сідар, ён усё жыцьцё мае вантробы круціць!

— Ты таксама, добры!—сказаў брыгадзір.

Усе змоўклі. Стала ціха.

Перапечка крутнуўся на месцы і палез у натоўп.

— Падцісьнуў хвост!—сказаў нехта.

— Дабрахаўся!

— От, шкодны чалавек!

Тагды слова ўзяў Васіль

— Бязумоўна, таварышы,—сказаў ён,—мы павінны даць адпор кулацкай агэнтуры. І я падтрымліваю прапанову брыгадзіра першай брыгады пра Перапечку і Арцёма. А цяпер слова мае прадстаўнік нашых шэфаў.

Гаварылі аб арганізацыі ільноапрацоўкі доўга. Выступаў Васіль, гаварыў прадстаўнік шэфаў, гаварылі брыгадзіры, спрачаліся калгасьнікі. У туманах махоркі, у душнай гарачыні хаты, абмяркоўвалі людзі сродкі найбольш пасьпяховай арганізацыі работы для таго, каб у тэрмін выканаць загад партыі і ўраду. І дагаварыліся. Нават выклікалі на сацспаборніцтва суседні калгас і склалі тэкст умовы.

Перапечка больш не азваўся ні словам. Ён быў выкрэсьлены з калгаснай сям'і. І на яго таксама ніхто не зьвяртаў увагі. Гэта была варожая, шкодна, няпрыгодная для калгасу адзінка. Гэта выразна бачыў і разумеў Васіль і ад гэтага ён адчуваў сябе яшчэ больш упэўненым і цвёрдым, бо змагацца з Перапечкам, які яшчэ нядаўна меў значны аўтарытэт і шмат старонцікаў, змагацца з гэтым хітрым, злым, пранікліўым і дробным ворагам, было куды цяжэй, чымся

з акрэсьлена-варожай групай кулакоў, барацьбу з якой Васілю і гуртку калгаснага актыву давялося вытрымаць з самага пачатку.

І ў тым, што выключэньне Перапечкі адбылося гэтак хутка і ўсе за гэтае выключэньне галасавалі—бачыў Васіль, што калгас будзе здаровы, будзе працаздольны. У наяўнасьці—канчаткowы перала.м.

Сход закончыўся тады, калі ўжо сьпявалі другія пеўні.

Васіль праводзіў Алёну да дому. Яны ішлі побач. Сьнег пахруствоў пад нагамі. Серп месяцу быў больш шырокі, чым некалькі дзён таму назад і месяц ужо схіляўся да краявіду. Марозная, звонкая ціш сустойвалася над пасёлкам.

— Заўтра пачынаем штурм, Алёна,—казаў Васіль.—Цяпер не падкачайце, вы, камсамолачкі. Гэта вам не на вечары самадзейнасьці.

Алёна ўсьміхалася! А Васіль злаваў сам на сябе. Бязумоўна, тое, што ён казаў, было патрэбна, але аб тэтым ужо шмат гаварылі на сходзе і кожнаму важнасьць пытаньня была зразумелая. Зусім аб іншым хацеў сказаць Васіль Алёне, але ён адчуваў наколькі гэта цяжка, амаль немагчыма і адважнага слова ня мог адшукаць.

— Трэба націснуць будзе,—плёў Васіль з укосу аглядаючы твар Алёны.—Так што вы... не падкачайце.

Васіль адчуваў, што Алёна разумее яго нясьмеласьць. Яна ўнутры, бязумоўна, сьмяецца з тэтага. Нешта блізкае да гневу адчуў Васіль. Ён адчуў дзёрзкае жаданьне заступіць дарогу Алёне, сьціснуць моцна яе ў абнімках і адшукаць на яе твары сакавітую сьвежасьць губ. Ён паглядзеў на Алёну. Яна ішла простая, рослая, стройная, пасма валасоў як і заўсёды выбілася з пад хусткі і ў вачох Алёны, здалося Васілю, адбівалася дрыжэньне сьвятла ўсіх ясных зор гэтай ночы. Жаданьне абняць Алёну—бясьсьледна зьнікла. Замест гэтага Васіль спытаў:

— Ты ня злуеш на мяне, Алёна?

— Чаго-ж мне на цябе злаваць,—проста, бяз ценю звыклай задорнасьці адказала Алёна.

Васіль уздыхнуў.

— Чаго ты ўздыхаеш?

— Так, нешта няпрыемнае ўспомнілася,—схлусіў Васіль.

І тут-жа ўбачыў, што яны падыходзяць да хаты Алёны. Стала шкода, што вось гэткі добры час, ледзь не паўгадзіны начнога адзіноцтва з Алёнай змарнаваліся дарэмна, а можна было шмат чаго добрага расказаць ёй.

— Чаго ты сёньня ўвесь час уздыхаеш?—спытала Алёна.—Што табе, Перапечкі шкода, ці што?

— Так!—вяла адказаў Васіль і зноў уздыхнуў. Нават гневу і нецярпеньня і таго ня было. Яны спыніліся. Далей ісьці ня было куды.

— Ах, ты адважны кавалерыст!—лагодна сказала Алёна.—Ах ты, старшыня калгасу!

І тады здарылася нечаканае. Алёна шырока разьвяла рукі і Васіль адчуў гарачае дыханьне і шоўк валасоў на сваёй шчацэ. Рукі Алёны моцна абвілі яго шыю і сьціснулі.

Апамятаўся Васіль тады, калі за Алёнай грукнулі дзьверы. Ён доўга стаяў на месцы.

Марозная ціш была навокал, сыпала зорамі шчодрая ноч. Серп месяцу, значна шырэйшы як у мінулыя дні, схіляўся да краявіду.

●

— Гудуць, баба, мае косьці,—азваўся Лаўрэн з печы. Цяплыня ў мае астыглыя косьці ўдарае. Прыемна неяк. А косьці гудуць. Заходзяцца... Стары стаў. От яно што.

Тэкля не адзывалася.

— Засеклася гнедая кабылка,—працягваў Лаўрэн.—А буланы Міколаў, падла, каб ён здох, як шаснуў па шыі мышастаму жарабку— ледзь не да касьці разьвярнуў. Дармо што стары—клык яры мае.

Пасьля гэтага Лаўрэн змоўк і пачаў разглядаць чорнае сталяваньне з абшмальцаванай мацiцай над печчу. У мацiцы быў сук. Дрэва было сухім, прасмоленым, пракураным і сук быў чорны, зярністы, як крэмень. Яшчэ ў дзяцінстве спрабаваў Лаўрэн калупаць яго ножыкам.

Сук пачынаў двaіцца ў вачох. Падступаў да Лаўрэна моцны сон і Лаўрэн яму не супраціўляўся. Ён толькі цяпер, ня спаўшы ноч, прыйшоў са стайні.

Лаўрэн задрамаў.

... Вецер дзьме ў рэчышчы. Калышацца зьмёрзлае шчацiньне кустоў, атрасаючы з сябе сьнег. Шалясьціць мяцеліца над полем. Падвывае вецер у кустох. Лаўрэн засыпаны сьнегам не пакідае свайго месца. Сядзець добра, утульна, цяпло разьліваецца па целе. Воблакі сьнегу, узьнятага ветрам, праносяцца, як дым, у вачох Лаўрэна. Месяц зрэдку сьветлай плямай праступае ўгары і зараз-жа зьнікае.

Лаўрэн глядзіць пад куст. Ён бачыць, як з пад яго выпаўзае і крадзецца яшчаркай, выдра. Выдра ня спыняецца, як раней меркаваў Лаўрэн. Яна ідзе проста да яго. Гэта нават лепш. Лаўрэн хапае стрэльбу, нацэльваецца. Палец сьціскае пакруч... Асечка! (пістоны за пазухай, няма часу выцягваць). Зноў узьведзены пакруч... Зноў асечка!

— Ах, каб-жа ты згарэла... Ах, каб-жа ты...—шэпча Лаўрэн і дрыготнымі пальцамі ў ліхаманкавай пасьпешнасьці адшпільвае гузікі сярмягі.

— Можа яшчэ пасьпею!

Выдра спыняецца як раз супроць Лаўрэна. Гэта надзвычайна вялікая выдра. Скрозь туманы сьнегу Лаўрэн распазнае яе круглую морду з жорсткімі вусамі. Выдра невядома на каго чакае. Гэтага толькі і патрэбна Лаўрэну. Ён ужо насаджвае пістон на накавальню. Зараз! Зараз!

— Добры дзень—кажа нечы голас.

Выдра зьнікае адзіным скокам, перш чымся Лаўрэн пасьпеў стрэліць. Усё скончана. Толькі калышуцца туманы сьнегу і хістаецца гнуткае гальлё лазьняку.

— А дзе-ж тут Лаўрэн?—пытае той-жа голас.

Дзікая злосьць закіпае ў грудзёх Лаўрэна. Каго тут не ў пару прынесла!? Каму гэта Лаўрэн спатрэбіўся ў ночы? Які тут, у чорта «добры дзень»!?

Той-жа голас выразна кашляе. Лаўрэн, няпрытомны ад гневу, хапаецца за стрэльбу. Стрэльбы няма. Калышуцца сьнежныя туманы, ў вачох, рассоўваюцца, разыходзяцца, растаюць...

Праступае абшмальцаваная маціца са старадаўным суком...

У хаце гутарылі.

Лаўрэн павярнуўся на бок і глянуў на хату. За сталом сядзеў брыгадзір першай брыгады, перад ім ляжаў капшук з махоркай. Брыгадзір скручваў цыгарку рудымі, абкуранымі пальцамі. Ён убачыў сівую, ускалмачаную галаву Лаўрэна, які выглядаў з-за каптура печы, і ўсьміхнуўся:

— Чаго ты там, дзядзька Лаўрэн, бубніў на печы?—спытаў ён. Васельле ўва сьне бачыў, ці што?

— Васельле!—адказаў Лаўрэн.—Сем пар чартоў жаніліся.

— Ага!—сказаў брыгадзір.—А я да цябе па справах прыйшоў.

— Добра,—адказаў Лаўрэн і сеў на печы.—Якія там, такія справы?

Брыгадзір памаўчаў. Цыгарка тлела пад яго рудаватым вусам.

— Трэба на лён пераключыцца, дзядзька Лаўрэн,—сказаў ён нарэшце.—Вось якія ў мяне справы. Ты ўчора на сходзе ня быў?

— Ня быў.

— Табе сёньня трэба ў вячэрнюю зьмену лён трапаць ісьці ў Гаўрылаў ток. Штурм абвясьцілі мы. Каб да новага году ўвесь лён што да крошкі ўправіць. Так што зьбірайся над вечар. А я пайду, трэба яшчэ ў пару мясцоў зайсьці.

— А на стайні хто будзе, калі мяне на лён?

— Мы да Міколы хлапчукоў дадамо на час штурму. Ты-ж у нас галоўны сьпец на лён. Так што табе, дзядзька Лаўрэн, прыдзецца на гэты час ударна папрацаваць.

Брыгадзір устаў з-за стала і накіраваўся да парогу.

І толькі тады Лаўрэн зразумеў, што ўсё гэта для яго азначае.

— Слухай, Яўхім,—сказаў ён рашуча.—Я трапаць лён не пайду.

— Як гэта так?—зьдзівіўся брыгадзір.

— Не пайду і ўсё. Я да стайняў прыстаўлены. Я старшы конюх.

— Ён лепш на паляваньне пойдзе,—уставіла Тэкля.—Праз ноч.

— Хай сабе і на паляваньне, ты не ўтыкайся! Мне трэба і на паляваньні свой паляўнічы плян выканаць. На трыццаць пяць рублёў пушніны. А я праз зіму трох паганых зайцоў забіў, ды вось, нядаўна, ліса. Не з маім здароўем праз ноч лён трапаць!

— З яго здароўем толькі праз ноч па лесе цягацца!—азвалася Тэкля.

— Не ўтыкайся, кажу!—у гневе закрычаў Лаўрэн.—Не твайго розуму справа! Старое ты каромысла, каб цябе чэрці пабралі!

— Як сабе хочаш,—сказаў брыгадзір.—Як хочаш. Я старшыні абавязаны далажыць, а вы там сабе як хочаце разьбірайцеся. Бы-

вайце здаровы ўсе! Толькі яшчэ хачу сказаць, дзядзька Лаўрэн, табе, як ударніку гэтак рабіць няпрыгожа.

— Чаго няпрыгожа! Я не дзяўчына! Мне замуж ня выходзіць! Ня прыгожа, дык і ня прыгожа!

Дзьверы за брыгадзірам зачыніліся.

— А прападзіце вы ўсе ад мае галавы!—зазлавана сказаў Лаўрэн і лёг на печы ніцма.

Так ён ляжаў некаторы час і няпрыкметна заснуў. Прачнуўся, як і заўсёды, над вечар. У хаце было напаўцёмна. Тэкля нешта перастаўляла каля печы. Лаўрэн абмацаў каля сябе валёнкі і зьлез.

У гэты час расчыніліся дзьверы і ў воблаку марознай пары зьявіўся Васіль.

— Добры вечар, дзядзька Лаўрэн,—сказаў ён падыходзячы адразу да Лаўрэна.—Абувайся цяплей, на таку зімнавата!

Васіль прысеў насупроць Лаўрэна на маленькі ўслончык.

Лаўрэн паглядзеў на яго.

— А чаго я там ня бачыў на таку?—спытаў ён сурова.

— Значыць не зьмяніў рашэньня?—спытаў Васіль.—Ня пойдзеш на ток?

— Не пайду.

— Значыць у злосныя зрыўшчыкі запісаўся? У адзін рад з Перапечкам стаў? Тут штурм, тут усе і старыя і малыя на работу сталі, а ты, дзядзька Лаўрэн, ударнік, і ў прагульшчыкі пайшоў? У зрыўшчыкі? У кулацкую агэнтуру.

— Як гэта так, у кулацкую агэнтуру?—устаў Лаўрэн.—Што ты гэта кажаш? А? Хто коням на ногі паставіў? Хто варанога гадаваў? Хто з саду прыбытак здабыў? Ці ня я гэта, як кажуць, і з сахой, і з касой першым усюды быў? А мне, як патрэбна паляўнічы плян выканаць, дык і ў ночы спакою не даюць?

— Як апрацуем лён—хоць два тыдні і ў дзень і ў ночы хадзі.

— А мне цяпер патрэбна.

— А цяпер нельга.

— Тэкля, запалі лямпу,—сказаў Лаўрэн.—Слухай, Васіль, малады ты чалавек! Зразумей ты мяне старога... Не магу я цяпер сваё паляўнічае шчасьце, як кажуць, удачу сваю выпусьціць!

— Якое гэта шчасьце? Што ты кажаш, дзядзька Лаўрэн?

— Ат!—Лаўрэн махнуў рукою.—Ты паслухай!

І Лаўрэн пачаў апавядаць аб тым, як ён знайшоў нару выдры, што гэта для яго, як для паляўнічага, азначае, і як ён намерыўся выкарыстаць грошы, якія ён атрымае за скурку забітай выдры.

— Прыёмнік!—жахнулася Тэкля.—А бож-жа-ж мой! Што больш чалавек на сьвеце жыве, дык больш дурнее! А бож-жа-ж мой!

— Сьціхні, Тэкля!—сказаў Лаўрэн.—Не твайго розуму справа!

Васіль працягнуў руку і дакрануўся да пляча Лаўрэна.

— Я цябе зразумеў, дзядзька Лаўрэн,—сказаў ён.—Я, брат, гэта ацаніў як належыць. Але цяпер нам ня час гэтым займацца. Фабрыкі чакаюць на сыравіну. Зразумеў? Гэта мне так і сказаў сакратар партячэйкі, так задачай і паставіў. Каб не сарваць плян фабрыкам, мы па-

вінны зараз-жа выканаць пляны ільнозагатовак. Наш калгас буйнейшы ў раёне. Ад нас залежыць многае. Кулацтва па калгасах агітуе каб затрымаць лён, каб разбазарыць яго, прадаць спэкулянтам. Учора і Перапечка гэтае-ж самае на сходзе крычаў. Мы яго выключылі. Увесь калгас арганізаваўся на работу як ніколі яшчэ! Самы адказны момант, дзядзька Лаўрэн, а ты гэтага ня хочаш разумець і ідзеш у прагульшчыкі. На гэтым кулацкая агэнтура спэкуляваць будзе, ты на руку кулаку граеш, а ты лепшы ўдарнік!

— Ты мяне не агітуй, як гэта кажуць,—сказаў Лаўрэн.—Я ведаю, што мне рабіць. Хопіць у вас сілы... А я на стайні буду як і раней, а калі мне ўдасца—радыю здабуду для калгасу. Не для сябе, для калгасу начэй ня сплю! От што! А ты гэтага не разумееш сам, а мяне ў дурні ўпісваеш!

— Не патрэбен нам цяпер прыёмнік!—зьнецярпліўіўся Васіль.— На чорта прыёмнік, калі патрэбна працаваць, каб не падвесьці дзяржаву. Загад партыі дадзены, а ты ў балота? Ударнік! Калі ты заб'еш выдру, дык за яе прыёмніка ня купіш, ды наўрад ці заб'еш яшчэ!

Лаўрэн шпурнуў нагой ката, які аціраўся аб валёнку, і выйшаў на сярэдзіну хаты.

— Не заб'ю, кажаш, выдры?—перапытаў ён.—Не заб'ю? Пабачым!

— Увесь свой аўтарытэт у калгасе псуеш, дзядзька Лаўрэн,— сказаў Васіль устаючы.—Мы цябе за разлажэньне дысцыпліны таксама па галоўцы не пагладзім. Справа сур'ёзная!

Але Лаўрэн ужо апранаўся, не зьвяртаючы ўвагі на тое, што гаварылі да яго Васіль і Тэкля. Ён схапіў стрэльбу са сьцяны і выйшаў з хаты.

— Пабачым, ці заб'ю ці не!

Лаўрэн ішоў сьцежкай да ракі. Ён адчуваў моцную крыўду.

●

І яшчэ адну ноч сядзеў Лаўрэн у рэчышчы завеяным сьнегам.

Ад самай раніцы ў калгасе грукаталі ільномялкі. Папярэдне гэтаму ўсю ноч курылі дымам сушні. Распачаўся штурм. На работу былі вызначаны ўсе, хто толькі мог працаваць. Работы былі арганізаваны бесьперабойна, круглыя суткі.

Рэха даносіла грукат ільномялак. Плыў дым па гародах ад сушняў і лазьняў. Гоман разносіўся па калгасным пасёлку ў гэты марозны дзень.

Лаўрэн доўга стаяў на памосьце ў парозе стайні, прыслухоўваючыся да таго, што дзеецца на гумнах. Ён адчуваў пульс гарачай, ударнай работы. Злосьць раставала. Узамен яе нараджалася пачуцьцё вінаватасьці перад Васілём, перад брыгадзірам, перад усім калгасам. Там працуюць людзі. Там патрэбны рабочыя рукі. Мала ў калгасе такіх спэцыялістаў мяць лён, як ён, Лаўрэн. А ён— адмовіўся ад работы. Што скажуць калгасьнікі?

Лаўрэн сышоў з памосту і накіраваўся па сьцежцы да дому. У стайні гулка разьлягаўся голас Міколы, які крычаў на коняй.

Увесь калгас дружна працуе на ільноапрацоўцы. Праўленьне здолела арганізаваць людзей. Усе, і старыя і малыя, на рабоце. Важная работа, адказная. Трэба забясьпечыць сыравінай фабрыкі. Так і сказаў сакратар партыйнай ячэйкі. Але вось Лаўрэн, лепшы ўдарнік калгасу, заняты іншымі справамі, якія яшчэ невядома чым скончацца. Васіль расцэньвае гэтыя справы як прагул. А прагул—на руку кулаку, гэта зусім відавочна, бо тады, калі прагул становіцца масавым, падае дысцыпліна, падае вытворчасьць, развальваецца гаспадарка, тады кулак можа красьці, расьцягваць, ірваць...

Што гэта было-б, калі-б цяпер усе калгасьнікі пайшлі на паляваньне ў карысьць калгасу?

— Ня ўсе пайшлі, я адзін пайшоў,—суцяшае сябе Лаўрэн.—Такая справа здарылася. Абыйдуцца і без мяне. Што я адзін на ўвесь сьвет работнік, ці што? Я ўжо стары, мне ўжо ў пару і на печы ляжаць!

Але гэты довад суцяшае мала. Яшчэ там, у рэчышчы, адчуваў Лаўрэн сябе ніякавата. Нешта неспакойнае варушылася ў глыбі яго істоты. Цяпер яно перарасло ў адчуваньне простай неабходнасьці ісьці і далучыцца да іншых, стаць за стаяк і паказаць моладзі, як гэта патрэбна сапраўды па ўдарнаму трапаць лён. Адчуваньне вінаватасьці, бязьдзейнасьці, лодырніцтва—расло. Тое, чым жыў Лаўрэн за апошні час, губляла сваю прывабнасьць, адступала прэч, і Лаўрэн ужо з высіленьнем адшукваў апраўдальныя довады. Іх ня было.

— Не заб'ю, кажаш?—мармытаў Лаўрэн.—Ах, ты, сукін сын!

Але і адчуваньне гэтай крыўды не магло раззадорыць Лаўрэна, і немагчыма было пачэрпнуць, знайсьці ў гэтым патрэбную упэўненасьць у сваёй праваце. Бо і крыўды ўчорашняй не адчуваў Лаўрэн.

Грукаталі ільномялкі на гумнах. Гоман галасоў даносіўся адтуль.

— Ах, каб цябе трасца!—шаптаў Лаўрэн.—Ах, каб цябе-ж трасца!

Адчуваньне адарванасьці, адзіноцтва і пустаты было ўсё больш глыбейшым. Здавалася Лаўрэну, што і рукі яго лішнія, пустыя рукі непатрэбна боўтаюцца ўздоўж тулава. Пусты Лаўрэн стаў. І без яго цяпер ударна працуе калгас.

— Ах, каб цябе-ж трасца!—шаптаў Лаўрэн, павольна брыдучы сьцежкаю.—Ах, каб цябе-ж трасца! От навязалася ліха на маю галаву! І Тэкля нават пайшла на ток... От яно як... Што-ж тут рабіць?!

І, магчыма, ня прышоў-бы так хутка Лаўрэн да сталых вывадаў, але як толькі выйшаў ён на вуліцу, сустрэў доўгавязага Сідара Перапечку.

— Здароў, сусядок!—запішчаў той, махаючы рукамі.—А я цябе, сусядок, шукаў. Быў у хаце—зачынена. Хацеў ужо на стайню па цябе ляцець. Я да цябе, Лаўрэнка, сусядок, калгасьнічак ты мой, справу маю!

— Якую справу?—насьцярожана спытаў Лаўрэн. Ён ніколі ня быў з Сідарам у добрых адносінах, а ад тэй пары, як Сідара пачалі то на тым, то на другім у калгасе прыкмячаць, ня гледзячы на тое, што Сідар меў шматлікую радню і апіраўся на многіх яшчэ калгасьнікаў—

ня раз выступаў Лаўрэн проста перад сходам і патрабаваў выключэньня Перапечкі з калгасу.

— От якая справа, сусядок ты мой,—пяяў Перапечка, вымяраючы цыбатыя крокі побач з Лаўрэнам.—Справа такая, браток ты мой, што мяне ўчора з калгасу выключылі. А за што выключылі? За пару слоў выключылі! Нічога я там дрэннага не сказаў, і трэсьні мае вантробы, каб я з гэтага месца ня сыйшоў—і на душы нічога дрэннага ня меў. Сказаў толькі, што не пайду праз ноч па гэтым ільне лупіцца... От і ўсё! А мяне выключылі!

Перапечка хутка зазірнуў у твар Лаўрэну.

— А тут я чую, што і ты не пайшоў на лён. І правільна. Дзе тут з нашым здароўем гэткую работу валачыць! І каб гэта для сябе яшчэ, а то няма ведама каму гэты лянок пхаць! От што, сусядок ты мой!

— Дык што ты ад мяне хочаш?—панура спытаў Лаўрэн.

— Мне, браток, тут паперку добрыя людзі напісалі. Абскарджаньне. Сям'я вялікая, дзеткі мае малыя, а мяне з калгасу вон, няма ведама за што... Я сёньня ўвечары ў раён паеду. Хадайнічаць. Дык ты, Лаўрэнка, браток, напішы на паперцы, што я правільна сказаў, што старыя мы з табою на такую работу, слабыя... Табе павераць, пра цябе-ж столькі разоў газэта пісала, і партрэт твой з жарабком... Так што напішы, што і табе гэтая работа не па плячу, што цяжка, бязумоўна, але калі патрэбна, дык пастараемся, і скажы, што па злосьці чалавека выкінулі з калгасу! Дай сваю паруку, Лаўрэнка, сусядок!

Лаўрэн раптоўна спыніўся.

— Ня дам я табе ніякай парукі,—сказаў ён з абурэньнем.—Варта табе, сукінаму сыну, шкодніку, от што! Пайшоў прэч ад мяне! Хто коняй быў да абуха дабіўшы? Хто рукі аб калгаснае дабро грэў? А на баку ня ты ўсё лета праляжаў?

— Я гультай?—замахаў рукамі Перапечка.—Я гультай? А ты хто? А ты па паляваньнях ня ходзіш? Га? Як Сідара дык за гэта вон з калгасу, а як-якому Лаўрэну, дык усё дазволена? Што? Ты мне не кажы!

«Кулацкая агэнтура спэкуляваць будзе»—успомніў Лаўрэн словы Васіля.

— Пайшоў прэч ад мяне!—крыкнуў Лаўрэн на ўсю вуліцу.—Чаго ты, вужачая выпоўзіна, прычапіўся!

Перапечка азірнуўся, зьёжыўся і, крыва ўхмыляючыся, падыбаў прэч. Лаўрэн некалькі часу глядзеў яму ўсьлед, потым зазлавана плюнуў і завярнуўся да сваёй хаты.

Ён аж да самага вечару ляжаў на печы, панура аглядаючы зярністы, як крэмень, сук у маціцы. І нават сон ня ішоў да яго. Калі ўжо цямнела, прыйшла з работы Тэкля. Тады Лаўрэн зьлез з печы і, апранаючы кароценькі кажушок, сказаў:

— Прыстрой мне, Тэкля, чаго нібы пад'есьці. Сёньня на нач пайду лён трапаць.

— Ну, от і добра, Лаўрэнка!—ўзрадавалася старая, але Лаўрэн заглавана абрэзаў:

— Не твайго розуму справа!

І выйшаў з хаты.

●

Пад пушыстымі шапкамі гурбаў нахіляецца гонкі лазьняк. Сінявата-белы, сыпкі сьнег ляжыць усюды, і толькі чыстае, чорнае неба выразна адцяняе лініі берагавых абрываў.

Лаўрэн узьняў галаву і паглядзеў угору. Зоры цясьніліся на недаступнай вышыні. Марознай будзе ноч!

Лаўрэн нахіліўся і выцягнуў палена з нары.

— Жыві,—сказаў ён з сумам.—Жыві, брат, выдра, калі такая справа выйшла!

І пабрыў прэч па сыпкім, глыбокім сьнезе, трымаючы палена пад пахаю.

Гэтае палена, прыйшоўшы да хаты, ён паклаў у акуратны кладок дроў на двары.

●

Лаўрэн умеў трапаць лён. Ён ніколі не перабіваў і ня блытаў валакна, ён ня сьцягваў у пакульле ценькае ніцьцё валаконцаў, ён не прапушчаў прысмальля, і самы несамавіты сырэц ператвараўся ў яго руках у добраякасную ільно-сыравіну.

— Добры лён!—сказаў Лаўрэн.—Забіяцкае валакно! Шызае!

І фокусна страхануў жменю. Цэлая мяцеліца кастры ўзьвіхрылася ў паветры. Лаўрэн перакруціў жменю і зноў страхануў. І зноў цэлы віхор кастры ўзьвіўся ўгору.

— От як трэба,—сказаў Лаўрэн.—Усю кастру за адзін раз вытрас. Паспрабуйце, маладыя!

Маладняк заўзята часаў трапачкамі, час ад часу паглядаючы на Лаўрэнаву работу. Лаўрэн-жа працаваў так, як рэдка хто ўмее.

У куце току, паглынаючы трасту, грымела валікамі ільномялка. Разгарачаныя работай, завіхаліся людзі, зрэдку перакідаючыся кароткімі слоўмі. Ток быў ясна асьветлены. З дзесятак лямп было паразьвешана па сьценах і па маціцах. Сьветла было на таку, весела ад шпаркіх рухаў, ад гонкай, ударнай работы.

І гэтая, радасная і лёгкая, дружная работа дружнай сям'і ні ў якім разе ня была падобна да тэй нечалавечай працы ў цёмным таку, дзе двое-трое людзей, нявыспаныя, стомленыя, грукалі цяжкім дрэвам мяліц-казлоў, грукалі праз ноч, адтрасаючы свае грудзі і косьці рук, грукалі да сямі патоў, да болі галавы, да адрантвеньня. Слаба сьвяціў тады адзінокі саганец, чорныя цені поўзалі над ім, душачы мізэрнае сьвятло яго, і бясконцава цягнулася зімовая ноч, і бясконцава грукалі мяліцы, і маўчалі, працуючы, людзі, маўчалі панура, бясьсільна, прыціснутыя ўтомай, адзіноцтвам, прыкрай работай.

Поўзалі цені па сьценах. Без канца цягнулася ноч... Маўклівая, панурая ноч.

Так было раней.

А цяпер—малады ўзьлёт працы. Цяпер нават і цені ночы выгнаны з асьветленага току. Цяпер шасьцівальная ільномялка грыміць чыгуном у таку. Цяпер хутка, весела і шчыра працуюць людзі. Напорыста працуюць, ударна працуюць. І вязка за вязкай ільновалакна кладзецца паўз сьцяну.

Гэтую розьніцу лепш за іншых адчуваў Лаўрэн.

І малады задор ахапіў яго як і заўсёды, з тэй самай пары, як выйшаў ён упяршыню на поле з калгаснай брыгадай. Лаўрэн узмахнуў трапачкай і гучна, па маладому, выкрыкнуў:

— Хадзі весялей, першая брыгада!

Сьмехам, жартамі, выкрыкамі адказала яму брыгада. Узмацніўся шолах, гучней загрымела машына, хутчэй пачалі працаваць людзі.

І тады—ў адказ Лаўрэну—з кута крыкнулі:

— Выклікаць на спаборніцтва другую брыгаду!

І Алёна дадала:

— Паслаць туды дзядзьку Лаўрэна!

Лаўрэн уткнуў трапачку ў кастру і на ўвесь ток загарлаў:

— На пуд валакна! Правільна?

— Правільна!—у адзін голас адказала брыгада.

Лаўрэн абтрос ад пылу шапку, паправіў пояс і пайшоў вон з току. І тут спаткаўся з Васілём.

— Ты тут?—спытаў Васіль.

— Тут!—адказаў Лаўрэн.—Іду другую брыгаду на пуд лёну выклікаць. Хадзі разам. Хадзі, хадзі... Нікуды Алёна не падзенецца. Мышы яе з току ня выцягнуць!

Ён узяў Васіля за рукаў, і яны пайшлі па сьцежцы, па гародах, туды, дзе ў глыбі ночы бліскаў агоньчык току, дзе працавала другая брыгада. Агоньчык здаваўся далёкім, але на самай справе было блізка, і пакуль Васіль з Лаўрэнам дайшлі да току, адбылася кароткая размова.

— Дзядзька Лаўрэн!—сказаў Васіль.

— А!—азваўся Лаўрэн.

— Табе душа па выдры ня стогне?

— А што, хіба стогне?—спытаў нездаволена Лаўрэн.—Калі ты ўчуў што, да стогну падобнае, дык ты, галубок мой, памыліўся.

— Эх ты, паляўнічы!—засьмяяўся Васіль.—Паляваў, паляваў і ня ведаў, што на выдру паляваньне забаронена!

— Ну, ты!—Узрадвана сказаў Лаўрэн.—Цяпер выдумляй!

— Я табе зусім сур'ёзна кажу. І за скурку яе ты прыёмніку ня купіў-бы. Выдра каштуе шэсьцьдзесят пяць рублёў!

— Ну, ты гэта ўжо брэшаш! Апанас у дваццаць восьмым годзе аж дзьвесьце рублёў узяў! Гэта табе не абы што!

— Я ведаю гэтую справу,—сказаў Васіль.—Ён прадаў спэкулянту. Спэкулянт табе і трыста заплоціць. Бо ў другое месца куды

завязе, і чатырыста зрэжа. Гэта таксама не абы што, дзядзька Лаўрэн! Гэта прыватны капітал! Ты і разьбірайся!

Некаторы час яны ішлі моўчкі. Потым Лаўрэн спытаў.

— Слухай, Васіль. А чаму ты мне гэта раней не сказаў? Тады, скажам, як мы з табою сварыліся?

— Я табе сказаў-бы ўсё роўна,—усьміхнуўся Васіль,—але я вырашыў так. Калі ты ўпёрся, як вол у гару, дык пасядзі яшчэ пару начэй. А потым-бы мы цябе званьня ўдарніка пазбавілі за прагул, і тады-б я табе ўсё і сказаў.

Васіль пакляпаў Лаўрэна па плячы.

— Але ты ўдарнікам быў, ударнікам і застаўся. Табе калгасныя інтарэсы за свае даражэй. Так я разумею, дзядзька Лаўрэн?

— Ты мне тут выкрунтасы не закручвай,—сказаў Лаўрэн.—Я ведаю, што ў цябе язык на масьле.

Яму было, невядома чаму, крыху аж крыўдна. Але гэтае адчуваньне хутка зьнікла, бо яны ўвайшлі ў ток.

Машына маўчала. Каля яе завіхаліся людзі.

— Жменя валакна ў валікі ўблыталася,—растлумачыў брыгадзір.—Не дагледзілі.

— То і вароны,—сказаў Лаўрэн.—Машына табе ня конь. Скажаш «тпру», ня стане. Гэта я да слова. Для таго, каб гутарку распачаць. А справа такая. Брыгада мая, праўда, адзін жыдкі маладняк. Але выклікае вас на спаборніцтва. Вы тут сабе разблытвайцеся як хочаце, але каб пуд лёну на працу паставіць, матары вашай агурок, як казаў мой дзед нябожчык, набожны чалавек—некалі разам з дзяком абразы працаў.

Дружны сьмех грымнуў у таку.

Выклік першай брыгады быў прыняты.

●

Пад прыўзьнятай крышкай апарату сьвецяць дзіўным, празрыстым сьвятлом лямпкі. Нязвыклы, крыху чужы бляск, як намаляваны на чорных гузіках з боку апарату.

І Лаўрэн папросту баіцца да ўсяго гэтага дакрануцца.

— Гэта радыё-прыёмнік,—кажа Васіль.—Чатырохлямпавы. Вось тэта настройка. Гэта—рэастат накалу. Калі яго пакруціш—уключаецца прыёмнік. Ён пачынае работу. Тады, ты зьлёгку пакручваеш настройку.

Лаўрэн усхвалявана аглядае апарат.

— Ну, спрабуй!

Гучная музыка ўрываецца ў навушнікі. Урачыстая, магутная сымфонія бушуе, скаваная мэмбранай. Яе ня зусім разумее Лаўрэн. І ён усё гэта ўспрымае па свойму.

Над прасьцягамі палёў, над соннымі лясавымі масывамі ў гэты ночны час, у зімным сьвятле зор з шэлестам імкнуць электра-магнітныя хвалі і нясуць на быстралётных крыльлях сваіх галасы краіны. І адзінокая антэна над дахамі калгаснага пасёлку, згубленага ў поль-

ных прасторах, ловіць гэтыя хвалі. Цудоўны апарат пературарае іх у музыку, у жывое, чалавечае слова.

І Лаўрэн чуе тое, што дзеецца за сотні вёрст ад калгасу.

Хвіліну сядзіць Лаўрэн у адрантвелым захапленьні. Потым, нясутрымная радасьць ахоплівае яго істоту. І ён хоча крыкнуць на ўвесь голас і хоча, каб голас яго ператварыўся ў нішто, там, у надземных вышынях, каб даляцеў ён да далёкіх гарадоў і каб людзі ўчулі і зразумелі Лаўрэнаву радасьць, учулі:

Што калгас перавыканаў да тэрміну ільнозагатоўкі.

Што калгас прэміяваны на дзьве тысячы рублёў.

Што маладзёжная Лаўрэнава брыгада ў апошнія суткі работы працавала тры зьмены без адпачынку.

Што новая стрэльба вісіць над Лаўрэнавым ложкам.

Што прыёмнік стаіць у канцэлярыі калгасу.

Вось дзе яно, тое шчасьце.

Полацак, 1933 г.

**Янка Скрыган**

# СТАРАСЬЦЬ

З КНІГІ „СМАГА“

*Скульптару—*
*Заіру Азгуру*

1.

Скульптараў дзень быў пачаўся так:

Ён доўга дамагаўся нейкага таемнага завяршэньня формы, каб фігура набыла душу. Пальцы сьлізгаліся, то прыкладаючы, то сьціраючы гліну. З кожным разам фігура набывала новы характар, але ўсё ня той, якога шукаў скульптар. Пальцы пачыналі хвалявацца. Але, урэшце, апошні мазок успыхнуў. Скульптар таропка адышоўся спатыкаючыся на табурэтку. Малюсенькая, няпрыкметная рыска каля воч—і фігура пачала жыць. Гліна загаварыла.

Маршчынамі каля губ скульптар усьміхаецца і падыходзіць зноў. Але папраўляць больш нічога не адважваецца і толькі беражліва ўкрывае мокрым рызьзём. Няхай правяне, а ён лепш зробіць прагодку.

Гэта ўсётакі вялікая рэч—выйсьці на вуліцу і панесьці з сабою радасьць. І гэта ўсётакі добра, калі ў цябе радасьць да таго вялікая, што яе хочацца паказаць на людзі. От-жа няхай паглядзяць, і, калі хочуць, пазайздросьцяць чужому шчасьцю ад удала скончанае работы. Або няхай сабе і не заўважаць, і ўсёроўна песьня радасьці не паменшае. Як слаўна насіць яе тугую грузнасьць!

Халаднаватаю вадою з-пад крану скульптар вымывае рукі. У яго такі вялікі подым, што ён глядзіцца ў люстэрку. Але вось маршчыны ад губ, што былі асталіся яшчэ ад усьмешкі, паступова пераходзяць на лоб і там вырэзваюцца напружанымі складкамі. Ён прыгінаецца бліжэй да люстэркі і пільна ўглядаецца. Гэта ён даўно ня бачыў сам сябе і цяпер знайшоў новую трывожную прыкмету. Ад скроняў і да самае патыліцы тлустыя палосы сівізны. Да таго тлустыя і незнаёмыя, што нават здаюцца чужымі. Але ўсё-ж такі гэта свае, бо аж чутны пад рукамі.

— Няўжо так трагічна шпарка можа прыходзіць старасьць?— з жахам думае скульптар.

Складкі на ілбе камянеюць надоўга. Ад радасьці не засталося нават і сьледу—яна адляцела, як спадманная веянь. Але—старасьць.

Скульптар адыходзіць ад люстэркі, і то пачувае яе наяўнасьць. Грузнае, цяжкае цела. Таропкі, баязьлівы крок. Вяласьць. Раптам ён чуе, што і сярэдзіна ў яго ные, і рукі ўсёадно як чужыя. Дзіўна, значыць ён не заўважаў свае стомленасьці таму, што быў узрушаны, што арганізм жыў уздымам. Якая няўхільная лёгіка! Вот ляпіў і ня ведаў, што аддаў у гліну кавалак сябе. А самога сябе ўжо ня вернеш. Пагібель, таксама, як і росквіт, набывае інэрцыю, і ў яе ёсьць таксама свой подым. Страшна...

Скульптар доўга сядзіць задумаўшыся. У майстэрні пахне размочанаю глінаю. Каля сьцяны стаіць штук колькі парожных варштатаў. Відаць, што на іх таксама некалі мелася пачынацца работа—кавалкі гліны паўсыхалі на іх і патрэскаліся. Збоку валяецца патрушчаны гіпс.

Перад ім толькі што скончаная фігура прэе пад мокрым рызьзём. Але скульптар пераводзіць вочы на другую, што стаіць у кутку—высокую, пад белаю апонаю. Апона абцякае складкамі да таго тонкімі і спакойнымі, што фігура пад імі, здаецца, дрэмле, або, прытаіўшыся, марыць. І ў гэтай белай спакойнасьці яна здаецца зданьнем.

Скульптар глядзіць на фігуру доўгім, забытым позіркам. Рукі ляжаць на каленях, і крывая лінія сьпіны, выгнуўшыся, застыла. Гэта, забыўшыся, ён глядзіць у самога сябе. Адале паволі ўстае і баязьліва падыходзіць да зданї. Асьцярожным дотыкам рукі ён падымае край апоны, але больш не адважваецца. Гэтак хвілін колькі стаіць, адале рыўком выкідае апону з рук і, над сабою падымаючы горб, таропка выходзіць з майстэрні.

На апоне, выпушчанымі складкамі, асталіся папялець сьляды пальцаў.

## 2

Праходка трохі заспакоіла скульптара. У сквэры ён адшукаў сабе парожную лаўку. Ад дрэва падаў густы цень і на плечы прабіваліся ад сонца лапінкі. Капялюш скульптур паклаў каля сябе на лаўку. Па галаве плавала сьвежасьць ад ценю. Праляцеў матылёк. Людзі, праходзячы, забаўлялі ўвагу. Іншы раз вочы натыкаліся на характэрных тыпаў і ўглядаліся ў іх больш прычынна. А іншы раз яны хапаліся абы за каго і праводзілі да таго часу, пакуль форма чалавека ўжо прападала, а заставаліся адны толькіногі. Яны неяк дробна махаліся і сьмешна блыталіся адна за адну. Адале на гэты сілуэт напльвалі іншыя, і ног рабілася калейдаскапічна багата.

— Гэта як у крывым люстэрку. Гледзячы адкуль у яго зірнеш. У суб'ектыўным акуляру ўспрыйманьня одэтак пачварна можа крыўляцца ўсё чалавечае жыцьцё. І папробуй знайдзі тады той пункт, адкуль можна было-б глядзець на яго правільна,—падумаў сам сабе скульптар і хацеў усьміхнуцца. Складкі сабраліся толькі па адным краю губ.

Адале скульптар пайшоў далей па вуліцы. Сонца пакошвалася на вечар і пачынала вышчэрбвацца аб рубцы камяніц. На ходніках

раставала сьцякота і людзі варушыліся гусьцей. Толькі на Карла Марксавай вуліцы ад іх паслабчэла.

Раптам збоку пачулася чужое захлібістае дыханьне. Па вуліцы, пераганяючы адзін аднаго, прабеглі два фізкультурнікі. У памяці выразна зафіксаваліся іхныя косыя постаці. Гэтак-жа нарапкам прабеглі і яшчэ тры фігуры. Скульптар зьдзіўлена азірнуўся назад. Адтуль паказваліся новыя бягуны, абганяючы вуліцу і што-раз гангчэй закідаючы крок. На ходніках пачынала гусьцець людзей.

— Бягі. На спаборніцтва,—падумаў скульптар і пачаў прыглядацца да фігур больш прычынна.

Неўзаметку ўвага перарасла ў цікавасьць. Чужая напружанасьць перадалася яму. Скульптар гарачкава хапаўся зрокам за кожную фігуру і ўпіваўся ў яе магнэтычна. Нават не заўважыў, як сышоў з ходніка прабіваючыся на сярэдзіну вуліцы. Людзі беглі напорным, замашыстым крокам, і на косым сьвятле адвячоркавага сонца адпалітуроўвалася бронзавая рытміка іхных мускулаў.

Скульптар узрушыўся. Ягоны твар успыхнуў і на нэгатыве воч перакуленаю праэкцыяй загарэўся адлюстровак вонкавага сьвету. Ён знайшоў той пункт, адкуль правільна можна было сузіраць чужое жыцьцё.

Ён бачыў усяго чалавека, пачынаючы ад маленства і канчаючы ягонаю старасьцю. Вось крохкае дзяцінства з першымі баязьлівымі крокамі. Адале гарэзнасьць, дурасьлівая бесклапотнасьць, гады залатога вучнёўства. І памалу, зусім няпрыкметна, чалавек афармляецца ў даросласьць. Сьвет пачынае ўскладняцца, шырэць. Паяўляюцца першыя сумлівы, жаданьні, доўгія, шчымлівыя вечары лірычнае прагі. І аднойчы чалавек заўважае, як крута ён пайначаў, пайначалі вакол яго рэчы, разуменьні і нават дачыненьні да тых, што кагадзе былі сяброўкамі ў гульнях, а гэта няпрыкметна пасталі жанчынамі. Новым рупескам пачынае муляцца сьвет. Гэта бунтоўная, шырокая маладосьць хоча выліцца ў сталасьць. І вось чалавек ужо ўвесь—сьпелы, набраклы, як поўдзень. Ён ідзе радасны, поўны, нават ня ведаючы, дачаго лёгка насіць яму сваю дужасьць.

Вот бягуць яны перад ім. Скульптар глядзіць на гэтую бронзавую смугласьць і раптам бачыць новую, дасюль непазнаную, лёгкасьць. Гэта-ж ня проста спорт, якім займаецца вышпешчаны ў тупасьці ды ў лагодзе сьвет цывілізацыі, каб прабавіць свой час, а гэта-ж праэкцыя асэнсаванае дзейнасьці. Якая вялікая воля ў гэтай заўзятай гарэзнасьці. Вясна чалавечае сілы! Ім жыць яшчэ цэлую вечнасьць! Яны панясуць сваю дужасьць запалам разумнае дзейнасьці. Самым найбольшым правам твараць. Росквітам чалавечага дойлідзтва і мысьлі. Пакаленьне шчасьлівага часу і разумнага сэнсу жыцьця. Як буйна яны берагуць сваю маладосьць. І як прагна яшчэ хацелася-б жыць, каб разам з імі пайсьці ў іхнае заўтра. І каб мець хоць адзінае права—любіць і цалаваць одэтыя запечаныя губы чалавечае смагі. Жыць-бы чалавеку такім увесь век!

Але адсюль пачынаецца ўжо і старасьць.

Нэгатыў скульптаравых воч патухае. Ён думае пра старасьць і ў ёй бачыць самога сябе. Яна заўсёды, мабыць, прыходзіць да чалавека ня ў час. Тады, калі чалавек самашто пачынае ўваходзіць у мудрасьць. Калі ў самастойную сілу фармуецца мысьль. Прайшоўшы праз практыку ўласнага жыцьця і ўвабраўшы культуру папярэднікаў, яна робіцца іх завяршэньнем. І ў гэты час свайго росквіту павінна памерці, бо ў любую хвіліну можа памерці цела. Вось лёгіка разумнае дужасьці. І дужасьць трэба набіраць з маладосьці.

— Жыць-бы маладым чалавеку ўвесь век,—уголас паўтарае скульптар.

— Вы пра гэты парад?

— Але, пра парад.

— Глупства.

— Пра здаровага чалавека і пра разумную старасьць.

— Глупства,—матар'яльна важка намагаў голас.

Скульптар азірнуўся. Чалавек вырас не адразу. Ён паявіўся з-за локця высокім плячом і тонкім, скэптычным профілем твару. Скульптар паглядзеў на яго доўгім позіркам.

— Чаму вы хочаце абазваць гэта глупствам?

— Бо вы бачыце толькі адзін бок чалавека,—адказаў тонкі профіль.

— Як вас зразумець?

— Проста, больш пільна зірнуць вось на гэтую дзікасьць. Што вы бачыце разумнага ў заалёгічнай зайздрасьці адзін аднаго перагнаць?

— Я бачу разумнае ўдасканаленьне чалавека. Каб ён быў гардым прадуктам прыроды і разумным носьбітам яе.

— Каб ён быў дурнем?

— Я вас не разумею, малады чалавек.

— Манія! Вы разумееце, манія фізычнае сілы,—горача загаварыў спадарожнік.—Я ненавіджу. Бадай пагалоўна ўвесь маладзеж. Цэлыя дні на пляцоўках. Выпала ў яго вольная хвіліна, і ён ужо там. Мускулы сталі хараством. Загарэлае цела—модаю. Ні паэзіі, ні музыкі ім не патрэбна. Чума. І вы заўважалі: па вуліцы ідзе чалавек. Ён здаровы. У яго з каўняра выпірае шыя. І ён знарок надзяе майку, каб відаць былі біцэпсы. А папробуйце загаварыць з ім на любое пытаньне, якое-б выходзіла за межы ягонае прафэсыі, і ён нічога вам не адкажа. Вось яго хараство. Любуйцеся на ягоныя мускулы. Толькі не гаварэце з ім, бо ўсё хараство рыне, як камень у воду. Ён зусім аднабокі. Тупы, легкаважны, як тарычэлева пустата... Гэта вам другі бок чалавека. Дужы як бык, затое такі самы і дурны.

— Вы хворы,—коратка заключыў скульптар.—Вы ня бачыце цэлае эпохі. Вы ня бачыце самае разумнае эпохі, малады чалавек.

— Каторая бегае па вуліцах у трусіках?

— Каторая любіць сваю рэспубліку і жыве для яе.

— І гадуе ёй прымітыўных экспанатаў?

— І гадуе ёй самых лепшых людзей. Самых здольных.

— З пурытанскім духам і з мускуламі, што робяцца стылем эпохі?

— З ваяўнічым духам, з адважнаю воляю і з целам, у якім заўсёды будзе сьвежасьць. Яны перабудоўваюць нанава сьвет.

— Энтузіяст!—пагардліва абарваў спадарожнік.

Ён пачаў выпярэджваць скульптара. Скульптар глядзеў на яго спакойна. Чалавек быў доўгі, выгінасты, як буслава шыя. Ён насіў паласатыя майткі і на выпуск кашулю, тонка перахопленую паяском. З каўняра выбягаў гостры кадык. Галава на ім сядзела высока і на кожнай ступе, як у кітайскае лялькі, угіналася.

Адале відаць было, як чалавек закашляў. Ён кашляў захлібіста, і на гэты час відаць было, як загастрыліся ягоныя плечы і выгнулася тонкімі пазванкамі сьпіна. Тады ён сударгава выхапіў хусьцінку і абедуч паднёс яе да губ. Праз кашаль ён сплёўваў і корчыўся.

Раптам ён скульптару здаўся вельмі старым. Мізэрным, пакалечаным з паталёгічна разьвітым пачуцьцём пагарды. Такія людзі, звычайна, ненавідзяць тое, што самім ім хацелася-б мець. Яны ненавідзяць ад зайздрасьці.

— Вы занадта стары. Вы на шмат старэй за мяне, малады чалавек. Вы—сьмерць,—нагнаў яго скульптар.

## 3

Прабегла жаночая партыя. Іхнья грудзі заносіліся высока, напінаючы цела. Скульптару выдалася, як адна фігура настойліва выпярэджвала іншых. Яна вылучалася сілаю стройнае пругкасьці.

— Як Найда,—ажывіўся новаю іскраю скульптар.

— Каторая?

Скульптар:—Што выпярэджвае. Як мая Найда, каторую я выляпіў.

Спадарожнік:—Я-ж казаў—пурытанка.

Скульптар:—Якая харошая сьпеласьць. Ня цела, а—песьня.

Спадарожнік:—І яно бяз душы. У ім нават няма нічога таго, што завецца жанчынаю. Ні лірыкі, ні ласкі, ні інтымнасьці. Вы заўважалі, што няма пяшчоты каханьня? Яно засталося толькі ў паэзіі. Дзе пачуцьці? Няхай слабасьць, няхай лірычная ўтома. Гэта хараша. Каб перад вамі паўстала ўся жанчына. З гарачым дыханьнем свае прыроды. І я шукаю яе, от такое, сапраўднае, а не дэлегаткі, што носіць мужчынскую шапку і выграніроўвае мускулы. І я ня люблю гэтага цела, каторае страціла сваю інтымнасьць і выносіцца напаказ, як у цырку.

— Вы яе кахаеце?—раптам запытаўся скульптар.

— Я ненавіджу яе.

Скульптар:—Ад зайздрасьці. Што яна ня можа парабску належаць вам. Вы—эгаіст.

Спадарожнік:—Я лірык.

Абое змоўклі. Вуліца цякла людзьмі. Знаёмы прафэсар паказаўся збоку, але ён не заўважыў скульптара. Ён заўзята прабіваўся на-

перад, гледзячы недзе над галовамі і, то зьнімаючы, то надзяючы назад пэнснэ. Нехта зьнячэўку штырхануўся аб локаць, выбіваючы з рук капялюш. Нехта мігнуўся, перабягаючы вуліцу. На рагу, па панэлі, накульгваючы, адыходзіла ў бок дзяўчына. Яна была ў трусіках. За ею паявіўся мужчына. Ён злавіў яе за руку і ўзяўся за стан, памагаючы ісьці. Па сьценах сачылася сонца. На сьцягне і на трусіках ляжала густая паласа зямлі. Мабыць з ёю здарылася няшчасьце ў бягох. Мужчына хваляваўся і моўчкі прагавіта пытаўся пра боль. Але, праз боль, гледзячы ў вочы, дзяўчына ўсьміхнулася. Мужчына таксама ўсьміхнуўся, і ў вачох запалілася радасьць.

— Ідзеце пазычце ў іх лірыкі,—паказаў на іх спадарожніку скульптар.

Спадарожнік гарда выпрастаўся. З закладзенымі назад рукамі ён ішоў паперадзе скульптара і ступаў так, як бы ўвесь сьвет быў у яго пад нагамі. Тонка сьціснуўшы губы ён глядзеў на жанчыну пагардлівым зрокам, знарок спадылба.

Скульптар зьдзівіўся. Ён раптам пазнаў у спадарожніку нешта знаёмае. Маленькім крайком паказалася ў ім нешта сваё. У памяці адразу паўстала Найда. Свая, вылепленая, пад белаю апонаю. Тая, каторая стала ягоным дакорам, і каторае ён баіцца адкрываць, каб не глядзець на яе. Тады ён адразу пазнае одэты спадарожнікаў эгаізм—як свой—і крычыць яму:

— Вы яе ненавідзіце, бо любіце! Бо баіцеся, што ў любы час яна будзе ня вашаю! Хадзем! Я хачу паказаць вам таго, каго таксама ненавіджу, бо люблю, як сябе!

## 4

Яны ўзышлі па чыстых лесках ганку. Дзьверы адчыніла жанчына з тоўстымі галёнкамі і з шырокімі грудзьмі. У карыдоры запахла патрушчаным гіпсам. Каля сьцяны валяліся пабітыя бюсты. Бяз пальцаў з-пад нізу вытыркала рука. Паколаным жолабам напал распалася тулава. Адпалітураваная пад бронзу нечая галава ляжала шчакою ў падлогу, бялеючы краямі адбітае шыі і тлеючы пустатою, што заходзіла ў чэрап. Валяліся кавалкі фігур і нямелі руінамі. На іх закамянеў антыкварны пыл.

Спадарожнік хутчэй прайшоў у майстэрню. Пыстыня жудасьці спужала яго. Яна нагадвала чалавечыя трупы, над якімі яшчэ насілася дыханьне сьмерці.

У майстэрні адпачываў спакой. На сьценах віселі барэльефы, рэпрадукцыі антычных скульптур. З львінае шыі гарда глядзела галава Мікеля Анджэла. Статуі розных вялічынь і пастаў камянелі ў сваёй нярухомасьці. На варштатах стаялі забытыя работы, і недакончаныя іхныя рукі выглядалі абрубкамі. На падлозе, абсыпаючы гіпсавы попел, валялася пабітая маска дзіцяці. Прайшла жанчына, зачыняючы за сабою дзьверы. Галёнкі яе калаціліся і пад ступнёю, ад дзіцячае маскі, храбуснуў чарапок.

У кутку, ападаючы складкамі, спакойна высілася белая постаць. Скульптар распранаўся ўзрушана. Забыўшыся, ён надзеў балахон, так, як-бы зьбіраючыся стаць за работу. Адале агледзеўся і таропна скінуў яго.

Ён падышоў да постаці і схапіў за край апоны. Рука ў яго грэслася. Адале рэзкім махам ён рвануў яе, і апона апала.

Спадарожнік убачыў перад сабою жанчыну. Ён ніколі ня бачыў яшчэ такое харошае постаці. Жанчына зьбіралася купацца і на сонцы распраналася. У постаці бунтавалася маладосьць—буйная, урачыстая, як радасьць. Яна закінула рукі за голаў, ад гэтага цела наструнілася і было тугім і напятым, як песьня. Высока ўзьнёсшыся кіпелі грудзі, і ў пене сыскоў набракала смуга мацярынства, стаіўшы ў сабе, як музыку, вечна жаночую, вечна зазыўную прагу. Не, спадарожнік ніколі ня бачыў такое багатае чалавечае сьпеласьці.

— Найда!—ахрыплым голасам прагаварваў скульптар.

Ён стаяў трохі адкінуўшыся плячыма назад і таксама глядзеў, нібы бачыў яе ўпяршыню. Але, ён наглядзіцца на яе сёньня ўдоваль. Затое, што ня сьмеў датыкацца дасюль. Затое, што баяўся яе, як свае сьмерці. Ды яна-ж такі і сьмерць яго. Гэта-ж ён выляпіў яе, калі пачуў першыя прыкметы трывожнае старасьці. Ён выляпіў вобраз маладосьці, як сымбаль свае радасьці. Ён хацеў, каб пасьля, гледзячы на яе, цешыцца, а яна пачала яшчэ горш забіваць яго. Кожны раз, як глядзеў на яе, ён яшчэ больш гостра адчуваў сваю старасьць і паволі пачынаў пужацца яе. Гэта-ж у яго цяпер такая вялікая сіла тварыць. Такая багатая практыка і шырокая мысьль. І ўсё гэта рыне, таму, што знасілася цела. А перад ім от стаіць маладосьць—шырокая, буйная—і яму не пачуць яе. І ён паступова пачаў баяцца глядзець на яе, каб не адчуваць свае пагібелі, і аднойчы задушыў апонаю. Ён яе ўзьненавідзеў таму, што любіў, як лятунак. І от сёньня гэтае-ж пачуцьцё пазнаў у спадарожніка. Ён таксама ненавідзеў тую, што прабегла ў бягох. Бо любіў і, разам з тым, ведаў, што яна не ягоная ўласнасьць. Яна можа ў любую хвіліну ад яго адыйсьці і астацца чужым характвом. Гэта пэўна што так. Дык няхай от хоць тут паглядзіць на яе спакайней. Ён і сам наглядзіцца на яе сёньня ўдоваль.

— Найда!—зноў выхрыпеў скульптар.—У ёй уся мая радасьць. Я нарадзіў яе, як вобраз свае маладосьці, я аддаў ёй самога сябе. Я выляпіў і пацалаваў яе ў губы, і яны былі цёплыя. Я цалаваў у іх сваю цяплыню.

— Яна ня мае сабе падабенства!—азваўся спадарожнік.

— Я выляпіў ваш век, маладая асоба,—рэзка падняў руку скульптар.—Я шукаў гэтага дзіўнага цела праз усё сваё жыцьцё.

Я нарадзіў яго, як лятунак, а вам век нясе яго, як неадлучную частку свае быгнасьці. У гэтым вялікая розьніца майго і вашага часу, малады чалавек.

— Гэта толькі ў мастацтве,—працадзіў спадарожнік.—Мастацтва заўсёды было ідэалістычным.

— Для хворых. Як вы, і як я,—дакончыў скульптар.

Ён толькі цяпер выпусьціў з рук апону. Яна апала на дол і сталася. Паўзучы па падлозе да яе падкрадаліся зайчыкі сонца.

5

Пасьля яны абое маўчалі. Скульптар так і стаяў, забыўшыся. Спадарожнік няўважліва аглядаў іншыя работы. Па майстэрні сяды-тады чутны былі ягоныя павольныя крокі. Каля групы, што нагадвалі сабою тыраназабойцаў, ён суняўся і павадзіў па ёй пальцам. На фігурах асталіся палоскі ад сьцёртага пылу. Тыраназабойцы стаялі застыўшы і, аднойчы паднятыя іхныя кулакі, закамянелі.

Спадарожнік адвярнуўся, на губах пакідаючы скепсіс. У майстэрні адпачываў спакой. Збоку стаяла мальбэрта з недакончаным эскізам. Спадарожнік пайшоў да яго, але па дарозе суняўся. Зьнячэўку ён зірнуў у вакно і, раптам успыхнуўшы, кінуўся да яго, барабанячы ў шыбу.

— Аля!—крыкнуў ён на вуліцу, з трукам адчыняючы раму.

Чутно было, як абазваўся жаночы голас. Адале голас наближаўся і стаў каля вакна. Спадарожнік усім корпусам перагнуўся за падваконьніцу. Ён з некім там гаварыў і ягоны голас ажыўляўся запальчыва. Адале жанчына замоўкла і тады спадарожнік адышоў ад вакна, і на ягоным твары сьвяцілася раптоўная радасьць. Неўзабаве адчыніліся дзьверы, і ў майстэрню шумна ўскочыла дзяўчына. Яна ўварвалася, як вясновы дурасьлівы вецер—адразу парушыўшы спакой і напоўніўшы яго гаворкаю, рухамі—ахапкам здаровае сьвежасьці і звонкага сьмеху. Скульптараў пакой адразу загарэўся новым жыцьцём. Было падобна, што гэта ў яго ўлілася сама вясна—шырокая, неўгамонная, як урачыстасьць. І скульптар пазнаў, што ён бачыў дзяўчыну ў бягох. Гэта-ж тая самая Найда. Гэта-ж яна, ягоная маладосьць прышла да яго жывая. І якая шырокая яе непасрэднасьць!

— У вас тут цэлы музэй, прафэсар,—зьвярнулася яна да скульптара, гледзячы на майстэрню.

І, зноў-жа, разьліваючы па пакоі гарэзнасьць, пачала аглядаць скульптуры. Здавалася, яна хацела ўвабраць у сябе адразу ўсю галярэю. Шустрая, яна тарошка перабягала ад бюсту да бюсту, сунімаючыся толькі на хвіліну і быстра пранікаючы ў кожную дэталю. І па тым, як трапна яна рабіла заўвагі, скульптар узрушана бачыў, што ў гэтым яна разглядае яго, пазнае ягоную душу.

— А вось гэта ў скульптара ты,—паказаў спадарожнік на Найду.—Глядзі да чаго ты харошая.

Дзяўчына падышла да фігуры, на якую паказаў спадарожнік. Скульптар таксама стаў поруч і ягоныя маршчыны зноў загарэліся. Ён прагавіта сачыў за дзяўчынаю. Ён чакаў як зараз шумна разбырзьнецца гэтая стоеная радасьць чужога захапленьня.

— Я не хачу быць такою,—урэшце сказала дзяўчына, спакойна, яшчэ раз аглядаючы постаць.

Скульптар зьдзівіўся.

— Прабачце, вы хоч...

— Прафэсар (яна яго звала прафэсарам), у вас занадта багата Напалеонаў. Вы расставілі кругом сябе старадаўнасьць. Нават Найда ваша чужая, з антычнасьці. Прыгожае цела, і толькі. Гэтак трактавалі жанчыну ад самага пачатку нараджэньня мастацтва. А дзе-ж у ёй наша эпоха? Дзе душа новага часу? Вы жывяце адзельна ад веку, прафэсар. Вы хочаце жыць над клясамі і гэтым астаецеся ззаду. Вы ня бачыце сапраўднага чалавека, каторы непараўнальна багачшы за вашу мару. І ваша Найда няжывая, прафэсар. Чужая. Я не хачу быць такою.

Скульптар, здавалася, чуў яшчэ гэты просты, суровы голас, але дзяўчына ўжо гаварыла пра іншае. Яна зноў аглядала майстэрню і паказвала спадарожніку на рэпрадукцыі карцін школы Давіда. Адале клікала спадарожніка пайсьці разам на цікавую лекцыю прафэсара Граля. Яны туды сабраліся пайсьці цэлым гуртам. Спадарожнік адмаўляўся. Ён зноў апрануўся ў панурасьць і зрабіўся сутулы. Гэта зноў пачынала прабівацца нянавісьцю. Дзяўчына мела сваю самастойную іншую бытнасьць. Яна кіпела нейкім далёкім, яму непатрэбным жыцьцём. От так, на хвілінку толькі адчулася поруч, каб зноў адыйсьці і астацца чужою.

— Прафэсар!—акліканула яна скульптара.—Я хачу паглядзець яшчэ вашае новае Найды. Тую, каторую вы выляпіце з буры і з росквіту нашае радасьці. У каторай гарэцьме душа нашае сілы і прагнасьці. Ляпеце такую, прафэсар.

Яна пацiснула моцна скульптараву руку і вышла, такая-ж самая шустрая, звонкая, пакінуўшы за сабою шырокі пах маладосьці— гарэзная, буйная, як патокі вясновага шуму. Скульптар вышаў за ёю і, ужо адыходзячы, яна яму махала рукою крычачы, што яшчэ прыдзе паглядзець новае Найды. Відаць было як яна яшчэ раз паклікала спадарожніка, але той злосна адмахнуўся плячом. Адале ён зноў доўга і захлібіста закашляў. Ён тады скорчыўся і засьпяшаўся, каб дастаць хусьцінку. На прыгорбленай сьпіне відны былі крохкія вузлы пазванкоў. Скульптар паглядзеў на яго доўгім дакорлівым эрокам.

— Вы самі атруцілі сваю маладосьць.

— Пакіньце,—сярдзіта зірнуў спадарожнік.

— Плюгавец! Я бачу вашу заўчасную старасьць.

С п а д а р о ж н і к:—Крумкач!

С к у л ь п т а р:—Даганяйце жыцьцё, у каторым бунтуецца радасьць. Шануйце разумны сэнс свае бытнасьці, малады чалавек.

— Ідзеце да д'ябла!—абарваў спадарожнік і таропка пайшоў, гостра падымаючы плечы.

Дзень стаяў ціхі. Высока шклянела галубовае неба. Сонца пакошвалася на вечар, вышчэрбвалася аб рубцы камяніц і па сьценах абцекала ў рашчэрбіны вуліц. На доле раставала сьлякота, і людзі хадзілі ў ёй, топчучы дзень пад нагамі. На рагу паказаўся і зьнік, тонка празьвінеўшы, трамвай. Дзяўчына аддалялася, і яшчэ ўсё

відаць было, як сяды-тады хістаецца яе галубовая сукенка. Скульптар доўга глядзеў ёй усьлед, і маршчыны ля воч, што былі сабраліся ад цёплае ўсьмешкі, так і забыліся спльсьці. Яму здавалася, што яна яшчэ стаіць перад ім, сьмяецца бляскам сажмураных зрэнак, агаляючы на смуглявым аблічы да сьлепкасьці белыя зубы, а тады цісьне руку і порстка ідзе, дробна перабіраючы мяккімі балеткамі на загарэлых, цьвёрдых нагах.

Скульптар вярнуўся радасны, буйны. Майстэрня здалася яму шырокаю, поўнаю сонца і наплывам дзіўных, тонкіх пахошчаў. І ў гэтым новым, шырокім сьвятле фігура Найды здалася не сваею, далёкаю; яна нічога ня мела агульнага з жывою Найдаю, дыханьне якое яшчэ пачувалася ў кожнай драбніцы. І ён ужо бачыў, як гэты новы вобраз ён выляпіць—рэальны, нявычэрпна багаты, у катораым тарэцьме душа самага шчасьлівага, самага разумнага ў жыцьці пакаленьня. І недзе прапала, разьбілася ўдрызг нядаўная мулкасьць трывогі за старасьць. Скульптар адчуў цяпер новы сэнс яе— каб радзіць і натхняць маладосьць. Гэта-ж вялікая радасьць! У гэтым ёсьць свая непаўторная сіла і сваё хараство. І яна ўсёткі прыгожая, гэтая чалавечая прагнасьць датаго глыбока быць у жыцьці, каб нават ня ведаць, што недзе пачынаецца небыт.

г. Менск
Лістапад, 1932 г.
Сакавік 1933 г.

**Тарас Шаўчэнка**

# СОН [1]

**КАМЭДЫЯ**

*Духъ истины, его же міръ не можетъ пріяти, яко не видитъ его, ниже не знаетъ его.*

Іоан. гл. XIV, ст. 17.

У кожнага свая доля
І свой шлях шырокі:
Той муруе, той руйнуе,
Той нясытым вокам
За край сьвету зазірае
Ці няма краіны,
Каб заграбіць ды з сабою
Ўзяць у дамавіну;
Той тузамі абірае [2])
Ў яго-ж хаце свата,
А той спотайку ў куточку
Точыць нож на брата;
А той ціхі ды цьвярозы,
Богабаязьлівы,

---

[1]) Паэма ці камэдыя „СОН“ належыць да выразна-рэвалюцыйных Шаўчэнкавых твораў. За яе паэту давялося найбольш выцярпець, бо пад час арышту ў 1847 г. у яго была знойдзена гэта паэзія, пра яе даведаўся цар Мікалай І, бязьлітасна асьмеяны ў „СЬНЕ“, і прысуд у справе Кірыла-Мэтодзіеўцаў для Шаўчэнкі быў самы жорсткі.

Апісаньне прыгоннага падняволья, крытыка царату, зьедлівае высьмейваньне капрызаў і свавольства самаўладцы, ды рабскага паводжаньня яго прыслужнікаў—усё гэта спалучана ў „СЬНЕ“ з пашанай да ахвяр царскага ладу. Змагарамі за волю ў Шаўчэнкавым творы выступаюць апрача палітычных сасланцаў Сібіру (дэкабрысты, што паўсталі ў 1825 г. супроць царскага ладу) таксама прадстаўнікі украінскіх вышэйшых кляс з часу астатніх гэтманаў, што змагаліся з маскоўскімі царамі. Цераз год (1845 г.) у „Пасланьні да мёртвых, жывых і ненароджаных землякоў“ Шаўчэнка ставіцца ўжо цалкам негатыўна і да гэтманаў ды украінскага панства.

Шаўчэнка не спадзяваўся пабачыць „СОН“ у друку (ён першы раз зьявіўся заграніцай, значна пазьней), таму можа ня зусім пастараўся пра закончанасьць ды апрацоўку гэтае паэмы. Часткова дзе якая раскіданасьць твору тлумачыцца тым, што Шаўчэнка выбраў для паэмы форму сну—калі ў яве праходзяць розныя малюнкі, бяз пэўнай пасьлядоўнасьці.

[2]) Абгульвае ў карты.

Як та котка падкрадзецца
Выжджа нешчасьлівы
У цябе час, дый запусьціць
Пазуры ў пячонку—
І ня кліч ты: не ўратуюць
Ні дзеці, ні жонка;
А той шчодры ды багаты,
Цэрквы ўсё муруе,
Ды айчызну гэтак любіць,
Так па ёй гаруе,
Ажно з яго, небаракі,
Як ваду, кроў точыць!..
А ўся брацьця маўчыць сабе,
Вытрашчыўшы вочы!
Як ягняты: «Няхай!—кажа,—
Можа, так і трэба».

Так і трэба! Няма бога [1])
На зямлі, на небе!
А вы ў ярме падаеце,
Ды нейкага раю
На тым сьвеце благаеце?
Няма раю—знаю!
Шкада й працы. Схамянецесь:
Усе на гэтым сьвеце,—
Жабракі і цараняты—
Адамавы дзеці! [2])
І той... і той... Ну, а я што?
Вось што, мае людзі:
Я гуляю, банкятую
Ў нядзелю і ў будзень.
А вам нудна! а вам шкода!
Дальбог-жа, ня чую!
Ня крычэце!—Я сваю п'ю,
А ня кроў людзкую!

Вось так ідучы каля тыну
З банкету п'яны у начы,
Я меркаваў сабе йдучы,
Пакуль даплёўся да хаціны.
А ў мяне дзеці ня крычаць
І жонкі ня маю,—
Ціха як у раі,
Ўсюды божжа благадаць:
І ў сэрцы і ў хаце.

---

[1]) — І ў гэтым і ў іншых творах слова „бог“ Шаўчэнка ўжывае ў разуменьні—„справядлівасьць“, „праўда“.

[2]) Шаўчэнкава думка: усе роўныя—і цары, і жабракі.

Вось-жа лёг я спаці;
А ўжо падпіты як засьне,
Ды хоць з гармат страляці,
І вусам не маргне.

Дый сон-жа, сон, на-дзіва дзіўны
Сон мне прысьніўся:
Найцьверазейшы-б і то ўпіўся,
Скупы скарэда даў-бы грыўню,
Каб паглядзець на тое дзіва;
Ды чорта з-два!
Гляджу: так, быццам-бы сава
Ляціць лугамі, берагамі, ды нятрамі
Ды глыбокімі ярамі,
Ды шырокімі стапамі,
Пералескамі, ляскамі.
А я з ёю, ды за ёю,
Ляту й прашчаюся з зямлёю.

Бывай, сьвет! Бывай, зямліца,
Няпрыязны краю!
Мае жудасныя мукі
Ў хмарах пахаваю.
А ты, мая Украіна,
Гаротная ўдоўка!
Я ляцець да цябе буду
З хмары на гамонку,
На гамонку ціхасумну,
На раду з табою;
Апоўначы падаць буду
Густою расою.
Параемся, пасумуем,
Пакуль сонца ўстане,
Пакуль твае, маці, дзеці
На ворага стануць.
Бывай, родная мая ты,
Удава-нябога!
Гадуй дзетак: жыве праўда
У сьвятога бога!

Ляцім... гляну—ўжо сьвітае,
Край неба палае;
Салавейка ў цёмным гаі
Сонца сустрачае;
Ціхусенька вецер вее;
Стэпы, нівы дрэмлюць;
Між ярамі над ставамі
Вербы зеляненюць.

Пахіліліся сады ўдол;
Таполі паволі
Стаяць сабе, нібы варта,
Ды гамоняць з полем.
І ўсё гэта, ўся краіна,
Спавіта красою,
Зялянее ўмываецца
Дробнаю расою,
Спакон веку ўмываецца,
Сонца сустрачае...
І няма таму пачатку,
Няма яму краю!
Ніхто яго не дагледзіць
І не разруйнуе...
І ўсё так... Душа мая ты,
Чаго ты сумуеш?
Душа мая ўбогая!
Чаго марна плачаш?

Чаго табе шкода? Хіба ты ня бачыш?
Ня чуеш людзкога плачу, скрыгату?
Дык глянь, падзівіся! А я паляту
Высока-высока за сінія хмары;
Няма там улады, няма там і кары,
Там сьмеху людзкога і плачу ня чуць.
Вунь глянь,—у тым раі, што ты пакідаеш,
Латаную сьвітку з калекі зьнімаюць,
Са скурай зьнімаюць,—бо нечым абуць
Княжат недарослых. А вунь расьпінаюць
Ўдаву за падаткі, а сына куюць,
Удавы няшчаснай адзінага сына,—
Адзіну надзею,—ў войска аддаюць,
Бо войска, бач, мала. А вуньдзе пад тынам
Апухлае дзіце галоднае мрэ,
А маці пшаніцу на паншчыне жне.

А вунь—бачыш? Вочы! Вочы!
На што вы здаліся?
Чаму змалку ня высахлі,
Сьлязьмі ня зьліліся?
Гэта ля тыноў пакрытка [1])
З байструком вандруе—
Бацька й маці адракліся,
Й чужыя гањбуюць...
Старцы нават цураюцца!

[1]) Дзяўчына, якая спарадзіла няшлюбнае дзіцё.

А паніч ня знае:
З дваццатаю, недалюдак,
Душы прапівае! [1]).

Ці бог бачыць з-па-за хмараў
Нашы сьлёзы, гора?
Можа й бачыць, ды падмогі—
Як і з гэтых гораў
Векавечных, што паліты
Крывёю людзкою!..
Душа мая ўбогая,
Горанька з табою!
Уп'ямося атрутаю,
Ў крызе ляжам спаці,
Пашлём думу аж да бога,
Яго распытаці:
Доўга йшчэ на гэтым сьвеце
Катам панаваці?

Ляці-ж, мая дума, крывавая мука!
Забяры з сабою ліхі ўсе да тла,
Сваё таварыства!—Ты з імі расла,
Кахалася з імі; іх цяжкія рукі
Цябе спавівалі. Бяры-ж іх, ляці,
Ды па ўсім па небе ворду распусьці!
Хай чарнее, чырванее,
Полымям завые,
Няхай рыгаюць зноў зьмеі,
Трупам зямлю крые, [2])
А без цябе я дзе-небудзь
Сэрца пахаваю,
Ды тым часам пашукаю
На край-сьвету раю.

Ізноў ляту па-над зямлёю,
Ізноў прашчаюся я з ёю.
Цяжка маці пакідаці
У разбуранай хаце,
А йшчэ горш на сьлёзы, латы
Яе пазіраці.
Ляту, ляту, а вецер вее;
Перада мною сьнег бялее;
Вакол бары, кусты, балоты;
Туман, туман, пустынь і слоты.
Людзей ня чуць,—ня знаць і сьледу
Людзкое страшнае нагі... [3])

---

[1]) Прапівае сваіх прыгонных.
[2]) Вобразы кары, узятыя з біблії.
[3]) Шаўчэнка малюе Сібір, куды ссылалі на работу ў капальнях „катаржнікаў“.

«І вораг мой, і друг блізкі,
Бывайце! Ў госьці ня прыду!
Упівайцеся, балюйце!
Я ўжо не пачую—
Адзін сабе на-век-векі
Ў сьнягу заначую.
А пакуль вы дазнаеце,
Што йшчэ ёсьць краіна
Крывёй сьлёзьмі не паліта,
То я адпачыну...
Адпачыну...» Ажно чую—
Загулі кайданы
Пад зямлёю... Пагляджу я...
О, народ паганы!
Скуль ты ўзяўся? Што ты робіш?
Чаго ты шукаеш?
Пад зямлёю! Не! Ўжо, мабыць,
Сябе не схаваю
І на небе! За што-ж кара?
І за што мне мукі?
Каму што зрабіў калі я?
Чые злыя рукі
Душу ў целе закавалі,
Сэрца запалілі
І сілаю груганоўай
Думы распусьцілі?
За што пакутую—ня знаю,
Сябе сам караю!
І калі кончыцца пакута?
Канца дачакаю?
Ня бачу й ня знаю!!

Заварушылася пустыня...
Як-бы там з цеснай дамавіны
На той астатні страшны суд
За праўдай мерцьвякі ўстаюць.

То ня трупы, то ня суду
Прасіць ад пакуты;
Не, жывыя гэта людзі,
Ў кайданы закуты,
З нораў золата выносяць,
Каб горла, як скрутам,
Ненасытнаму заткнуці!..
Катаржане гэта!..
А за вошта? Хіба знае
Ўсемагутны... Дзе там!

Вуньдзе злодзей штампаваны [1])
Кайданы валоча;
Ён разбойнік катаваны
Зубамі скрыгоча—
Таварыша, недабітку,
Зарэзаці хоча!
Паміж імі, зацятымі,
Ў кайданы ўбраны,
Цар сусьветны. Цар волі, цар
Штампам увянчаны [2]) !—
Ў муцы, ў катарзе—ня просіць,
Ня стогне, ня плача!
Раз дабром нагрэта сэрца—
Век будзе гарачым!

А дзе-ж твае думы, ружовыя кветкі?
Гэтак дагляданы, выкаханы дзеткі?
Каму ты іх, дружа, каму перадаў?
Ці можа на-векі ў сэрцы пахаваў?
О, не хавай, браце. Рассып іх, раскідай!
Ўзыдуць, расьці будуць, і у людзі выйдуць!

Ці йшчэ пакута, ці ўжо будзе?
Будзе, будзе, бо халодна,—
Мароз розум будзіць.

*(Канец будзе).*

---

[1]) З выпечаным на целе кляймом (каб лягчэй было лавіць, калі які захоча ўцячы).

[2]) Шаўчэнка спачатку вывеў крымінальных злачынцаў; тут-жа мае на думцы палітычнага сасланца—змагара за волю, пісьменьніка.

Юрка Рудзько

# ЛЯСНЫ ФОРТ

Шызую чупрыну дыму зьмяў вецер у скрутак і панёс перакаціполем.

Ветру няма больш чаго рабіць. Дымары дакуранай цыгаркай застылі ў попельніцы завадзкога двара—адпрацавала апошняя зьмена.

У фанэрнай скрынцы заўкомаўскага пакойчыку—яблыку няма дзе ўпасьці: гэтулькі людзей. Але ціха. Так ціха, што чуваць як хрыпіць люлька ў зубах старога Чурылы, што падпёр вушак плячыма.

— Значыць, трэба паслаць брыгаду, каб узяць на буксір вучастак...

Пётра небарака, як рак варам ашпараны, пачырванеў, пот—брусьніцамі на твары, валасы зьліплі. Думаў 'шчэ пра Пуанкарэ—Магданальдаў успамянуць напрыканцы, але затлуміла духота. Абцёр рукавом твар і сказаў адно:

— Жадаючыя будуць?

Адным момантам усе маўчалі. Затым адказаў Лазар, як даўно вырашанае:

— Запішы, я паеду...

Як зыбкія колцы хваль, калі разаб'еш каменчыкам люстровую гладзь, галасы ўскіпелі за Лазарам:

— Запішы, Камінскі...

— Чыж...

— Пракопчык...

І 'шчэ шмат, шмат хто выгукваў сваё прозьвішча.

— Ну годзі, годзі, хлопцы, запісаў аж за дваццаць, а трэба ўсяго дзесяць, ну, ад сілы—дванаццаць.

— Лепшых слаць трэба. Справа такая. Трэ' хлопцы баявыя,—казаў, меркаваў Чурыла.

— Каб на ўсе сто,—падміргнуў віхрасты хлопец.

— Брыгадзірам вылучан таварыш Шарупа, а паедуць з ім: Шукін, Камінскі, Зырман,—вычытваў сьпіс Пётра.

На тварах вылучаных выбівалася ўсьмешка радасная і ганарлівая.

«На гэткую работу шлюць! Ня жартачкі, ня хаханькі—прыклад у рабоце даць, норму выпрацоўкі ўзьняць».

— Хлопцы, не чакаць!.. Ня тры каб, а па пяць кубоў ставілі,—грымнуў зноў Чурыла.—Калі не, спушчу майткі, ды лазовай кашы ўсыплю,—усьміхнуўся ён па-бацькаўску ў рудыя, пракураныя вусы.

Тым-жа днём і выехала брыгада. Імшаны аказаліся за трыццаць нямераных кілёмэтраў—на вока згадалі людзі—ад апошняга паўстанку чыгункі. Згадзілі чалавека, з Імшанаў, што трапіўся на паўстанку—падвезьці. Села чалавек пяць у разваліі, астатнія—трушком, грэючца. Неўзабаве—на зьмену. Гэтак ішлі—ехалі, цягнулі шнур-дарогу...

— Вёску нашу крутам-мутам пасеклі, ды раскідалі,—казаў возьнік.

— Як так?

— Каторыя паўз бераг Шальмы, а каторыя пад Завішкаўскі лес, на кулічкі чорту лысаму, на пясок—зыбень селі... А ўсё праз каго? Цэраз Самуся Бірылу, злыдзень быў такі... Дзьве валокі зямлі было, а швагер—у савеце пячаткі ляпаў... Дык яны з сваею хэўраю і налялалі. Сабралі подпісы, на пасёлкі каб пабіць вёску. Крутам-мутам пасадзілі яны кумоў, сваякоў на зямлю-чорназём, нас—беднату—у Завішкаўскі кут... Летась, як калгас будавалі, мы сышліся ў «Прамень Камуны», а ля Шальмы каторыя—і ня блізка. Мы з калгасу дзьве брыгады ў лес паслалі, дровы загатаўляць, а з тых ніводзін не пашоў. Но, гняды, но... Хутка і дадому. Ад лінак усяго і астатку будзе пятнаццаць вёрст, ну мо' з гакам.

— А гак колькі?

— Мо шчэ дзесяць—гак будзе,—штукавалі хлопцы.

Развалкі шугнулі з крутога гарба сьнегавога намёту ў ціхую, шэрую вуліцу пасёлку.

Тут, у зацішшы плыў чадны курадым, пах пракіслых аўчын і пеннага сырадою. Хаты засыналі пад крылом адвячорку. Дзе-ні-дзе толькі за вокны выплёскваўся блёклы сьвет ад газоўкі.

Пасялкоўцы ўглядаліся праз праталкі ў шыбінах, што за шурбур такі, як вясельле ўзьехала—гоману, сьмеху столькі.

Брыгаду стрэў Лапша—дзесятнік. Мітусьліва выбег на ганак канторы.

— Ха-ха... Браточкі, ось добра што прыехалі. Заходзьце-ж у хату—перамерзьлі... Сіла, падмога будзе, а то з нашым народам не саўладаць... Грэйцеся... Скажу бабе, хай бульбы спарыць, чым багаты тым і рады... Хэ-хэ...

Лапша пабег. Хлопцы атрэсвалі сьнег з каўняроў, тупалі, грэючы ногі, па хаце.

Возьнік, што зайшоў адсапнуцца, пакурыць, міргнуў хлопцам:

— Бачылі—фэрт які?

— Яго ведаеш?

— Ага! Чаму не. Суседзі былі ў вёсцы. Сям'ю раскулачылі летась. Нядзелена з братам жыў, дык ён неяк перапхнуў на брата ўсё, а сам выкаскаўся. Сюды ўмазаўся нек.

— Таму і безладзь такая тут мо,—згадаў Шарупа.

Раніцой Лапша зьдзівіўся аж:

— Гэта і пойдзеце адны сабе? Адпачылі-б. Сёньня-ж ня робяць. Нядзеля-ж.

— Выдайце струмант ды хадзем на дзялянку,—нецярпліва перапыніў Васіль.

— Я, таварыш Шарупа, нічога-ж супроць, зычу толькі, як лепей. А вы, як сабе знаеце.

Лапша плюнуў на далоні. Разгладзіў намасьлены прабор валасоў, што блінам ячным на галаве ляжаў.

— Я гатоў. Хадземце, воля ваша...

●

Жаўрыд падышоў да старой сасны з лысым гальлём верхавіны і скарабачанай скурай-карой. Стукнуў сякерай. Сасна войкнула водзванам. Пасыпаліся долу пераззлымі шышкамі ахлопкі сьнегу.

— Гэтую. Толькі крукам падчапіць трэба, каб ня ў той бок, куды нахіл, а сюды,—на палянку, бо там засядзе.

Ён адышоўся, прышчураным вокам яшчэ раз зьмераў сасну і загадаў:

— Пачынай, хлопцы!..

З-за жывагародзі маладога ельніку вышаў мужчына ў падзёртай віславушцы і тужурцы, на якой больш было лапінак, чым здаровых месц. Ён сьпяшаўся. Разматалася абора ад лапця, блыталася пад нагамі. Жэрдка плечы сагнула.

— Нясу, Патап, нясу...

Жаўрыд недакурак зьмяў, плюнуў на далоні і кінуў Сымону:

— Пілу давай.

Дрэва зьнямела ў чаканьні. Затым, крэкнуўшы, зашамацела, сухімі рукамі шукаючы падпоры, і, не знайшоўшы, з шумным трэскам вохнулася вобземлю. Пошчак ўздыхнуў у першай далечы лёскатам: о-ох!

— Паўкубамэтру будзе,—сказаў Жаўрыд, абціраючы пот крысом.—Сячэце, хлопцы...

Мікіта з сынам узяліся за сякеры.

— Шчэ кубамэтру лёгка насячэм да зьмярканьня,—падхапіў Мікіта.

Жаўрыд аж плюнуў.

— Навошта табе? Па тры насеклі—годзі. Ня чуў хіба, што Лапша сам казаў: вырабіце звыш, расцэнкі зьнізяць. Цыркулярыя прышла такая...

Сымон узлаваўся. Секануў проста:

— Хлусьня!

— Што?—пачырванеў Жаўрыд, і на шыі ўспухлі ад гневу жылы.

— Хлусьня!—паўтарыў Сымон не маргнуўшы, вытрымліваючы калючы позірк Жаўрыда.

— Ніхто зьніжаць і ня мерыцца, а гэта—кулацкая выдумка, каб затрымаць тэмп загатовак, плян сарваць каб...

— Дзе гэта настрапалілі так,—плявузгаючы сіпеў Жаўрыд. Рупіцца, каб заводу было... Шмат пра цябе нарупіліся. У пост хлеба не хапіла—хто даў? Прышоў, зьняў шапку: Патап Мітравіч, з бяды дай выйсьці, пазыч...

— От, маладое-зялёнае, жыцьця ня ведае,—уставіў Мікіта.—Ня варта і зважаць...

А Сымон сваё:

— Чаму-ж, калі трэба было, давалі дапамогу беднякам. Ось летась...

— Зьбірай струмант,—перапыніў злосна Жаўрыд.

«Ыш—узьеўся!.. Бацька здуру заблытаўся ў павуцінь, пашоў рабіць у хаўрус з злыднем гэтым»...

Мікіта зблытаў гамуз думак Сымона, крануў за рукаў.

— Бяжы, сынку, сякеру забяры. Пойдам ато.

Мімаходзь збочыў Жаўрыд на суседнюю дзялянку. Матнуў рукою лесасекам:

— Шабаш!.. Па тры-ж нарубалі?..

— Як кідаць, калі ня зьмеркла н'ат...

— От, галовы садовыя... Вераб'ёў толькі і варты з канапель пужаць... У Бялыніцкай дачы былі ато-ж такія рызыканты, дык унь на рубля з куба расцэнку зьнялі...

— Хлопцы, дадому зьбіраймася,—пракаціўся па дзялянцы выгук.

●

З жартамі, прысьмешкамі кінуліся хлопцы пілаваць. Дрэвы з хрумстам і гудам падалі, крышачы маладняк, ломячы гальлё суседніх дрэў, разьбіваючы верхавіны. Чапляліся дрэвы за дужыя галіны суседзяй, і тыя трымалі іх гэтак. Ня вырваць было з прадсьмяротных абдымкаў. Рукі ад нязвычайнай працы здранцьвелі, як адбітыя. Цела налілося волавам утомы. Усьмешкі згасьлі.

Вяскоўцы прышлі апаўдні. Стаялі воддаль, гарбузікі лускаючы. Секлі, як шротам, словамі.

— Ня ведама, хто каго будзе цягнуць...

— Гнюсяць толькі, а ня робяць. За дзень па кубамэтру ня вырабілі.

Калі дрэва зачэплялася вяршалінай, варам сьмеху аблівалі вяскоўцы брыгаду.

— Трымай драйку на бабайку! Ха-ха...

— Ды і порткі падтрымлівай... Го-го-хо...

Надвячоркам Лапша давіўся словамі, пераказваючы навіну:

— Па два з чвэрцю... Ось табе... І да пацёмку да самага рабілі... хо-хо...

Надвячоркам на сход народу набілася—уга!—хоць хату расьперажы. Расхрыснулі вокны ў белую стынь начы, і газоўка задыхалася ад доўгіх клубкоў марознага паветра. Стаялі людзі ў тлуме, махорачным мараве, цеснаце. Слухалі слова Шарупы. Скончыць не пасьпеў ён—узварушыўся сход роем чмяліным. Пачуўся голас сіпаты:

— Сам спрабуй, галубе, сам вырабі...

Наперад выбіўся Мікіта. Казаў запінаючыся, як не сваімі словамі.

— Кажа чалавек—болей рабіць. Ці-ж магчыма? Самі вунь і трохня здужалі.

— Казаць лёгка, язык бяз костак,—гундосіў той-жа сіпаты голас з натоўпу.

Прарваўся праз кіпень людзкую да стала Уладзік Камінскі—цыркулярышчык—сарваў кепку, грымнуў:

— Ня тры—чатыры, ато і пяць зробім! Выклікаем вас спаборнічаць...

— Ох-ха... Пабачым,—казаў сьляпы.

— Не пераскочыўшы, не кажы гоп...

— Работнічкі! Ля аднаго дрэва дзесяцёра ўхэджваецеся,—распаліўся Ўладзік, кпіў з вяскоўцаў.—От спрабуйце, калі на што здатны, з намі спаборнічаць.

Сымон неўзаметак ля стала аказаўся.

— А я, мужчынкі, мяркую, што могам павялічыць выпрацоўку. Жаўрыд погалас пусьціў, што нельга болей рабіць, бо меней зарабляць будзем, расцэнкі зьменшаць. Кулацкая выдумка гэта...

Жаўрыд ня даў скончыць. Усхапіўся, засмылеўшы злосьцю, перарэзаў візгалява:

— Чэрніць, паскуднік. Хлусіць, гад... Гражданы, сьведкамі будзеце, што абразіў, на суд падам... Раблю гэтак сумленна...

— А з шваграм ня ты падбухторваў лесасекаў кінуць працу,—падсек Сымон.

Жаўрыд і язык прыкусіў.

●

... Поцемкам усхапіўся Ўладзік. Выбег, схапіў ахлопак сьнегу, ды шух на хлопцаў, што ўпокат доле ў канторы спалі.

Тыя ашалела ўскочылі, як на голкі сеўшы.

— Што?

— Дурэць??

А Ўладзік:

— Норму ўчора зрабілі? Айда ў лес! Спаборнічаць будам-жа.

Лесасекі прышлі, як заўжды, а восьмай. Пакурылі, пілы на развод узялі, тады—і за працу. Дзень прышоў да фінішу з вынікам: лесасекі злажылі ў штабель па тры на брата.

Брыгада—

— Лапша сьперша вачам ня даў веры. Два разы вымерваў, круціў галавой, дзівіўся, запісаў: сорак кубоў—

— па тры з чвэрцю.

На другі дзень лесасекі, як на паказ, насеклі па тры з паловай, а скончылі—зямля ў змрок не ўтапілася.

Так, у кругаверці гарэлі дні. Нялёгкай навукай—потам мылкім здабывалі ўмельства валодаць нямудрым струмантам лесасека.

У завейныя, глухія адвячоркі перачытвалі хлопцы газэты. Адпачывалі. Пасьля гэткай працы кожную хвіліну, як акраец хлеба, захоўвалі, каб выцягнуцца на мяккім напласьце саломы ў абдымках салодкае мляваcьці.

●

Аднойчы марознай раніцой у кантору ўвайшоў хлапец у юнгштурмаўцы, з буяным чубам з-пад шапкі і іскрынкамі задору ў вачах. Лапша падбег:

— Чамаданчык дайце, пастаўім на лаве. З раёну?—Мітнуўся лісьліва.

— Так.

— На праверку якую?—дапытваўся Лапша.

— Не, на працу.

— ?

— Дзесятнікам...

— ?!?

— На месца Лапшы, калі ведаеце... Дзе шукаць яго?

— Мяне?.. Гэта—Лапша я...—мармытаў ён. Выпусьціў з рук чамадан хлопцаў, і той глуха бразнуўся аб падлогу.

— Ось,—падаў паперку хлопец у юнгштурмаўцы.

— Як пралезшага ў апарат кулака... мэханічна паўтарыў вычытанае Лапша. Чалавека падкапалі...

Кінуўся з хаты.

У лесе Лапша гукнуў на размову Васіля.

— Ну які антарэс табе быў? Хіба не рабіў я, з пеўнямі не ўставаў?

— Ну?—Зьдзівіўся той.

— Чаго ўтаропіўся? Сам гэтага дамогся... цьфу!.. завярнуўся і пасігаў нацянькі лесам.

— Толкам сказаў-бы, якую крыўду маеш, а то...

Лапша, як і ня чуў. Бадай подбежкам сьпяшаўся ў кірунку да пасёлку.

Тым вечарам у адной з хат пасёлку былі вокны завешаны пасьцілкамі, а на іх цені чорнымі плямамі—тры галавы.

Сіпаты голас бубнеў:

— Ня журыся... Хай іх немач... Абыйдамся...

— Ага!.. Унь у мяне: гэткі пляц, ды малатарку, ды хату—дванаццаць на дзесяць,—ды крупадзёрку... Успомніш, крывёй сэрца абліваецца... А жыву...

Першы голас зноў:

— А сказаць шчэ да ўсяго, што ў падатак пісацьмуць заробак—людзі цягу дадуць з лесу...

— Бывай, Патап Мітравіч... Жыць будам, ваяваць будам. Рука руку—і абедзьве чыстыя...

— Хо-хо...

— Яно-ж гэтак.

— Бывай швагерка... Яўген!.. Лапша, чакай, браток... Руку дай, бо ногі ня ідуць...

●

За адгружаныя ў тэрмін дзесяць тысяч кубамэтраў Жыгуля—дзесятнік новы—прывёз прэмію—дзьве аўтаматычных пілы.

На сходзе лесасекаў Жыгуля прапанаваў:

— Якая брыгада возьме?

У адказ насыпалася калючае:

— Трэба яна, як сабаку пятая нага...

— Махры прывёз-бы...

— Валёнак...

— Рукавіц...

Шарупа параіўся з хлопцамі і заявіў:

— Мы бярэм адну.

— І дадаў шчэ звонкім выгукам:

— Хай дзьве брыгады супроць нас выходзяць спаборнічаць.

— Ня выцягніце, жыла слабая...

— Спрабуйце ўсё-ж.

— Бачылі, як робіце... Пужацца няма чаго.

— Прэміяй лепшай брыгадзе будзе поўны камплект на кожнага зімовага адзеньня: валёнкі, рукавіцы, кажухі,—адзначыў Жыгуля.

Спаборнічаць было за што.

Раніцой стогнам лес надрываўся.

Балотца перарэзала вучастак на два акрайцы.

З аднаго боку—звонкі шоргат піл, глухое гэкханьне сякер.

З другога—крышна выкошвалася сьценка лесу. З трэскам калючым падалі дрэвы і спалоханай качкай вылятаді з-пад іх воблачкі сьнегавой парошы.

Як волат які лесам ішоў, вытоптваў гушчар і наўцёк ад яго шыўся другі, мізэрнейшы. З аднаго боку брыгада, з другога—лесасекі-вяскоўцы.

З пілой аўтаматнай прымайстраваліся хутка. Удвох бралі дрэва на крук і струной напіналі вяроўку ад верхавіны да камля суседняга дрэва. Удвох подбежкам пілу пераносілі і яна, ускрыкнуўшы, грызла белацелае дрэва. Астатнія—вытоптвалі сьнег ля наступнага, церабілі гальлё. Як кулямётнай чарадою флянг войска, скошваўся лес. Скрозь увесь дзень ня сьціхаў буралом, і дзялянка вышчарбілася вялізманай пасекай.

Жаўрыд апаўдні доўга стаяў галодным воўкам наводдалі. І—ня сьцерпеў, кінуўся напрасьцяк, праз гралік намёту. Васіля знайшоў на аўчынах пад сасною, адпачываў той.

— Гоніце?—хрыпата выцадзіў.

Васіль усьміхнуўся.

— Шчэ пакуль трушком, а хутка—угальлі не здагоніце...

— І гнаць будзеце, значыць?

— На тое і прыехалі...

— Добра, ганеце! Толькі... Усхапіўся і, увабраўшы голаў у плечы, шырока раскідваючы ногі, закрочыў у гушчар.

●

Палошчучы ў ветры бялёсую грыву, імчаўся эшалён гружаны штабелямі пахкай сасны, белацелай асіны.

Насустрач беглі корпусы заводаў з вартавымі дымароў.

Там—у кацельнай—шчэрылі пасткі топкі. Там, у рабочых пасёлках, стыглі артэрыі цэпла-печкі. Там, у горадзе, патрэбен апал.

І станцыя стрэла вітаньнем сьвістка СН, позіркамі людзкімі і хвалямі гамонкі.

Заўкомавец Пётра горача ціснуў руку Уладзіка, скаржанелую, што кара дубу. Рапартаваў Уладзік ад брыгады:

— Па ўдарнаму выканалі працу. Перамагла брыгада буксірная—падвоен тэмп па лесараспрацоўцы. Выкрыта і разброена кулаччо. Мы па пяць кубамэтраў выраблялі, па пяць—на брата, а норма—тры... Штурмам узялі лясны форт.

Мікіта, што ад лесасекаў перадаць дровы прыехаў, змахнуў з галавы шапку, гамонку рукой суняў:

— Я 'шчэ скажу... 60 тысяч кубоў перадаем. Зычылі тэрмін да лютага, а мы цяпер, у студзені здолелі выканаць. Раней тэрміну, у адказ Жаўрыдам, кулаччу паганаму.

І дадаў:

— Па новаму робім—аўтаматкай. Ударнікі, што адзін.

Як хвалі прыбою—радасьць ускіпела.

Зьвякнулі стрэлкі на стыку. Адгукнуўся паравоз, пыхнуўшы клубамі бялёсае пары: іду-у-іду!..

Дыспэтчар сыгнал даў:

— Эшалён—на разгрузку!

Сакавік 1932 г.
Гомель.

**Змагар**

## ДА БАРАЦЬБЫ

Паўстань працоўны—пралетары;
Паўстаньце дзеці, старыкі;
Бяры сякеры, пілы востры,
Крушэце ворагам клыкі.

Яны жырэюць вашай кроўю,
Як крывасосы—павукі.
Ты бачыш гэтыя харомы?
То праца нашае рукі!

Ты бачыш іхных «гладкіх» дзетак,
Яны як птушачкі ў пуху,
А вашы ў латаных кашулях,
Начуюць часта ў лапуху.

А жонкі іх—то беларучкі,
Ў пакоі музыка гудзе, —
А вашы з голаду папухлі
І нават рады лебядзе.

Да барацьбы! Гартуй жалеза!
Ня дайся здрайцам ашукаць.
Мы—дынаміт!..
Мы—моц!..
Мільёны!—
Што можа крэпасьці ўзрываць.

1933 г.
Зах. Беларусь

В. Вольскі

# СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ДРАМАТУРГІІ

## I

Ва ўмовах нашага часу, ва ўмовах вялікай эпохі разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва і абвостранай клясавай барацьбы, калі наогул на надзвычайна высокую ступень адказнасьці ўзьнімаецца ў нашай краіне арганізавальная і выхавальная роля мастацтва, асабліва значэньне набывае драматургія, як адзін з найбольш моцных, найбольш актыўных сродкаў палітычнага выхаваньня мас. Паводле ўласьцівых ёй спэцыфічных магчымасьцяй, паводле вялізарнай сілы ідэялёгічна-мастацкага ўзьдзеяньня, драматургія займае сярод іншых літаратурных жанраў зусім асобнае, выключнае па сваім значэньні мейсца.

Прызначэньне любога літаратурнага твору—непасрэдна ўплываць на чытача. Пры дапамозе друку аўтар літаратурнага твору непасрэдна гутарыць з чытачом, даводзіць да чытача ў форме мастацкага апавяданьня свае ідэі, свае думкі і пачуцьці, сваё сьветаадчуваньне.

Зусім іншая справа з драматургіяй. Драматургічны твор найбольш поўна ўспрыймаецца спажыўцом толькі пры дапамозе тэатральнай сцэны. Ідэі, пакладзеныя драматургам у аснову свайго твору, даводзяцца да гледача праз калектыўную ігру актораў, праз рэжысэрскую экспплікацыю, праз работу мастака-дэкаратара, бутафора, кампазытара, аркестрантаў, нарэшце праз усю складаную мэханізаваную тэхніку сучаснага тэатру. Драматургічны твор паўстае перад гледачом у жывых і канкрэтных вобразах, праз цэльны комплекс асобных кампанэнтаў, што ствараюць адну з найбольш складаных форм сынтэтычнага мастацтва—тэатральны спэктакль.

Драматургічны твор пішацца ў асноўным для паказу са сцэны і гэта надае яму свае спэцыфічныя асаблівасьці, якімі ён адрозьніваецца ад іншых літаратурных твораў. Досыць хаця-б адзначыць, што ў драматургічным творы аўтар пазбаўлены магчымасьці карыстацца лірычнымі і філёзофскімі адступленьнямі ад свайго ўласнага імя, дэталямі апісальнага характару, тлумачэньнямі і г. д. Арсэнал літаратурна-мастацкіх сродкаў драматурга значна абмяжованы тэхнічнымі магчымасьцямі сцэны.

Перад аўтарам-драматургам заўсёды стаіць задача ўвасобіць увесь матар'ял свайго твору ў найбольш сцэнічныя формы, улічваючы законы тэатру, перадаючы і раскрываючы зьмест і вобразы свайго твору ва ўсёй складанасьці яго мастацкіх і псыхалёгічных уласьціваасьцяй толькі праз гутарку-манолёгі і дыялёгі, праз канкрэтныя ўчынкі і ўзаемаадносіны дзейных асоб, праз жывое слова і рухі.

Для драматургічнага твору патрабуецца асаблівая насычанасьць дзеі і напружанасьць унутранога разьвіцьця, асаблівая арганізацыя аўтарам свайго матар'ялу такім чынам, каб сканцэнтраваць увагу гледача на асноўным, на галоўным, сьвядома адкінуўшы ўсё, што ня мае непасрэднага дачыненьня да асноўнай лініі разьвіцьця, што не дапамагае яе лепшаму ўспрыйманьню, бо ўмовы тэатральнага паказу патрабуюць адлюстраваньня вялікіх падзей і здарэньняў, якія ў сапраўднасьці разгортваліся на працягу дзесяцігодзьдзяў, а можа і больш, за надзвычайна абмяжованы час, які вызначаецца некалькімі гадзінамі.

Арганічная сувязь з тэатрам, абмежаванасьць літаратурна-мастацкіх сродкаў, неабходнасьць падпарадкаваньня ўмоўнасьцям сцэны— робіць драматургію найбольш складаным і цяжкім для аўтара гатункам літаратурнай творчасьці. Але гэтая сувязь аднолькава неабходна як для драматургіі, так і для тэатру. Тэатр ня можа існаваць без драматургіі, якая зьяўляецца яго асноўным, вядучым элемэнтам. У сваю чаргу і драматург толькі праз тэатр можа з належнай вычарпальнасьцю давесьці да гледача ідэёвы зьмест свайго твору.

Фармалістычныя спрэчкі адносна прымату драматургіі, ці тэатру, нават адносна пераважнасьці значэньня драматурга, ці рэжысэра, якія часам наглядаюцца ў тэатры, зусім непатрэбны і ніякай карысьці для справы не даюць. Драматургія і тэатр заўсёды знаходзяцца ў шчыльным узаемадзеяньні. Тэатр ня можа існаваць без драматургіі. У сваю чаргу драматургія набывае свае лепшыя якасьці толькі праз тэатр.

Сувязь з тэатрам надае драматургіі выключную, вялізарную сілу дынамічнага і поўнацэннага ўражаньня, робіць яе найбольш моцным і пераканальным сродкам усебаковага і шматплянавага ідэёва-мастацкага ўзьдзейнічаньня на сьвядомасьць людзей, робіць яе магутнай і вострай зброяй клясавай барацьбы.

## II

Клясавая барацьба на ідэялёгічным фронце ў БССР яскрава праявілася і ў працэсах разьвіцьця беларускай драматургіі. Разьвіваючыся разам з беларускімі дзяржаўнымі тэатрамі, з літаратурай, беларуская савецкая драматургія прайшла праз усе этапы разьвіцьця апошніх, разгортваючыся і замацоўваючыся, з аднаго боку, у барацьбе супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, які «пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні адміраючых кляс панаваўшай раней вялікарасійскай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі» (Сталін), праяўляючы сябе ў недаацэнцы нацыянальна-культурнага будаўніцтва наогул і ў адмаўленьні магчымасьці творчага імкненьня беларускай

культуры, мастацтва, літаратуры, тэатру, драматургіі ў прыватнасьці; і з другога боку ў актыўным перамаганьні беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмократызму, які імкнуўся ў шкодніцкіх мэтах, у мэтах фальсіфікацыі і скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі захапіць у свае рукі манаполію на культурнае будаўніцтва з тым, каб штучна накіраваць яго на шлях стварэньня беларускай кулацка-буржуазнай культуры.

Намаганьні нацыянал-дэмакратаў былі накіраваны на тое, каб як мага шырэй выкарыстаць тэатр, а гэта значыць і драматургію, у мэтах клясавай барацьбы супроць дыктатуры пралетарыяту, у мэтах прапаганды нацыяналістычных, буржуазна-кулацкіх, сэпаратысцкіх поглядаў нацыянальнай самабытнасьці. Таму, зусім зразумела, што ў пэрыяд панаваньня ў большасьці нашых тэатраў нацдэмаўшчыны, беларуская драматургія, якая стваралася ў той час, насіла яскрава выяўленыя адзнакі мацнейшых нацдэмаўскіх уплываў. Творы В. Шашалевіча, Я. Рамановіча, М. Ільлінскага і інш., зьвязаныя з гэтым пэрыядам, яскрава сьведчаць аб тым, як імкнуліся нацдэмы ўплываць на маладых драматургаў, выхоўваючы сабе творчыя кадры, падрыхтоўваючы сабе стварэньне ўласнай нацыяналістычнай драматургіі.

Для гэтага пэрыяду асабліва характэрны такія п'есы, як «Апраметная» Шашалевіча, «Вір» Рамановіча, «Над Нёмнам» і «Скарына, сын з Полацку» Грамыкі, «Кастусь Каліноўскі» Міровіча і інш.

У аснову «Апраметнай», п'есы найбольш характэрнай па сіле сваёй мастацкай мэтаімкнёнасьці, быў пакладзены варыянт народнай казкі, выкарыстанай аўтарам для разгортваньня ў форме мастацкай сымболікі, у неверагодных, фантастычных вобразах беларускага фальклёру—ваяўнічай праграмы нацыянал-дэмакратызму.

Выгаданыя, стылізаваныя цені народных забабонаў, усе гэтыя ведзьмакі, ныдніцы, чорныя лялеі, усе гэтыя змрочныя сілы цёмнага царства былі мабілізованы аўтарам для таго, каб пад шыльдай своеадменнай тэатральна-драматургічнай эзопаўскай мовы працягнуць на сцэну беларускага тэатру зьлёгку-замаскаваныя ў мастацкую форму палітычныя канцэпцыі нацыянал-дэмакратаў.

Асноўная ідэя п'есы застаецца надзвычайна неясная, нават двухсэнсоўная. Яна штучна завуалявана непразрыстым вэлюмам сымболікі. Але адно застаецца для нас зразумелым: Аленка—гэта ўвасабленьне Беларусі, Янка і яго браты рыцары—гэта сымбаль нацыяналістычнай інтэлігенцыі, якая абуджае народ ад векавечнага сну, знаходзіць для яго «згубленыя зарой ключы», зьвяртае яго дзецям родную мову замест чужой, «сабачай», якой яны прымушаны карыстацца, вядзе яго праз нацыянальнае адраджэньне «да лепшай долі, да яснай волі, да вызваленьня».

Для таго, каб кантрабандай давесьці да гледача нацдэмаўскую ідэялёгію свайго твору, аўтар прымушаны быў абярнуць яе ў вобразы народных забабонаў, прасякнуць свой твор цьмянымі і смутнымі, мінорнымі тонамі царкоўна-жабрацкіх мэлёдый, карыстаючыся, перадаючы іх, ня простай і яснай мовай сучаснасьці, а манатонным гну-

савым голасам старца-лерніка, аднаго з найбольш улюбёных сымбалічных вобразаў нацыянал-дэмакратызму.

У іншым, дэкаратыўна-рамантычным пляне была зроблена маладым драматургам Рамановічам яго псэўда-гістарычная п'еса «Вір» (пастаўлена ў 1926 г. ў БДТ-1). У гэтай п'есе, зьмест якой быў узяты з часоў XIII стагодзьдзя, аўтар па ўказцы нацдэмаў ідэялізаваў сярэднявечны фэадалізм, гэты—паводле гістарычных канцэпцый нацыянал-дэмакратызму—залаты век дзяржаўнай, палітычнай і культурнай магутнасьці беларускай нацыі. У гэтым сівым, архаічным матар'яле для драматургічнага твору, у гэтым «слаўным» мінулым «вялікіх і гэраічных» продкаў нацдэмы шукалі ідэялёгічную глебу, гістарычныя падставы для сваіх сучасных нацыяналістычных «тэорый» і настрояў.

Гэтым задачам на працягу пэўнага часу была падпарадкавана і значная частка драматургічнай творчасьці старога майстра тэатральнай сцэны Міровіча.

Яскравым прыкладам нацдэмаўскіх уплываў на драматургію можа служыць адна з найбольш вядомых яго п'ес—гістарычная драма «Кастусь Каліноўскі» (ставілася на працягу 1924-1930 г.г. у БДзТ-1). Гэты твор быў цалкам прысьвечаны аўтарам тым мэтам, якіх вымагала ад яго нацдэмаўскае кіраўніцтва тэатрамі. Асноўная мэта п'есы—сьвядомае скажэньне гістарычнай пэрспэктывы шляхам ідэялізацыі дробна-буржуазнага рэвалюцыянэра Кастуся Каліноўскага, удзельніка паўстаньня 1863 г., вакол гістарычнай постаці якога нацдэмы імкнуліся стварыць нацыяналістычны культ усенароднага, агульна-нацыянальнага гэроя.

Цалкам закончанымі з пункту погляду нацдэмаўскай ідэялёгіі былі п'есы Грамыкі. У яго драме «Над Нёманам» (пастаўлена ў 1927 г. у БДзТ-1), прысьвечанай адлюстраваньню сучасных падзей з вясковага жыцьця ў Заходняй Беларусі, яскрава была акрэсьлена нацыянал-дэмакратычная трактоўка сацыяльна-палітычных суадносін у Заходняй Беларусі ва ўмовах польскай акупацыі. Згодна зьместу гэтай п'есы, перадавымі змагарамі за вызваленьне Заходняй Беларусі з-пад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску зьяўляюцца прадстаўнікі беларускага заможнага сялянства пад ідэйным і палітычным кіраўніцтвам нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі, якой надаецца, такім чынам, значэньне гэгэмона ў нацыянальна-рэвалюцыйным руху.

Трэба таксама адзначыць, што нацдэмаўскія ўплывы паклалі пэўны, часам досыць значны адбітак і на творчасьць Уладзіслава Галубка, аднаго з старэйшых і найбольш папулярных сярод шырокіх працоўных мас беларускага драматурга.

## III

Рабочая кляса БССР пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі выкрыла і нанесла зруйнавальны ўдар контррэвалюцыйным спробам нацыянал-дэмакратаў. Ідэйны і арганізацыйны разгром нацыянал-дэмакратызму выклікаў рост і ўзмацненьне беларускай савецкай літара-

туры і мастацтва, выклікаў творчую і грамадзка-палітычную актывізацыю і перабудову тэатраў.

Лепшая частка тых творчых кадраў, якія ў мінулым стаялі досыць блізка да нацыянал-дэмакратаў, прарабіла за апошні час, пад уплывам перамагальнай сілы доказаў пасьпяховасьці будаўніцтва сацыялізму, тую эвалюцыю настрояў, якая прывяла іх нарэшце да нас і якую наступнымі словамі выказаў на апошнім зьезьдзе прафсаюзаў акадэмік Кэльлер: «Мы цяпер вельмі хутка расьцем. Калі я праглядаю ўласныя кнігі, напісаныя два гады назад, мне здаецца, што некаторыя старонкі напісаны чужым чалавекам».

Гэтыя словы вучонага, які выказаў у іх настроі агульныя для ўсіх перадавых колаў старой інтэлігенцыі, з посьпехам могуць паўтарыць пра сябе і тыя беларускія драматургі, якія нядаўна яшчэ абслугоўвалі ідэёвыя запатрабаваньні нацдэмаў.

Гэтыя настроі знайшлі сваё адлюстраваньне і ў шэрагу асобных твораў беларускай драматургіі.

Драматург Рамановіч, аўтар «Віру», аб якім гутарка ішла вышэй, напісаў п'есу «Мост» (пастаўлена ў 1929 г. БДзТ-1), якая сьведчыла аб значным пераломе ў сьвядомасьці драматурга, сьведчыла аб яго імкненьні да перабудовы, да пераходу на службу пралетарыяту, на службу сацыялістычнаму будаўніцтву. У гэтай п'есе, перакладзенай на расійскую, украінскую і татарскую мовы, напісанай пад уплывам шахцінскага працэсу, аўтар спрабуе вырашыць пытаньне аб ролі старой тэхнічнай інтэлігенцыі ў сацыялістычным будаўніцтве. Сцэнічныя здарэньні разгортваюцца ў п'есе вакол пабудовы бэтоннага мосту. У цэнтры здарэньняў стары інжынэр, зьвязаны сваяцтвам з эмігранцкімі коламі. Аўтара цікавіць псыхалёгічная падвойнасьць гэроя, яго сумненьні, якія нарэшце вырашаюцца ў станоўчы бок, на карысьць добрасумленнага служэньня рэвалюцыі, але выклікаюць сьмерць інжынэра ад рукі белых тэрарыстаў-дывэрсантаў.

Аб пэўных выніках творчай перабудовы старых драматургічных кадраў сьведчыць «Лён» (пастаноўка БДзТ-1 1932 г.), твор заслужанага артыста Міровіча, у мінулым аўтара такіх п'ес, як «Кастусь Каліноўскі», «Машэка» і інш.

Тэма гэтага твору—праблема перавыхаваньня, ідэёвай перабудовы старой інтэлігенцыі, перагляд яе лепшай часткай сваіх мінулых пазыцый і, нарэшце, удзел старых кадраў навуковых спэцыялістаў у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Актуальнасьць пастаўленай праблемы, настойлівая праца над яе вырашэньнем—гавораць аб пэўных зрухах у справе ідэялёгічнага пераўзбраеньня, аб шчырым жаданьні аўтара служыць сваею творчасьцю інтарэсам сацыялістычнага будаўніцтва.

Аб аналёгічных працэсах перабудовы, аб паступовым пераходзе на новыя пазыцыі сьведчылі і п'есы Ільінскага «На прадвесьні» (пастаноўка БДзТ-2 1929 г.), «Вясна» (пастаноўка БДзТ-2 1932 г.) і іншыя. Калі параўнаць апошнія творы яго, хаця-б з такой п'есай аўтара,

як «Лёс цёмны» (пастаноўка БДзТ-1 1926 г.) дык першае, што кідаецца ў вочы, гэта вялікая ідэёвая розьніца паміж адзначанымі п'есамі, гэта зусім процілеглы падыход аўтара да адлюстраваньня вясковай рэчаіснасьці, да ацэнкі сацыяльных зьяў беларускай вёскі. Параўнаньне гэтых п'ес сьведчыць аб паступовым ідэёвым росьце драматурга, прычым кожная з іх адпавядае пэўным этапам яго ідэёва-творчага разьвіцьця. У п'есе «Лес цёмны» перад гледачом паўставаў сумны, прыгнетлівы малюнак беларускай вёскі, нібыта зусім не закранутай рэвалюцыяй. Гэта вёска душыцца ў цемры, у п'янстве і забабонах. Аўтара цікавілі тады толькі цёмныя, адмоўныя бакі вясковага жыцьця. Ён не заўважаў, ды й не хацеў заўважыць тых зьмен, якія ўнесла ў беларускую вёску рэвалюцыя.

П'еса «На прадвесьні» (пастаноўка БДзТ-2 1929 г.) сьведчыла ўжо аб некаторым зруху ў поглядах і сьветаразуменьні аўтара. «На прадвесьні»—мэлёдрама, фонам для якой паслужылі пэўныя сацыяльныя зьявы—барацьба вясковага камсамолу з кулакамі за аграмаджаны млын.

Але і ў гэтай п'есе аўтар ня здолеў у значнай частцы пазбавіцца сваіх мінулых памылак.

Тое, што павінна было быць у п'есе асноўным, зроблена аўтарам толькі знадворным фонам, дэкаратыўнай дэтальлю. Вёска ўзята тут хутчэй у этыка-бытавым, чым у сацыяльна-палітычным пляне. Галоўны націск быў зроблены аўтарам на этнаграфічнасьць, на нацыянальную рамантыку, на экзотыку, на самабытнасьць—рэцыдыў даніны былым нацдэмаўскім уплывам. Усё гэта амаль цалкам засланіла сацыяльны фон п'есы, які апынуўся падпарадкаваным элемэнтам нацыянальнай абмежаванасьці.

Іншы малюнак мы бачым у апошнім творы Ільлінскага, у п'есе «Вясна» (пастаноўка БДзТ-2 1932 г.). У гэтым творы аўтар канчаткова пазбавіўся элемэнтаў нацдэмаўскай спадчыны. Асноўная тэма гэтай п'есы—клясавая барацьба ў калгасе, у якім дзейнічаюць кулакі-шкоднікі, арганізацыйна-зьвязаныя з нацдэмамі ў горадзе, адлюстраваньне складаных і супярэчлівых працэсаў сацыялістычнай перабудовы беларускай вёскі. У цэнтры ўвагі аўтара—праблема серадняка ў калгасе.

Праўда, аўтару не ўдалося ў выстарчальнай ступені вырашыць пастаўленую перад сабою задачу. У падыходзе да адказнага матар'ялу адчуваецца павярхоўнасьць, прымітыўнасьць. П'есе не хапае суцэльнасьці, закончанасьці. Адсутнічае глыбокае, сацыяльна ўгрунтованае, мастацкае раскрыцьцё вобразаў і зьяў. Складанасьць становішчаў вырашаецца трафарэтна, схэматычна. Замест выяўленьня індывідуальных асаблівасьцяй дзейных асоб праз іх узаемадзеяньне і суадносіны, аўтар пашоў па шляху стварэньня ўмоўных масак, прозьвішчамі вызначаючы характары пэрсанажу. Але ў тэматычным кірунку п'есы, у ідэёвай накіраванасьці яе зьместу, адчуваецца жаданьне драматурга авалодаць новым матар'ялам, адчуваюцца пэўныя адзнакі ідэёва-творчай перабудовы.

Драматург Васіль Сташэўскі ў 1930 г. даў п'есу «Віхор», прысьвечаную адлюстраваньню барацьбы з балахоўцамі на Палесьсі, і шэраг п'ес для самадзейнага тэатру, якія ставяцца пераважна на вясковай сцэне. За апошні час Сташэўскі напісаў новыя п'есы «Амэрыка» і «На варце»—з жыцьця прымежных войск, але ніводная з іх пакуль што яшчэ не пастаўлена і не надрукавана.

У галіне абароннай тэматыкі сыстэматычна працуе т. Курдзін, першая п'еса якога «Міжбур'е» з жыцьця і вучобы Чырвонай арміі ў 1930 г. была пастаўлена ў БДзТ-1. Апошняя п'еса Курдзіна «Контр-атака» нядаўна пастаўлена ў БДзТ-3.

Рост новых маладых кадраў савецкай інтэлігенцыі з радоў рабочых і працоўных мас, разам з ідэёвай рэканструкцыяй тэатраў, абумовіў і зьяўленьне новых драматургічных твораў, аўтары якіх выйшлі з пралетарскага асяродку, тэматыка і накірунак якіх, цесна зьвязаныя з савецкай рэчаіснасьцю, палітычна актывізавалі рэпэртуар нашых тэатраў, абумовілі іх новы прынцыпова-ідэйны зьмест.

У ліпені 1930 г. на сцэне БДзТ-1 зьяўляецца новая п'еса «Гута», першы драматургічны твор аўтара-рабочага, члена БелАПП, Рыгора Кобеца.

Пастаноўка гэтай п'есы была для БДзТ-1—для тэатру, у якім найбольш моцна адчуваліся нацдэмаўскія традыцыі псэўда-нацыянальнай, дэкаратыўнай стылізацыі, бытаўшчыны, этнаграфізму—зьявай нябачанай, нязвычайнай, а для шмат каго і непажаданай. Паводле свае тэматыкі «Гута» адлюстроўвае працэсы барацьбы за рацыяналізацыю прамысловасьці на шклозаводзе, зьвязанай з ажыцьцяўленьнем і практычным прыстасаваньнем вынікаў рабочага вынаходніцтва. Аўтар разгортвае на гэтым матар'яле шэраг яркіх, рэалістычных малюнкаў адсталасьці, п'янкі, прагулаў, сувязі з кулацтвам сярод несьвядомай часткі рабочых на далёкай глухой гуце з прымітыўнай, саматужнай тэхнікай, з рэакцыйнымі настроямі сярод старых майстроў. Адначасова ён знаходзіць досыць пераканальныя фарбы для таго, каб паказаць рост самасьвядомасьці сярод перадавой часткі рабочага калектыву, яго здольнасьць актыўна змагацца за справу сацыялізму. Асаблівая заслуга аўтара ў тым, што ён здолеў стварыць надзвычай цёплы, глыбокі і пераканальны, зроблены з вялікай мастацкай выразнасьцю, вобраз прадстаўніка старых рабочых кадраў—каваля і вынаходцу Мароза, вынаходка якога рацыяналізуе вытворчасьць, павялічвае прадукцыю, аб'ядное рабочы калектыў у барацьбе з клясавым ворагам. Сацыяльная насычанасьць зьместу спалучаецца ў п'есе з вернай, яскрава акрэсьленай ідэёвай накіраванасьцю. У п'есе адсутнічае павярхоўнасьць. Драматургічны матар'ял аўтарам як сьлед прадуман і ўсьвядомлен.

Пастаноўка ў БДзТ-1 гэтай п'есы,—сапраўды савецкай п'есы, якая прышла на зьмену нацдэмаўскаму рэпэртуару, зьяўленьне якой на сцэне БДзТ-1 мела вялізарнейшае палітычнае значэньне для ўсяго беларускага тэатру,—была ажыцьцёўлена не бяз цяжкасьцяй, не бяз упартага, хоць і замаскаванага супраціўленьня з боку рэштак нацдэ-

маўскіх і нацыянал-апартуністычных элемэнтаў. У шмат каго не знайшлося на адрас гэтай п'есы іншых слоў, як толькі тое, што «яна ня ставіць перад гледачом ніякай задачы, яна толькі паказвае, што ёсьць».

Рабіліся спробы зьнізіць значэньне «Гуты» тым, што аўтар яе быццам «не ўладае ў выстарчальнай ступені беларускай мовай», што п'еса ідзе ў «перакладзе з расійскае».

Падобныя выказваньні адлюстроўвалі тую мітусьню, якую ўзьнялі рэшткі нацдэмаўскіх і нацыянал-апартуністычных элемэнтаў, учуўшы ў «Гуце» сур'ёзную небясьпеку. Гутаркамі аб тым, быццам «Гута» не беларускі твор, яны імкнуліся ўжыць у адносінах да яе тактыку кампрамэтацыі, адмаўляючы ёй у праве называцца беларускай п'есай. Жыцьцё разьбіла гэтыя хітрыкі, і мы можам з гонарам адзначыць той факт, што і на сёньняшні дзень «Гута» знаходзіцца ў першых шэрагах савецкай драматургіі. Аб значэньні гэтай п'есы, аб яе папулярнасьці сярод працоўнага гледача можа сьведчыць тое, што яна перакладзена на украінскую, расійскую, яўрэйскую, польскую, грузінскую, армянскую і татарскую мовы, што яна ставіцца за мяжой, у рабочых тэатрах Чэха-Славакіі.

Нельга абыйсьці таксама і таго палітычнага значэньня, якое мела для тэатру пастаноўка ў 1931 г. у БДзТ-2 п'есы І. Гурскага «Качагары». У гэтай пастаноўцы была зроблена першая спроба выкрыць у форме бязьлітасна-вострага гратэску, у форме сатыры, сацыяльную і палітычную сутнасьць нацыянал-дэмакратызму, сарваць маску з яго сапраўдных мэт і задач. П'еса імкнулася паказаць тую нябачную істужку, якая цягнулася ад замежных ініцыятараў і натхняльнікаў інтэрвэнцыі—ад Пуанкарэ і Пілсудзкіх, да беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Яна імкнулася давесьці, як за ідэямі нацыянал-дэмакратызму ў галіне культуры і эканомікі хаваецца скрыўлены твар кулака, маскуецца шпіянаж, інтэрвэнцыя, шкодніцтва. У гэтым галоўная вартасьць п'есы. Насычанасьць яе клясавай рэвалюцыйнай мэтаімкнёнасьцю ў злучэньні з сучасным, нават злабадзённым тэматычным матар'ялам, надалі «Качагарам» буйнае палітычнае значэньне.

Рабочы гледач у сваіх выступленьнях на шматлікіх дыспутах і абгаварэньнях, прысьвечаных пастаноўцы, адзначыў, што п'еса сугучна яму па сваёй ідэёвай накіраванасьці, што яна дапамагае яму выкрыць сапраўдную сутнасьць апартунізму, што пастаноўка яе патрэбна і карысна.

Але адначасова з гэтымі дадатнымі бакамі, адначасова з сваёю рэвалюцыйнаю клясаваю накіраванасьцю, п'еса мае і цэлы шэраг істотных недахопаў, на якіх неабходна спыніцца.

Асноўным недахопам п'есы зьявілася яе раскіданасьць, шматплянавасьць. Аўтар задаўся мэтай ахапіць як мага больш адказных праблем, закрануць увесь комплекс складанейшых і сур'ёзьнейшых пытаньняў, зьвязаных са штодзённай практыкай рабочае клясы ў яе барацьбе пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі за соцыялістычнае

будаўніцтва, за ператварэньне Беларусі з адсталай сялянскай краіны ў перадавую індустрыяльна-калгасную сацыялістычную рэспубліку.

З прычыны такой празьмернай раскіданасьці аўтар ня здолеў як сьлед вырашыць пастаўленых перад сабою праблем. Замест перакананьнага, глыбока-мастацкага раскрыцьця ахопленага матар'ялу, ён абмежаваўся спрошчанай схэмай. Складаную спэцыфіку мастацкіх доказаў ен падмяніў спрошчанай агіткай, трафарэтным лёзунгам, агульнай фразай.

Буйнейшай палітычнай памылкай аўтара зьяўляецца тое, што ў яго п'есе не знайшла сабе правільнага выяўленьня барацьба партыі з нацыянал-дэмакратызмам. У п'есе атрымалася так, быццам гэта барацьба вялася толькі паасобнымі, перадавымі камуністамі, накшталт Асмалоўскага, застаючыся па-за ўвагай партыйнага кіраўніцтва, партыйнай арганізацыі.

Аднэй з асноўных хібаў Гурскага зьяўляецца таксама тое, што свае імкненьні, думкі і перакананьні палітыка, публіцыста, ён ня здолеў перакласьці на мову мастацкай спэцыфікі, ня здолеў ператварыць у эмоцыянальна-моцныя, жывыя, мастацкія вобразы. Прыёмы мастацкай творчасьці, псыхалёгічную перакананьнасьць вобразаў аўтар падмяніў спрошчанай схэмай, лёзунгам, мітынгоўшчынай. Параўнальна моцна, у абагульняльных рысах, зроблены ў п'есе толькі некалькі адмоўных пэрсонажаў (старшыня РВК Шчукін, дырэктар электрастанцыі Іваноўскі і інш.). За тое станоўчых вобразаў у п'есе амаль зусім няма. Асноўныя дадатныя гэроі, як старшыня прафкому Асмалоўскі, сакратар ячэйкі Сілін і інш. зьяўляюцца ня жывымі, конкрэтнымі людзьмі, а шаблёнамі, адцягненымі катэгорыямі.

Раскіданасьць надзвычайна перашкаджае разьвіцьцю фабулы, якая амаль зусім траціцца сярод мноства пабочных дэталяй, што перагружаюць п'есу і ня маюць непасрэдных адносін да асноўнага ходу ідэі. Усе гэтыя недахопы значна зьніжаюць ідэёва-мастацкую вартасьць «Качагараў», п'есы ў свой час надзвычайна патрэбнай і карыснай, зьяўленьне якой на сцэне беларускага тэатру мела вялікае прынцыпова-палітычнае значэньне. Недахопы гэтай п'есы сьведчаць аб настойлівай неабходнасьці сур'ёзнай, глыбокай і ўважлівай вучобы асноўных кадраў нашай драматургіі.

Першым і значным крокам наперад па шляху вырашэньня на тэатральнай сцэне праблемы камсамольскай тэматыкі зьявілася пастаноўка ў 1932 г. ў БДзТ-2 п'есы Александровіча «Напор».

Мэтай «Напору» зьяўляецца адлюстраваньне камсамолу на вытворчасьці. Аўтар імкнецца паказаць яго ролю і значэньне, як дапаможніка партыі на канкрэтным вучастку сацыялістычнага будаўніцтва, на дрэваапрацоўчым заводзе, у барацьбе за прамфінплян, за тысячу стандартных дамоў для рабочых Данбасу, за пяцігодку, за сацыялізм.

Асноўны гэрой п'есы—шматлікі, жывы, бадзёры і дынамічны камсамольскі калектыў. Гэта цэнтральная калектыўная фігура п'есы. У «Напоры» камсамольская арганізацыя паказана ва ўсіх яе праявах.

Мы бачым камсамольскі калектыў у якасьці актыўнага барацьбіта за выкананьне абавязкаў дрэваапрацоўчага заводу перад рабочымі Данбасу. Камсамольцы на заводзе—першыя застрэльшчыкі ліквідацыі прарыву, першыя ўдарнікі, якія сваім запалам і энтузіязмам, сваім канкрэтным прыкладам уцягваюць астатнюю масу рабочых і сэзоньнікаў на ліквідацыю прарыву, на выратаваньне заводу. Пачэсная роля адводзіцца ў п'есе камсамолу і ў барацьбе з клясавым ворагам, са шкодніцтвам, з праявамі адсталасьці і несьвядомасьці часткі сэзоньнікаў, якая трапіла пад уплыў варожых кулацкіх элемэнтаў.

У сваёй сьветлавой газэце, на вечары ў клюбе, камсамольцы бяруць пад агонь самакрытыкі адносіны да вытворчасьці з боку бракера Зарэмбы. Сцэнка «У клюбе» паказвае гледачу, як камсамол умее арганізаваць свой адпачынак, як ён праводзіць гэты адпачынак пад знакам узьдзейнічаньня на масы, пад знакам яшчэ большай мабілізацыі яе ўвагі на пытаньнях барацьбы за лепшыя адносіны да вытворчасьці. Камсамольская арганізацыя заводу ў першых шэрагах змагаецца і са стыхіяй—з паводкай.

Аўтару ўдалося часткова вызваліць свой твор ад небясьпекі схэматызму і абстракцыі ў паказе камсамольскага калектыву. Камсамольская маса ў «Напоры» не абязьлічана. Гэта жывы і дынамічны калектыў дзейных асоб з акрэсьленымі індывідуальнасьцямі, з пэўнай разнастайнасьцю сцэнічнага тыпажу.

Але ў гэтым шматбаковым, вобразным паказе камсамолу крыецца і адна значная памылка, дапушчаная аўтарам. Цалкам захапіўшыся паказам камсамолу, ён амаль зусім пакінуў у цяні выяўленьне асноўнай, якая кіруе, узначальвае завод, сілы. Камсамол у п'есе перарастае сваё значэньне дапаможніка партыі. Ён набывае ў п'есе новае, самастойнае, вядучае значэньне. Па-за ім ня відаць, як сьлед, ні кіраўніцтва заводу, ні партыйнай арганізацыі.

Недахопам твору зьяўляецца таксама і тое, што аўтар не задаволіўся вырашэньнем аднэй толькі пастаўленай перад сабою задачы. Ён імкнуўся ахапіць адразу некалькі праблем. Але на большасьці з іх аўтар спыняецца толькі мімаходам, сьпяшаючыся, і таму вырашае іх спрошчана, схэматычна. Адсюль пэўны адбітак павярхоўнасьці, лёгкаважкасьці, які моцна адчуваецца ў гэтым творы.

Значна перашкаджае п'есе недастатковае знаёмства аўтара з драматургічнай тэхнікай. Асабліва дае сябе адчуваць адсутнасьць адзінай, вядучай сюжэтнай лініі.

Але ня гледзячы на гэтыя недахопы, уласьцівыя і іншым драматургічным творам, п'еса «Напор» зьяўляецца адным з буйнейшых фактаў у разьвіцьці беларускай савецкай драматургіі.

Зьяўленьне на беларускай сцэне такіх палітычна-актуальных п'ес, як «Гута», «Качагары», «Напор» ёсьць значнае дасягненьне ў барацьбе, за савецкую тэматыку ў рэпэртуары нашых тэатраў, за рашучы паварот іх тварам да сучаснасьці, да сацыялістычнага будаўніцтва. Мы маем ужо цэлы шэраг арыгінальных, тэматычна актуальных, нават публіцыстычна завостраных п'ес, якія з большай ці мен-

шай сілай мастацкага ўзьдзеяньня і пераканальнасьці адлюстроўваюць у сцэнічных вобразах савецкую рэчаіснасьць. Але на гэтым нельга спыняцца.

У сьвятле дасягнутых посьпехаў перад беларускай савецкай драматургіяй ва ўсю шырыню паўстае цяпер пытаньне барацьбы і за мастацкую якасьць прадукцыі.

У гэтым сэнсе пастаноўка на сцэне ў БДзТ-1 ў 1932 г. п'есы «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага мае бясспрэчна вялікае значэньне. Яна сьведчыць аб бязупынным росьце і ўдасканаленьні беларускай савецкай драматургіі, якая прыцягвае да сябе ў апошні час буйных прадстаўнікоў іншых літаратурных жанраў.

Праўда, «Бацькаўшчыну» нельга падвесьці пад рубрыку вытрыманага ў сцэнічных адносінах драматычнага твору. Пабудова яе, структура не адпавядае, як сьлед, асноўным законам сцэнічнасьці. На «Бацькаўшчыне» адчуваюцца ўсе агульныя недахопы, уласьцівыя несамастойным п'есам, якія перароблены з літаратурных твораў, пабудаваных бяз уліку законаў сцэны, у іншым пляне, па іншай кампазыцыі. Такія драматычныя перапрацоўкі ў пэўнай ступені трацяць, звычайна, у працэсе інсцэнізацыі (ня гледзячы на тое, што над ім працуе сам аўтар асноўнага твору), значную частку тых літаратурна-мастацкіх вартасьцяй, якія былі ўласьцівы першатвору, не набываючы адначасова вялікага сцэнічнага значэньня.

Гэтыя недахопы ня могуць, аднак, лічыцца рашальнымі ў такім творы, як «Бацькаўшчына». Яны тым больш зразумелы, што п'еса «Бацькаўшчына» зьяўляецца першай драматургічнай спробай буйнага майстра мастацкай прозы Кузьмы Чорнага. Пабудавана яна на надзвычайна вялікім, складаным і адказным матар'яле. Гэта першае ў беларускай драматургіі вялікае палатно эпічнага характару. Сцэнічныя падзеі гэтай п'есы ахапляюць вялізарны кавалак часу. Яны адлюстроўваюць на паасобных вучастках складанейшыя працэсы гістарычнага разьвіцьця Беларусі, пачынаючы ад першых крокаў барацьбы з самаўладзтвам у беларускім мястэчку напярэдадні імпэрыялістычнай вайны і рэвалюцыі і аж да нашых дзён, дзён сацыялістычнага будаўніцтва і калектывізацыі вёскі. Прычым—што ў нашых умовах асабліва каштоўна — адлюстраваньне гэтых рэальных гістарычных працэсаў разгортваецца аўтарам праз дзеяньні, думкі, пачуцьці і ўчынкі асобных, канкрэтных, індывідуалізаваных, па-мастацку поўнакроўных і жыцьцёвых вобразаў.

Ня гледзячы на вялізарную перагружанасьць тэкставым матар'ялам, на недастатковую знадворную дынаміку «Бацькаўшчыны», нават некаторую вялосьць і павольнасьць у разгортваньні дзеяў, якая выклікана агульнай апавядальнасьцю ўсяго твору і, у зьвязку з гэтым—недастатковую тэатральнасьць асобных сітуацый,—гэта п'еса каштоўна сваёй унутраной напружанасьцю, глыбокай паслядоўнасьцю ўнутранога псыхалёгічнага разьвіцьця асобных вобразаў. Для п'есы Кузьмы Чорнага стала ўласьцівым якраз тое, чаго да гэтага часу ў значнай частцы не хапала большасьці нашых п'ес. У гэтым сэнсе «Бацькаўшчына» яскрава вылучаецца сваім прынцыповым

узроўнем, сілай мастацкіх абагульненьняў і багацьцем слоўнага матар'ялу. У гэтым творы аўтар распрацоўвае праблематыку інтэрнацыянальнага значэньня.

Праўда, ня ўвесь матар'ял ахоплены аўтарам з аднолькавай глыбінёй і вычарпальнасьцю. Найбольш удаліся аўтару вобразы і малюнкі старой беларускай вёскі, старога мястэчка. Яны сьведчаць аб тым, што Кузьма Чорны дасканала і глыбока ведае гэты матар'ял, што ён добра адчувае і разумее яго. Адсюль надзвычайная мастацкая насычанасьць і перакананьнасьць такіх вобразаў, як Леапольд Гушка.

Вобраз Леапольда Гушкі, надзвычайна моцны, ён хвалюе і пераконвае. Гэта асноўная стрыжнёвая фігура п'есы. Праз увесь твор праходзіць цяжкі, пакутны і супярэчлівы шлях псыхалёгічнагаператварэньня батрака Гушкі. Шлях, які прыводзіць яго ад сьляпой і ўпартай веры ў магчымасьць свайго асабістага вызваленьня праз набыцьцё індывідуальнай маёмасьці, праз кавалак уласнай зямлі, праз самастойную, няхай дробную, але за тое «незалежную» гаспадарку, да паступовага пазбаўленьня ад псыхалёгічнай спадчыны даўнейшага ярма, да сьвядомага перакананьня ў тым, што сапраўднае вызваленьне можа быць дасягнута толькі праз актыўны ўдзел у арганізаваным калектыўным змаганьні рабочае клясы. Гэтая перакананьнасьць дасягаецца Гушкам пад уплывам навакольных сацыяльных людзей, праз актыўны ўдзел у іх. Шлях да гэтага перакананьня перарабляе Гушку з дробна-ўласьніцкага, бязхлебнага шукальніка ілюзорнай справядлівасьці—«сапраўднай чалавечай дарогі для працавітага чалавека», які моцна верыць у сваю сялянскую праўду, у актыўнага, пасьлядоўнага рэвалюцыянэра і нарэшце—у камуніста. Шлях Гушкі—гэта мастацкае ўвасабленьне таго шляху, якім ішлі да камунізму мільённыя масы працоўных сялян-беднякоў Беларусі.

Найбольш значнае пасьля Гушкі мейсца ў п'есе займае вобраз Эвеля Цывіна—станоўчы вобраз бальшавіка-рэвалюцыянэра. Гэта ня схэма, не чалавек лёзунг, ня формула, а сапраўдны, жывы, надзвычайна чалавечны і праўдзівы вобраз камуніста. За яго спакойнай стрыманасьцю, за лагоднай і ветлівай мяккасьцю паводзін і гутаркі, за яго ўдумлівымі, разважлівымі і заўсёды трапнымі рэплікамі, адчуваецца ўнутраная сіла волі, цьвёрдасьць і ўстойлівасьць перакананага рэволюцыянэра. На жаль, гэты цікавы, каштоўны і патрэбны вобраз паказаны ў п'есе толькі на ўмовах дарэвалюцыйнага часу.

Вобраз Цывіна зусім не выяўлен ва ўмовах разгорнутай клясавай барацьбы, ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва. Цывін зьнікае з п'есы адразу пасьля захопу ратушы, гэта значыць якраз тады, калі ў вялізарных сацыяльных зрухах і падзеях з усёю сілаю павінны былі выявіцца, разгарнуцца і знайсьці сабе актыўнае прыстасаваньне тыя схаваныя ў ім істотныя бакі сапраўднай сутнасьці рэвалюцыянэра і камуніста, якія даюць аб сабе ведаць нават пад шыльдай знадворнай лагоднай флегматычнасьці ў сцэнах першага і другога актаў.

У адлюстраваньні вобразаў сучаснасьці аўтар выяўляе некаторую няўпэўненасьць, нерашучасьць. У гэтых вобразах, напрыклад, у вобразе сына Гушкі маладога рабочага-бальшавіка Адася, таксама як

і наогул у эпізодах трэцяга і чацьвертага актаў мала сапраўднай жыцьцёвасьці. Яны больш павярхоўныя, абязьлічаныя. Фігура Адася Гушкі мала выразная, адцягненая, аднастойная. Ён пададзены аўтарам у якасьці закончанага рэвалюцыянэра з першых крокаў свайго зьяўленьня ў п'есе і пакінут такім да канца бяз зьмен і хістаньняў, але затое і бяз росту, без разьвіцьця. Адась—вобраз мала жыцьцёвы, статычны. Аўтар ня здолеў у ім стварыць перaканальны і жывы вобраз рабочага бальшавіка.

Гэтыя абставіны сьведчаць аб найбольш слабых мясцох у творчасьці К. Чорнага, на якія аўтару неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу, але якія ня могуць зьнізіць высокую прынцыпова-ідэйную і мастацкую вартасьць яго сапраўды эпічнага твору, які паказвае актыўную перабудову пісьменьніка, які значна ўзбагаціў скарбніцу беларускай савецкай драматургіі, зьяўляючыся разам з «Гутай» асноўнай, вядучай п'есай беларускага тэатральнага рэпэртуару.

За апошні час шэрагі беларускай савецкай драматургіі значна запаўняюцца творамі маладых аўтараў, што ўпяршыню спрабуюць свае сілы ў галіне драматургічнай творчасьці. Сярод іх трэба адзначыць імёны Барыса Мікуліча, аўтара п'есы «Рот Фронт», Уладзімера Стэльмаха, Блісьцінава і інш.

## IV

Трэба з усею шчырасьцю і адкрытасьцю прызнаць, што ня гледзячы на шэраг конкрэтных дасягненьняў, ня гледзячы на сваё буйнае значэньне, ня гледзячы на вялікую палітычную ролю, якую адводзіць драматургіі партыя і Савецкі Урад, наша драматургія далёка яшчэ не адпавядае свайму прызначэньню, зьяўляючыся на сёньняшні дзень, як гэта ня дзіўна, адным з найбольш адсталых вучасткаў савецкай літаратуры.

Для таго, каб ліквідаваць гэта адставаньне, каб паставіць драматургію на ўзровень вялікіх сусьветна-гістарычных задач, якія высоўваюцца перад ёю партыяй і рабочай клясай, якіх вымагаюць ад яе посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва — пісьменьніку — драматургу трэба добра ўладаць тэарэтычнай зброяй марксызму-ленінізму, а гэта ў сваю чаргу вымагае актыўнага ўдзелу ў практыцы сац. будаўніцтва, узмоцненай працы пісьменьніка над сабою, над сваім палітычным і агульна-культурным узроўнем. Для гэтага патрэбна таксама і ўсебаковае крытычнае выкарыстоўваньне і засваеньне клясычнай спадчыны мінулага. За намі больш як два тысячагодзьдзі багацейшай чалавечай культуры. Уся гэта спадчына павінна належаць нам. Мы павінны выкарыстаць усё лепшае, усё патрэбнае сярод тых скарбаў, у тым ліку і ў галіне драматургіі. Наша сучасная драматургія павінна быць узбагачана лепшым драматургічным вопытам мінулых часоў. Варта ўспомніць, што ні адзін з вялікіх пісьменьнікаў і драматургаў мінулага не працаваў бяз уважлівага вывучэньня вопыту сваіх папярэднікаў.

Якраз з абмалёўкай характараў у нашай драматургіі справа асабліва дрэнная, а між тым у выказваньнях Маркса і Энгельса мы маем

надзвычай каштоўныя думкі аб тым, якое значэньне ў выяўленьні ідэёвага зьместу драматургіі маюць моцныя і ярка распрацаваныя, жывыя індывідуальныя характарыстыкі разьмежаваных і супроцьстаўленых адзін аднаму тыпавых вобразаў у тыповых абставінах. Досыць хоць бы спаслацца на вядомыя матар'ялы з перапіскі паміж Марксам, Энгельсам і Лясалем пра драму апошняга «Франц фон Зікінген», дзе Маркс раіць яму больш «шэксьпірызаваць», разумеючы пад гэтым здольнасьць Шэксьпіра ствараць моцныя і яркія характары індывідуальныя, але адначасова і тыповыя, зьвязаныя дыялектычнай узаемадзейнасьцю з умовамі свайго часу і сацыяльнага асяродку. Гэта выцякае таксама з лістоў Энгельса да Міны Кавуцкай і да Маргарэты Гаркнэс.

Адсюль паўстае перад савецкай драматургіяй вялізарная і адказная задача—быць на ўзроўні ідэй свае клясы, свае эпохі. А гэта выклікае настойлівую катэгарычную неабходнасьць сталай тэарэтычнай падрыхтоўкі драматургічных кадраў, вымагае ўважлівага вывучэньня імі багацьцяў скарбніцы ідэй марксызму-ленінізму.

Нарэшце перад драматургам павінна быць пастаўлена ва ўсю шырыню задача аўладаньня тэатральнай тэхнікай, тэхнікай сцэны. Без дакладнага веданьня законаў тэатру, бяз вывучэньня яе спэцыфікі ня можа быць добрага, драматургічнага твору. Між тым, у нашай практыцы недастатковае вывучэньне і засваеньне драматургамі культуры тэатру зьяўляецца адным з асноўных недахопаў. Часам бывае, што пісьменьнік, які бярэцца за працу над драматургічным творам, ня ўлічвае складанасьці гэтай справы, ня ўлічвае таго, што толькі тады яго твор будзе сцэнічны, калі ён добра вывучыць тэатр.

У сьвятле гэтых задач, пастаўленых перад драматургіяй, узьнікае неабходнасьць цалкам ліквідаваць той адрыў ад мастацкай літаратуры, тое замыканьне ў сваім вузкім, прафэсыйным коле, у сваім асяродку, якое ў пэўнай меры назіраецца сярод драматургаў. Трэба між іншым прызнаць, што віна ў гэтым становішчы ў значнай частцы прыпадае на кіруючыя літаратурныя арганізацыі і ў першую чаргу на былую БелАПП, у практыцы якой назіралася недаацэнка значэньня драматургіі. Ня гледзячы на сваю актуальнасьць, драматургія зьяўлялася ў нас да гэтага часу найбольш закінутым, беспрытульным вучасткам літаратуры. З адсутнасьцю належнай увагі да драматургіі трэба цяпер пакончыць. Трэба рашуча пакончыць з існуючым яшчэ ў нас поглядам на драматургію, як на нейкае абмежаванае, вузка прафэсыйнае рамяство па вырабу ўціль сырцу, напоўфабрыкату для сцэнічнай працы.

. У мэтах ліквідацыі адрыву драматургіі ад іншых відаў літаратуры, далейшага ўзьняцьця мастацкага ўзроўню драматургіі неабходна далейшае прыцягненьне ў шэрагі драматургаў буйных прадстаўнікоў іншых літаратурных жанраў. З гэтага боку трэба вітаць драматургічныя спробы такіх майстраў мастацкай літаратуры, як Андрэй Александровіч, як К. Чорны і Якуб Колас, які напісаў у мінулым годзе п'есу «Вайна да пабеднага канца», на тэму аб ператварэньні імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую.

Часам прыходзіцца яшчэ сустракацца з выказваньнямі, у якіх адчуваецца тэндэнцыя мэханічна адарваць прынцыповую накіраванасьць твору, яго ідэялёгічную актуальнасьць ад мастацкай вартасьці, ад фармальных якасьцяй. Ёсьць нават тэндэнцыі супроцьставіць гэтыя неадрыўныя бакі драматургічнага твору. Ня варта спыняцца на нявернасьці гэткіх поглядаў. Яны нясумяшчальны з сапраўдным разуменьнем ролі драматургіі, бо нельга ніякім чынам аддаваць перавагу якому-небудзь аднаму з гэтых бакоў без таго, каб не парушыць цэльнасьці і значнасьці твору. Кожны з гэтых бакоў, таксама як і разнастайнасьць жанраў, багацьце мовы, выразнасьць вобразаў, шырокая ўсебаковая абмалёўка тыповых характараў у тыповых абставінах, дакладная пабудова інтрыгі, нарэшце занімацельнасьць, эфэктыўнасьць, тэатральнасьць п'есы—усё гэта ў арганічным злучэньні з філёзофскай глыбінёй і высокай ідэёвай прынцыповасьцю зьместу павінна зьяўляцца аднолькава абавязковымі ўмовамі для кожнага добраякаснага, патрэбнага і карыснага драматургічнага твору. Палітычнае значэньне кожнай п'есы знаходзіцца ў простай залежнасьці ад яе мастацкай якасьці. Але адначасова з рашучым і безадгаворачным адмаўленьнем ад павярхоўнай, спрошчанай, схэматычнай агіткі, неабходна адначасова папярэдзіць і супроць іншай крайнасьці, супроць фармалістычнага эстэцкага захапленьня адцягненымі мастацкімі дасягненьнямі за кошт ідэёвасьці зьместу, у адрыве ад тэматыкі, ад палітычнага значэньня твору. Разглядаючы драматургію, як адзін з важнейшых сродкаў палітычнага выхаваньня мас, неабходна асабліва падкрэсьліць, што нам патрэбна драматургія высока-мастацкай якасьці. Палітычныя задачы драматургіі могуць быць вырашаны толькі сродкамі сапраўды мастацкай творчасьці.

Перад драматургам стаіць задача адлюстроўваць рэчаіснасьць не выпадковымі ўрыўкамі з жыцьця, не ў агульных контурах і абрысах, не з пасыўнай фатаграфічнасьцю, але ва ўсёй яе складанай шматграннасьці і сваеадменнасьці, у дынаміцы, у разьвіцьці, у дыялектычных супярэчнасьцях. Наша драматургія павінна адыйсьці ад спрошчанага выяўленьня клясавай барацьбы па асноўным плякатна-схэматычным, звычайна трафарэтным лініям. Яна павінна адмовіцца ад падмены адлюстраваньня складанай рэчаіснасьці плякатнай схэмай, спрошчанай формулай. Для гэтага патрэбна ўзмацненьне канкрэтнай сувязі пісьменьніка—драматурга з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва з рабочай клясай і яе барацьбой.

Гэта сувязь дапаможа драматургу шчыльней падыйсьці да рэчаіснасьці, дакладней зразумець яе асаблівасьці. Гэта сувязь будзе найбольш добра спрыяць практычнаму аўладаньню драматургамі марксыцка-ленінскім сьветапоглядам.

Надзвычай багаты па зьместу матар'ял для тэматыкі драматургічных твораў, надзвычай вялікую дапамогу ў сэнсе разуменьня і мастацкага засваеньня складаных асаблівасьцяй нашага часу даюць драматургіі працы студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б), які падвёў і абагуліў вынікі першага вопыту плянава сацыялістычнага будаўніцтва.

Цэлы шэраг асобных момантаў працы Пленуму і яго пастаноў, гістарычная прамова т. Сталіна на гэтым пленуме аб недатыкальнасьці грамадзкай сацыялістычнай уласнасьці, могуць быць пакладзены ў аснову тэматыкі і сюжэту напружаных, сапраўды драматычных твораў.

Ствараючы новы сацыялістычны грамадзкі лад, мы павінны зацьвердзіць яго асновы ў сьвядомасьці мільёнаў рабочых і сялян, мільёнаў працоўных мас Савецкага Саюзу, над якімі яшчэ часам пануе «сіла прывычкі, што склалася ў мільёнаў людзей на аснове шматвяковага існаваньня прыватнай уласнасьці ў мінулым» (Молатаў).

Перад намі ва ўсю шырыню паўстае цяпер праблема перамаганьня пры дапамозе мастацтва, тэатру, драматургіі старых звычаяў і забабонаў у псыхалёгіі людзей, якія стварыліся ва ўмовах капіталістычнага буржуазна-абшарніцкага ладу, праблема сацыялістычнага выхаваньня і перавыхаваньня мільённых мас. Перад савецкім драматургам стаіць адказная задача накіраваць сваю творчасьць так, каб зацьвердзіць у сьвядомасьці гэтых людзей асновы новага ладу, «новую мараль, новыя ідэі, новыя адносіны да працы, да сацыялістычнай уласнасьці, новую сьвядомую сацыялістычную дысцыпліну» (Стэцкі).

Мабілізуючы сябе на выкананьне гэтых задач, драматургія ня можа абмінуць адлюстраваньня і паказу вялізарных сацыяльных зрухаў, якія адбываюцца ў нашай краіне, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, узмоцненага супраціўленьня апошніх рэштак гінучай клясы эксплёататараў, выкліканага посьпехамі сацыялістычнага будаўніцтва, новых форм гэтай барацьбы, новай тактыкі клясавага ворага, яскравы аналіз якой даў у сваім выступленьні т. Сталін.

Асабліва гэта датычыцца драматургічных твораў з вясковай тэматыкай. Драматургам, што працуюць на матар'яле сучаснай вёскі, трэба памятаваць указаньні т. Сталіна аб тым, што «твар клясавага ворага зьмяніўся за апошні час», што вораг «зразумеў сілу і магутнасьць новага ладу ў вёсцы і, зразумеўшы гэта, перабудаваўся, зьмяніў сваю тактыку,—перайшоў ад простай атакі супроць калгасаў да работы ціхай сапай» (Сталін).

Адначасова з гэтым, ад драматургіі патрабуецца ўзмацненьне барацьбы з клясавым ворагам і ў сваім уласным асяродзьдзі.

Нядаўнія прарывы на літаратурным фронце БССР, зьвязаныя з клясава-варожымі вылазкамі эпігонаў нацыянал-дэмократызму, патрабуюць ад усіх сав. драматургаў узмацненьня клясавай пільнасьці, з тым, каб у любы момант даць зруйнавальны адпор усялякім спробам выкарыстаць драматургію ў мэтах варожых пралетарыяту, варожых сацыялістычнаму будаўніцтву.

Партыя і Савецкі Урад надаюць пытаньням пасьпяховага разьвіцьця савецкай драматургіі, пытаньням стварэньня рэпэртуару, аднолькава высокаякаснага з мастацкага і ідэялёгічнага боку, адпаведнага запатрабаваньням вялікай эпохі пабудовы сацыялізму, выключна вялікае значэньне.

Аб гэтым значэньні драматургіі аб тэй увазе, якую аддае партыя і ўрад мастацтву наогул і тэатральнай драматургіі ў прыват-

насьці—сьведчыць урадавы конкурс на лепшы драматургічны твор, абвешчаны 17 лютага 1933 г. Саветам Народных Комісараў СССР. Праз гэты конкурс, які ня мае прэцэндэнтаў у мінулым, Урад Савецкага Саюзу непасрэдна заклікае ўсе нашы лепшыя сілы, што працуюць у галіне мастацкай літаратуры, прыняць удзел у стварэньні п'ес, вартых нашай эпохі, прыняць актыўны творчы ўдзел у пашырэньні і палепшаньні тэатральнага рэпэртуару, г. зн. у накіраваньні тэй вялізарнай, магутнай па сваіх магчымасьцях сілы ўзьдзеяньня і ўспрыйманьня, якая ўласьціва тэатру, у бок садзейнічаньня задачам пабудовы бескласавага сацыялістычнага грамадзтва, вызначаных пастановамі XVII парткапфэрэнцыі, у бок сацыялістычнага выхаваньня і арганізацыі сьвядомасьці працоўных мас.

## V

Вызначаныя перад драматургіяй задачы патрабуюць, каб яна верна, праўдзіва, рэальна адлюстроўвала ў мастацкіх вобразах нашу рэчаіснасьць, каб савецкі тэатр верна, праўдзіва, правільна даносіў зьмест і ідэёвую накіраванасьць драматургіі да гледача. Гэта значыць наша драматургія павінна быць рэалістычная.

Прыйманьне сапраўднасьці робіць нас рэалістымі. Але рэалісты бываюць розныя. Мастацтва маладой буржуазіі таксама насіла яскрава выражаны рэалістычны характар. Але паміж нашым рэалізмам і паміж рэалізмам буржуазным вялікая прынцыповая розьніца, на якой трэба спыніцца падрабязьней.

Надзвычайна ўзорным прыкладам, што ілюструе характар буржуазнага рэалізму, можа служыць шэраг жывапісных твораў нідэрляндзкіх (Флямандзкіх і галяндзкіх) мастакоў-рэалістаў XVII стагодзьдзя. У гэтых творах найбольш яскрава ўскрываецца ўнутраная сутнасьць буржуазнага рэалізму, зьвязанага з тым пэрыядам, калі буржуазія, у дадзеным выпадку заможнае бюргэрства Нідэрляндаў, зрабілася гаспадаром становішча, пазбавілася ад палітычнай і рэлігійнай залежнасьці, уступіла ў паласу эканамічнага росквіту. Для настрояў гэтага часу робіцца характэрным здаровы, пазытыўны эпікурызм, лагоднае, сузіральнае задаваленьне жыцьцём, імкненьне выкарыстаць для сябе ўсё тое прыемнае, прыгожае, рэальнае, што можа і павінна даць гэтае жыцьцё. Асноўным для клясычнага буржуазнага рэалізму зьяўляецца станоўчае сьцьвярджэньне рэчаіснасьці. Творы нідэрляндзкага мастацтва прасякнуты здаровым, жыцьцёрадасным, аптымістычным настроем. Яны імкнуцца сьцьвярджаць, што жыцьцё прыгожае, што прырода цудоўна, што ўся навакольная рэчаіснасьць ва ўсіх яе праявах, усёроўна малых ці вялікіх, ёсьць дабро, што ўсё створана для патрэбы чалавека. Паводле сьветаадчуваньня флямандзкіх і галяндзкіх мастакоў, любая дэталь рэчаіснасьці варта мастацкага пэндзля, варта ўвекавечаньня, упрыгожваньня.

Ясна што такі рэалізм, буржуазны рэалізм, не да твару савецкаму мастаку, савецкаму драматургу. Розьніца паміж сацыялістыч-

ным рэалізмам і буржуазным у тым, што буржуазны рэалізм, накшталт рэалізму галяндзкай жывапісі, пазбаўлены ўзьлёту, эмацыянальнасьці. Ён накіраваны на дакладнае, але пасыўнае адлюстраваньне рэальнай рэчаіснасьці, прычым, у першую чаргу—усяго таго, што з пункту погляду самазадаволенага буржуа робіць жыцьцё прыемным, прывабным, прытульным.

Савецкі мастак—мастак маладой рэволюцыйна-творчай клясы павінен адлюстроўваць у сваіх творах рэчаіснасьць, асьвятляючы яе ўспрыйманьне марксыцка-ленінскім сьветаразуменьнем, знаходзячы ў ёй сваё ўласнае месца будаўніка і барацьбіта. Мы самі актыўна ўзьдзейнічаем на рэчаіснасьць. Мы самі яе перарабляем, мы самі яе гаспадары. Таму савецкай драматургіі не да твару статычны, пасыўны, буржуазны рэалізм, які можа паказаць толькі вонкавую абалонку рэчаіснасьці, не пранікаючы ў сутнасьць зьяў, які ня ў сілах правільна ўскрыць яе сапраўдную сутнасьць, разумець яе ў дынаміцы, у разьвіцьці, у руху, у супярэчнасьцях, у барацьбе.

Сацыялістычны рэалізм, рэалізм узброены сацыялістычным, марксыцка-ленінскім сьветаразуменьнем мастака, застаецца адзіным, што найбольш адпавядае творчым мэтадам савецкай драматургіі. Але сацыялістычны рэалізм нельга разглядаць, як выключны, катэгарычны, манапольны кірунак. Ня гледзячы на свае станоўчыя адносіны да рэчаіснасьці, сацыялістычны рэалізм ніякім чынам не выключае, напрыклад, рэвалюцыйнай рамантыкі. Наадварот, паколькі мы актыўна перарабляем рэчаіснасьць, паколькі разглядаем яе ня толькі як поле сваёй дзейнасьці, але і як матар'ял, як аб'ект свайго ўзьдзейнічаньня, нам уласьціва прадугледжваць будучае, моцна жадаць хутчэйшага ажыцьцяўленьня таго, да чаго мы імкнемся, што мы падрыхтоўваем сваёй барацьбой і працай.

Законнай формай такіх імкненьняў у мастацтве зьяўляецца рэвалюцыйная рамантыка. У супроцьлегласьць рамантыцы рэакцыйнай, містычнай, мэтай якой зьяўлялася ідэалістычнае імкненьне ўцячы ад жорсткай рэальнай сапраўднасьці ў фантастычны, бязглебны сьвет ілюзорных блуканьняў, моц нашай рэвалюцыйнай рамантыкі ў тым, што яна не бязглебная, што яна сваімі карэньнямі зьвязана з рэчаіснасьцю, што яна цалкам выцякае з канкрэтнай рэальнасьці сацыялістычнага будаўніцтва, з канкрэтнай рэальнасьці сёнешняга дню.

У сэнсе выбару той ці іншай формы драматургічнага твору, таго ці іншага жанру, у нас няма і ня можа быць ніякага адзінага і абавязковага для ўсіх пунктаў погляду. Для нас любы спосаб, любы мастацкі прыём, любая форма мастацкага твору цалкам прыймальна, калі яна падпарадкавана асноўнай задачы, калі яна ўдала выконвае свае функцыі найбольш поўнага, найбольш вернага, найбольш пераканальнага выяўленьня ідэйна-філёзофскага зьместу і сутнасьці твору, калі яна найбольш дакладна даводзіць гэты зьмест да гледача, калі яна здольна арганізаваць сьвядомасьць гледача ў патрэбным кірунку, калі яна, нарэшце, дапамагае гэтаму твору быць актыўным сродкам эмацыянальнага ўзьдзейнічаньня на псыхалёгію гледача ў інтарэсах сацыялізму, у інтарэсах рабочае клясы.

Таму ня варта надаваць празьмернага значэньня і прынцыповай непарушнасьці драматургічным жанрам. Задачы ўсебаковага і вернага адлюстраваньня рэчаіснасьці ва ўсіх складаных працэсах яе дыялектычнага разьвіцьця і станаўленьня часам, магчыма, і ня могуць зьмясьціцца ў вузкіх рамках клясычнага падзелу на драматургічныя жанры. Адсюль і робіцца характэрным у нашай драматургіі зьмешваньне ў адным творы элемэнтаў розных жанраў, пераход аднаго жанру ў другі, стварэньне новых.

Штучна захоўваць ва ўсёй недатыкальнасьці старыя драматургічныя каноны бясспрэчна няма патрэбы. Але адначасова нельга і наадварот, узводзіць гэтыя, абумоўленыя асаблівасьцямі часу працэсы натуральнай дэфармацыі жанраў—распад некаторых старых і ўзьнікненьне на іх аснове новых—у нейкі катэгарычны і абавязковы для ўсіх прынцып.

Цалкам адмаўляць некаторае адрозьніваньне жанраў нельга. Між тым у нас наглядаецца пэўная недаацэнка з боку драматургаў жанравай дыфэрэнцыяцыі сваіх твораў. Для тэатральнага рэпэртуару апошніх часоў стала асабліва характэрнай поўная нівеліроўка, нявыразнасьць жанраў. Зусім не разглядаючы драматургічныя жанры ў якасьці непарушных, адвечных катэгорый, можна ўсё-ж такі сьмела адзначыць, што для большасьці з іх у нашых умовах ёсьць усе падставы для разьвіцьця і культываваньня на сцэне.

Мы ня можам, напрыклад, адмаўляць ні трагэдыі, ні камэдыі, ні сатыры. Я хачу паставіць пытаньне не аб тым, ці можа ў нашых умовах існаваць на савецкай сцэне савецкая трагэдыя, і што трэба разумець пад трагэдыяй. У нас ёсьць усе падставы для стварэньня сваіх уласьных і вялікіх зьместам трагэдый.

Тып трагэдыі, які павінен для нас быць найбольш блізкім, сугучным і прыймальным, гэта трагэдыя рэвалюцыянэра, які ўступіў у барацьбу за будучы лад з сіламі старога ладу, настолькі яшчэ моцнымі, каб перамагчы заўчасныя элемэнты новага.

Найбольш блізкай тэмай для нашай трагэдыі могуць служыць асобныя трагічныя момanты з гісторыі барацьбы прыгнечаных кляс.

З выказваньняў Маркса адносна драмы Лясаля мы ведаем, напрыклад, што Маркс лічыў трагэдыю Томаса Мэнуэра, трагэдыю заўчаснага, і таму ахвяраванага на няўдачу, на пагібель рэвалюцыйнага паўстаньня,—цалкам вартай і патрэбнай тэмай для адпаведнага драматургічнага твору.

Узорам аналёгічных, пажаданых для мастацкага адлюстраваньня гістарычных трагэдый зьяўляюцца, на маю думку, таксама такія гістарычныя моманты, як пагібель народных трыбунаў Тыбэрыя і Кая Гракхаў у антычным Рыме, пагібель Бабэфа, Парыская Комуна і інш. Трагэдыі на адзначаныя тэмы будуць спрыяць правільнаму разуменьню гледачом разьвіцьця гістарычных працэсаў, будуць знаёміць яго з рэвалюцыйнай барацьбой нашых папярэднікаў, будуць спрыяць павышэньню культурнага ўзроўню працоўных мас.

Ніхто ня можа адмаўляць таксама значэньня для савецкага тэатру камэдыі. Камэдыя нам надзвычайна патрэбна. Вострай сатырай,

выкрывальным сьмехам яна павінна змагацца з усімі праявамі старога, непатрэбнага, якое чапляецца яшчэ за жывое.

Аб'ектам сатыры, аб'ектам бязьлітаснага сьмеху могуць быць такія рэчы, як бюракратызм, коснасьць, нацыянальная абмежаванасьць, як тое мяшчанства, якое паводле слоў Маркса «ня можа пайсьці далей бясьсільных праяў фанатычнай злосьці альбо збору санча пансаўскіх сэнтэнцый і прамудрых навучаньняў».

Сродкамі гумару, спачувальнага, які накіроўвае, камэдыя можа спрыяць таксама перавыхаваньню адсталых пластоў у шэрагах пралетарыяту, змагацца супроць адсталых традыцый дробна-буржуазных звычак, супроць перажыткаў капіталізму ў сьвядомасьці працоўных, сярод калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў, сярод інтэлігенцыі, якая працуе на карысьць рабочае клясы. Нарэшце, бадзёры, здаровы сьмех патрэбны працоўнаму гледачу ў якасьці моцнай, здаровай зарадкі, якая асьвяжае яго, надае бадзёрасьць, аптымістычны настрой для далейшай напружанай працы.

Між тым гэтаму жанру драматургіі ў нас зьвяртаецца надзвычайна мала увагі. На сцэне нашых тэатраў ня было яшчэ ніводнай сапраўднай камэдыі.

Патрэбна яшчэ раз падкрэсьліць, што ў сэнсе выбару той ці іншай мастацкай формы для драматургічнага твору, у сэнсе выкарыстоўваньня старых форм і выкарыстоўваньня новых, ня можа быць ніякага адзінага і абавязковага для мастака пункту погляду.

Але для ўсіх савецкіх драматургаў, незалежна ад іх мастацкіх густаў, сымпатый і антыпатый, павінна быць абавязковай адна задача, адна ўмова, адна мэта, на вырашэньне якой павінны быць накіраваны іх творчыя імкненьні. Гэта—зрабіць свой твор сапраўдным, дзейным сродкам палітычнага выхаваньня мас.

## VI

Вялікай эпосе павінна адпавядаць вялікая драматургія. Наша драматургія павінна быць вялікай. Наша драматургія павінна яшчэ даць свайго Сафокля і Арыстафана, свайго Шэксьпіра і Мальера. Яна ня можа ня быць вялікай, бо належыць да вялікай эпохі.

Эпоха вялізарнай перабудовы сьвету, эпоха стварэньня бесклясавай сацыялістычнай грамады патрабуе вялікіх драматургічных твораў, жывых помнікаў гэтай эпохі.

Наш гледач—актыўны будаўнік, гэраічны змагар за сацыялізм, за перабудову сьвету, які на справе ператварае ў жыцьцё лепшыя мары перадавых розумаў чалавецтва—ня можа і ня хоча задаволіцца бездапаможнымі, схэматычнымі прымітывамі, абстрагаванымі няжыцьцёвымі формуламі, убогімі, антымастацкімі ўрыўкамі.

Ён патрабуе вялікай драматургіі.

Ён хоча бачыць на сцэне моцнае, якое-б хвалявала і захапляла, ідовішча. Ён хоча бачыць жыцьцёвыя, мастацкі моцныя, пераканальныя, поўнакроўныя вобразы жывых людзей, у жывым бурным струмені складаных супярэчнасьцяў, барацьбы, перамаганьня.

Ён хоча глядзець адчыненымі вачыма, каб яго вялікая гістарычная справа паўставала-б перад ім на сцэне ва ўсёй сваёй велічы, на ўвесь свой рост, у моцных вобразах, у яркіх фарбах, у магутных акордах вялікай, тытанічнай сымфоніі.

Справа стварэньня такой драматургіі, справа стварэньня такога тэатру—жывых помнікаў нашай вялікай, непаўторнай эпохі—павінна стаць справай гонару, справай творчага спаборніцтва нашых пісьменнікаў і драматургаў, актораў і рэжысэраў, мастакоў і кампазытараў.

**М. Модэль**

# ПРА ЯЎРЭЙСКУЮ САВЕЦКУЮ ДРАМАТУРГІЮ, ПРА КРЫТЫКУ

Яўрэйская савецкая драматургія БССР дала БДзЯТ за ўвесь час яго існаваньня толькі дзьве п'есы «Барацьбу машын» Даўгапольскага і «Партызаны» Аронэса.

П'есай «Барацьба машын» Даўгапольскага на тэму аб рацыяналізацыі вытворчасьці і новым быце, тэатр упяршыню падышоў да тэматыкі рэканструкцыйнага пэрыяду, на першым яго этапе.

Гэта работа зьявілася выключна адказным крокам у працы тэатру.

Ня гледзячы на актуальнасьць тэматыкі драматычнага твору, гэтая работа тэатру ў масавага гледача і ў большасьці крытыкі сустрэла, у асноўным, адмоўную ацэнку. Аўтар ня здолеў узьняцца на ўзровень сацыялістычнага рэалізму ў адлюстраваньні нашай рэчаіснасьці. Узяўшы тэму аб барацьбе на трыкатажнай фабрыцы навакол установкі новых машын—мэханізацыі фабрыкі, аўтар вырашае гэту тэму гістарычна няверна.

Праблемы, якія стаялі перад драматургам, былі раскрыты ў дробна-буржуазным асьвятленьні. Адмоўныя зьявы ў нашай рэчаіснасьці засланілі гэроіку, патас будаўніцтва, сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, працу, якая стала «справай гонару, мужнасьці і геройства», рост культурнага ўзроўню рабочае клясы і сапраўдныя парасткі новага побыту.

Аўтар не разгарнуў паказу барацьбы шырокіх кадраў рабочых за сацыялістычную рацыяналізацыю нашых прадпрыемстваў, а выпукліў ня тыповыя настроі адсталых элемэнтаў у рабочай клясе, якія выступаюць супроць рацыяналізацыі, не разумеючы прынцыповай розьніцы рацыяналізацыі на сацыялістычных і капіталістычных прадпрыемствах.

Аўтар сваю мастацкую зброю накіраваў на раскрыцьцё нэпманскага перараджэньня паасобных зьвеньняў рабочае клясы, нэпаўскіх уплываў на паасобных камуністаў, гіпэрбалізуючы і абагульняючы гэтыя нятыповыя зьявы.

Пазытыўны тыпаж, які ўвасабляе кіруючую ролю партыі і прафсаюзаў у сацыялістычным будаўніцтве, пададзены альбо «рупарамі духу часу» (Маркс), схэмамі, з рытарычна-лёзунговай мовай, альбо нэгатыўнымі характарамі, як старшыня фабкому і дырэктар. Аўтар і пастаноўшчык, разгортваючы паказ варожых сацыялістычнаму бу-

даўніцтву сіл, ня гледзячы на некаторую гратэсковасьць, упадаюць у эстэцкае смакаваньне сярэднявяковых клерыкальных абрадаў, «міквы» (басэйну для рэлігійнага абмываньня).

Вобраз нэпмана Рабінака і яго дачкі Зоі—жонкі дырэктара фабрыкі гіпэртрафіраваны і прэвалююць над іншымі вобразамі. Суадносіны клясавых сіл, як яны пададзены ў «Барацьбе машын», скажаючы савецкую сапраўднасьць, адвялі тэатр далёка ў бок ад сацыялістычнага рэалізму.

Паказ новага рабочага быту ў спэктаклі падменены смакаваньнем быту нэпмана Рабінака і яго сацыяльнага абкружэньня. Фінал, які гучыць пераможным гімнам сацыялістычнаму будаўніцтву, сьветлай «плямай» выпадае з усёй дробна-буржуазнай канцэпцыі п'есы і спэктаклю.

У спэктаклі надзвычайна шырока скарыстан музычны фальклёр кампазытарам Панізоўскім, але вельмі ня крытычна—аб гэтым у прыватнасьці сьведчыць сьпеў баньшчыцы і Рабінака, праз які, поруч з ідэалізацыяй самабытнасьці, уваскрашаюцца слаўныя традыцыі яўрэйска-нямецкага апэрэтачнага тэатру, з якім у свой час у пастаноўцы «Скапэн» тав. Рафальскі змагаўся. Мы мелі ў гэтым спэктаклі, як і у «Глухім» (у апошнім больш выразна), пэўныя рэцыдывы уплываў яўрэйскага нацыяналізму.

Тав. Рафальскі ў сваім выступленьні ў газэце «Юнгэр Арбэйтэр» 8/XII-29 г. рабіў спробы абараніць спэктакль ад законных нападаў на яго з боку крытыкі.

Спасылаючыся на законнае права тэатру рабіць палемічныя, з пункту погляду сцэнічнага мастацтва, паказы, ён памылкова ўзяў пад сваю абарону гэты спэктакль. Ён пісаў: «Барацьба машын» актуальны спэктакль, які ставіць шэраг сучасных нашых праблем, спэктакль аптымістычны, радасны, другі акт надзвычайна «кусьлівы» і перабівае камізм і нікчэмнасьць дробнага буржуа і клерыкала».

Прызнаўшы спэктакль «аптымістычным, актуальным і радасным» тав. Рафальскі ўзяў пад абарону яго ідэйныя ўстаноўкі недаацаніўшы кляса-варожы характар уплываў дробнай буржуазіі і клерыкалізму на адсталыя колы рабочае клясы, заяўляючы аб іх «нікчэмнасьці і камізьме».

Правільна зрабіў тэатр, зьняўшы пад націскам пралетарскай грамадзкасьці ў Гомелі «Барацьбу машын» з рэпэртуару.

Тэма «Партызан» Аронэса надзвычайна актуальная. Аўтар ставіў перад сабой задачу адлюстраваць барацьбу чырвоных партызан супроць пятлюраўшчыны і белагвардзейцаў у час грамадзянскай вайны, маючы на ўвазе стварыць абаронную п'есу. Але гэтая тэма не знайшла гістарычна-праўдзівага мастацкага вырашэньня. Ідэёва-філёзофскі ўзровень гэтага твору вельмі нізкі.

«Партызаны» малююць хроніку падзей у царскай арміі ў імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайне. Матэрыял гэтай хронікі ў значнай меры запазычаны як ад яўрэйскай літаратуры («Мэндэле» Гільдзін), так і ад рускай савецкай драматургіі («Першая конная», «Любоў Яравая»).

Мэханістычнае злучэньне ўрыўкаў не стварыла поўнацэнны драматургічны твор, які павінен мець скразны сюжэт, інтрыгу і іншыя ўласьцівыя драматычнаму твору кампазыцыйныя якасьці. Замест адзінага сюжэту аўтар праз усю п'есу праводзіць асноўныя вобразы—падмайстра Аврэмэле, рабочага Эстрына і інш.

Кампазыцыйныя недахопы «Партызан» знаходзяцца ў поўным адзінстве з ідэёвымі хібамі. Партызанскі рух узят аўтарам як існасьць сама ў сабе, без дыялектычнай сувязі з клясавым змаганьнем і грамадзянскай вайной, якая адбываецца навакол, без выяўленьня кіруючай ролі партыі і рабочае клясы ў рэвалюцыі. Партызанскі разьдзел выключан з навакольнай рэчаіснасьці клясавай барацьбы. Першы акт, адлюстроўваючы жыцьцё і быт царскай арміі, зусім мала зьвязан з астатнімі і ў паказе царскай арміі зьяўляецца дрэннай копіяй «Першай коннай» Вішнеўскага.

Адсутнасьць марксыцка-ленінскага сьветапогляду ў аўтара «Партызан» адчуваецца ва ўсім творы.

У салдат царскай арміі ўвесь час прабіваецца нейкая біялёгічная агіда супроць вайны, якая замяняе клясавую ненавісьць: «заб'юць, ці не заб'юць»—вось праблема. Армія мэханічна падзяляецца: «усе салдаты супроць вайны, а ўсе афіцэры за», альбо: «уся бедната ідзе на фронт, а ўсе багатыя застаюцца ў тыле». А клясавага сэнсу вайны аўтар ня ўскрывае. Рабочая кляса ў п'есе прадстаўлена двумя саматужнікамі—Эстрыным і яго вучнем—гарбуном Аврэмэле.

Аўтар мэханічна падзяляе партыі на бальшавікоў і меншавікоў: усе інтэлігенты—зьяўляюцца меншавікамі, а салдаты, рабочыя і сяляне—усе паталоўна бальшавікі.

Слоўны фальклёр у п'есе аўтарам узят вельмі някрытычна, і мова п'есы занадта перагружана вульгарызмамі.

Асноўны вобраз у «Партызанах»—Аврэмэле—ня гістарычна-праўдзівая, а выдумана-фантастычная фігура.

Аўтар «Партызан» галоўным героям узяў гарбуна падлетка-саматужніка, якому надаў вядучую ролю ў падпольнай рэвалюцыйнай дзейнасьці, грамадзянскай вайне і партызанскім руху. Яму нададзены якасьці лепшага партызана ў атрадзе і лепшага бальшавіка ў савеце.

Уся кампазыцыя «Партызан» так пабудавана, каб даць Аврэмэле больш сцэнічна выгадных сытуацый, не ў залежнасьці ад гістарычнай сапраўднасьці, а часта напоперак гэтай сапраўднасьці, скажаючы яе.

Драматург падышоў да сваёй задачы з пазыцыі дробна-буржуазнай рамантыкі і самагоднай тэатральнасьці і забаўнасьці. Драматург не зразумеў, што забаўнасьць, у нашых умовах патрабуе ўзьняцьця формы да вышыні нашага сацыялістычнага зьместу, а не скажэньня рэчаіснасьці на карысьць тэатральнай формы.

Эстрын—камандзір партызанскага атраду, звычайная схэма бальшавіка і досыць хадульная. Гэта статычная фігура, якая больш разважае, чым дзейнічае.

Вядучым элемэнтам у паказе зьяўляецца драматычны твор, і раз тэатр узяў хібны твор, калектыў тэатру і рэжысура ня здолелі стварыць спэктакль, які ў стыле рэвалюцыйнага рамантызму гістарычна-

праўдзіва адлюстраваў-бы гэроіку грамадзянскай вайны і партызанскага руху. Удалыя мізансцэны, цікавае выпрацэньне вобразу Аврэмэле акторкай Арончык—не мяняюць сутнасьці справы.

Зразумела, што ацэньваць работу ўсяго тэатру толькі па гэтых двух п'есах нельга, бо гэта было-б паклёпам на яўрэйскі тэатр, які мае ў сваім рэпэртуары такія буйныя работы, як «Ботвін», «Гірш Лекерт», «Авечая крыніца» і інш., і які мае моцны творчы калектыў.

Прыведзеныя намі драматычныя творы сьведчаць аб недапушчальным адставаньні яўрэйскай савецкай драматургіі БССР ад задач сацыялістычнага будаўніцтва, сьведчаць аб тым, што на гэтым вучастку трэба біць трывогу, мабілізуючы лепшыя кадры яўрэйскай савецкай літаратуры на стварэньне сацыялістычнай драматургіі.

Неабходна прад'явіць вялікі рахунак яўрэйскай сэкцыі аргкамітэту, яе пісьменьнікам і крытычным кадрам, якія павінны рашуча павярнуцца тварам да вядучага вучастку літаратуры, на дадзеным этапе.

У сувязі з гэтым я хачу сказаць і аб т э а т р а л ь н а й к р ы т ы ц ы.

Абвостраная клясавая барацьба ў краіне выклікае шалёнае супраціўленьне рэштак капіталістычнае клясы па ўсім фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

Мы маем актывізацыю фармалістычных буржуазна-нацыяналістычных уплываў і на тэатральным фронце, якія знаходзяць сваё праяўленьне ў недаацэнцы і супроцьстаўленьні рускай пралетарскай драматургіі—беларускай пад лёзунгам «арыгінальнай нацыянальнай п'есы», у патрабаваньні «агульна-нацыянальнай» спэцыфікі і стылю бяз клясавага падзелу, у выпустошваньні ідэёвага зьместу спэктакляў за кошт фармальна-эстэтычных элемэнтаў, у тым, што забываюцца пра нацыяналістычна-фармалістычныя памылкі ў старых п'есах і спэктаклях пры іх аднаўленьні.

Гэтыя праявы ёсьць і ў захапленьні экзотыка-этнаграфічнымі і самабытнымі асаблівасьцямі пры невыстарчальна выразным раскрыцьці клясавай сутнасьці калізій, сітуацый, сцэнічных вобразаў. Пад лёзунгам барацьбы за мастацкую спэцыфіку, без якой няма мастацкага твору, буржуазныя фармалісты спрабуюць падпарадкаваць гэтай спэцыфіцы наш бальшавіцкі ідэёвы зьмест, спрабуюць зноў працягваць старыя тэорыі і тэорыйкі аб рэвалюцыйнасьці самой формы, падмяняючы задачу ўзьняцьця формы да прынцыповай вышыні сацыялістычнага зьместу—падпарадкаваньнем зьместу ўра-рэвалюцыйнай форме.

Новы этап разьвіцьця савецкага тэатру, канкрэтныя праявы клясавай барацьбы на тэафронце высоўваюць асабліва адказныя задачы перад тэатральнай крытыкай, якая павінна пад кіраўніцтвам партыі ператварыцца ў вядучы атрад тэатральнага фронту.

Не да твару бальшавіцкай крытыцы хавацца за цяжкасьці, за традыцыйныя разважаньні аб адставаньні і слабасьці яе і іншыя аб'ектыўныя прычыны. Няма такіх аб'ектыўных прычын, якія-б дазволілі крытычным кадрам не змагацца рашуча і паслядоўна за

бальшавіцкую ідэйнасьць і высокі мастацкі ўзровень нашай драматургіі і тэатр. Цяжкасьцяй трэба не палохацца, не адступаць перад імі, ня кідаць крытычнае зброі, аддаючы яе ў рукі толькі нейкім патэнтованым спэцыялістам ад крытыкі, а глыбокім вывучэньнем мэтадалёгіі Маркса—Энгельса, Леніна і Сталіна і тэхналёгіі сынтэтычнага мастацтва перамагаць гэтыя цяжкасьці. Трэба ў крытыцы пакончыць з гнілым лібэралізмам, са шкоднай далікатнасьцю і «ківаньнем на Пятра», што мае ў нас часта месца.

Крытыка павінна змагацца з бальшавіцкім палам і незамірымасьцю з усялякімі клясава-варожымі буржуазна-нацыяналістычнымі і фармалістычнымі праявамі на тэатральным фронце.

Крытычныя кадры, што працуюць непасрэдна на тэатральным фронце, не такія ўжо мізэрныя. Поруч з кваліфікаванымі работнікамі (Вольскі, Усс) працуе і моладзь (Ляпіч, Тэйф, Мікуліч, Галубіцкая, Галубок, Сабаленка, Царт і інш.), якія патрабуюць сыстэматычнага кіраўніцтва іх работай. А гэтага кіраўніцтва, на вялікі жаль, ня было з боку драмтаварыства, ня было яго і з боку інстытуту ЛіМ.

Белдрамтаварыства недаацэньвала значэньня крытыкі ў выхаваньні драматургічных кадраў, што зьяўляецца адной з буйных памылак у яго рабоце.

З гэтай практыкай трэба рашуча пакончыць.

Сэкцыя драматургаў і крытычная сэкцыя аргкамітэту павінна аб'яднаць крытычныя кадры і наладзіць ідэёва-мастацкае кіраўніцтва крытыкай, дапамагаючы ёй у выкананьні тых адказных задач, якія ўскладаюцца на яе партыяй, таму што адным і разважаньнямі аб «нізкім узроўні» і «адставаньні» мы справы наперад не пасунем.

Практыка інстытуту ЛіМ у справе абмеркаваньня спэктаклю «Зямля і неба» ў БДзТ-1 павінна быць пашырана і перанесена ў дачыненьні да ўсіх тэатраў.

Неабходна ўстанавіць шчыльную практычную сувязь крытыкі з тэатральнай вытворчасьцю.

Крытыцы неабходна пакончыць з практыкай ігнараваньня маладых драматургаў і самадзейнага мастацтва.

Кожны новы драматычны твор, кожны спэктакль павінен знайсьці шырокае і ўсебаковае абгаварэньне ня толькі ў друку, але на дакладах, дыспутах, якія павінны ўвайсьці ў штодзённую практыку сэкцыі драматургаў. У пляне дапамогі маладым драматургам зьяўляецца няправільным падыход Літвінава да т. Блісьцінава, калі ён кваліфікуе «Грунт», бяз усякіх довадаў, як макулатуру. Блісьцінаў мае шэсьць п'ес, і трэба аб творчай практыцы маладых драматургаў гаварыць улічваючы ўсю яго прадукцыю, і т. Блісьцінаў управе чакаць ад буйнейшага нашага рэжысэра Літвінава разгорнутай матываванай крытыкі і сапраўднай творчай дапамогі.

Самая жорсткая, бязьлітасная бальшавіцкая крытыка павінна і вучыць нашы кадры, дапамагаць узьняцьцю іх творчасьці на больш высокую ступень, дапамагаць мабілізацыі іх на барацьбу за прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму.

**І. Плашчынскі**

# ТВОРЧАСЬЦЬ СКРЫГАНА

## I

Скрыган прышоў у літаратуру з некалькімі вершамі. Вершы для яго былі толькі як-бы першай спробай загаварыць мастацкім словам. Скрыган вядомы чытачу, як празаік.

Янка Скрыган мае ўжо некалькі год літаратурнай практыкі, некалькі зборнікаў сваіх твораў,—ведае пэўны шлях свайго творчага разьвіцьця. Прасачыць шлях пісьменьнікавага творчага разьвіцьця—задача гэтага артыкулу.

Тэматычны плян Скрыгановай творчасьці галоўным чынам зьвязан з вясковай рэчаіснасьцю. Тут радзілася пераважная большасьць ягоных герояў, з гэтым жыцьцём так ці інакш зьвязана і іхнае жыцьцё. Горад калі і закранаецца пісьменьнікам, то найчасьцей вельмі абежна. Характэрна, што пісьменьнік бярэ вёску як нешта сацыяльна самастойнае, сацыяльна замкнёнае, ня ўскрывае злучальных ліній паміж вёскай і горадам, у яго тут выразная сацыяльная разарванасьць гэтых двух полюсаў рачаіснасьці. Покуль што адно падкрэсьлім, што гэта, асабліва ў дачыненьні да паказу працэсаў сучаснасьці, прыводзіць да нязвычайнага звужваньня і няправільнага разуменьня гэтых працэсаўператварэньня старой рачаіснасьці.

Што-ж найбольш цікавіць пісьменьніка, на чым спыняецца ягоная творчая ўвага? Сярод апавяданьняў першага зборніку «Затока ў бурах» ёсьць некалькі такіх, за матар'ял для якіх бярушча зьявы вялікага сацыяльнага значэньня, як напрыклад: імпэрыялістычная вайна, Кастрычнікавая рэвалюцыя, белапольская акупацыя (аповесьць «Затока ў бурах», «Шорсткая дарога», «Памятнае»). Але нават і ў гэтых рэчах узятая пісьменьнікам тэма не разгортваецца ў патрэбнай для яе сацыяльнай шырыні, сапраўднай сацыяльнай глыбіні зьявы тут няма, ня кажучы ўжо пра шэраг іншых апавяданьняў, тэма якіх зусім не вызначаецца калькі-небудзь значнай сацыяльнай вартасьцю, зьяўляючыся тэмай суб'ектывістычнага парадку.

Цікава адзначыць, што ў Скрыгановай творчасьці прыблізна аж да 1929 году тэмы, зьвязаныя непасрэдна з сацыялістычным будаўніцтвам, цалкам адсутнічаюць. Сярод усіх апавяданьняў гэтага часу няма ніводнага, дзе паказвалася-б пасьлякастрычнікавая рачаіснасьць. Затое тут значнае месца займаюць апавяданьні, стрыжнем якіх зьяўляецца выпадковае, нехарактэрнае і малаважнае, падчас рамантызаванае мінулае. Да такіх рэчаў адносяцца «Таіса», «Паэма пра Анюту», «Каваляк іх жыцьця», «Зарубчык» і інш. На некаторых з гэтых рэчаў адчуваецца значны налёт літаратуршчыны, штуч-

насьці і хадульнай сэнтымэнтальнасьці. Гэта адчуваецца ня толькі ў саладкава-лірычных дачыненьнях, у пэўнай позе гэтых дачыненьняў пісьменьнікавага «я» да сваіх герояў («Поэма пра Анюту» і асабліва «Таіса»), але і ў мове. Важна падкрэсьліць, што лейтматывам названых рэчаў зьяўляецца каханьне, апранутае найчасьцей у формы сэнтымэнтальшчыны. Тут няма нават і намёку на дужага чалавека, гэта людзі, якія ня ведаюць ні сапраўды вялікіх хваляваньняў, ні грамадзкіх імкненьняў, гэта людзі, занятыя сваімі ўласнымі, дробна-асабістымі клопатамі, і перажываньнямі, людзі, без якіх-небудзь выразных грамадзкіх інтарэсаў, ня зьвязаныя з грамадзкім жыцьцём, не занятыя разьвязаньнем якіх-небудзь грамадзкіх праблем. Гэтыя апавяданьні падкрэсьліваюць, як далёка стаяў пісьменьнік у баку ад поступу нашай рачаіснасьці, што нават ніводзін вобраз чалавека-творцы яе не знайшоў сабе месца ў яго творчасьці гэтага часу. Ці не таму ягоная творчасьць гэтага часу ня ведае глыбокіх сацыяльных канфліктаў, ці не таму такая цяга да паказу непасрэдных адчуваньняў, ці не таму падчас нават згладжваецца, прытупляецца сацыяльная супярэчнасьць, захапленьне рамантызаваным мінулым, дзе ідэалізавана-інтымныя дачыненьні паміж людзьмі асабліва выпукляюцца ў параўнаньні з клясавай сутнасьцю чалавека, з клясавымі супярэчнасьцямі, з клясавай нянавісьцю.

«Жыцьцё чалавека—нявыразная, тонкая імклівасьць»—вось па сутнасьці ідэёвая аснова названых апавяданьняў, іх тэза, якая разьвязваецца ў пляне глыбока суб'ектыўных дачыненьняў, дачыненьняў выпадковых, на аснове выпадковага. Гэта «нявыразнасьць», азначае адсутнасьць у суб'екта Скрыгановай творчасьці шырокай сацыяльнай глебы, азначае яе абмежаванасьць, як дробна-буржуазнага інтэлігента, ня ўключанага ў непасрэдны працэс сацыялістычнага будаўніцтва на аднаўленчым яго этапе.

З усяго зборніка вельмі кідаецца ў вочы, што пісьменьніка цікавіць перш за ўсё і галоўным чынам не аб'ектыўная, клясавая рачаіснасьць, не паказ сацыяльных падзей у іх грамадзкай складанасьці і супярэчнасьці, не паказ чалавечай дзейнасьці, думак і перажываньняў у еднасьці з аб'ектыўнай рачаіснасьцю, а чалавечыя адчуваньні, перажываньні, чалавечыя дачыненьні, адарваныя ад гэтай рачаіснасьці, замкнёныя ў сабе, пададзеныя часта нават без якой-небудзь сацыяльнай накіраванасьці, і зусім выпадковыя. Прычым, пісьменьнік не дае складанага малюнку чалавечай псыхалёгіі, яе росту, не кандэнсуе яе сацыяльнага зьместу, не паказвае і складаных сацыяльных узаемадачыненьняў паміж людзьмі. У тэй ці іншай ступені гэта стасуецца і да твораў, матар'ялам якіх служаць тэмы выразна-сацыяльнага парадку.

У аповесьці «Затока ў бурах» узята вёска часу імпэрыялістычнай вайны і першых год Кастрычнікавай рэвалюцыі. Але ў аповесьці няма шырокага малюнку ўзятых людзей, ні кандэнсацыі іхнага сацыяльнага сэнсу, ні паказу сапраўднага, апрычыненага нарастаньня грамадзкіх падзей, ні такога-ж росту сялянскае сьвядомасьці. Імпэ-

рыялістычная вайна і Кастрычнікавая рэвалюцыя апісаны вельмі павярхоўна, аднабакова, бяз іх унутраной сувязі, яны ў пэўным сэнсе бытуюць у аповесьці самастойна, разарвана. Кампазыцыйна яны зьвязваюцца толькі лёсам асобы, а не паказам сацыяльнай лёгікі іх разьвіцьця, каб на аснове гэтага разьвіцьця паказаць і разьвіцьцё самое чалавечае асобы. Пісьменьнік не разгортвае паказу зьяў, а дае ім сьціслыя характарыстыкі, нагрувашчвае факты, каб паказаць працэс. Адсюль павярхоўнасьць і вузасьць мастацкага малюнку, ягоная схэматычнасьць, нават скажэньне рачаіснасьці з прычыны аднабаковага і ідэёва няправільнага яе асэнсаваньня.

Паасобныя героі часам ставяць пытаньне, навошта імпэрыялістычная вайна, каму яна патрэбна, закранаецца яе клясавая сутнасьць, але якраз у гэтым і слабасьць «Затокі ў бурах». На росьце сацыяльнае актыўнасьці сялянскіх мас, на ўскрыцьці клясавага сэнсу імпэрыялістычнай вайны, на тым, што гэта вайна з усёй відавочнасьцю ўскрыла сацыяльныя супярэчнасьці тагачаснага грамадзтва, прывяла ў рух, да сацыяльнай актыўнасьці рознастайныя сацыяльныя пласты, узварушыла самыя глухія куткі царскай Расіі,— якраз на гэтым пісьменьнік і не з'асяроджкаваў свае ўвагі. У апісаньні вёскі часу імпэрыялістычнае вайны вельмі шмат плачу і зусім мала сацыяльнай завостранасьці гэтага плачу, клясавага аналізу вясковай рэчаіснасьці. У Скрыгановай вёсцы вельмі шмат сьлёз, бязьдзейнасьці, сацыяльнай пасыўнасьці і бадай зусім няма сьвядомага сацыяльнага пратэсту, што бытаваў побач з гэтай бязьдзейнасьцю і пасывізмам. Жыцьцёвая праўда вельмі звужана, аднабаковая: тут шмат цішыні, сапраўды нейкая «затока»; тут найбольш характэрным зьяўляецца «ціхі крык» рабства перад жыцьцём і няма паказу прычын, што абумовілі і гэта рабства і перарастаньне яго ў сьвядомы сацыяльны пратэст, у сацыяльную актыўнасьць. Увесь клясавы сэнс імпэрыялістычнай вайны пісьменьнікам фармулюецца ў вельмі сацыяльна нявыразнага зьместу «крывавых законах чалавечага вар'яцтва». У гэтых адмоўных пісьменьнікавых дачыненьнях да імпэрыялістычнай вайны ёсьць дадатныя, паколькі яна адмаўляецца, але ўсё-ж гэта не зьяўляецца выражэньнем акрэсьленага клясавага пратэсту супроць імпэрыялістычнай вайны, гэта пратэст наогул, блізкі да пратэсту дробнабуржуазнага пацыфізму, калі не зьяўляецца ім.

Таксама і да паказу рэвалюцыі на вёсцы пісьменьнік падышоў вельмі аднабока. Акрамя таго, што ў яго зьяўленьне рэвалюцыі паказваецца бяз глыбокай сувязі з папярэднімі падзеямі, якія яе рыхтавалі, што яна зьяўляецца неяк нечакана, акрамя гэтага пісьменьнік узяў толькі адзін момант зьявы—яе стыхійнасьць. У аповесьці «Затока ў бурах» рэвалюцыя паўстае як неабмежаваны сялянскі мяцеж супроць пана. Роля бальшавіцкага кіраўніцтва Кастрычнікам на вёсцы зьведзена тут толькі да моманту, што прывеў сялянскія масы ў стыхійна-нястрыманы рух.

Пісьменьнік ня ўбачыў арганізаванага пачатку, што накіроўваў гэты рух пэўным, зусім акрэсьленым шляхам. Пісьменьнік зусім абыйшоў складаны сацыяльны пераплёт у час Кастрычніка на вёсцы,

таму ў яго і выступае супроць пана ўся вёска наогул—ад бедняка аж да кулака, без дыфэрэнцыяванага паказу гэтых выступленьняў. Вось усё гэта гаворыць аб няправільнасьці паказу, скажэньні Кастрычніка на вёсцы.

На «Затоцы ў бурах» вельмі адчуваецца пісьменьнікава няспелась. Для гэтага твору характэрна тое, што пісьменьнік абмалёўвае зьявы занадта вонкава, таму яны і не паўстаюць у сваім унутраным разьвіцьці, у сваёй сацыяльнай абумоўленасьці. Гэта ў адноль-кавай ступені стасуецца, як да паказу вялікіх грамадзкіх падзей, гэтак і да паказу людзей. Ня кажучы ўжо пра тое, што ў аповесьці няма глыбокага ўскрываньня ўсяго сацыяльнага сэнсу ні імпэрыялістычнай вайны, ні Кастрычнікавай рэвалюцыі, ні змаганьня з бандытызмам, як і самога бандытызму, ня кажучы пра ўсё гэта, толькі адзначым, што побач з ім усё гэта ў аповесьці бытуе самастойна, бяз унутраной сувязі. Таму рэвалюцыя зьяўляецца нечакана, таксама як і бандытызм, антырэлігійнасьць вясковай моладзі; невядома якімі сацыяльнымі сіламі жывіўся бандытызм і г. д.

Трэба адзначыць, што пісьменьніку лепш удаліся малюнкі ціхага, без сацыяльных бур, жыцьця. Гэта можна бачыць і на вобразах людзей. Так, напрыклад, вобраз Алесі больш пераконвае ў яе горы і пакутах, у яе сьлёзах, чым у яе змаганьні з бандытызмам, на чале якога яна становіцца.

Ставячыся да імпэрыялістычнай вайны, як да жахлівага і вар'яцкага зьнішчэньня людзей, пісьменьнік, як і ў «Затоцы ў бурах», так і асабліва ў «Шорсткай дарозе» не канцэнтруе сваёй творчай увагі перш за ўсё на сацыяльным сэнсе гэтага нячуванага пабоішча, на яго клясавай накіраванасьці, каб выкрыць яго сапраўднае аблічча і пратэставаць супроць вайны на поўны голас. У апавяданьні «Шорсткая дарога» пісьменьнікава ўвага прыкавана выключна да трагічнасьці лёсу асобы, да яе бяздольнасьці і нейкай накананай бязвыходнасьці пазбавіцца ад жахлівай «шорсткасьці» жыцьцёвага шляху. Пісьменьніка тут выключна цікавіць суб'ектыўны пачатак, лёс асобы, а не сацыяльны ход падзей, каб на аснове яго паказаць і самога чалавека. Каб паказаць увесь жах вайны—«вар'яцтва чалавечае нікчэмнасьці»—пісьменьнік узяў жахлівасьць жыцьця селяніна, зусім пакінуўшы ў баку аналіз клясавай сутнасьці імпэрыялістычнай вайны. «Шорсткая дарога»—крайняе бясьсільле перад змрочнай і жудаснай рачаіснасьцю, выражэньнем чаго і зьяўляецца Скрыганоў вобраз селяніна, выгнанага вайною ў бежанцы. І таму, што гэта бясьсільле што-небудзь зрабіць, актыўна паставіцца да падзей—выпуклена, падкрэсьлена сярод агульнага жаху, што ёй не супроцьставіцца яе адмаўленьне, якое насьпявала ў ходзе гэтых-жа падзей—паказ гэтае жудасьці і бясьсільля пераростае ў самамэту, і ўсё апавяданьне пакідае цяжкае ўражаньне бязвыходнасьці і невядомасьці, бо пісьменьнік нават і словам не абмовіўся, дзе-ж выйсьце ад гэтай страшэннай бойні. У выніку гэтага, побач з глыбока-адмоўнымі адносінамі да імпэрыялістычнай вайны, у творы няма таго акрэсьлена-станоўчага, ў

імя чаго вядзецца пратэст і за што трэба змагацца. Скрыганоў селянін у «Шорсткай дарозе»—гэта чалавек бясьсільнае пакоры перад жыцьцём, гэта бяссэнсная хада кудысьці «па шашы», хада пакорная, якая адабрала жонку і дзяцей, пакінуўшы яго аднаго ў трагізьме, змучанасьці і невядомасьці, у праўдзівым для яго, але рабскім «господзі». «Ён ідзе. Можа ён ня хоча... можа няма куды ісьці яму, але заведзеная спружына яго бытнасьці хоча адкруціцца да канца, каб зьмераць чалавечую сілу і роспач. У вушах глухі звон. Навакол смага і горач, а перад ім:—далёкая і ўпартая дарога, як далёкае і ўпартае чалавечае жыцьцё». Вось на гэтым акордзе нейкае наканаванасьці і бязрадаснасьці і канчаецца апавяданьне. І гэта вышла не выпадкова. «Шорсткая дарога»—выразьнейшы паказальнік таго, як пакідаючы клясавы аналіз аб'ектыўнай рачаіснасьці і замыкаючыся ў перажываньні асобы, надаючы ім абагульнены характар, пісьменьнік застаецца бясьсільным зрабіць які-небудзь дзейны вывад, загаварыць дужым грамадзкім голасам. І таму «Шорсткая дарога», накіраваная аб'ектыўна супроць вайны наогул, ня можа натхняць нас да сацыяльнай дзейнасьці, да змаганьня, яна наскрозь пацыфічная.

## II

Калі ў апавяданьні «Начлег», якое напісана ў 1928 г., пасьлякастрычнікавая вёска паўставала перад Скрыганом толькі ў яе вонкавай заспакоенасьці, калі там заспакоенасьць асабліва вабіла і прыкоўвала пісьменьніка, калі пісьменьнік раней толькі неяк абежна заўважаў некаторыя сацыяльныя супярэчнасьці ў самой вёсцы, то ў зборніку «Шугае сонца» вёска паўстае далёка адменнай, не падобнай да тае, якой яна была ў апавяданьні «Начлег». Апавяданьні гэтага другога Скрыганавага зборніку напісаны ў 1929 і пачатку 1930 году, г. зн. пісаліся ў час, калі пачаўся на вёсцы асабліва глыбокі працэс яе сацыяльнага пераўтварэньня—суцэльная калектывізацыя, з чым зьвязана абвастрэньне клясавага змаганьня, што так ці інакш уплывала і на Скрыганову творчасьць. Гэты зборнік новы і ў пляне тэматычным і больш высокі сваёй ідэёвасьцю за ранейшыя Скрыгановы творы. Не выпадковае, а шырока-грамадзкае—калгаснае будаўніцтва—тэматычны стрыжань зборніка «Шугае сонца».

Як-жа паказвае Скрыган гэты складанейшы сацыяльны працэс, якой паўстае ў ягоных апавяданьнях вёска часу разгорнутай калектывізацыі? Тут пісьменьніка цікавяць ужо ня людзі, замкнёныя ў свае ўласныя перажываньні, а людзі, якія пачынаюць уласнымі рукамі пераўтвараць сваё жыцьцё, хай сабе спачатку і неадважна, не без аглядкі на старое «сваё», «уласнае». Асабліва важна падкрэсьліць на гэту вялізарную розьніцу ў вобразах людзей першага і другога зборнікаў. Там яны ня былі творцамі жыцьця, тут яны становяцца імі; там яны стыхійна бунтавалі, тут пачынаюць арганізавана тварыць новае; там яны былі дробнымі ўласьнікамі і за межы гэтага ня выходзілі, тут яны праз адмаўленьне прыватнай уласнасьці ста-

новяцца гаспадарамі аграмаджанага; там яны нават не маглі і ўяўляць пра якое-небудзь іншае жыцьцё, якое не аснована на прыватнай уласнасьці, тут яны дайшлі і даходзяць да разуменьня пераваг калектыўных форм жыцьця; там паміж імі калі і адчувалася, то вельмі рэдка клясавая няроўнасьць, тут яна стала адным з асноўных момантаў і тут яны пачынаюць усьведамляць няўнікнёнасьць гэтага змаганьня з клясавым ворагам, пачынаюць разумець, што супроць калектыўных форм жыцьця, якое яны прымаюць, творцамі якога яны становяцца, што супроць гэтых форм жыцьця кулак актыўна змагаецца і ня можа не змагацца, выступаючы часамі зусім адчынёна, часамі «прыбедненым», «спакойным». Калі ў аповесьці «Затока ў бурах» кулак толькі абежна закранаецца, нават з ноткай спачуваньня, калі ў апавяданьні «Невядомы чалавек» ён пададзены як фізычнае ўбоства, нейкая дурнаватая істота, калі ён тут і зьяўляецца ворагам савецкае ўлады, то ворагам вельмі абмежаваным і таму ня страшным, калі ён тут не паказаны ў сваёй клясава-варожай чыннасьці, то ў зборніку «Шугае сонца» пісьменьнік ставіцца да кулака, выходзячы з больш клясава асьвядомленых пазыцый, і таму кулак тут разумеецца ім як актыўны і дзейны вораг.

Але калі селянін перамагае ў сабе дробнага ўласьніка і ідзе ў калгас, то якім чынам ён прыходзіць да гэтага перамаганьня, хто яму дапамог разабрацца ў гэтым, хто кіруе ператварэньнем ягонага жыцьця, дзе арганізавальны пачатак? Гэта пытаньні вельмі важныя, каб іх мінаць, ад глыбіні вырашэньня іх залежыць паўната і праўдзівасьць мастацкага малюнку.

Было-б памылкова лічыць, што пісьменьнік не разумее, ня бачыць цяжкасьці станоўча вырашыць для селяніна пытаньне пра ўступленьне ў калгас. Скрыганоў селянін ідзе ў калгас, бо хоча стаць чалавекам. Але, каб «стаць чалавекам» ён ня можа адразу гэта лёгка вырашыць, у яго ўзьнікае шэраг цяжкіх для яго пытаньняў, над якімі ён ня можа ня думаць, як дробны ўласьнік, каб зрабіць крок ад індывідуальнае да калектыўнае гаспадаркі: «Трэ' было адчайвацца, трэ' было начамі ня спаць—думаць, сварыцца з бацькамі, з мацерамі, з жонкамі і ўсё-такі—адчаяцца, надумаць»,—так расказвае камунарка Балотнічыха пра арганізацыю камуны яшчэ ў 1918 г. «Як гэта падумаць—трэба было ўсё аддаваць, усяго адцурацца і ісьці няведама як жыць. А як часам няўдача, а як усё разбэсьціцца, прападзе—што-ж тады, як на сьвет вочы паказаць, як паказацца ў людзі». Такіх прыкладаў можна было-б прывесьці шмат, якія паказваюць, што Скрыганоў селянін цяжка падымаецца да калектыўных форм жыцьця. І ў гэтым няма нічога несапраўднага. Але на жаль тут пісьменьнік найчасьцей спыняецца на паўшляху, на вельмі агульных момантах выражэньня гэтае неадважнасьці, недавер'я, бадай ніколі не канкрэтызуе, не дае рознастайных форм выражэньня гэтага недавер'я і перамаганьня, ня ўскрывае з выстарчальнай паўнатою ягоных прычын, а падчас яно ў яго вельмі лёгка здымаецца, г. зн. што пісьменьнік спыняецца на найбольш павярхоўным. Разумеючы цяжкасьці

выростаньня, умацаваньня калектыўнай гаспадаркі, падкрэсьліваючы, што каб «стаць на ногі», трэба было ўпарта расьці, што камуна «расла паволі, ішла ўпартаю, цьвёрдаю ступою, зубамі, нэрвамі брала кожны дзень»,—пісьменьнік не паказвае ў чым гэтыя цяжкасьці, ён толькі напамінае пра гаспадарчыя нястачы, хістаньне паасобных камунараўцаў, актыўныя кулацкія выступленьні і агітацыю. Як усё гэта перамагалася, якім было гэта змаганьне—нам невядома, бо пісьменьнік ставіць кропку якраз там, дзе павінен разгортвацца мастацкі малюнак.

Ва ўсіх рэчах «Шугае сонца» пісьменьнік не паказвае працэсу фармаваньня новай псыхалёгіі, мы ня бачым выростаньня новага чалавека, бо канстатаваньне паасобных яго якасьцяй ня можа ўскрыць працэсу, паказаць арганічнага росту. Таксама мы ня бачым дзейнасьці гэтых людзей, бо яна падмяняецца слоўным паведамленьнем. Цэлыя складаныя працэсы пісьменьнік вельмі часта хоча ўціснуць у паасобныя сказы, і праз гэта самае падмяняе, у лепшым выпадку, паказ імпрэсыяністычным штрыхом.

У Скрыгана зьяўленьне калектыўных гаспадарак зводзіцца да выпадку, да стыхійнасьці. Стыхійна выростае Бухарына-пралетарская камуна ў 1918 г., выростае, як кажа пісьменьнік, з «рэвалюцыйнага і бунтоўнага запалу». Стыхійна зьяўляецца калгас у Родні: «сабраліся працоўныя яўрэі яшчэ ў 1918 г. і на панскай зямлі зрабілі арцель імя «Розы Люксэмбург». Часамі гэта зводзіцца да выпадковага зьяўленьня невядомага чалавека, які арганізоўвае калгас, як напрыклад у апавяданьні «Подых вясны». Праўда, тут гутарка ідзе не пра 1929 г., а пра першыя гады пасьля Кастрычніка. Але-ж і тады было характэрным, тыповым для нашай рачаіснасьці ня стыхійнасьць, а тое, што калектыўныя гаспадаркі ўтвараліся арганізавана, а не па волі якога-небудзь выпадку, асобы. Скрыган-жа аддаў гэту справу ў рукі выпадку, у рукі стыхіі, а г. зн., што рачаіснасьць паўстае тут у скажоным пляне. Пісьменьнік абмінуў кіруючую ролю партыі ў калгасным будаўніцтве, у яго няма ніводнага месца, дзе падкрэсьлівалася-б на гэту вялізарнейшую ролю пралетарыяту, дзе ён выступаў-бы, як арганізатар калгаснага будаўніцтва. Скрыган усюды падкрэсьлівае на тое, што рост калектыўнай гаспадаркі зьяўляецца магутным сродкам для зьнішчэньня недавер'я ў сялян да яе, жывым прыкладам, на якім яны пераконваюцца ў яе перавазе і пачынаюць самі ісьці туды. Гэта займае вялікае месца ў зборніку «Шугае сонца», але-ж яно не павінна выключаць паказу кіруючай ролі пралетарыяту, абмінуць гэта, значыць абмінуць асноўнае ў гэтым руху. Сацыяльная абмежаванасьць пісьменьніка выявілася ў гэтым з асаблівай выразнасьцю. Побач з гэтым пісьменьнік не разгортвае шырокага малюнку станаўленьня калектыўных форм жыцьця, усёй складанасьці сацыяльных супярэчнасьцяй, якія выклікаліся ў вёсцы арганізацыяй калгасаў, як на справе ўплываў калгас на сялян і здымаў у іх недаверлівыя да яго адносіны, як змагалася кулацтва і як змагаліся з ім і хто стаяў на чале гэтага змаганьня. Усё гэтае

надзвычайнай складанасьці і так патрэбнае для пераконанасьці мастацкага малюнку, для яго паўнаты—абмінаецца, падмяняецца занадта сьцісльім апісаньнем, канстатацыяй агульнага парадку. Менавіта ўсё гэта і зьніжае ідэёвасьць зборніка «Шугае сонца», менавіта ў гэтым і асноўныя недахопы зьмешчаных у ім апавяданьняў. Калі з аднаго боку гэтым зборнікам Скрыган падышоў бліжэй да нашай рачаіснасьці ў параўнаньні з «Затокай у бурах», унёс у сваю творчасьць актуальную, глыбока сацыяльную тэматыку, паставіўся да калгаснага будаўніцтва станоўча, убачыў на вёсцы ня ідылію заспакаеньня, а абвостранае клясавае змаганьне, паставіўся да сацыяльнага ператварэньня старой вёскі, як да працэсу клясавага змаганьня, убачыў, што асноўная маса працоўнага сялянства ідзе ў калгас, хай сабе і не без аглядкі на старое, убачыў зьяўленьне ў вёсцы актыўных будаўнікоў сацыялізму, якія сваёй упартаю работаю перамагаюць і не палохаюцца цяжкасьцяй, адчуваюць і пачынаюць жыць радасьцю новага жыцьця, то з другога боку, пісьменьнік глыбока не асэнсаваў гэтай новай рачаіснасьці, па сутнасьці ня даў мастацкага паказу (паказу, а не агульна-слоўнага зазначэньня) разьвіцьця яе, складанасьці гэтага разьвіцьця, зусім апусьціўшы ролю ў ім рабочае клясы, пралетарскага гораду, не паказаў фармаваньня новых людзей у іх шырокай практыцы, людзей у думках, пачуцьцях, латуценьнях і клопатах. Гэтыя апавяданьні—бязсюжэтныя рэчы ў строгім разуменьні гэтага слова, ня маюць разьвіцьця дзеі, яе наростаньня, у іх не адчуваецца біцьця паўнакроўнага сацыяльнага пульсу калгаснага будаўніцтва. Тут вельмі шмат статычнай занатоўкі разрозьненага б а ч а н а г а, якое вельмі часта падаецца ў пляне груба эмпірычным, а не ў ідэёва-мастацкай разгорнутасьці, што асабліва стасуецца да паказу выростаньня калгасу, дзе часамі жывы працэс гэтага выростаньня падмяняецца лічбовай статыстыкай. Усё гэта і гаворыць, што пісьменьнік яшчэ ня стаў непасрэдным удзельнікам сацыялістычнага будаўніцтва, што ён толькі зрабіў крок у набліжэньні да яго, што ён толькі ідзе да яго, а не выростае з яго, каб жыць ягоным жыцьцём.

## III.

*„І ўсёж-такі, можна бачыць крывую дарогу сяла — старасьвецкага, дрэўнага—ня любіць яго, уцякаць—і хварэць з ім. Можна бачыць кіпучасьць рушлівую гораду, шалёную стромасьць, сыстэму, рытмічны поступ,ісьці да яго—і крывіць дарогамі“. („Смага“).*

Скрыганава апавяданьне «Смага» бадай найбольш эмацыянальная рэч з усяго ім напісанага і разам з гэтым прасякнута глыбока хваравітай эмацыянальнай напружанасьцю. Усё апавяданьне «Смага» прасякнута двуіснасьцю, супярэчнасьцю паміж выгадваным, паміж глыбіннымі пачуцьцямі і вызнаным. У гэтай рэчы з усёй яскравасьцю

выяўлена хісткасьць, абмежаванасьць і пасыўнасьць дробнабуржуазнае пісьменьнікавае сьвядомасьці.

З аднаго боку: «Гар, пыл, сьпёка. Чалавечая душная мітусьня»; з другога—«...горад—сыстэма», а «над ёю—аграмадная, складаная сыстэма—чалавек». Гэта двуіснасьць ва ўспрыйманьні гораду вельмі характэрна для «Смагі». З аднаго боку, вялізарная стыхійнасьць, якая прыніжае і засланяе чалавека, нейкая няпрываблівая вакханалія нічому не падначаленага руху, мітусьня агульная, дзе ўсё «у шалёнай стромасьці,—гэта, так сказаць непасрэднае ўражаньне ад вонкава ўспрынятага прыйшлага ў горад чалавека з грузам псыхалёгіі старога сьвету. А з другога боку, горад—строгая і вялікая сыстэма, на чале якой стаіць чалавек, творачы яе,—гэта асьвядомленае ўспрыняцьце гораду. У «Смазе» побач бытуюць гэтыя два дачыненьні да гораду, як несумяшчальныя супярэчнасьці, з якіх адна адмаўляе другую.

Першае з гэтых дачыненьняў—бытнасьць, другое—пазнанае, але яшчэ не сацыяльна роднае, не сваё. Першае адштурхоўвае і ня вабіць, другое захапляе. Першае кіруе ад гораду, ад гэтай «душнай мітусьні» у ідылічна-супакойлівую вясковую прыроду, каб супачыць, другое—патрабуе ўключэньня ў ягоную сыстэму шпаркага сацыяльнага поступу, каб не астацца ў хвасьце жыцьця паводле пісьменьнікавага вызнаньня. Такім чынам, пісьменьнік кідаецца паміж неабходнасьцю ўключэньня ў «горад-сыстэму» і жаданьнем супачыну ад ягонага руху. Праўда, хоць з надломам, як цяжкая неабходнасьць, але адчуваецца голас перамогі першага, г. зн. здаровага і актыўнага пачатку. Але тым ня менш тут з усёй выразнасьцю выяўляецца, што суб'ект Скрыгановай творчасьці на этапе «Смагі»—самазамкнёны разважальнік, а ня творца, ён нават бачыць творцаў новае рачаіснасьці, бачыць у іх дужасьць, але сам ня можа стаць ім, ён спрабуе ісьці да новай яму рачаіснасьці, праз мукі і надлом, важыцца ўступіць у новы сьвет, але з ім яшчэ ня зьвязаны, гэта новая сацыяльнасьць яшчэ не яго, нават у пэўным сэнсе чужая яму,—адсюль неразуменьне яе, адсюль супроцьстаўленьне гораду вёсцы. Прызнаўшы горад за вялікую сыстэму, за ўвасабленьне вялікага сацыяльнага прагрэсу, пісьменьнік яшчэ ня скінуў са сваіх плячэй усяго грузу дробнабуржуазнае абмежаванасьці, таго грузу, які перашкаджае проста крочыць па шырокай грамадзкай дарозе. Менавіта адсюль і адчуваньне суму і самотнасьці ў горадзе: «пачулася аграмадная, мулкая адсутнасьць некага». Тут пачатак «Запісак майго суседа»—гэтай гіпэртрафіі адчуваньня «адсутнасьці некага». Самазамыканьне даходзіць да свае крайнасьці, становіцца сапраўды даўкім, гіпэртрафія думкі прыводзіць да ператварэньня чалавека ў «спрэс мысьль», у нейкі адцягнена думачны і бескарысны, цяжкі і неадчэпны працэс. Адсюль нянавісьць да думкі і зьдзек над ёю, бязвыніковае жаданьне пазбавіцца гэтага самазамкнёнага думаньня. Пісьменьнік тут раб сваіх пачуцьцяў, пачуцьцяў хворых, пачуцьцяў сацыяльнага зьнясіленьня. І якімі хворымі, пасыўнымі і самазамкнёнымі зьяўляюцца

ягоныя пачуцьці, так і ягоная вёска, ае людзі выступаюць у падкрэсьленасьці на пасыўнасьць, нясьмеласьць, і бездапаможную боязь, а калгасы выростаюць неяк самі праз сябе. Пісьменьнік нават і словам не абмаўляецца пра якое-небудзь кіраўніцтва арганізацыяй калгасаў, пра якую-небудзь дапамогу. Наадварот, падкрэсьліваецца, выпукляецца бездапаможнасьць, сацыяльная коснасьць і неадважлівасьць,—«Калгасы баяцца пачынаць, дый і няма каму». «Смага»—найяскравейшы прыклад, як у хворай сьвядомасьці, зьедзенай самааналізам, паўстае і рачаіснасьць такой-жа бяссільнай, абвешанай усякім стар'ём, скажонай. Заўсёды і ўсюды пісьменьнікава «я» застаецца пасыўным разважальнікам, замкнёным у аналіз танюткіх адценьняў сваіх адчуваньняў. Ня радасьць ад сацыяльнай перабудовы вёскі захапляе яго, ня тое, як выростаюць калгасы, а тое, што: «чалавек расказвае, а я лаўлю сябе на тым, што не знаходжу таго, чаго прыехаў шукаць»—гэта тэй ідылічнай цішыні і супакою, якая нібы суправаджала ягонае дзяцінства. І гэта не таму, што ня стала лісьцьвянага шэлесту, а таму, што зьмянілася і зьменьваецца старая вясковая рачаіснасьць, нараджаецца новае радасьці і пакуты якога застаюцца ў баку ад пісьменьніка, які больш зьвязаны са старым, чым з новым, хоць і асуджае першае, а другое вітае. Але першае ў крыві і пачуцьцях выхавана, другое-ж толькі прымаецца. «Я прышоў, каб у лістох знайсьці сваю вясну, якую чалавек павінен насіць у памяці—і не знаходжу». «Відзён нейкі сьмелы размах. Калгасы». «Не, не пазнаць мае бацькаўшчыны. Парушылася ідылія цішыні»—гэта найлепшая самахарактарыстыка свае інэртнасьці і прыкаванасьці да старога, якое цісьне сваім цяжарам у яго адыходзе, хоць пісьменьнік яму і не спачувае, супроць яго, бачыць там вялікую трагэдыю чалавека, яно для яго страшна і ў гэтай страшнасьці пад час выростае ў непераможнае і нязьменнае. Быгаваньне старога побач з новым адчуваецца пісьменьнікам як асабліва вялізарнага. Ён з болем і мукамі пакідае старое, з неабходнай патрэбай вызнанага ён прымушае сабе ўключыцца ў агульны поступ краіны, крык самотнасьці важыцца перамагчы ўсьведамленьнем няўнікнёнай патрэбы ўключэньня ў агульны сацыяльны струмень краіны.

## IV

*„Якая вялікая сіла гэтая чалавечая воля і заўзятасьць“.*

*(„Недапісаны профіль“).*

Ня гледзячы на ўвесь глыбокі ўнутраны надрыў, што так выпуклен у «Смазе», у гэтым творы ўсё-ж адчуваецца глыбокае адмаўленьне як старой, «дамаrканай» рачаіснасьці, гэтак і чалавека з пачуцьцямі, узрошчанымі гэтай убогай рачаіснасьцю. У «Смазе» выразна сьцьверджана сацыяльная неабходнасьць перабудовы духовага сьвету суб'екта Скрыгановай творчасьці ў кірунку ягонага ўключэньня ў практыку стварэньня новай грамады. Хай сабе гэта

сьцьвярджэньне мо' і не насіла крышталёва-асэнсаванага сацыяльнага, клясавага зьместу гэтай перабудовы, гэтага вызначэньня месца ў сучасным жыцьцёвым развоі, хай сабе тут і адчуваліся выразна ноткі некае агульна-чалавечае смагі да жыцьця, да настойлівага жаданьня быць носьбітам ягонай радасьці,—ад гэтага справа не мяняецца. Тут асабліва важна тое, што ў гэтым сьцьвярджэньні чуваць голас аптымізму, актыўна-радаснага дачыненьня да нашага жыцьця, жаданьня стаць ягоным будаўніком. Менавіта адсюль вынікае магчымасьць і невыпадковасьць такога твору, як «Недапісаны профіль», дзе тое станоўчае, але занадта агульнае, што было пра горад у «Смазе», пачынае набываць формы канкрэтнага, пачынае паўставаць, як адчувальная зьява, хоць і далёка не ва ўсёй сваёй паўнаце, але не як імпрэсыяністычныя штрых.

Патрэбна была ўпартая, унутраная работа, каб даць «Недапісаны профіль»—твор перш за ўсё вялікай валявой зарадкі і ідэёвага росту пісьменьніка ў параўнаньні са «Смагаю». Завод у Скрыгановым паказе—не завод наогул, а савецкі, з ягонымі новымі людзьмі і новымі мэтадамі працы. Тут рабочыя паказваюцца як гаспадары заводу, а не як ягоныя наймітьг.

У «Недапісаным профілі» пісьменьнік закрануў вялікае кола пытаньняў: рост Гомсельмашу, зацяжныя прарыў і яго ліквідацыя, бесгаспадарнасьць, шкодніцтва, наплюйскія адносіны да працы і магутны рабочы энтузіязм, які выводзіць завод з прарыву і арганізатарам якога зьяўляецца партарганізацыя, змаганьне з абязьлічкаю і бракам і, нарэшце, пытаньне пераробкі сьвядомасьці чалавека. У аснову ўсяго гэтага Скрыган імкнецца паставіць гістарычную прамову тав. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў. Менавіта пад кутом погляду гэтай прамовы пісьменьнік стараецца падыйсьці да паказу змаганьня з прарывам, безгаспадарнасьцю, з нядбайствам, спрабуе давесьці ўсю важнасьць працаваць і кіраваць па-новаму. На канкрэтным кавалку нашае рачаіснасьці пісьменьнік спрабуе давесьці вялізарнейшае значэньне гэтай прамовы правадыра партыі.

Для Скрыгана гэтага пэрыяду крытэрыем чалавечае вартасьці зьяўляецца ягоная практыка, справы, а ня словы. Менавіта з гэтага пункту гледжаньня і паказваюцца пісьменьнікам людзі. Вось чаму у «Недапісаным профілі» паўстаюць перад намі і партыйцы, і камсамольцы, і беспартыйныя рабочыя, маладыя рабочыя і кадравікі вытворчасьці перш за ўсё, як людзі справы, работы, дзе і выяўляецца іх сапраўднасьць. Таксама пісьменьнік імкнецца паказаць і апартунізм у ягонай практыцы і тэарытычным абгрунтаваньні самацёку і натуральна, пад крылом якога можа вольна разгортваць сваю работу клясавы вораг—шкоднік.

Завод у «Недапісаным профілі» паўстае як сапраўды строгая сыстэма і сыстэма сацыялістычная, ход якой залежыць ад кожнай яе складанай часткі, і, перш за ўсё, ад чалавека як творца і арганізатара яе. Глыбока памыляліся тыя, хто ставіў у адзін з асноўных адмоўных момантаў «Недапісанага профілю», што нібы ў ім чалавек

зводзіцца да простага прыдатку машыны, што нібы над чалавекам пануе машына, прыніжае яго. Вельмі выразна, вельмі пуката падкрэсьлен у «Недапісаным профілі» чалавек, як арганізатар вытворчага працэсу, як творца, як уладар машыны.

«Цэхі жывуць жыцьцём руху, дынамікі, жыцьцём чалавечае волі». «І ўсюды камандаю стаць чалавек, каб перадаваць машыне кожную драбніцу свае волі». «Якая вялікая сіла гэтая чалавечая воля і заўзятасьць». Такіх прыкладаў гімну чалавечай волі можна было-б прывесьці вельмі шмат і яны вельмі выразна падкрэсьліваюць на нязвычайную дужасьць чалавека. Але гэтага мала. Скрыган мае справу з паказам савецкага заводу і таму гэтая воля зьяўляецца своеасаблівай. Чалавечая воля тут зьяўляецца нязвычайна дужай ня толькі таму, што ёю жыве кожны рух машыны, што машыны ў сваёй велічы паўстаюць як увасабленьне дужасьці чалавечае волі,—гэта воля дужая таму, што яна сьвядомая, што носьбітамі яе зьяўляюцца сьвядомыя будаўнікі сацыялізму, а ня носьбіты рабства капіталістычнага вытворчага працэсу. «Гэта страшная сіла сьвядомае волі. І яна ніколі ня можа старэць, бо набіралася вякамі ў барацьбе за сваю маладосьць»,—сказана вельмі выразна. Нічым іншым, як вялікай сапраўднай дужасьцю сьвядомай чалавечай волі і вылучаецца «Недапісаны профіль» сярод падобных тэматычна да яго твораў у беларускай літаратуры. Гэта асноўная прычына, што «Недапісаны профіль» дае здаровую, моцную валявую зарадку чытачу.

Бадай ва ўсіх ранейшых творах Скрыгану найбольш удаваліся вобразы людзей пераважна пасыўных, маладзейных, якія больш разважалі і пакутвалі, чым актыўна змагаліся за сваё жыцьцё. Вобразы працілеглыя ім падаваліся ў занадта агульных контурах, пра іх больш гаварылася і гаварылася далёка не з належнай мастацкай сілаю, мы іх вельмі мала бачылі ў чыннасьці. «Недапісаны профіль» і ў гэтым сэнсе зьяўляецца крокам наперад. Вобраз сакратара парткалектыву—гэта вобраз сапраўднага партыйнага кіраўніка, вобраз чалавека, які перакопвае ў сваёй праўдзівасьці, які жыве складаным і напружаным жыцьцём савецкага заводу, убіраючы ў сябе гэта жыцьцё, ім кіруючы. Генкін—чалавек справы, чалавек дзейнасьці, прыкладу, які ведае свой завод «навылет». Можна гаварыць пра непаўнату гэтага вобразу партыйнага кіраўніка, але нельга ня бачыць у намаляваньні яго вялікага якаснага кроку наперад у Скрыгановай творчасьці.

Але паставіўшыся да асноўнай масы рабочага калектыву, як да людзей справы і чыннасьці, якімі яны перад намі і паўстаюць, пісьменьнік ня ідзе шляхам лякаваньня рачаіснасьці заводзкага калектыву. Ён убачыў на заводзе людзей рознай ступені клясавае сьвядомасьці, убачыў, што побач з энтузіястамі вытворчасьці ёсьць і нядбайцы, наплюйцы, гультаі, рвачы, для якіх асабістае вышэй за грамадзкае, якія могуць «завод прамяняць на пачак махоркі». Скрыган убачыў на заводзе апартуністаў і шкоднікаў. Невялікімі, але выразнымі штрыхамі пісьменьнік паказвае вобразы гэтых людзей.

Нельга абмінуць, не падкрэсьліць, што Скрыган у сваім творы з асаблівым замілаваньнем паказвае чулыя, дбайныя адносіны да чалавека на заводзе. Найлепшым прыкладам гэтага, прыкладам, які асабліва запамінаецца, паказанага з асаблівай мастацкай сілаю, зьяўляюцца дачыненьні Белазерскага да Каці Лапянковай. У гэтым малюнку столькі сапраўднае лірычнасьці, пачуцьцёвасьці, што ён пуката вылучаецца з усяго «Недапісанага профілю». Трэба сапраўды любіць, любіць глыбока і паважаць чалавека, каб напісаць такі нарыс. І важна тое, што Скрыган убачыў гэту любоў і павагу да чалавека на савецкім заводзе.

Усё сказанае ні ў якім разе не зьяўляецца спробай захвальваньня Скрыгана, а толькі паказальнік ягонага ідэёвага росту, які зьявіўся ў выніку посьпехаў нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта ні ў якім разе не зьяўляецца і сьцьвярджэньнем, што завод, Гомсельмаш, з ягонымі людзьмі паказаны пісьменьнікам з выстарчальнай паўнатою, бяз ідэёва-мастацкіх зрываў. Гутарка ішла толькі пра асноўнае, адпраўнае, але не пра паўнату і бясхібнасьць.

Па сваім жанры «Недапісаны профіль»—вытворчая аповесьць, аповесьць дакумэнтальная, ці больш правільна кажучы дакумэнтальная з нарысавай дакладнасьцю. Тэма «Недапісанага профілю» разгортваецца выключна ў вытворчым пляне (вытворчы працэс), што выявілася ня толькі ў кампазыцыі ўсяго твору, але і ў кампазыцыі вобразаў-пэрсанажаў.

Калі чытаеш «Недапісаны профіль», дык кідаецца адразу ў вочы, што пісьменьнік вельмі ўпарта працаваў над вывучэньнем узятай для твору зьявы, але вывучыў яе вельмі аднабока, як аднабока разгарнуў і тэму твору і вобразы людзей. Тэма «Недапісанага профілю»—рост Гомсельмашу і ліквідацыя прарыву—разгортваецца ў надзвычайнай аднапляннавасьці—так сказаць вытворча-апэрацыйнай ізаляванасьці. Менавіта з тэматычнай аднаплянавасьці, бясьсюжэтнасьці, вузка-вытворчай абмежаванасьці, этнаграфічнасьці і выходзяць асноўныя недахопы «Недапісанага профілю».

Пісьменьнік да падрабязнасьці вывучыў вытворчы працэс—ягоны тэхнічны, апэрацыйны бок. Але «Недапісаны профіль» не зьяўляецца творам мастацкага абагульненьня, гэта сапраўды і профіль і недапісаны. Гэта рэч бясьсюжэтная, ня мае сюжэтнага стрыжня. Гэта ў асноўным збор нарысаў пра адзін завод, але не мастацкі малюнак, часткі якога непадзельна злучаны паміж сабою, увесь глыбокі сэнс і жыцьцё якіх нам раскрываецца толькі ў еднасьці, разам з усім малюнкам. У «Недапісаным профілі» людзі паўстаюць адно у сваёй вытворчай дзейнасьці, адно каля машыны і варштату, адно ў цэху, канчаецца апісаньне вытворчага працэсу, канчаецца і чалавек. Паказ чалавека тут занадта перагружан апісаньнем вытворчых дэталяў, што падчас засланяе яго або ва ўсякім выпадку звужвае яго. Пісьменьнік не адолеў паказаць усю паўнату, глыбіні найскладанейшага духовага сьвету гэтых новых людзей. І ў гэтым выявілася, што новая рэчаіснасьць з яе людзьмі не зьявілася яшчэ цалкам даступнай для Скрыганавага глыбокага мастацкага выяўленьня. У «Недапісаным профілі» так

мала ўнутраной, псыхалёгічнай індывідуалізацыі вобразаў-пэрсанажаў. Тут індывідуалізацыя ідзе галоўным чынам па лініі знадворнага, фізычнага, што пераходзіць пад час у груба-натуралістычнае, прывозіць да паўзучага апісаньня бачанага знадворнага, нават выпадкова, а гэта ў сваю чаргу да ідэёва-шкоднага, што і мела месца асабліва ў першай рэдакцыі «Нарысаў пра Гомсельмаш», якія значна пераапрацаванымі, і не бяз уплыву нашае крытыкі, склалі кнігу «Недапісаны профіль». Але-ж праз гэта ні ў якім разе нельга паказаць росту чалавечае сьвядомасьці, яно—выражэньне застыласьці, коснасьці і вядзе да апусканьня мастацкага вырашэньня важнейшых праблем. А што ў Скрыгана вышла так, пра гэта выразьнейшым чынам гаворыць адсутнасьць дынамікі, разьвіцьця вобразаў. Важнейшы элемэнт мастацкага твору—паказ росту чалавечай сьвядомасьці на аснове ягонай сацыяльнай практыкі Скрыган падменьвае самым горшым—канстантацыяй тых або іншых якасьцяй і ніводнага разу не паспрабаваў раскрыць працэсу станаўленьня новых якасьцяй у чалавека. Таму ў аповесьці няма выростаньня ўдарніка—гэтага героя сацыялістычнай вытворчасьці, паказу перароўкі псыхолёгіі адсталых пластоў рабочых, фармаваньне новага чалавека з тых, хто ідзе на фабрыкі, з дробна-буржуазнага асяродзьдзя.

Усё значэньне тае ці іншае зьявы мы можам адчуць і ўбачыць толькі тады, калі возьмем яе не ізалявана, не адарвана, а ў арганічнай сувязі з іншымі зьявамі і ў найбольш тыпічным для яе. Гэта павінен памятаць і мастак. Якія патрабаваньні гэта ставіла перад Скрыганом, калі ён браўся пісаць пра Гомсельмаш? А тыя, што ён павінен быў паказаць, паказальнікам чаго служыць зьяўленьне Гомсельмашу, у выніку чаго ён зьявіўся і якое значэньне ён мае для ўсяе краіны. Скрыган-жа ўзяў у асноўным Гомсельмаш сам па сабе, і таму ён не паўстае перад намі ва ўсёй сваёй велічы, ва ўсім сваім значэньні для краіны, застаўся без зьнітаваньня з выростаньнем усяе нашае рачаіснасьці, адным з паказальнейшых элемэнтаў росту якой ён зьяўляецца. Гэта значыць, што ў «Недапісаным профіле» зьява пададзена бяз ўсёй глыбіні ідэёвага яе сэнсу.

## V

Тэорыя непасрэдных уражаньняў у пляне мастацкай практыкі азначае адыход ад аб'ектыўнай рачаіснасьці, замыканьне ў чалавечых перажываньні, узятыя самі па сабе, выпустошваньне клясавага зьместу перажытага, мэтафізычнасьць у паказе чалавечых перажываньняў. Мастак надае гэтаму выключную ўвагу, думаючы, што ў ім найбольш поўна выяўляецца чалавечая існасьць, хараство і непаўторнасьць чалавечых дачыненьняў да сьвету. А ўсё гэта так ці інакш азначае сацыяльнае бязвольле.

Непасрэднасьць чалавечых адносін, як галоўнае іісьцінае—ідэёвы стрыжань Скрыгановых «Запісак майго суседа», якія зьявіліся пасьля «Недапісанага профілю». «Я хачу непасрэднасьці»—лейт-матыў гэтага твору. «Запіскі майго суседа»—гэта апалёгэтыка непасрэднасьці

чалавечых адносін, як найбольш паўнацэннага ў чалавеку. Праблема непасрэднасьці чалавечых адносін, не скажу, што нявартае ніякай ўвагі, вырашаецца пісьменьнікам у пляне выключнай абстракцыі, па той бок усякае сацыяльнае чалавечае практыкі, пазбаўлена жывога, колькі небудзь хвалюючага зьместу. Па сутнасьці «Запіскі майго суседа»—гэта крык адзінокасьці, замкнёнага ў сябе дробна-буржуазнага інтэлігента. Вось філёзофія «Запісак мойго суседа», філёзофія далёка не арыгінальная і ня новая ў сваёй форме выражэньня і яна заўсёды узьнікала там, дзе людзі так ці інакш, нават хоць на некаторы час адыходзілі ў бок ад вялікіх сацыяльных праблем, ідучы ў сьвет сваіх вузенькіх часовых перажываньняў. Ёсьць два чалавекі: звычайны, даступны кожнаму чалавек, чалавек, абвешаны рознымі маральнымі нормамі, рознымі абмежаваньнямі; і іншы, зусім адменны ад першага—чалавек непасрэднасьці, інтымны, які асабліва дораг пісьменьніку. Адно той, хто ведае адказ на сваю непасрэднасьць, можа перажыць сапраўдную чалавечую радасьць. Жанчына тут становіцца цэнтрам усяго. Сапраўды ня нова і не арыгінальна. Але рачаіснасьць пісьменьніку гэтага не дае і таму ствараецца вобраз неіснавальнай жанчыны. Тут мара заклікана замяніць рэальнае. Вышла падмена аб'ектыўнага суб'ектыўна-ілюзорным, пазбаўленым усякага канкрэтнага, сацыяльнага зьместу, і значэньня. Адсюль зразумела і вартасьць гэтага твору.

Толькі той мастацкі твор можа мець эстэтычную і, сацыяльную вартасьць, дзе плоць і кроў рэчаіснасьці не выкідаецца ва ўгоду вузкаасабістаму і падчас нявыразнаму і мала адчувальнаму, выражанаму праз форму ідэалістычнае абстракцыі сваіх пачуцьцяў і адарванасьці ад развою аб'ектыўнай рачаіснасьці. Эстэтычная і сацыяльная вартасьць ёсьць толькі там, дзе жыве жыцьцё ў разнастайна-канкрэтных формах сваіх праяў, формах найбольш тыпічнага, арганізаванае і зьнітаванае мастаком выразнэй і перадавой ідэяй свайго часу. Сапраўднае мастацтва ніколі ня мірылася, з бяскроўнай абстракцыяй у выражэньні чалавечых дум і пачуцьцяў, бо сапраўднае мастацтва перш за ўсё в я л і к а я  с а ц ы я л ь н а я  р э ч а в а с ь ц ь, канкрэтыка. Тым больш у наш час усякае выпустошваньне рачаіснасьці, захапленьне вузка-суб'ектывісцкай мройлівасьцю, а ня марай, напоўненай вялікім сацыяльным зьместам, і выражэньне сваіх жаданьняў у надзвычайна суб'ектывізаваных формах пазбаўляе твор усякай вартасьці, карыснай уплывовасьці на чытача. Наша эпоха шырачэзных сацыяльных перабудоў пакідае па-за сабою ўсякае суб'ектывісцкае, мала адчувальную і вузка-асабістую мройлівасьць. Калі я кажу пра непатрэбнасьць і шкоднасьць для мастака ўсяго гэтага, то ні ў якім разе не хачу сказаць, што ён не павінен марыць, не павінен ствараць сьвету мары. Наадварот, мастак павінен марыць. Якраз усёй нашай мастацкай літаратуры і нехапае мары, і так адчуваецца ў кожным слове, у кожным радку надзвычайная абмежаванасьць сёньняшнім днём. Адсутнасьць мары прыносіць вялікі ўрон нашай мастацкай літаратуры, бо спыняцца толькі на сёньняшнім дні падчас азначае не адчуць усяе ягонай сапраўднасьці велічы і глыбіні. Але мара мастака можа быць хваля-

вальнай і заклікальнай адно тады, калі яна выходзіць з рэальнага, а ня выдуманага жыцьця, калі яна прасякнута глыбокім рэвалюцыйным зьместам, калі ў ёй адчуваецца голас наступнага, яшчэ больш прыгажэйшага за сучаснае. Вось такая мара—мара шырокага грамадзкага сэнсу—зьяўляецца і карысна, бо яна арганізоўвае нашу сьвядомасьць у пляне рэвалюцыйнай грамадзкай чыннасьці, у пляне змаганьня за наступнае. Скрыганоў выхад у сьвет мары выклікан не захапленьнем шырачэзнасьцю сацыяльных пэрспэктыў, што адчыняюцца нашай сучаснасьцю, а суб'ектывісцкай самазамкнёнасьцю. Адсюль хрупкасьць і прыніжанасьць гэтае мары. «Запіскі майго суседа»—наскрозь прасякнуты суб'ектывісцкай мройлівасьцю, містыфікацыяй чалавечых адчуваньняў пазбаўлены сувязі з развоем нашай рачаіснасьці, з аб'ектыўнай рэальнасьцю. Гэты твор па сутнасьці рэакцыя на «Недапісаны профіль» з яго рацыяналістычнай сухасьцю. У «Запісках майго суседа» Скрыган, сьцьвярджэньнем выключнай важнасьці непасрэднага, сьвядомаму адвёў вельмі незавіднае месца, і ў гэтым аснова рэакцыйнасьці гэтага твору. Плян выключнай абстрагаванасьці, самазамкнёнага аналізу, плян пазбаўлены нават якойнебудзь ахварбоўкі рэальных чалавечых дачыненьняў—цалкам абяскровіў гэты твор. «Запіскі майго суседа» вельмі нагадваюць Олёшу і галоўнае тое, што Скрыцан бярэ горшае ў творчасьці гэтага пісьменьніка.

## VI

У сваім артыкуле «Некалькі творчых заўваг» Скрыган піша: «Вобраз нараджваецца або арганізавана, канкрэтна або стыхійна, муляючыся перш нечым неакрэсьленым». «Гэта пісьменьнікава заўвага пра сваю творчасьць характэрна тым, што ў ёй выражана двуплянавасьць уласнай творчасьці, дзьве лініі яе разьвіцьця.

Першая лінія характарызуецца суб'ектывізмам, дзе робіцца ўпор на аналіз непасрэдных чалавечых адчуваньняў, дзе чалавечыя адчуваньні найчасьцей бяруцца адарвана ад ягонай клясавай практыкі, ад аб'ектыўнай рэчаіснасьці, становячы для пісьменьніка кола замкнёнага псыхалёгічна-абстрактнага аналізу. Тут пісьменьніка асабліва цікавіць сьвет самых тонкіх чалавечых перажываньняў, узятых саміх па сабе. А ўсё гэта вядзе да сацыяльнай бязьдзейнасьці, да ўнутранога самакапаньня, да абвяшчэньня непасрэдных адчуваньняў сапраўднай існасьцю чалавека, што ўзаконьвае коснасьць і кансэрватызм, выпустошвае і звужае веліч самога чалавека, веліч і дужасьць ягонага сьвядомага клясавага пачатку, узаконьвае стыхійнасьць і неакрэсьленасьць чалавечых паводзін і засланяе перад пісьменьнікам сьвет вялікіх сацыяльных праблем.

Для другой лініі Скрыганова творчага разьвіцьця, якая зьяўляецца адыходам ад першай, спробаю адмовіць псыхалёгічную самазамкнёнасьць, спробай выйсьці ў сьвет сацыяльных і актуальных тэм характэрны вялікі налёт рацыяналістычнасьці, дакумэнтальная эмпірычнасьць, падыход да рачаіснасьці ў сваёй аснове груба матар'ялістычны. Пісьменьніку не хапае глыбокага ідэёвага і эмацыянальнага

асэнсаваньня матар'ялу, ідэёвы ягоны сэнс не апранаецца ў разгорнута-жывыя вобразы, падаецца часта ў пляне рацыяналістычнай схэматыкі, прыкладам чаго і служыць у значнай ступені «Недапісаны профіль» і большасьць апавяданьняў зборніка «Шугае сонца».

Паміж гэтымі двума лініямі—суб'ектывізмам, інтывітуізмам і грубым матар'ялізмам пісьменьнік і хістаецца, неадшукаўшы яшчэ такой ідэёва-творчай пазыцыі, з якой можна было-б паказаць аб'ектыўную рачаіснасьць, і разам чалавека, у іх паўнаце і арганічнай еднасьці.

Перад Скрыганом стаіць складанейшая і цяжкая справа ідэёва-творчай работы над сабою, справа карэннай ломкі, глыбока-прынцыповага адмаўленьня абедзьвюх адзначаных ліній ягонага творчага разьвіцьця, бо ніводная з іх ня можа задаволіць патрабаваньняў нашага часу, патрабаваньняў вялікай і глыбокай рэвалюцыйнай актыўнасьці ад пісьменьніка, каб уключыць гэтую актыўнасьць праз ягоную творчасьць у справу змаганьня за сацыялістычнае грамадзтва. Невыпадкова, што ў большасьці Скрыгановай творчасьці мы ня бачым чалавека на ўвесь ягоны сапраўдны рост. Знаходзячыся на такіх ідэёва творчых пазыцыях, на якіх да гэтага часу знаходзіўся пісьменьнік, нельга было стварыць паўнакроўных сацыяльных вобразаў, у якіх біўся-б пульс нашага вялікага і нязвычайнага часу. Пісьменьнік звужаў чалавека, бяручы толькі яго ў ягоных перажываньнях і адчуваньнях, пакідаючы аб'ектыўную рачаіснасьць пападаў у палон выпадкова і не характэрнага, пра што скажалася сама рачаіснасьць. Выходзячы-ж у сьвет сацыяльных тэм пісьменьнік пападаў у палон рацыяналістычнасьці, лёгічна абстрактных развагаў, якімі перапоўнен асабліва «Недапісаны профіль», што пазбаўляла гэтыя творы эмацыянальнай напружанасьці, рэалістычна-мастацкай маляўнічасьці.

Сьцьвярджаючы неабходнасьць для Скрыгана сапраўды вялікай творчай перабудовы, мы гэтым самым гаворым пра няпрыймальнасьць ніводнае лініі, па якіх ішло разьвіцьцё ягонай творчасьці да гэтага часу, гэта значыць, што пісьменьнік, калі ён хоча стварыць шырокія мастацкія палотны нашага часу, павінен унутрана адмовіцца ад інтывітуізму, суб'ектывізму, якія на думку Скрыгана зьяўляюцца асновай асноў сапраўды існага. Я падкрэсьліваю на сэнс «унутрана адмовіцца», бо яно азначае глыбокую ўнутраную самаперабудову пісьменьніка, без чаго ні ў якім разе нельга пазбавіцца ад груба матар'ялістычнага падыходу да рачаіснасьці, мэханістычнага яе разуменьня і выяўленьня, да чаго і прышоў Скрыган у сваім пачатковым творчым адмаўленьні суб'ектывізму. Стаць-жа на шлях груба-матарыялістычны, дзе ўсё так, па сутнасьці, лёгка вырашаецца, азначае ступіць на вельмі хісткае, на шлях, які вядзе да вельмі павярхоўнага, знадворна-абмежаванага паказу зьяў, у тым ліку і чалавека, і таму з гэтага шляху так лёгка вярнуцца да ранейшага, што мы і мелі ў Скрыгана.

Жыцьцёвая праўда, праўда клясавая, вялікая праўда нашай сучаснасьці,—а яна за сацыялізм,—патрабуе, каб пра яе гаварылі на ўвесь голас, яна ня можа задаволіцца, адмаўляе і ня прымае скрыўленага або звужанага. Але каб гэтую праўду падняць ва ўсёй яе

важкасьці, пісьменьнік павінен ня толькі пазіраць на яе з боку, а павінен акунуцца ў яе глыбіні, яе-ж ствараючы, павінен чэрпаць сокі для сваёй творчасьці з багацьця нашае рэвалюцыйнае рачаіснасьці, адмовіўшыся ад нэўрастэніі суб'ектывізму, каб ня толькі падымаць руку за сацыялістычнае будаўніцтва, а пасапраўднаму, моцна, на ўсю сваю пісьменьнікаву дужасьць уключыцца ў хаду калён мільёнаў змагароў за бясклясавае грамадзтва, натхняючы іх да яшчэ большай ўпартасьці ў гэтым змаганьні за вялікае чалавечае жыцьцё.

## НАРАДА ПА ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

(ХРОНІКА)

У маі месяцы ў Менску адбылася Ўсебеларуская нарада па дзіцячай літаратуры, скліканая Аргкамітэтам ССПБ сумесна з Наркамасьветы і ДзВБ. У нарадзе ўзялі ўдзел ня толькі пісьменьнікі, але таксама і мастакі, бібліятэчныя работнікі, працаўнікі дзіцячых устаноў, настаўнікі.

Адчыняючы нараду, старшыня Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў БССР тав. Клімковіч зазначыў, што справа з напісаньнем і надрукаваньнем дзіцячай кніжкі ў нас на Беларусі ідзе надзвычайна дрэнна. Далей тав. Клімковіч спыніўся на тых задачах, якія мы ставім перад усімі формамі выхаваньня нашага маладога пакаленьня, у тым ліку і перад дзіцячай літаратурай. Задачы гэтыя наступныя:

«1. Навучыць дзяцей разумець навакольнае ім грамадзкае асяродзьдзе, клясавыя зрухі, барацьбу ў нашым асяродзьдзі, знайсьці сваё мейсца ў гэтай барацьбе, навучыць сьвядома абараняць сваю клясу—пралетарыят—у яго змаганьні за лепшую сацыялістычную будучыню. Давесьці дзяцей да такога разуменьня ня сухімі схэматычнымі дакладамі, а цікавымі і зразумелымі для дзяцей формамі нашага ўплыву, нашага выхаваньня.

«2. Навучыць дзяцей любіць рабочую клясу—клясу, якая змагаецца за камунізм, супроць «мракобесия» нэндзы і голаду мільёнаў працоўных і іх дзяцей, а разам з гэтым навучыць іх ненавідзець клясавага ворага, паказваючы якім нячуваным зьдзекам эксплёатацыі падпадалі і падпадаюць дзеці працоўных на Захадзе ва ўмовах панаваньня капіталістычнага ладу. Паказаць так, каб закласьці цяпер магутны фундамант волі да перамогі над клясава варожымі сіламі. Гэтага ізноў такі нельга зрабіць «сюсюкаючымі», лякіраванымі «апавяданьнямі для мілых дзетачак-малалетачак». Гэта можна зрабіць толькі высока мастацкім вобразным паказам нашай рэчаіснасьці, насільным удзелам нашай дзетвары ў сацыялістычным будаўніцтве, які арганізоўвае ленінская піянэрыя.

«3. Навучыць дзіця разумець розумам і адчуваць сэрцам, што СССР — «ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту», на якую гісторыя ўсклала ганаровы і цяжкі абавязак—працярэбіць шляхі сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі, што СССР—прыклад братэрскага супрацоўніцтва працоўных усіх нацыянальнасьцяй,—прыклад, які рэвалюцыянізіруе працоўных усяго сьвету. Баявы пралетарскі інтэрнацыяналізм—аснова камуністычнага выхаваньня. Пралетары

Савецкага Саюзу перамаглі і перамагаюць усе і ўсякія перашкоды менавіта таму, што іх яднае, імі кіруе камуністычная партыя бальшавікоў-ленінцаў у барацьбе за сусьветнае сацыялістычнае грамадзтва, яднаючы «для сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы працоўных усіх нацыянальнасьцяй».

«4. Навучыць дзіця арганізаванасьці, прышчапіць дух калектывізму, прышчапіць разуменьне асновы нашага ладу—сацыялістычнай уласнасьці, а адсюль задача аховы гэтай калектыўнай уласнасьці— вось адна з генэральных задач камуністычнага выхаваньня як праз дзіцячыя камуністычныя арганізацыі, так і праз савецкую дзіцячую літаратуру.

«5. Мы шчыльна падышлі да задач непасрэднай пабудовы бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва. Дзеці, для якіх мы выдаем свае кнігі—гэта людзі, якія вырастуць у сацыялістычнай грамадзе. А для сацыялістычнай грамады ўласьціва новая складанейшая тэхніка, нябывалы ўзьлёт тэхнічнай, вынаходніцкай думкі. Таму ўсёй сыстэмай нашага выхаваньня мы павінны павялічваць і замацоўваць дакладныя веды, навуковыя элемэнты ў сьвядомасьці дзяцей, вынаходніцкія імкненьні, багатую фантастыку, заснаваную на грунце ведаў, на грунце нашай рэчаіснасьці. Прышчапляць усебаковую разьвітасьць і высокую культурнасьць немагчыма без адпаведнай літаратуры.

«6. Наша выхаваньне павінна даць бадзёрую жыцьцярадасную зарадку дзіцяці, выхаваць санітарныя, фізкультурныя звычкі, спрыяць стварэньню здаровага чалавека, які верыць у свае сілы і ў сілы свае клясы».

Пералічыўшы гэтыя задачы, тав. Клімковіч спыніўся на нацдэмаўскіх вылазках у дзіцячай літаратуры і даў разгорнуты аналіз клясавага змаганьня ў дзіцячай літаратуры.

Пасьля дакладу тав. Селіванавай пра дзіцячую літаратуру (асноўныя палажэньні гэтага дакладу тав. Селіванава разгортвае ў сваім артыкуле, што зьмешчаны ў № 5 нашай часопісі) і пасьля дакладу мастака тав. Гусева пра мастацкае афармленьне дзіцячай кніжкі—распачаліся спрэчкі.

Амаль усе, хто выступаў у спрэчках, зазначалі на тое, што ў нас вельмі абмежаваны лік кніжок для дзяцей, што ідэёвая і мастацкая якасьць іх недастаткова высокая, што лепшыя майстры слова не ўключыліся ў працу па стварэньню дзіцячай літаратуры, што ўвага да дзіцячай літаратуры і да пісьменьнікаў, якія працуюць у гэтай галіне, як з боку Аргкамітэту, так і крытыкі зусім малая.

З вялікай прамовай пра тэатр і драматургію для дзяцей выступіў тав. Вольскі, які зазначыў, што элемэнты драматызацыі ў жыцьцёвай практыцы дзяцей займаюць вялізарнейшае месца, і што гэтыя, закладзеныя ў натуры кожнага дзіцяці элемэнты тэатральнай творчасьці робяць аўдыторыю дзіцячага тэатру асабліва ўдзячным матар'ялам для адпаведнага сцэнічнага ўзьдзеяньня. Між тым,— гаворыць тав. Вольскі,—да апошняга часу гэта справа не знайшла

яшчэ ў нас дастатковага разьвіцьця. Далей тав. Вольскі спыняецца на працы Тэатру Юнага Гледача і на нашых дзіцячых п'есах, зазначаючы на іх надзвычайна нізкі ўзровень.

З надзвычайнай цікавасьцю і ўвагаю нарада выслухала вялікую прамову тав. Лядавай.

На адным з паседжаньняў нарады з прамоваю выступіў заг. Культпропу ЦК КП(б)Б тав. Ляўкоў. Падаўшы з піянэрскай газэты некалькі допісаў дзяцей пра літаратуру, тав. Ляўкоў зазначае, «што тая дзіцячая літаратура, якая ў нас ёсьць, ня можа задаволіць юнага чытача. Ён шукае гэтай літаратуры ў нашых бібліятэках і не знаходзіць яе, ён праз сваю піянэрскую газэту кідае заклік да савецкіх пісьменьнікаў, да ўсіх нас: «дайце нам дзецям кніжку» і не абы якую кніжку, а цікавую, кніжку пра сацыялістычнае будаўніцтва, кніжку пра дзяцей-герояў, пра ўдарнікаў вучобы, і такую кніжку, якая-б чыталася з захапленьнем.

Далей тав. Ляўкоў зазначае, што мы яшчэ не стварылі высокаякаснай дзіцячай літаратуры і тлумачыць гэта тым, што мы яшчэ па сапраўднаму па-бальшавіцку, так як нас абавязваў Цэнтральны Камітэт нашай партыі, гэтай работы не наладзілі. Тав. Ляўкоў гаворыць, што справе стварэньня дзіцячай літаратуры амаль зусім не аддавалі ўвагі ні Аргкамітэт, ні ЦК ЛКСМ, ні Наркамасьветы.

Пераходзячы да задач, што стаяць перад намі ў справе стварэньня дзіцячай літаратуры, тав. Ляўкоў гаворыць, што «мы маем пастанову ЦК УсеКП(б) за 1931 г., у якой дадзены зусім выразныя партыйныя дырэктывы што рабіць і як рабіць, і ў выкананьні якіх мы маем значныя прарывы. Адсюль задача па бальшавіцку пераключыцца на ліквідацыю гэтых прарываў, мабілізаваць усе лепшыя пісьменьніцкія сілы на стварэньне юнацкай літаратуры, вартай нашай эпохі. ЦК партыі з усёй катэгарычнасьцю ставіць гэту задачу перад беларускай савецкай літаратурай.

«Што для гэтага трэба? Па-першае, таварышы пісьменьнікі павінны ўявіць усю палітычную глыбіню і важнасьць стварэньня высокаякаснай дзіцячай літаратуры. Па-другое, трэба стварыць усе ўмовы ў рабоце літаратурных арганізацый, каб у кожнага савецкага пісьменьніка зьявілася жаданьне напісаць добрую мастацкую рэч, якая-б захапляла нашых юных чытачоў. Па-трэцяе, пісьменьнікі, крытыкі і мастакі павінны сумесна прааналізаваць работу ў галіне мастацкага афармленьня дзіцячай кніжкі, якое зьяўляецца асабліва адсталым вучасткам дзіцячай літаратуры.

«Неабходна ліквідаваць той самацёк, які існуе ў справе кіраўніцтва дзіцячай літаратурай і ў першую чаргу ўзмацніць работу Аргкамітэту ў гэтым напрамку. Аргкамітэт павінен дабіцца, каб паставіць лепшыя мастацкія і крытычныя сілы на службу справе росту дзіцячай літаратуры, каб сапраўды ў бліжэйшыя часы ў нас была створана высокаякасная па зьместу і мастацкаму афармленьню дзіцячая кніжка. Тут вялікая задача ўскладаецца на работнікаў Культпропаў ЦК, як на партыйных кіраўнікоў, і на ЦК ЛКСМБ».

Гаворачы аб тым, якой павінна быць наша кніга для дзяцей, тав. Ляўкоў зазначае, што «дзіцячая літаратура не павінна быць адарваная ад усіх працэсаў палітычнага, культурнага і гаспадарчага жыцьця нашай краіны. Трэба, каб усе працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне, знайшлі-б сваё выяўленьне ў дзіцячай літаратурыы. Але гэта ня значыць, што трэба браць нашы пастановы і пераносіць іх мэханічна ў дзіцячую кніжку. Трэба ўсё тое, што адбываецца ў нашай краіне, у мастацкай вобразнай форме падаваць нашаму дзіцяці праз кнігу.

«Дзіцячая кніжка, па-першае, павінна быць нашай, савецкай, павінна быць па зьместу пралетарскай кніжкай, павінна быць такой, каб яна выхоўвала дзяцей у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму. Трэба, каб кніжка прывучыла іх да працоўных працэсаў. Нашым пісьменьнікам і мастаком неабходна ўлічваць спэцыфічныя інтарэсы дзяцей, пісаць цікава на зразумелай для дзяцей мове.

«Праз мастацкую кніжку мы павінны бяз сухога дыдактызму ў вобразнай форме павялічваць навуковыя веды дзяцей, разьвіваць у іх імкненьне да вынаходніцтва, да аўладаньня тэхнікай, разьвіваць у іх багатую фантастыку, на грунце веданьня нашай сацыялістычнай рэчаіснасьці»

У заключэньне тав. Ляўкоў выказвае надзею, што «мы па бальшавіцку перабудуем працу ў галіне барацьбы за стварэньне дзіцячай кніжкі высокага ідэёвага і мастацкага ўзроўню і не дэклярацыйна, а канкрэтна возьмемся за рэалізацыю тых задач, якія на нас усклала партыя ў гэтай галіне. І тады мы дзіцячую літаратуру створым і гэтым самым дапаможам партыі ў выхаваньні новых людзей—актыўных будаўнікоў сацыялізму».

---

## ПАПРАЎКА

По віне рэдакцыі часопісу на старонцы 63 другі радок унізе надрукавана: „разгортвала шырокі і крывавы штандар". Патрэбна чытаць: „разгортвала шырокі і чырвоны штандар".

---

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ*

Нам. рэдактара *К. ЗАРЭМБОЎСКІ*

Рэдкалегія: *Бацюшкоў, Бранштэйн, Галавач, Жылуновіч, Зарэмбоўскі Клімковіч, Колас, Крапіва, Лынькоў, Чорны.*

Выдавец: *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.*

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, Дом Пісьменьніка.

# ЗЬМЕСТ